Голас дыктара. Добрай раніцы, таварышы!

Мульцік. Здароў…

Голас дыктара. Сёння аўторак, трыццаць першага ліпеня!

Мульцік. Што ты кажаш! А я думаў — трыццаць другога…

Да калодзежа падыходзіць Ганна. Такая ж, як і Мульцік, старэнькая, белая. І яна нікуды не спяшаецца. Спынілася, паслухала.

Ганна. Чаго й та ты, Васіль?

Мульцік. Што?

Ганна. Бубніш нешта сам сабе… Маліўся, ці што?

Мульцік. Размаўляў… з Сонцам размаўляў…

Ганна. Ашалеў пад старасць… З Богам, з Богам трэба размаўляць, а ты немаведама з кім…

Мульцік. Немаведама… Вунь свеціць… І грэе ўсіх… Усё на зямлі ад цяпла і святла… Калі душа ў чалавека цёплая і светлая, значыць, кавалак сонца па зямлі ходзіць… Ёсць такія людзі, ёсць…

Ганна. Грэх…

Мульцік. З кім хачу, з тым і размаўляю… У нас свабода совесці… Радыё правялі — я з ім размаўляў, тэлевізар паставілі — з ім гаманіў… надакучыла. Я ім адно — яны другое… Цяпер з Сонцам раюся… Маўчыць яно. Свеціць і маўчыць. Слухае…

Ганна. Доўга ты яшчэ пражывеш, Васіль…

Мульцік. Кінь ты! Дваццаты год на пенсіі…

Ганна. Прыкмета такая… Гаварыць табе яшчэ хочацца з кім-небудзь… А перад смерцю чалавек заціхае і маўчыць, як тваё Сонца… Колькі гэта табе?

Мульцік. Восемдзесят, а мо і болей… Лічыць надакучыла…

Ганна. Дык гэта ты старэйшы за мяне?

Мульцік. А ты думала?..

Ганна. Ну-у, тады і мне яшчэ трохі пасмылець трэба… Хаця б да тваіх гадоў…

Мульцік. Смылей на здароўе…

Ганна. Вады з твайго калодзежа вазьму…

Мульцік. Бяры… *(Уважліва глядзіць некуды ўдалячынь, падымаецца, выходзіць уперад.)*

Г а н н а. Што там?

М у л ь ц і к. Ідзе нехта...

Ганна падыходзіць. Глядзяць удваіх.

Павярнуў... У Займішча, мабыць...

Ганна падыходзіць да калодзежа, марудна апускае драўлянае вядро. Тужліва рыпіць журавель, звіняць жалезкі.

Г а н н а. Грышка твой усё не піша?

М у л ь ц і к. З'ехаў пасля арміі і як у балота праваліў-ся... Саўсім забыўся, што ў яго бацька ёсць.

Г а н н а. Была б Наста жывая, дык пісаў бы і прыязджаў.

М у л ь ц і к. Бацьку дзеці лягчэй забываюць... Твая праўда...

Г а н н а. Сон я сёння бачыла... Можа, разгадаеш?

М у л ь ц і к. Знайшла цыганку...

Г а н н а. Дык ты ж Сонцу молішся!

М у л ь ц і к. Расказвай, разгадаю...

Г а н н а. Іваньку бачыла... Старэйшага свайго... Здаецца, роўненькае поле жытнёвае, неба над ім чыстае-чыстае! І жаўрукі ў ім вісяць. І як быццам Іванька мой ідзе гэтым полем, раз-пораз жменю зерня дастае з кішэні і сыпле сабе пад ногі. Я стаю на ўзмежку дый думаю: «Навошта ён зерне кідае ў зямлю? Жыта ж ужо вырасла, у каласы пайшло, а ён нанава сеяць надумаўся...» Спытаць хацела, а голасу няма. Ён і прайшоў. Я і не спытала...

М у л ь ц і к *(не адразу)*. Добры сон...

Г а н н а. А чым?

М у л ь ц і к. Неба было чыстае?

Г а н н а. Ну.

М у л ь ц і к. Чыстае неба заўсёды на дабро. Жыта было?

Г а н н а. Было...

М у л ь ц і к. Хлеб на дабро. Жаўрукі з песняй таксама на радасць...

Г а н н а. А Іванька? Нябожчыка ж сніць — гэта ж, кажуць...

М у л ь ц і к. Ён жа «без весці»! Які ж нябожчык, старая?!

Г а н н а. Яно-та так...

М у л ь ц і к. Я табе кажу — добры сон... Чакай.

Г а н н а. Што чакаць?

М у л ь ц і к. Радасці, дзіва нейкага…

Г а н н а. Ну, дзякуй табе… Маліся далей, пайду казу пасвіць… У Займішча буду заходзіць, мо ўзяць што?

М у л ь ц і к. Хлеба куш… І пенсію сёння павінны даць…

Г а н н а. Ага…

Разышліся. Мульцік панёс вядро з вадой дахаты. З другога боку вуліцы выходзіць Г а с т р ы т. Маленькі, жвавы, нейкі калючы дзядок. Усё ў яго вострае: і барада, і плечы, і локці, і калені, і нос. Прыйшоў па ваду з чайнікам. Дастаў, наліў у чайнік, выпіў з носіка. Пастаяў, уздыхнуў, прысеў на лавачку.

Г а с т р ы т *(кліча)*. Васіль!

За плотам з’явіўся Мульцік.

М у л ь ц і к. Га?

Г а с т р ы т. Калі паміраць думаеш?

М у л ь ц і к *(без паўзы)*. У сераду…

Г а с т р ы т *(збянтэжыўся)*. У гэту, ці што?

М у л ь ц і к. У якую, ліха яе ведае, а што ў сераду — гэта як піць даць. Самы зручны дзень. Памру, значыць, зранку… Не, не! Пасля абеду. Памыюць вадой вось з гэтага калодзежа…

Г а с т р ы т. Халодная ж…

М у л ь ц і к. Табе халодная, а мне ў акурат… Ну, увесь чацвер паляжу ў хаце… У пятніцу, значыць, на кладзішча, а потым ужо ўсе выхадныя памінайце… Піце, гуляйце аж да панядзелка… На гэта сотню-другую пакіну…

Г а с т р ы т *(падумаўшы, злосна)*. Брэшаш! Не веру. І ты баішся. Павінен баяцца, а не… Ну што ты ў жыцці бачыў, каб з лёгкай душой смерць прымаць?

М у л ь ц і к. Усё трэба рабіць з лёгкай душой…

Г а с т р ы т. Брэшаш!

М у л ь ц і к. А ты не гаўкай тады! Прыпёрся, ёлкі-маталкі, да старога чалавека і пра смерць бае. Знайшоў пра што… А я, можа, на ўсю сотню замахнуўся, як даўгажыцель гор…

Г а с т р ы т. Нашто табе столькі свет капціць?

М у л ь ц і к. Унукаў дачакацца трэба… Каб ведаць, што маё насенне корані пусціла ў гэтым свеце.

Г а с т р ы т *(усміхнуўся)*. Дык а яны, можа, ужо ёсць, а ты і не ведаеш. Унукі... Корані... Піша каму-небудзь твой Грышка?

М у л ь ц і к *(ніякавата)*. Піша... Мне піша... Во нядаўна...

Г а с т р ы т. Брэшаш... Мае не пішуць, і твой павінен не пісаць...

М у л ь ц і к. Піша!

Г а с т р ы т *(спакойна)*. Брэшаш...

М у л ь ц і к *(нечакана)*. Калі ты нарадзіўся, Мікіта?

Г а с т р ы т. Ну, восенню...

М у л ь ц і к *(падумаў, нібы падлічваючы)*. Правільна...

Г а с т р ы т. Што правільна?

М у л ь ц і к. Душа ў цябе атрымалася халодная... як жаба... Ідзі дадому, Мікіта... З табой пагаворыш — потым цэлую ноч поскудзь усялякая сніцца...

Г а с т р ы т *(зацята)*. Ладна! Пагляджу я, ці такі ты будзеш вясёлы, калі гэта касая ўсур'ёз за цябе возьмецца. Пагляджу!

М у л ь ц і к. А мо мне давядзецца паглядзець? Га? Ты ж ад сваёй злосці капыты адкінеш... Твар вунь, як жоўты кукіш...

Г а с т р ы т. На гэта не надзейся!

М у л ь ц і к. Здурнеў я, ці што, на чужую смерць спадзявацца. Век не спадзяваўся.

Г а с т р ы т. Здохну, а цябе пераважыву!

М у л ь ц і к. Пакарала цябе, Мікіта, Сонца за нешта. Усе людзі, увесь свет, сам сабе ты не любы... Ляжыць у цябе нешта на душы...

Г а с т р ы т. На зберкніжцы ў мяне ляжыць, а не на душы!

М у л ь ц і к *(зірнуў на дарогу)*. Пачакай, пачакай... Едзе нехта! У вёску едзе!

Выбеглі ўперад, глядзяць. Чакаюць. Уздыхнулі.

Г а с т р ы т. Павярнулі... Па грыбы прыкацілі... А ты ўжо ўзрадаваўся! Не прыедуць... *(Засмяяўся.)* Дальбог, мы з табой, як крумкачы ці чарапахі, гадоў сто трыццаць пражывём! Яны ж і на хаўтуры не прыедуць! Сорамна будзе ў труне ляжаць...

М у л ь ц і к. І чаму ты так пра смерць любіш пагаварыць, не раўнуючы, як я пра свой раўмацізм?.. Дык у мяне хвароба, яна, праклятая, косці ломіць, хочаш не хочаш, а будзеш і памятаць, і гаварыць… А пра смерць…

Г а с т р ы т. Дай сказаць!

М у л ь ц і к. На які д'ябал языком мянціць, праклінаць, прымервацца да яе? Не спужаеш і не ўцячэш!

Г а с т р ы т. Дай сказаць, я табе кажу!

М у л ь ц і к. Ды і добрую яна справу робіць, што ні кажы… Калі раней часу не з'яўляецца і без страшных хвароб зводзіць чалавека на Сонца… Маладзенькім, здаровым месца расчышчае для новага пасеву, новага жыцця…

Г а с т р ы т. Спынішся ты, поп праклята, ці не?!

М у л ь ц і к. Гавары…

Г а с т р ы т *(трохі супакоіўшыся)*. Не разумею. Як так можна? Усё яму добра, усё хораша! Што за народ?! Б'юць іх — добра, апошняе адбіраюць — хай, дзеці забыліся — так трэба, смерць у вочы глядзіць — заходзь, любая, чарку дам! Лапухі! Увесь век перад усім і ўсімі гнуцца, скараюцца!

М у л ь ц і к. Перад жыццём скараемся, дурань зацяты… Перад жыццём! Яно і маці наша, і бацька, цар і Бог справядлівы…

Г а с т р ы т. Пагляджу я…

М у л ь ц і к. Не хадзіў бы ты да майго калодзежа… Га, Мікіта?..

Г а с т р ы т. Хадзіў і буду. Не забароніш.

М у л ь ц і к. Забараніць не магу… Гэта калодзеж… Уся вёска некалі з яго ваду піла… Самая смачная, самая чыстая ва ўсім раёне…

Г а с т р ы т. У цябе? Самая смачная? Цьфу!

М у л ь ц і к. Што ты робіш?! На святы калодзеж пляваць! Гэта вада душу мягчэйшай робіць і галаву яснай… Я мо такі доўгі век і жыву, што з маленства яе п'ю, а ты…

Г а с т р ы т *(папрасіў)*. Васіль, растлумач ты мне… Хоць забі — не разумею…

М у л ь ц і к. Што растлумачыць?

Г а с т р ы т. Ты проста прыдурак ці толькі прыкідваешся? Сонцу, як людаед, моліцца, вада ў яго ну не проста вада, а жывая… Нябожчыку на пятку капні — у скокі пойдзе…

Здзяцінеўся пад старасць! Нездарма цябе Мульцікам клічуць.

М у л ь ц і к. Ідзі ты, Мікіта, адсюль…

Г а с т р ы т. Не пайду.

М у л ь ц і к. Не трывож майго сэрца!

Г а с т р ы т. Не пайду! Вуліца не твая.

М у л ь ц і к. Тады злазь з лаўкі! Лаўка мая, сам рабіў…

Гастрыт устаў з лаўкі, сеў побач на траву.

Г а с т р ы т. Падавіся сваёй лаўкай. Куркуль!

Мульцік маўчыць.

Міраед!

Мульцік, маўчыць.

Перажытак кулацкі!

М у л ь ц і к. Сталоўка ўжо адчынілася, Мікіта… Ідзі гуляш калгасны ў Займішча есці… Вадзіцы з майго калодзежа напіся і ідзі.

Г а с т р ы т. І пайду. А ты бульбай нішчымнай давіся!

М у л ь ц і к. Яешню з салам сёння буду есці… Яйкі свае, і сала сваё… Сам сябе ўсё жыццё карміў, кармлю і да смерці карміць буду…

Г а с т р ы т. Брэшаш! Грошай шкада, во і цягнеш з сябе жылы… А нашто яны табе? Богу ўзятку даваць уздумаў?

М у л ь ц і к. Грошай не шкада. Не хачу нават пад старасць як той клоп жыць… Хадзіць па зямлі і ў сталоўцы абедаць… Гэта ж сорам!

Г а с т р ы т. Гэта не сорам! Гэта абшчэственная пітанія! І потым я заслужыў… У мяне пенсія!

М у л ь ц і к. Пенсія хутка ва ўсіх будзе… Хто толькі нас гуляшамі карміць будзе?..

Г а с т р ы т. Ведаеш, хто ты?

М у л ь ц і к *(махнуў рукой)*. Ведаю, ведаю… Элемент.

Г а с т р ы т. І не наш!

М у л ь ц і к. Шкада, што ты наш… Бяда народная…

Г а с т р ы т. Я калі-небудзь на цябе ананімку напішу. Пабачыш.

Злосны, пайшоў. Чайнік з калодзежнай вадой застаўся каля лаўкі.

М у л ь ц і к *(адзін)*. Ты не крыўдуй на яго… Душа ў чалавека баліць. На зямлі нарадзіўся, вырас, а рук да гэтай зямліцы ніводнага разу не прыклаў… А зямлі ласку, любоў сваю аддаць трэба… Тады яна і накорміць, і сагрэе, і суцешыць, і сілы дасць пад старасць… Яна жывая… Дачка твая, наша маці… Слухаеш? Пайду свіннату сваю карміць… Чуеш, вішчаць? Эх, ручухны мае, ручухны!.. Што ж гэта вы так расхадзіліся? Ці не дождж збіраецца?.. Не падобна як быццам…

З'яўляецца Г а н н а. З сумкай хлеба, стомленая і вясёлая.

Г а н н а. Канчай маліцца — будзем весяліцца…

М у л ь ц і к. Хлеба купіла?

Г а н н а. Ага…

М у л ь ц і к. А пенсію прынесла?

Г а н н а. Пенсію не далі… Ты, кажуць, з завітушкамі распісваешся, а я без завітушак… Сам сходзіш… *(Прысела на лаўку, зняла хустку.)* Ну, давай, Васіль!

М у л ь ц і к *(глядзіць здзіўлена)*. Што табе даць?

Г а н н а. Страсяні касцямі — пакажы самадзейнасць!

М у л ь ц і к. Ды ты, мабыць, піва ў сталоўцы выпіла?

Г а н н а. Пісьмо табе прынесла…

М у л ь ц і к *(захваляваўся, але наўмысна спакойна)*. Ад каго?

Г а н н а. Ну, ад каго ты думаеш?

М у л ь ц і к *(рашуча)*. Давай!

Г а н н а. Не-не-не! Табе радасць, дык ты ўжо і мяне парадуй… Згоцай «Лявоніху» з прыпеўкамі… Як да вайны на маёўцы.

М у л ь ц і к. Не дуры галавы! Адкуль пісьмо?

Г а н н а. Ой, язык зламаць можна! Нешта такое джык-гам-гаў…

М у л ь ц і к. Джэзказган!

Г а н н а. Во-во!

М у л ь ц і к. Ад Грышкі…

Г а н н а. «Лявоніху», Васіль, «Лявоніху»…

М у л ь ц і к. Ну, што ты як маленькая, чэснае слова…

Г а н н а. А так — забі, не аддам!

М у л ь ц і к. А, ёлкі-маталкі! *(Падышоў, схапіў сумку, пашукаў і не знайшоў.)* Аддай, табе кажуць!

Г а н н а. «Лявоніху», Васіль, а то зараз пайду!

М у л ь ц і к. Дык я ж растрасуся...

Г а н н а *(паднялася)*. Пайду! І аддам толькі пад вечар...

М у л ь ц і к. Каб ты згарэла! *(Разы са два тупнуў.)*

Г а н н а. Не, не... Пад музыку. *(Заспявала.)*

Ой, Лявоніха, ня жонка была,
Нямытую рубашонку дала,
Нямытую-некачаную,
У суседа...

Ну, чаго ты колам стаў?! Танцуй! *(Спявае.)*

Нямытую-некачаную,
У суседа пазычаную...
Весялей, весялей...
Туры-туры-турытушачкі,
Туры-туры-турытушачку!

Мульцік скача.

А цяпер упрысядкі! І-і-і-эх!

Мульцік сагнуўся, каб пусціцца ўпрысядкі, і знерухомеў.

М у л ь ц і к *(схапіўся за спіну)*. Ой!

Г а н н а. Чаго й та ты?

М у л ь ц і к *(стаіць, сагнуўшыся, як пытальнік)*. Порхаўка старая! Прысядкі ёй трэба! З маім здароўем — «Лявоніху»! Хадзі во, разгінай мяне, каб табе не ведаю што... У мяне ж сярэдзіна!

Г а н н а. А Госпадзі! *(Падбегла.)* Што ж рабіць?

М у л ь ц і к. Увапрыся далоняй у сярэдзіну... Ды не кулаком, а далоняй! Так... так... Не, вышэй трохі... Во чокнутая. Ці ж можна так з чалавека здзекавацца?

Г а н н а. Ну ладна табе...

М у л ь ц і к. Дай толькі разагнуцца — ты ў мяне балетам заскачаш! Во так трымай. Цяпер бяры за галаву... Так... *(Камандуе.)* Разгінай!

Ганна спрабуе «разгінаць». Мульцік стогне.

Нічога не выйдзе... Цягні на лаўку, пакладзі як-небудзь... Сам буду разгінацца.

Г а н н а *(вядзе старога да лаўкі)*. Аёечкі, каб жа я ведала...

М у л ь ц і к *(сярдзіта)*. Галавой думаць трэба... Самадзейнасці ёй захацелася...

Ганна падвяла Мульціка да лаўкі, асцярожна-асцярожна паклала яго на яе. Мульцік паволі выпрамляецца.

Давай пісьмо!

Г а н н а *(дастае з-пад кофты)*. На, на...

Мульцік, лежачы, разрывае канверт, нецярпліва выцягвае белы лісток.

М у л ь ц і к. У цябе акуляры з сабой?

Г а н н а. Зараз, зараз... *(Дастае з сумкі.)* На...

Мульцік надзявае акуляры. Ганна ўздыхнула, адышла да плота, глядзіць. Мульцік жмурыцца, здымае акуляры.

М у л ь ц і к. Ты ў іх бачыш што-небудзь?

Г а н н а. Усё чыста.

М у л ь ц і к. Туман нейкі, і ўсё... *(Перавярнуў акуляры дужкамі ўперад.)* Во! Другое дзела... Ты ж іх не тым бокам носіш! *(Прачытаў некалькі радкоў, спахмурнеў, адразу, забыўшыся пра сярэдзіну, падняўся, сеў, паклаў на калені пісьмо, акуляры. Сумна глядзіць перад сабой.)*

Г а н н а *(устрывожана)*. Ну?! Што там у яго?

М у л ь ц і к. Маё гэта пісьмо, Ганна, маё... Пасылаў з месяц таму... Вярнулася... Зноў Грышка выбыў некуды... Во табе і «Лявоніха ня жонка была...»

Паўза. Старая павольна падыходзіць да лаўкі, сядае побач.

Г а н н а. Не сярдуй, Васіль...

М у л ь ц і к. Кінь ты...

Г а н н а. Табе хоць ёсць ад каго чакаць...

М у л ь ц і к. Дачакаешся...

Г а н н а. А я б, здаецца, з раніцы да ночы скакала, каб толькі ведаць, што мой Віцёк няўдачны калі-небудзь успомніць пра мяне... Хай ужо і пісьма не напішыць... Абы толькі ўспомніў... Не сярдуй... *(Дастае з сумкі хлеб.)* Булкі табе хопіць?

М у л ь ц і к. Хопіць...

Г а н н а. А то дзве магу пакінуць...

М у л ь ц і к. Хопіць адной…

Г а н н а. Ну, пайду…

Пайшла. Стары зноў разгарнуў пісьмо. Пакруціў у руках, паглядзеў і горка-горка засмяяўся. Падыходзіць Г а с т р ы т.

Г а с т р ы т *(весела)*. Жывеш?

М у л ь ц і к. Жыву…

Г а с т р ы т. А чаго гэта ты рагочаш?

М у л ь ц і к. Хачу і рагачу…

Г а с т р ы т. Атрымаў, я бачу?

М у л ь ц і к. Ну, атрымаў, а табе што?

Г а с т р ы т. Давай пачытаю…

М у л ь ц і к. Ідзі, Мікіта, не чапляйся…

Г а с т р ы т. Грошай, канечне, просіць. Прапіўся да ніткі, во і бацьку ўспомніў.

М у л ь ц і к *(стомлена і не злосна)*. Ну, што ты за чалавек? Гастрыт, адно слова — Гастрыт… Чаго ты на ўвесь свет злуеш? Дзяцей разагнаў, яны да цябе ні нагой, вось і злуеш…

Г а с т р ы т. Я — дрэнны. Я разагнаў. А ты добры. І да цябе не едуць…

М у л ь ц і к. Гваздану я цябе калі-небудзь…

Г а с т р ы т. У суд падам. Пасадзяць…

М у л ь ц і к. Прэмію дадуць! Ад цябе ж ва ўсім свеце холадна… Ідзі, ідзі, я табе сказаў…

Г а с т р ы т. Я па свой чайнік прыйшоў… Забыўся тут… Дзе падзеў?

М у л ь ц і к. Вунь стаіць!

Гастрыт падышоў, узяў чайнік, выліў з яго ваду.

Г а с т р ы т. Вады свежай можна ўзяць?

М у л ь ц і к. Бяры…

Гастрыт пачынае даставаць ваду.

Г а с т р ы т. Што гэта ў свеце робіцца, Васіль?

М у л ь ц і к. Лета канчаецца…

Г а с т р ы т. Куды ідзём?

М у л ь ц і к. Не ведаю…

Г а с т р ы т. Чым далей — тым людзі паганей робяцца… Сёння каля сталоўкі бугая гэтага, Мішку Сіляўца, сустрэў…

Вісіць на плоце, носам сваім чырвоным шмыгае... Алкаш няшчасны! І чаго яны такія? Толькі пра тое і думаюць, каб кожны дзень гарэлкі нажэрціся да ікаўкі!

М у л ь ц і к. А што ім яшчэ рабіць? Ні рукі, ні душы не занятыя... Гадзіны свае адпрацуе, у сталоўцы пад'есць, прыйдзе ў сваю цагляную хату, у блакітны яшчык паглядзіць... А далей што? Дзень доўгі... А каля дому ні гарода, ні хлява, ні курыцы... Пуста... Што яму рабіць? Чым заняцца?

Г а с т р ы т. Хай над сабой працуе! Павышаіць уравень!

М у л ь ц і к. Во ён траячку ў кішэню, «чарніла» ў магазіне возьме і павышае...

Г а с т р ы т. Мы ім шчасце паўвека заваёўвалі... Заваявалі... Сытыя ўсе, абутыя-адзетыя... І недавольныя! Якой ім яшчэ трасцы трэба?

М у л ь ц і к. Шчасце з чужых рук заўсёды кіслае... Шчасце самому сабе рабіць трэба... Абутыя-адзетыя... І ўпрогаладзь жывучы, радасныя песні спяваць можна... Галодных у нас даўно няма... Не ў сытасці шчасце...

Г а с т р ы т. А ў чым жа яно? Растлумач мне, цёмнаму, святы чалавек.

М у л ь ц і к. У працы... У радаснай працы... А вы адбілі ахвоту ў людзей радасна працаваць на зямлі...

Г а с т р ы т. Хто гэта мы?

М у л ь ц і к. Ты і такія ж асталопы, як ты...

Г а с т р ы т. Што? Што ты мелеш? Ды я з самага пачатку... з маладосці ўсё сваё здароўе, увесь... усё сваё жыццё для ўласці, для камунізму...

М у л ь ц і к. Камунізм спачатку трэба пабудаваць у сваёй душы... Самому. А потым ужо нешта рабіць... Для ўласці... Якая табе ўласць загадвала даводзіць вясковых людзей да таго, што яны пачалі сароміцца, што жывуць і працуюць на зямлі... Самага святога саромеліся...

Г а с т р ы т. Што ты мне вешаеш? Што вешаеш? Як гэта я даводзіў?

М у л ь ц і к. Ты ж некалі ўсіх добрых гаспадароў з вёскі павыгнаў... Тых, хто любіў зямлю... Любіў і слухаў...

Г а с т р ы т. Я супраць кулакоў...

М у л ь ц і к. Колькі іх было на ўсю нашу вёску? Два.

Г а с т р ы т. Брэшаш, болей...

М у л ь ц і к. Два. Зяпа і Мішук Цяркоўскі... Ад іх усе Вежкі плакалі... А каго Васіль Барабулінак эксплуатыраваў? У яго ж парабкаў не было, ён са свайго мазаля жыў...

Г а с т р ы т. Ён народную зямлю эксплуатыраваў...

М у л ь ц і к. Зямля з радасцю аддае ўсё таму, хто да яе рукі прыкладае... Ты проста не хацеў працаваць, як усе, а хацеў наглядчыкам над людзьмі быць... Лёгка, няпыльна і ў пачоце! Вось і муціў ваду, пускаў усім пыл у вочы... Сазнацельным прыкідваўся!

Г а с т р ы т. Я лінію праводзіў...

М у л ь ц і к. Толькі крывую і сваю. У Вежках ты моладзь ад зямлі адбіў? Ты... Колькі гадоў сачыў за тым, каб, значыць, ніхто лішнюю бульбіну ці мех зерня ад зямлі не ўзяў... А чаму ж не браць, калі яна дае? Бегаў па гародах, каб хто лішнюю баразну не прагнаў. Хай пустуе, бур'янам зарастае... Не магі!!! З усіх сіл адбіваў ахвоту ў людзей працаваць. Крычаў да хрыпаты, што пазорна мець скаціну ў хляве, хлеба, бульбы шмат збіраць з агарода... Вось калі гол як сакол — значыць, сазнацельны! Калі ў хляве пуста — маладзец! А калі ў цябе каля хаты заместа крапівы жыта калосіцца — буржуй! міраед! кулак! Пуста ў хляве — пуста і ў душы будзе. І хто ты такі быў? Ні начальнік, ні падначальнік, а так... Прышчык «сазнацельны»... Мы б з голаду ўсёй краінай здохлі, каб, не дай бог, сталі ўсе такія «сазнацельныя», як ты... І тое, што мой Грышка, Ганнін Віцёк і твае дзеці па свеце бадзяюцца, шукаюць немаведама чаго — ты вінаваты! Яны ж на зямлі выраслі, яна ж іх маці, яны ж павінны былі заместа нас на яе прыйсці, каб хлебам людзей карміць... Не пайшлі... Таму што ведалі: такія гастрыты, як ты, не дадуць ім ні спакою, ні волі...

Г а с т р ы т *(злосна)*. Такім, як ты, дай волю — даўно б савецкай уладзе жылы перагрызлі...

М у л ь ц і к. А хто яе карміў, гэту ўладу, як не мы? Можа, ты, прышчык? Хто ў калгасе за голы трудадзень працаваў, налогі з кожнага дрэўца, з кожнай курыцы плаціў, калі ўсім цяжка было?!

Г а с т р ы т. Баяліся, таму і кармілі...

М у л ь ц і к. Асталоп! А калі немцы каля Масквы стаялі, хто партызанам апошняе аддаваў? Дзеткі з голаду пухлі,

карнікі вёскі палілі, а гэтыя твае падкулачнікі хлеб, бульбу, сала ў лес вазілі... Святым хлебам святую зямлю сваю баранілі ад чужынцаў...

Г а с т р ы т. Васіль! Я цябе па-суседску папярэджваю: кінь гэту філасофію, не смушчай людзей. Ты ведаеш, супраць чаго выступаеш?

М у л ь ц і к. Супраць дурноты!

Г а с т р ы т. Васіль, я чэсны! Я магу ананімку напісаць...

М у л ь ц і к. Пішы...

Г а с т р ы т. Выклічуць... куды трэба за такія закідоны.

М у л ь ц і к. Не пужай. Скончыўся твой час. Гэта цябе самога трэба было выклікаць з самага пачатку. Каб не такія гастрыты, як ты, мы даўным-даўно камунізм пабудавалі б...

Г а с т р ы т. Ты яшчэ пра камунізм, часнік няшчасны?!

М у л ь ц і к. Я не часнік, я ўчаснік...

Г а с т р ы т. Рукамі і зубамі за кавалак зямлі трымаецца і пра камунізм яшчэ...

М у л ь ц і к. Я і пры камунізме за яго трымацца буду... І пры камунізме ў сталоўку не пайду... Я хлебароб вечны... Хлеб раблю... А калі робіш хлеб — трэба сябе карміць...

Г а с т р ы т. Чэснае слова, напішу...

М у л ь ц і к. Пішы... *(Падняўся з лавачкі, пайшоў да веснічак.)*

Прыбягае Г а н н а. Без хусткі, расхрыстаная, заплаканыя вочы гарацць.

Г а н н а *(крычыць)*. Людцы-ы!! Людцы!

М у л ь ц і к. Чаго ты?

Г а н н а *(задышліва)*. Радзіва! Радзіва... Хутчэй уключыце! Слухайце!

Мульцік подбегам кідаецца да акна, адчыняе яго, круціць дынамік. Урываецца голас дыктара.

Г о л а с д ы к т а р а. ...яе мацярынскую любоў і пяшчоту. Я памятаю яе ласкавыя рукі, што пяклі самы смачны хлеб і маглі трымаць зброю. У грозныя дні вайны, у партызанскім атрадзе, яна абараняла Радзіму ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў...

М у л ь ц і к. Фу-у-у, я ўжо думаў, што ізноў вайна...

Г а с т р ы т *(да Ганны)*. Ты што, з глузду з’ехала?

Г а н н а. Сціхніце!

Г о л а с  д ы к т а р а. ...Цяпер я далёка. Але вельмі часта мне сняцца начамі нашы Вежкі...

Г а н н а *(усхліпнула)*. Сыночак!

Г о л а с  д ы к т а р а. ...хата канцавая, тры бярозкі пад акном і мама...

І на гэтых словах Ганна, ужо не стрымліваючыся, загаласіла на ўвесь голас, пайшла да акна, схапіла з падаконніка старэнькі дынамік, прыціснула яго да грудзей.

М у л ь ц і к *(спалохана)*. Ганна, Ганна... Ты гэта... Сядзь... Супакойся. Не трэба так... Зараз вады дам... Чаго ты? *(Да Гастрыта.)* Чаго аслупянеў? Дай свой чайнік!

Гастрыт падае чайнік. Ганна п'е.

Г а с т р ы т. Дайце-ка даслухаць... *(Бярэ з рук Ганны дынамік.)*

Г о л а с  д ы к т а р а. Паважаная Ганна Восіпаўна! Ад усяго сэрца мы жадаем вам моцнага здароўя і доўгіх год жыцця і па просьбе вашага сына Віктара перадаём для вас вашу любімую песню «Ой, ляцелі гусі з броду».

Г а н н а *(выціраючы вочы)*. Дачакалася, дзякуй Богу... Успомніў... Спакойна памру...

І гучыць песня па радыё:

Ой, ляцелі гусі з броду,
Замуцілі ў рэчцы воду.
Ой, ляцелі гусі з броду,
Замуцілі ў рэчцы воду.
Пакуль вада чыста стала,
Я з Раманам прастаяла.
Пакуль вада чыста стала,
Я з Раманам прастаяла.
Роман, Роман, Романеньку,
Пусці мяне дадоменьку,
Роман, Роман, Романеньку,
Пусці мяне дадоменьку.
У мяне не родна маці,
Будзе біці і ругаці.
У мяне не родна маці,
Будзе біці і ругаці.

Во яно і дзіва... Ваську ў сне бачыла, а Віцёк аб'явіўся... Помніць... Любіць...

М у л ь ц і к *(бубніць паблажліва).* А толькі ныла ўсё: няўдачліва я яго радзіла, няўдачны ён атрымаўся... А ён цябе на ўсю краіну... Увесь народ цяпер ведае, што на зямлі жыве... Ганна з Вежак... І што сын у яе ёсць... Хоць і далёка, але ж ёсць...

Г а с т р ы т. Оё-ё-ёй! Зірніце вы на іх! Загарэліся! Засвяціліся! Аж блішчаць!

М у л ь ц і к. Мікіта, ты... ідзі адсюль... Я цябе прашу.

Г а с т р ы т. Не пайду! Нечага тут... *(Да Ганны.)* Ганна, я цябе паважаю, але я чэсны... я справядлівы... Не крыўдуй... Не пра цябе гэта ўсё. Не ён гэта.

Г а н н а. А хто ж?

М у л ь ц і к. Табе вушы пазакладвала, ці што?! Пра нашы ж Вежкі гаварылі!

Г а с т р ы т. Другія Вежкі, другая Ганна і другі Віцёк! Ён такое не мог напісаць! Не мог!

М у л ь ц і к. Дык што ж, яна сама пра сябе напісала?!

Г а с т р ы т. Не ведаю. Дзе ён у яе? Дзе?

Г а н н а. Вы ж ведаеце... Сядзіць.

Г а с т р ы т. І каторы раз? Толькі, Ганна, прашу... не крыўдуй... Я чэсны. Я справядлівы. У мяне ў самога дзеці няўдачныя... Расціў-карміў іх, дык быў харошы, а выраслі — дрэнным стаў! Грошы толькі пасылаюць, рублямі ад мяне адкупліваюцца, а каб што-небудзь такое... і не падумаюць і не ўспомняць... Няўдачныя!

М у л ь ц і к. А вось Віцёк пра яе ўспомніў... Узяў і напісаў...

Г а с т р ы т. Ага! Сяджу на нарах, як кароль на імянінах, — перадайце для маёй маці «Ой, ляцелі гусі»!

М у л ь ц і к. Ідзі адсюль!

Г а с т р ы т. Не пайду!

М у л ь ц і к. Ганна, не слухай... *(Да Ганны.)* Прозвішча тваё перадавалі ці не?

Г а н н а. Не пачула я... Пра Вежкі толькі... Што добра чалавеку, калі ў яго куточак родны на зямлі ёсць, дзе некалі босым па расе бегаў... Добра, значыць, што цябе чакаюць і помняць заўжды... Яшчэ нешта... А прозвішча не пачула... Я не з самага пачатку слухаць стала...

М у л ь ц і к. Перадавалі, канечне... І тры бярозкі пад акном у цябе растуць...

Г а с т р ы т. Стоп! Калі ён з'ехаў, бярозка адна была… А гэтыя дзве без яго выраслі… Я памятаю… Скажыце, адкуль ён пра гэтыя бярозкі ведае? Ніводнага разу не прыязджаў, пісем не пісаў… Адкуль ён ведае?!

М у л ь ц і к. Прашу цябе, Мікіта, сыдзі з воч! Не дай і мне пад старасць у турму сесці… *(Да Ганны.)* Я ведаю, што пра цябе перадавалі… Пра цябе. І Віцьком яго завуць, і ў партызанах жа ты была, і Вежкі, і па бацьку ж цябе Восіпаўна…

Г а с т р ы т. А вось і не! Па бацьку яе Васільеўна...

М у л ь ц і к *(уражана)*. Як?!

Г а н н а. Гэта Піліпа майго Восіпавічам звалі…

М у л ь ц і к. Дык як жа гэта я?.. Забыўся…

Г а с т р ы т. Усё ясна! Так я і думаў… *(Тыцнуў пальцам у Мульціка.)* Ён напісаў! Заяўку зрабіў замест твайго Віцька…

М у л ь ц і к. Ды не, Ганна, што ты?! Не! Што ты выдумаў, дурань?!

Г а с т р ы т. Ну, арты-ы-ыст! Ну, Мульцік! За такія штучкі ведаеш, што бывае…

М у л ь ц і к. Ды пры чым тут я?! Ён, мабыць, напісаў і пра Піліпа, а там пераблыталі…

Г а с т р ы т. Хопіць лухту несці! Там не блытаюць…

Г а н н а *(устала з лаўкі)*. Нашто ты гэта, Васіль… Не варта было… *(Цяжка пайшла прэч.)*

М у л ь ц і к *(крычыць услед)*. Ды няхай мне рукі адваляцца, калі гэта я пісаў! Ды я і пісаць разумна не ўмею! Ды і не ведаю нават куды! Ганна!

Г а н н а не азірнулася. Пайшла. Гастрыт сумна глядзіць ёй услед. Мульцік — на Гастрыта.

Г а с т р ы т. Расстроіў толькі бабу з-за глупства…

М у л ь ц і к *(выцягвае са штаноў дзягу)*. Здымай штаны!

Г а с т р ы т. Што-о-о-о?!

М у л ь ц і к. Здымай штаны, я цябе вучыць буду!

Г а с т р ы т. Ну-ну-ну!

М у л ь ц і к *(наступае на яго)*. Асталоп! Пень! Гастрыт! Бульдозер пракляты! Што ў цябе пад сарочкай?!

Г а с т р ы т *(таксама завёўся)*. Рэбры ў мяне пад сарочкай! І пуп!

М у л ь ц і к. А сэрца?! Дзе тваё сэрца?! Радасць у чалавека была!!! Яна ж без яе ўсё жыццё сваё!!! Трое дзетак у партызанах з голаду памерлі, старэйшы сын «без весці», Піліп вярнуўся кулямі ды асколкамі начынены, два месяцы пажыў… Віцька адзін застаўся, дык і ў яго жыццё наперакасяк пайшло… Адна ўсё жыццё… Гаротніца… Хоць ты яе ў царкве вешай як пакутніцу святую, а ты…

Г а с т р ы т. А я не дазволю! Не дазволю ўсяму народу, усяму гасударству галаву дурыць! Мільёны людзей падманваць! У мяне таксама дзеці! Але ж я не хачу, каб мне па радыё пра гусей спявалі! Па нашаму радыё толькі праўду перадаюць! І нечага…

М у л ь ц і к *(махнуў рукой)*. Што з табой гаварыць! Цяпла ў цябе, чалавеча, няма… Хоць сто гадоў яшчэ пражыві — не даведаешся пра самае галоўнае…

Г а с т р ы т. Пра што гэта?

М у л ь ц і к. Навошта мы, людзі, з таго свету на гэту зямлю прыходзім?.. Навошта жывём…

Г а с т р ы т. Няўжо ведаеш?

М у л ь ц і к. Ведаю… Зямля халодная, і неба халоднае, космас яшчэ халаднейшы… Даў нам Бог жыццё, каб мы ўсё гэта сагрэлі… Душамі сваімі сагрэлі! І зямлю, і неба, і адзін аднаго… Дык грэй жа, грэй! Хаця чым табе грэць? Халодны ты…

Г а с т р ы т. У мяне трыццаць шэсць і шэсць… Як ва ўсіх…

М у л ь ц і к. Не свеціць на цябе Сонца… *(Пайшоў.)*

Г а с т р ы т *(услед)*. Сам ты!.. *(Не прыдумаў, што сказаць, і змоўк.)*

З а ц я м н е н н е

Дрэмле стары журавель. Ціхая зорная ноч вісіць над неперспектыўнай вёскай. І ці то ўяўляецца, ці то сніцца старым жыхарам яе наступнае: павольна і ўрачыста падыходзяць да калодзежа іх дзеці. С т а р э й ш а я д а ч к а Г а с т р ы т а набірае ваду, Мульцікаў Г р ы ш к а ў джынсах і ў вышыванай кашулі, Ганнін І в а н ь к а ў вайсковым дапамагаюць ёй. Смяюцца бязгучна, жартуюць. Потым схіляюцца да вядра, прагна п'юць самую смачную ваду свайго дзяцінства. Прыгожыя, святочныя нейкія. М у л ь ц і к, Г а н н а і Г а с т р ы т сядзяць на лавачцы і з цёплымі ўсмешкамі глядзяць на дзяцей. Цямнее. Раствараюцца ў цемені д з е ц і, знікаюць с т а р ы я. Пачынае святлець. Вечар. З'яўляецца Мульцік. Доўга-доўга глядзіць на дарогу. Уздыхнуў, падышоў да калодзежа, пачынае даставаць ваду. Прыходзіць Гастрыт. У свежай кашулі, пры гальштуку нават. Сумны.

Г а с т р ы т. Здароў...

М у л ь ц і к. Зноў прывалокся? Мікіта, я сварыцца больш не буду! У мяне на цябе нерваў не хапае... Сядзі і маўчы.

Г а с т р ы т. Маўчу! А ты раскажы...

М у л ь ц і к. Што?

Г а с т р ы т *(смяецца)*. Як учора каня прасіў у старшыні... Іш ты, кавалерыст! Барон цыганскі! Каня яму трэба! Узятку нават даваў!

М у л ь ц і к. Я купіць хацеў!

Г а с т р ы т. Навошта ён табе?

М у л ь ц і к. Адчапіся!

Г а с т р ы т. Скажы нашто — адчаплюся!

М у л ь ц і к. Малако людзям трэба?

Г а с т р ы т. А ці ты яго даіць збіраўся?

М у л ь ц і к. Змагу я трымаць карову адзін? Назапасіць на зіму сена? Сілы нямашака. Ды і касіць няма дзе. А будзе ў мяне конь, ды я на ім паўсвету за лета аб'ездзіў бы... Там касануў, там... Па ахапцы сена назапасіў бы... І карове і яму. І соткі свае лягчэй зрабіць будзе. І дроў прывезці. Жыць мне з ім лягчэй будзе. Сябе карміць буду, і застанецца яшчэ. А так, год-два, я ж дзяржаве на шыю сяду, як і ты!

Г а с т р ы т. Я не на шыі! Я на пенсіі!!!

М у л ь ц і к. А з канём я сам пракармлюся...

Г а с т р ы т. Ты гэтыя свае кулацкія замашкі кінь!

М у л ь ц і к. Атамны век канчаецца, яны ўсё кулакоў баяцца!

Г а с т р ы т. Конь — гэта срэдства праізводства!

М у л ь ц і к. Дык што?

Г а с т р ы т. А калі табе даць срэдства ў рукі — ого-го! Ты такую багатую гаспадарку на сваіх сотках закруціш — чарцям моташна стане!

М у л ь ц і к. І добра!

Г а с т р ы т. І скоцішся!

М у л ь ц і к. Куды?

Г а с т р ы т. Да мелкабуржуазнай ідэалогіі...

М у л ь ц і к. Якая ідэалогія?! Мне восемдзесят гадоў! Лягчэй мне будзе з канём. Больш бульбы вырашчу, малако будзе, замест аднаго парсючка — трох трымаць буду. Дык я ж сам не з'ем — я вунь адной бульбінай і шкваркай цэлы дзень жыву — прадам калгасу...

Г а с т р ы т. Ага! І грошы, канечне, у кішэнь?! Багацець пачнеш...

М у л ь ц і к. Куды ж я падзенуся з гэтымі грашыма? Яны ж на кніжцы ляжаць будуць: надзёжна, выгадна, удобна! Я ж на гэтыя грошы гвардзію ўзбройваць не буду, каб супраць улады ісці. Я ж не Дзянікін. Я — Мульцік.

Г а с т р ы т. Дай табе каня — Дзянікіным станеш!

М у л ь ц і к. Цьфу! Гэта ж трэба такім ідэйным прыдуркам урадзіцца!

Г а с т р ы т. І што чалавеку яшчэ трэба? Усё ёсць, гасударства пра яго клапоціцца, пенсію плоціць, а ён...

М у л ь ц і к. Гэтымі грашыма сына ад мяне адбілі... Пяты год немаведама дзе бадзяецца, бацьку роднага забыў...

Г а с т р ы т. Ты што?! Што ты вярзеш? Пры чым тут пенсія?

М у л ь ц і к. А пры тым: ведае ён, што мне яе даюць... А раз даюць, значыць, з голаду не здохну! А не здохну з голаду — навошта ж пра мяне клапаціцца, пісьмы пісаць: як ты там, бацька, жывеш-маешся ў нашых неперспектыўных Вежках? Ведае: рубель ёсць, сталоўка ёсць — накормяць якім-небудзь гуляшом! А я б, здаецца, крапіву з лебядой еў, каб толькі ўнука ці ўнучку за руку павадзіць...

Г а с т р ы т. Распусціўся ты, Васіль, ой распусціўся! Нічога не баішся! Дэмагогіяй займаешся, усім незадаволены... І гэта табе не тое, і тое не гэта... Ой, няма на вас пастуха!

М у л ь ц і к. А на цябе?

Г а с т р ы т. А я сазнацельны.

М у л ь ц і к. Ну, канечне... Ідзі гуляш у сталоўку есці...

Г а с т р ы т. Што ты да гэтага гуляша прычапіўся? Сёння шніцаль давалі!

М у л ь ц і к. Ну, шніцаль...

Г а с т р ы т *(уздыхнуў)*. Ой, няма... *(Пайшоў.)*

М у л ь ц і к *(адзін, глядзіць на дарогу)*. Стамілася, бедалага?.. Я думаю: цалюткі дзень на небе... І добрых людзей грэеш, і дрэнных, і ніякіх... Дзякуй табе... Адпачывай ужо... Хаця дзе там? Зямля, кажуць, круглая... Амерыканцаў, значыцца, грэць пойдзеш? Давай, давай... І ім трэба... І там, мусіць, ёсць людзі, што чакаюць цябе і любяць... І такія во неперспектыўныя шкілеты, як я, і дзеткі маленькія, дай ты

ім здароўя, радасці, спалі ўсё благое сваім цяплом... *(Дастае вядро вады, адносіць яго ад калодзежа, вылівае на траву, пачынае набіраць новае.)* Толькі там не затрымлівайся ўжо... Як мне здаецца, дык ты ўсё-ткі нашага роду-племені... Мабыць, на нашу зямлю трохі раней зірнула... І блін наш на цябе падобны, і бохан хлеба... Ты — наша... Але і астатнія твае дзеці... І іх любіць трэба... Любі, не стамляйся... І нас, і іх... Ну, шчаслівай табе дарогі... *(Набраў вады, пайшоў у свой двор.)*

Са свайго двара прыходзіць Г а н н а. Марудна-марудна апускае ў калодзеж вядро. Звіняць жалезкі. Падымае, пералівае ваду ў сваё вядро. Узняла, панесла, паставіла вядро на зямлю, памахала рукой. Узяла, зноў трошкі пранесла... Зноў паставіла. Падышла да лавачкі, села, заплакала. Ціха, аднымі вачыма. Прыходзіць Г а с т р ы т.

Г а с т р ы т. Чаго макрэчу развяла?

Г а н н а. Сілоў нямашака, Мікіта... Поўнае вядро ўжо занесці не магу...

Г а с т р ы т. А нашто табе поўнае?

Г а н н а. Прывыкла...

Г а с т р ы т. Адвыкай...

Г а н н а. Казу ж напаіць трэба... Сабе бульбіну якую зварыць і каб каля парога поўнае вядро стаяла...

Г а с т р ы т. Пагаварыць трэба... *(Азірнуўся.)*

Г а н н а. Гавары...

Г а с т р ы т. Піначаэта не бачыла?

Г а н н а. Каго-о?

Г а с т р ы т. Ката майго... Рыжага...

Г а н н а. Не...

Г а с т р ы т. Збег некуды, воўчае мяса... А я праз яго цэлую ноч не спаў...

Г а н н а. Праз ката?

Г а с т р ы т. Праз яго, старую падлу! Можа, паміраць куды пабег... Каты ж, кажуць, на вачах баяцца паміраць...

Г а н н а. Не бачыла я твайго Піначэта...

Г а с т р ы т. Лёг учора звечара, толькі вочы закрыў, толькі драмаць пачаў — чую, нехта глядзіць на мяне... Во так блізка-блізка нахіліўся і глядзіць... Аж страх за сэрца ўзяў! Вочы расплюшчыў — нікога! Толькі зноў драмаць — глядзіць, падлюга!

Г а н н а. Дык хто ж гэта?

Г а с т р ы т. А каб я ведаў! Насланнё нейкае. Позірк дурны... Здаецца, пранізвае ўсю галаву наскрозь і пад падушку зазірае...

Г а н н а. Адзінота гэта, Мікіта... Мне, калі Піліп памёр, гэткае ж мроілася...

Г а с т р ы т. А мо смерць ужо прыглядаецца, з якога боку за мяне ўчапіцца?

Г а н н а. Мо і яна, касая...

Г а с т р ы т. Ды не, ранавата яшчэ...

Г а н н а. Яно заўсёды ранавата...

Г а с т р ы т. Праз ката гэта ўсё! Збрадлівы, зараза, быў, ганяў я яго, біў, а ён, аказваецца, спакой мой сцярог па начах.

Г а н н а. Чым жа гэта?

Г а с т р ы т. Дыхаў... Падпнецца мне пад бок, клубочкам скруціцца, вурчыць... і дыхае... Куды збег?

Г а н н а. Можа, прыйдзе яшчэ... *(Устала.)* Ну, пайду...

Г а с т р ы т *(рэзка)*. Сядзь!

Г а н н а. У мяне ж каза там...

Г а с т р ы т. Не здохне твая каза... Сядзь! Гаварыць буду...

Ганна села. Чакае. Гастрыт хвалюецца, папраўляе гальштук.

Г а н н а. Ну, чаго ты мылішся, як дзеўка перад сватамі?

Г а с т р ы т *(не адразу)*. Ганна... давай я на табе як-небудзь паджанюся... Га?

Г а н н а. Што-што-што?!

Г а с т р ы т. Ну чаго ты штокаеш? Ты адна, і я адзін... Разам як-небудзь ужо... на гэтым свеце...

Г а н н а. Во спасібачкі! Во ўважыў! Гэта ты мяне замест ката свайго рыжага да сябе завеш... Каб дыхала...

Г а с т р ы т. Дык і я ж табе дыхаць буду!

Г а н н а. А мышэй мне лавіць у тваёй хаце не трэба будзе?

Г а с т р ы т. Ай, ладна табе! Не хочаш да мяне, я да цябе перайсці магу... Шкода глядзець на цябе... Ледзь ногі валочыш, а ўсё: каза, агарод, соткі...

Непрыкметна выйшаў са свайго двара М у л ь ц і к. Стаў, слухае.

Няўжо ты за сваё жыццё не нарабілася? Адпачні... У мяне грошы на кніжцы ёсць, хату прададзім... Хоць пад старасць пажыві па-людску...

Г а н н а. Смяяцца ж будуць, Мікіта...

Г а с т р ы т. Каму смяяцца? Вёска пустая саўсім... Неперспектыўная. Ні смяяцца, ні плакаць няма каму... Давай перабярэмся ў Займішча? Там асфальт, магазін, сталоўка, людзі... Ты хоць свет убачыш... Пуцёўку мо якую возьмем на курорт... А што? Мы ж з табой за свой век напрацаваліся... Хопіць ужо! Дай супакой рукам сваім... Нашто табе каза, агарод?.. Вядра вады падняць не пад сілу... Гэта вунь Мульцік, дык той і з труны ўстане, каб бульбу выкапаць... Таму што сквапны... Усё б, здаецца, загроб пад сябе... Жылка кулацкая ў чалавеку сядзіць! А мне... Мне нічога не трэба... Ды і табе... Адпачні ты... Га, Ганна? Хоць цяпер парадуйся жыццю, уздыхні на поўныя грудзі... Ты ж зарабіла сабе гэта... Ці праўда?

Г а н н а *(уздыхнула)*. Яно-то так, што казаць... Праўда.

Г а с т р ы т. А грошай нам з табой хопіць, за гэта не бойся... Пражывём...

Г а н н а. Ды нам шмат і не трэба...

Г а с т р ы т. Канечна...

М у л ь ц і к *(злосна)*. Ашалела, баба?!

Г а с т р ы т *(азірнуўся, спалохана)*. Не лезь! Я сватаюся.

М у л ь ц і к *(да Ганны)*. Каго ты слухаеш, бахіла старая?! Курортніца! Адпачываць захацела... Вунь наш курорт, за вёскай, пад бярозкамі... Прыйдзе час — адпачнём! Наляжымся, наспімся, наадпачываемся... А пакуль сілы ёсць хоць каліўца — рабіць трэба, рабіць, рабіць...

Г а с т р ы т. Для каго ёй рабіць?! Яна ж усё жыццё як праклятая, як катаржная...

М у л ь ц і к *(ужо спакойна)*. Ты не зразумееш... *(Да Ганны.)* Варта нам толькі махнуць рукой на ўсё, пачаць пра курорты думаць — смерць усімі кіпцюрамі ўчэпіцца... Ганна, адумайся! Жыць надакучыла?

Г а н н а. Не надакучыла... Стамілася толькі я...

М у л ь ц і к. І я стаміўся... Але мы з табой яшчэ толькі таму і жывём, што кожную раніцу па ваду ў гэты калодзеж ходзім, на сотках сваіх калупаемся... З зямлёй за доўгі век зрасліся, душой-сэрцам увайшлі ў яе, а цяпер па курортах?

Паспрабуй толькі! Хоць адзін дзень паспрабуй паляжаць паленам — усе хваробы як саранча наляцяць…

Г а н н а. Дык во ж на Мікіту нічога не налятае…

М у л ь ц і к. А ён іначай і не жыў… Усё жыццё з чайнікам па ваду хадзіў…

Г а с т р ы т. Я адказным і сазнацельным быў!!!

М у л ь ц і к. У нас адзін адказ: перад зямелькай, на якой стаім… Перад ёй мы адказныя… Кінь, Ганна, я табе сказаў…

Г а н н а. Дык сілоў няма вядро вады падняць! Што ж рабіць?

М у л ь ц і к. Бяры сваю казу за рогі і перавядзі ў мой хлеў… Няма сілы — па палавінцы насіць будзем… Ты палавінку, і я палавінку… Разам…

Г а с т р ы т. Ну і гад ты, Васіль, ну і гад! Я сасватаў, а ён жэніцца! Чаго ж ты яе раней не прасіў?!

М у л ь ц і к. Саромеўся…

Г а с т р ы т. На восьмым дзясятку! *(Да Ганны.)* Пайшлі, не слухай яго. Самому не пад сілу варочаць, дык батрачку сабе захацеў узяць пад старасць. Ты са мной паняй пажывеш…

М у л ь ц і к. Ага, пажыве… толькі адзін тыдзень. А потым хаўтуры панскія будзем рабіць… Хадзі, баба, да мяне! Жыць будзем, як жылі… Памагаць адно аднаму… Адпачываць па святах… І рабіць на зямлі! Трэба так, Ганна, трэба…

Г а с т р ы т. Не слухай яго!

Г а н н а. Ціха, мужчыны… Не сварыцеся… А можа, мы пад адным дахам, у адной хаце ўсе разам сыдземся дый будзем жыць… Я вам бялізну буду мыць, а вы…

Г а с т р ы т. Цьфу! Я ёй руку і сэрца, а яна мне — абшчажыція! Дом прыстарэлых!

Г а н н а. Тады пайду ў свайго Піліпа спытаюся… Калі дазволіць — перайду…

Г а с т р ы т. Як у Піліпа? На кладзішча пойдзеш?

Г а н н а. Нашто? З партрэта спытаюся… Што скажа — тое і будзе.

М у л ь ц і к. Ідзі. Пытайся.

Г а н н а пайшла. Мульцік і Гастрыт касавурацца адзін на аднаго.

Г а с т р ы т. Ну за што? За што ты мяне, Васіль, так ненавідзіш?

М у л ь ц і к. Кінь, Мікіта… Не ўмею я ненавідзець… За восемдзесят гадоў так і не навучыўся…

Г а с т р ы т. Добранькі, значыцца… Хіба можна ў гэтым свеце без нянавісці пражыць?

М у л ь ц і к. Можна…

Г а с т р ы т. Ты ж тры вайны прайшоў!

М у л ь ц і к. Прайшоў… І немцаў біў у партызанах без нянавісці.

Г а с т р ы т. Біў і плакаў?..

М у л ь ц і к. Не, не плакаў… Звярамі людзі сталі, сабакамі шалёнымі… А сабак шалёных забіваць мусіш, каб людзей не пакусалі… Без жалю, але і без нянавісці…

Г а с т р ы т. Нянавісць і святая ёсць…

М у л ь ц і к. Святое ў жыцці толькі святло, цяпло, любоў і зямля…

Г а с т р ы т. Поп ты…

М у л ь ц і к. Мульцік я…

Вяртаецца Г а н н а. Старыя чакаюць адказу.

Г а н н а *(выцершы ражком хусткі вочы)*. Дазволіў… *(Пасля паўзы.)* З табой, Васіль, жыць буду…

Г а с т р ы т *(блазнавата і горка ўсміхаючыся, пляскае ў далоні)*. Гор-ка! Гор-ка! Гор-ка!

З а с л о н а

1. Перад вамі прайшлі карціны (сцэны) першай дзеі (часткі) драмы Аляксея Дударава «Вечар». Падумайце і адкажыце, пра што гэты твор. Як можна коратка, у некалькіх словах, вызначыць сэнс паказанага? Звяжыце змест п’есы з двума папярэднімі творамі, чым яны блізкія, падобныя.
2. Чым адрозніваецца гэты драматычны твор ад лірычнага — верша «Трэба дома бываць часцей» — і эпічнага — апавядання «Дзяльба кабанчыка» — па форме, спосабах паказу жыцця?
3. Ахарактарызуйце аднаго або некалькіх герояў п’есы. Звярніце ўвагу на канкрэтныя выказванні, заўвагі аўтара, іншыя дэталі, якіх у творы шмат. Пачніце з таго, якія імёны-мянушкі дае аўтар сваім героям: Мульцік і Гастрыт. Што азначаюць яны, якія асаблівасці характару гэтых людзей выяўляюць, як перадаюць адносіны да іх з боку аўтара? Якія ў сапраўднасці імёны герояў п’есы?

- Як Мульцік характарызуе Гастрыта, які «праводзіў лінію» ў часы калектывізацыі, пісаў даносы, ананімкі на сваіх аднавяскоўцаў? Чаму Мульцік называе Гастрыта «ідэйным прыдуркам»? Адшукайце ў творы гэтыя мясціны і пракаменціруйце іх.
- Як Мульцік характарызуе Ганну, яе жыццё, усё, што адбылося з яе мужам, дзецьмі, апошнім сынам?
- Навошта Мульцік робіць, здавалася б, зусім непатрэбную работу: выбірае з калодзежа ваду і тут жа вылівае яе?
- Як бы вы растлумачылі сцэну з заяўкай на выкананне па радыё песні для Ганны нібыта ад сына, што знаходзіцца невядома дзе? Хто ў сапраўднасці зрабіў гэту заяўку? Дзеля чаго? Абгрунтуйце сваё меркаванне.
- У другой дзеі п’есы расказваецца, як Мульцік і Ганна жывуць разам. А Гастрыт памірае, раскайваючыся перад тымі, каму прынёс нямала гора і пакут, просячы дараваць яму ранейшыя паводзіны. Як бы вы пракаменціравалі гэтыя змены ў лёсе герояў? Ці не маюць яны сімвалічнага сэнсу? Чаму памірае (па волі аўтара) менавіта Гастрыт?
- Ці не такі ж сімвалічны сэнс маюць і іншыя моманты твора, пачынаючы з назвы п’есы — «Вечар»? Дзеянне п’есы адбываецца ў розны час сутак: і раніцай, і днём, і ўвечар. Чаму ж аўтар называе п’есу «Вечар»?
- Звярніце ўвагу на тое, як у пачатку п’есы апісваецца калодзежны журавель, што начапляна на яго. Падумайце, як гэтыя розныя прадметы характарызуюць ранейшае і сучаснае жыццё вёскі і герояў. Паразважайце на гэту тэму. Успомніце пра тое, што верш Рыгора Барадуліна таксама пачынаецца з вобраза калодзежнага жураўля, «цыбатага асвера». Ці выпадковыя гэтыя супадзенні ў творах на блізкую тэму?
- Чаму менавіта каля калодзежа адбываецца сцэнка-фантазія, калі героям п’есы мроіцца, як збіраюцца разам іх дзеці, радасныя, вясёлыя, «прагна п’юць самую смачную ваду свайго дзяцінства»? Які сэнс мае згаданая сцэна ў адносінах да галоўнай тэмы і ідэі твора?

4. Напішыце сачыненне, якое будзе складацца з «біяграфій» герояў твора або аднаго з іх.
5. Магчыма, вам давялося паглядзець п’есу ў тэатры або па тэлебачанні. Раскажыце, якое ўражанне выклікала сустрэча з героямі на сцэне ці на экране. Ці супадае гэтае ўражанне з тым, што ўзнікла ў вас пры чытанні твора?

## Аляксей Дудараў

# КІМ

*П’еса для дзіцячага тэатра ў дзвюх дзеях*

Дзейныя асобы

К і м
Ю л я
К а р а л ё ў
Л е н а
Х а д з е е ў

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Столік дзяжурнай сястры ў клініцы. Гарыць лямпа. Позні вечар. К і м і Ю л я.

К і м. Гэты рэцэпт вынайшлі лекары фараонаў у Старажытным Егіпце. Бярэцца 273 чорныя разынкі.

Ю л я. Чаму менавіта 273?

К і м. Пра гэта трэба спытаць фараонаў. Не перапыняйце мяне, мэм… Кожная разынка разразаецца крыж накрыж на чатыры роўныя паловы ў першую гадзіну першай квадры месяца… Дадаецца сем лыжак веснавога, менавіта веснавога, мёду. Усё старанна перамешваецца.

Ю л я. А як перамешваць?

К і м. У сэнсе?

Ю л я. Па стрэлцы гадзінніка ці супраць?

К і м. Супраць. Не менш сямі разоў.

Ю л я. Белая магія.

К і м. Пасля гэтага прыгатаваная маса апраменьваецца на падаконніку месячным святлом.

Ю л я. Колькі?

К і м. Не менш гадзіны. Затым выціскаецца сок з трох лімонаў, зноў перамешваецца.

Ю л я. І зноў сем разоў? І супраць стрэлкі гадзінніка?

К і м. Дзевяць і па стрэлцы! Ужываць па маленькай лыжцы тры разы на дзень да, у час ці пасля яды. Кроў абнаўляецца на самую поўню пры ўмове, што ніводнага разу… ніводнага! Не будзе перапынку ў прыёме лекаў…

Ю л я. І ў час прыёму пацыент не будзе думаць пра белага мядзведзя.

К і м. Вы цынічны, мэм... Менавіта ён вашу кроў і псуе першы... Цыкл пачнем з заўтрашняга ранку.

Ю л я. Няўжо ты сядзеў ноччу і рэзаў на чатыры часткі разынкі... Пад месяцам.

К і м. Яшчэ чаго! Я стамляюся за дзень і мне трэба выспацца, каб усю гэтую араву зранку пабудзіць, памыць, прычасаць, прымусіць заслаць ложкі, накарміць і развесці каго куды... Разынкі крышыў ваш любімчык Піня.

Ю л я. Божа! Ты даў дзіцёнку нож у рукі.

К і м. Я не даваў дзіцёнку ў рукі нож! Ён рэзаў разынкі брытвай. Гэты дзіцёнак — дзіцёнак толькі тады, калі з ім сюскаюцца, як гэта робіце вы, мэм... А са мной, як шоўкавы... Усё робіць! І заўважце, мэм, усё есць... нават пярловую кашу. Варта толькі было вам апынуцца ў клініцы, у яго на наступны ж дзень з'явіўся апетыт і перастаў балець жывоцік... Як бачыце, іншым разам і хвароба на нешта вартая.

Ю л я. А што Баранеса?

К і м. У-у-у! Трагедыя... Учора вярнулася са школы, залітая слязьмі, як дажджом...

Ю л я. Што здарылася?

К і м. Тройка па літаратуры!

Ю л я. І што?

К і м *(дражніць)*. Мой тата — паэт, а ў мяне тройка па літаратуры!

Ю л я. Што ты ёй сказаў?

К і м. А я сказаў, што ў мяне тата — дэсантнік, парашутыст, а я з другога паверху вышыні баюся... Галава кружыцца...

Ю л я. І што?

К і м. Зарагатала. Усё, мэм! Позна, мне рана ўставаць... Заўтра зранку адну лыжачку...

Ю л я. За што ты купіў разынкі і мёд?

К і м. Эканомія...

Ю л я. Кім!

К і м. Што Кім? Што Кім? Мы зарабілі! Мы з Пінем працавалі...

Ю л я. Дзе?!

К і м. Упрыгожвалі парк...

Ю л я. Зноў?!

К і м. Мэм! Мы прыбіралі парк!

Ю л я. Зноў?

К і м. Мэм! У вас «предрассудки»... Дарэчы, «предрассудки» з двума «с».

Ю л я. Не!

К і м. Няўжо з адным?

Ю л я. Не! Забабоны пішуцца без «с»!

К і м. Не можа быць...

Ю л я. Я ж цябе прасіла...

К і м. Што я зрабіў дрэннага? З Пінем. Мы прыбіралі парк пасля свята, там было шмат бутэлек. Я хацеў іх выкідваць, але ваш Піня, мэм, хадзіў за мной як хвост і талдычыў: «Сто ты! Сто ты? Зацэм? Зацэм? Здадзім, здадзім!» Я б не дадумаўся! Ну такі расце прашчалыга, такі круцель... Уяўляеш, стаміліся, селі адпачываць, я адвярнуўся на хвілінку, прыходжу. Сядзіць на лавачцы, ну, такі няшчасны, такі бедны, такі галодны... Між іншым, ідучы ў парк, ён з'еў банку тушонкі і во такую талерку пярлоўкі, а тут... Зрабіў такі выгляд, быццам яго ад дня нараджэння ніхто ніколі нічым не карміў. І шапачка побач. І ў шапачку ўжо накідаць паспелі... Я яго ледзь не забіў! *(Дражніць.)* А сто я зрабіў? Сто я зрабіў? Я стаміўся! Я заснуў! Сапацка звалілася. А цаго яны туды гросы кідалі? Я не прасіў! І сапраўды ж не прасіў, паразіт!

Ю л я. Кі-ім...

К і м. Калі ў Баранесы бацька паэт, то ў гэтага... Я не ведаю... Банкір, мабыць.

Ю л я. І ты не выкінуў іх?

К і м. Каго?

Ю л я. Грошы...

К і м. Мэм, мне здаецца, што вы лечыцеся не ў той клініцы... Грошы выкідваў толькі герой Дастаеўскага... У якім гэта рамане?

Ю л я. «Ідыёт»...

К і м. Правільна, раман «Ідыёт»! Дарэчы, вы зноў дзяжурыце, а Джульета ў садзе на спатканні?!

Ю л я. Я ўсё адно не сплю... Якая розніца, дзе не спаць?

К і м. Я пайшоў. Баранеса без мяне не засынае.

Ю л я. А Піня?

К і м. Фу-у, гэты прачынаецца толькі затым, каб паесці, а есці толькі затым, каб адразу заснуць. Значыць, заўтра адну лыжачку ў час сняданку. Халадзільнік тут ёсць?

Ю л я. Ёсць.

К і м. Трымаць у халадзільніку.

Зумер сігналізацыі.

Ю л я. Пабудзь ля тэлефона. Пятая палата выклікае. Я хутка!

Выходзіць. З'яўляецца Л е н а.

Л е н а. Салют, Кім!

К і м. Сястра, вас у даўнія часы называлі сёстрамі міласэрнасці... А што робіце вы?

Л е н а. Што я раблю?

К і м. Нават дыктатарскія рэжымы забараняюць выкарыстоўваць працу непаўналетніх. А вы выкарыстоўваеце працу хворых.

Л е н а. Не дуры галавы!

К і м. І дзеля чаго?! Каб бегаць у парк і цалавацца пад плакатам «Осторожно — СПИД!»

Л е н а. Адкуль ты ведаеш?

К і м. Гэта ведаю не я. Гэта ведаюць усе, хто праходзіў па тратуары каля клінікі. А ці ведаеце вы, сястра, што па апошніх даследаваннях вучоных Занзібара пацалункі на рабочым месцы аказваюць неспрыяльны ўплыў на нервовую сістэму, а ў Амерыцы...

Л е н а. Ой, дэмагог!

К і м. А ў Амерыцы за пацалунак у офісе пагражае турэмнае зняволенне...

Л е н а. Пайшоў к чорту! Дзе Юля?

К і м. Мэм адпрацоўвае вашу разбэшчанасць. Мяняе замест вас хвораму судна.

Л е н а. У якой палаце?

К і м. У пятай...

Л е н а. Будзь здароў, акселерацік!

К і м. Лена!

Л е н а. Што?

К і м. Як яна?

Л е н а. Складана, Кім, складана…

К і м. Аналізы не палепшыліся?

Л е н а. Горшымі сталі… Толькі ёй не кажы. Яна не ведае…

К і м. Яна адчувае…

Л е н а. Патрэбна аперацыя.

К і м. І колькі яна каштуе?..

Л е н а. Чорт яе ведае… Дорага, канечне…

К і м. Даведайся, калі ласка.

Л е н а. Добра. Пайду яе падмяню…

К і м. Скажы, што я пайшоў. І прасачы, каб яна заўтра абавязкова прыняла маю сумесь. Чао!

Л е н а. Будзь здароў.

Разыходзяцца. Праз нейкі момант з'яўляецца К а р а л ё ў, прыціскаючы адну руку да сэрца, а ў другой трымаючы пісталет. Левае крысо пінжака запэцкана крывёй. Уваходзіць Ю л я.

Ю л я. Божа!

К а р а л ё ў. Памажы мне…

Ю л я. Я паклічу доктара!

К а р а л ё ў. Назад! *(Наводзіць на Юлю пісталет.)* Нікога не клікаць! Ты зразумела?

Ю л я. Зразумела.

К а р а л ё ў. Крыві баішся?

Ю л я. Не.

К а р а л ё ў. Хадзі сюды! Вазьмі пінцэт… не той, большы! Там тырчыць куля…

Ю л я. Дзе?

К а р а л ё ў. У грудзях. Насупраць сэрца. Дастань яе.

Ю л я. А… бачу!

К а р а л ё ў. Зачапі пінцэтам і цягні!

Ю л я. Вам жа будзе балець!

К а р а л ё ў. Цягні, дура!

Юля *(спрабуе нешта зрабіць)*. Не атрымліваецца! Яна паміж рэбраў засела.

К а р а л ё ў. Цягні!

Ю л я. Пінцэт зламаўся!

К а р а л ё ў. Пашукай пласкагубцы…

Ю л я. Гэта клініка! Адкуль тут пласкагубцы? Я паспрабую зубамі…

К а р а л ё ў. Ты што?!

Ю л я. Рукі!

Каралёў адводзіць рукі, Юля схіляецца над ім і зубамі выцягвае з грудзей кулю. Каралёў стогне.

К а р а л ё ў. Дай сюды…

Ю л я. Я зараз кроў спыню…

К а р а л ё ў. Дай сюды кулю! Прапалашчы рот вадой. Яна атручаная… А кроў спыняць не трэба. Хай атруту вымывае… Прапалашчы рот вадой! Куля атручаная! Ты што не баішся?

Ю л я. Не.

К а р а л ё ў. Ну і чорт з табой! Каб не партманет у левай кішэні — каюк! Партманет уратаваў…

Ю л я *(дастае з пінжака маленькую кніжачку)*. Гэта не партманет…

К а р а л ё ў. А што?

Ю л я. Біблія…

К а р а л ё ў. Уроды…

Офіс Хадзеева. Уваходзіць К а р а л ё ў.

Х а д з е е ў. Ты?!

К а р а л ё ў. Я пригласил вас, господа, с тем, чтобы сообщить пренеприятное известие: Бог, оказывается, есть.

Х а д з е е ў *(пасля паўзы)*. Гэта… ты?

К а р а л ё ў. Я… Толькі давай так… галаварэза свайго не мачы… Ён зрабіў усё як мае быць. Маэстра! Два сантыметры ніжэй левага саска пацэліў. Зірні.

Х а д з е е ў. Адкуль ты?

К а р а л ё ў. Я спадзяюся, ты здагадаўся, што не з морга. Але і не з пракуратуры. Як у цябе справа з атэізмам? Мае светапогляды пахіснуліся… Паўгода таму, каб адчапіцца ад надакучлівых манашак, я купіў ім машыну цэглы, а яны мне падаравалі *(дастае з кішэні кніжачку, чытае)* «Новы запавет» Госпада нашага Ісуса Хрыста. Новы пераклад з грэчаскага арыгінала. Твой абармот яго прастрэліў… Наскрозь. Я панёс матэрыяльныя страты, Халдзей!

Х а д з е е ў. Я — Хадзееў…

К а р а л ё ў. Мне ўсё адно. Святыя сёстры падарылі мне кніжку, а я не магу яе пачытаць, бо ты мне яе сапсаваў. Яна прабіта атручанай куляй і залітая маёй крывёй… Я не магу

яе пачытаць!!! Дык вось, гэта... гэта мой тавар... вось гэтая кніжачка... Я яе мяняю на тое, што я табе вінен... Я так яе ацаніў! Яна столькі каштуе!

Х а д з е е ў. Не псіхуй!

К а р а л ё ў. Ты згодны на абмен?

Х а д з е е ў. Ты ж прыйшоў адзін...

К а р а л ё ў. Адзін! Ты згодны на такі абмен?

Х а д з е е ў. Згодны.

К а р а л ё ў. Слова!

Х а д з е е ў. Слова.

К а р а л ё ў *(аддае яму пісталет)*. На, я прыйшоў адзін, ён зараджаны. Ты можаш мяне застрэліць. Я асуджаны. Але перад смерцю прашу выканаць маё апошняе жаданне. Відак працуе?

Х а д з е е ў. Працуе...

К а р а л ё ў. Хачу мульцікі перад смерцю паглядзець...

Дастае з кішэні відэакасету, устаўляе ў відэамагнітафон.

Уключы... *(Хадзееў уключае.)* Дзень першы, пасля таго, як ты мяне хацеў замачыць... Ды там дата стаіць, ты бачыш... Та-а-к... Вось тваю Зайку выводзіць з дома ахоўнік... Ты здымаеш для яе катэдж у Баравусе... Азёрная, 4... Глядзі, глядзі... Вось ён адчыняе машыну. Зараз на яе шапачцы чырвоненькая кропачка з’явіцца... Ведаеш, што гэта? Лазарны прыцэл! Та-а-ак... Элітарны ліцэй... тысяча баксаў у месяц. Урок па прадмеце «Чалавек і свет»... Зараз наезд будзе... Воо-ось... Гэта праз акно здымалі... Вунь Зайка сядзіць на другой парце... Уй, які банцік! А на банціку бачыш чырвоненькую кропачку... О, о! Настаўніца занепакоілася... Заўважыла! Але падумала, што нехта з вучняў забаўляецца лазарным ліхтарыкам... І быў дзень, і быў вечар... Дзень другі... Глядзім...

Х а д з е е ў *(кідаецца да Каралёва)*. Ты... ты... скаціна... Калі з ёй што-небудзь... Калі хоць адна валасінка... Я... я цябе...

К а р а л ё ў. Што? Што ты мяне? Я ж табе пісталет аддаў! Ты думаеш, я гарбатага ляплю... Дай сюды! *(Забірае пісталет.)* Якая ў цябе тут самая каштоўная ваза... А, вунь! *(Прыцэльваецца, страляе. Ваза разлятаецца на кавалкі.)*

Бачыў? На! Там яшчэ шэсць патронаў засталося. Стаць да сценкі? Ці мо ў ванную пройдзем? Га? Ні храна ты са мной не зробіш і нічым не дастанеш… Я — адзін… У мяне нікога. Нікога. Зразумеў, Халдзей?

Х а д з е е ў. Я — Хадзееў…

К а р а л ё ў. Хадзееў! Ты мяне цяпер ахоўваць будзеш… Варта толькі мне знікнуць. Знікнуць на адзін дзень, і банцік тваёй Зайкі будзе сапсаваны… Той самай куляй, што прабіла гэту кніжачку! І нідзе ты яе не схаваеш! Яе дастануць, нават на Канарах! Ты б ужо спраўляў па ёй дзевяць дзён, каб не прыдуркаватая медзічка з клінікі, якая зубамі дастала кулю з маіх грудзей! Яна на каленях прасіла мяне не рабіць гэтага, бо мяне ўратаваў сам Бог, паклаўшы ў маю кішэню гэтую кніжачку! Так што давай грошы на свечку… Я не жартую… Грошы на тоўстую-тоўстую свечку!

Х а д з е е ў. Хопіць?

К а р а л ё ў. Хопіць. Хаця не! Я прыехаў сюды на таксі… Давай і за таксі. А сам чытай знявечанае пісанне і малі Бога, каб мне на галаву не звалілася цагліна, каб не збіла машына, каб не прыхапіў інфаркт, каб я не атруціўся ў рэстаране чым-небудзь… Таму што кветкі з маёй магілы можна будзе ўскласці на магілу тваёй Зайкі. Завянуць не паспеюць.

Бар. За столікам Ю л я. Перад ёй бакал. З’яўляецца К і м.

К і м. Тут холадна, мэм, я прынёс вам кофту.

Ю л я. Дзякую…

К і м. Вы сваёй сумнай постаццю нагадваеце нешта з імпрэсіяністаў. О! «Абсент» Ван Гога.

Ю л я. «Абсент» у Гагена. Двойка.

К і м. Дарэчы, што такое абсент?

Ю л я. Алкагольны напой на палыне. Яшчэ адна двойка.

К і м. Я непаўналетні і маю законнае права гэтага не ведаць.

Ю л я. Калі непаўналетні, няма чаго швэндацца вечарам па барах…

К і м. Я прынёс вам кофту, няўдзячная! І заадно паведаміць, што сям’я хвалюецца і хоча ведаць, ці хутка вы з’явіцеся дадому. Малым класціся спаць, ці вас яшчэ можна дачакацца?

Ю л я. Ідзі. Я хутка.

К і м. Праз паўгадзіны я вас чакаю каля пад'езда.

Ю л я. Добра.

К і м. Я пайшоў.

Выходзіць. З'яўляецца К а р а л ё ў.

К а р а л ё ў. Што адзначаеш, прыгожая?

Ю л я. Свята…

К а р а л ё ў. Чаму адна?

Ю л я. Так.

К а р а л ё ў. А якое ў цябе свята?

Ю л я. Не ў мяне асабіста, ва ўсіх. Няўжо не чулі? Сёння дзень закаханых…

К а р а л ё ў. А-а-а, нешта чуў… Людзі ўсё, чым толькі ні займаюцца на зямлі, якой бы брыдотай ні займаліся, усё хочуць звязаць, znітаваць з нябёсамі… Са святымі. Як яго?

Ю л я. Дзень святога Валянціна…

К а р а л ё ў. Гэта яшчэ нічога… А ты ведаеш, што ў ракетчыкаў… ну ў тых, што з ядзернымі боегалоўкамі… таксама ёсць свая святая. Чэснае слова! Святая Варвара… Варррварррa… Смешна?

Ю л я. Не.

К а р а л ё ў. І мне не смешна. А ты што, закаханая?

Ю л я. Так.

К а р а л ё ў. І хто ён?

Ю л я. Мужчына.

К а р а л ё ў. Ты вельмі прыгожая...

Ю л я. Дзякую.

К а р а л ё ў. Плюнь на свайго п'яніцу… і паехалі да мяне.

Ю л я. Не магу.

К а р а л ё ў. Ты мне падабаешся… Ты мне некага нагадваеш нават…

Ю л я. Ну маці, вядома, так звычайна гавораць.

К а р а л ё ў. Паслухай, у мяне ніколі не было ні маці, ні бацькі, і я прашу на гэтую тэму не жартаваць!

Ю л я. Скуль жа я ведала? Даруйце…

К а р а л ё ў. Ну во… ты зноў мне падабаешся. Паедзем да мяне… У маёй спальні шкляная столь… Уяўляеш? Ты спіш, а над табой свецяць зоркі… Я аднаго разу метэарыт

бачыў… Так жу-ух праляцеў справа налева… Ну што табе твой п'яніца? Га? І чаму вы, жанчыны, любіце толькі прыпыленых, няўдачнікаў і альфонсаў, якія корчаць з сябе «непонятых гениев»…

Ю л я. Гэта да яго не падыходзіць.

К а р а л ё ў. Дык хто ён?

Ю л я. Бандзюга дурны…

К а р а л ё ў. Калі бандзюга ды яшчэ дурны, ты хутка ўдавою будзеш… Такія доўга не жывуць.

Ю л я. Мабыць.

К а р а л ё ў. Мяркуючы па тым, як ты апранута, ён не надта і клапоціцца пра цябе…

Ю л я. Зусім не клапоціцца…

К а р а л ё ў. Ну дык…

Ю л я. Я яго кахаю…

К а р а л ё ў. Паехалі!

Ю л я. Не.

К а р а л ё ў *(дастае з партманета некалькі зялёных банкнотаў, кладзе іх на бакал)*. Ладна, давай так… Я пайду за шампанскім, а ты за гэты час пе-ра-ду-ма-еш… О'кэй…

Ю л я *(б'е Каралёва па шчацэ і выходзіць)*.

К а р а л ё ў *(ашалела)*. Яна ўдарыла мяне… Яна мяне ўдарыла… *(Машынальна бярэ бакал Юлі і выпівае.)* Якая гадасць!

Дом Каралёва. Раніца. Каралёў у вопратцы спіць на падлозе. Валяюцца бутэлькі, паміж імі сотавы тэлефон. Ён і звініць. Доўга звініць. Каралёў прачынаецца, бярэ тэлефон.

К а р а л ё ў. Слухаю… Які пацан? А колькі яму гадоў? Ну, прыкладна! Праверылі ўсё? Хай заходзіць…

Каралёў знаходзіць недапітую бутэльку, налівае ў бакал, п'е. Уваходзіць К і м, трымаючыся за нос.

К і м. Дзень добры…

К а р а л ё ў. Салют! Што скажаш?

К і м. У вас сурвэткі няма?

К а р а л ё ў *(дастае насоўку)*. На… І што з табой?

К і м. Капіляры знаходзяцца блізка каля сценкі носа… Пры нязначным узрастанні напружання лопаюцца… Гэта

ў мяне з дзяцінства... сястра кажа, што калі мне паказаць здалёк кукіш, у мяне з носу пальеццa кроў.

К а р а л ё ў *(бярэ тэлефон, націскае кнопку)*. Навошта ты яго біў?

К і м. Ён мяне не біў!

К а р а л ё ў. Заткніся! *(У трубку.)* Я цябе пытаюся, урод, навошта ты яго біў? Ах, проста нос паміж пальцамі сціснуў... *(Да Кіма.)* Колькі табе гадоў?

К і м. Трынаццаць.

К а р а л ё ў *(у трубку)*. Выйдзеш за вароты і па перыметру абыдзеш дом... *(Да Кіма.)* Колькі табе гадоў, ты казаў?

К і м. Трынаццаць.

К а р а л ё ў *(у трубку)*. Абыдзеш дом трынаццаць разоў на кукішках! На кортачках, урод!

К і м. Прабачце, я пайду...

К а р а л ё ў. Табе шкада яго?

К і м. Шкада.

К а р а л ё ў *(у трубку)*. Адбой: ён табе амністыю абвясціў... Не я, а ён! *(Кідае тэлефон.)*

К а р а л ё ў *(налівае)*. З твайго дазволу... *(П’е.)* Цяпер кажы, хто ты...

К і м. Я ваш сын...

К а р а л ё ў. Яшчэ раз.

К і м. Я ваш сын...

К а р а л ё ў. Вельмі прыемна, сынуля...

К і м. Мне таксама.

К а р а л ё ў. За сустрэчу! *(П’е.)* Калі б ты ведаў, як я цябе доўга шукаў. Ты, канечне, сынок, бедны, няшчасны, адзінокі, табе няма чаго есці і табе трэба грошы... так?

К і м. Не зусім. Я не сірата, не бедны, не адзінокі, мне ёсць што есці і ёсць дзе жыць... А вось грошы мне патрэбны. Тут вы здагадаліся.

К а р а л ё ў. Колькі?

К і м. Пяцьдзясят тысяч.

К а р а л ё ў. Ну, мужык, ты сціплы...

К і м. Я пра долары...

К а р а л ё ў. Тады «ой»! Ты сапраўды мой сын. Па размаху. Цябе мамка паслала?

К і м. Мама памерла дзесяць гадоў таму.

К а р а л ё ў. А як яе звалі?

К і м. Эльвіра.

К а р а л ё ў. А дзе мы з ёй... сустракаліся?

К і м. На фестывалі моладзі і студэнтаў... Вы тады былі намеснікам старшыні Саюза моладзі.

К а р а л ё ў. Колькі табе гадоў?

К і м. Вы пыталіся ўжо два разы... Трынаццаць.

К а р а л ё ў. А-а-а... Так, так... І з кім ты жыў?

К і м. Жыў я ў дзетдоме, бо ў мамы таксама нікога з блізкіх не было... Дом знаходзіўся ў Расасенцы. Калі здарылася Зона, дзетдом рассялілі па ўсёй рэспубліцы... Я цяпер жыву тут, у сямейным дзіцячым доме.

К а р а л ё ў. І як ты пра мяне даведаўся?

К і м. Ваша інтэрв'ю было ў «Дзелавой газеце».

К а р а л ё ў. Ну ясна. А яна што расказвала табе пра мяне і ты ўсё запомніў... Калі яна памерла?

К і м. Я ж казаў... дзесяць гадоў таму.

К а р а л ё ў. І ты нешта запомніў з таго, што яна табе расказвала... пра мяне? У такім узросце?

К і м. Яна амаль нічога не расказвала... Толькі перад смерцю прашаптала: «Фестываль. Тваё імя — твой бацька...»

К а р а л ё ў. Чыё імя?

К і м. Маё.

К а р а л ё ў. А як цябе завуць?

К і м. Кім...

К а р а л ё ў. Пры чым тут я?

К і м. Вы знаёмы з абрэвіятурай? Назавіце сябе і зразумееце...

К а р а л ё ў. Называю: Каралёў... І што?

К і м. Поўнасцю...

К а р а л ё ў. Каралёў Ігар Міхайлавіч... І што? А-а-а... Крута... Кім атрымліваецца... Толькі няўвязачка з прозвішчам па бацьку. Справа ў тым, што мяне на вакзале некалі знайшоў сяржант міліцыі... Мая мамачка пакінула мяне на падаконніку... Прозвішча ў сяржанта было Міхайлаў... Так я стаў Міхайлавічам.

К і м. А чаму Каралёў?

К а р а л ё ў. Тады ўсе шызелі ад касманаўтыкі.... Акурат на тым тыдні памёр славуты генеральны канструктар...

К і м. А Ігар?

К а р а л ё ў. А вось гэтага не ведаю... Можа нянечка якая ахрысціла, а можа клапатлівая матуля запіску пакінула... Не ведаю.

К і м. Даруйце...

К а р а л ё ў. Усё пуцём, Кім! Дык ты кажаш мой сын? І прыйшоў па аліменты? Лады, Кім... Толькі давай так... Колькі ты заяўляў?

К і м. Пяцьдзясят тысяч.

К а р а л ё ў. Замётана. Тры нулі закрэсліваем і... Атрымай і распішыся!.. *(Падае купюру.)*

К і м. Мне столькі не трэба.

К а р а л ё ў. Маеш рацыю. За геніяльную прыдумку трэба дадаць яшчэ... *(Дастае яшчэ купюру.)*

К і м. Бывайце...

К а р а л ё ў. Чакай! Што ты сабе хочаш купіць? Велік? Камп'ютар?

К і м. Я нічога не хачу купіць. Мне патрэбна пяцьдзясят тысяч долараў.

К а р а л ё ў. На меншае ты не згодны?

К і м. Не.

К а р а л ё ў. Я балдзею ад цябе... Ну ты ж разумны, мужык... Табе не смешна? Я прачынаюся з пахмелу, заяўляешся ты і... здраўствуйте, я ваша тётя! Не тётя, а сын! Сын! І за гэту хохму ты хочаш атрымаць пяцьдзясят тысяч баксаў... Навошта яны табе?

К і м. Асабіста мне непатрэбна ані цэнта. Такія грошы трэба маёй сястры... На лячэнне.

К а р а л ё ў. Гэта яна цябе паслала?

К і м. Не.

К а р а л ё ў. І колькі ёй?

К і м. Дваццаць два.

К а р а л ё ў. Клас! Значыць, у мяне і дачка зусім дарослая! Ну раз ты мой сын, а яна твая сястра... Колькі кажаш? Дваццаць два? А-а-а, помню, помню... Я тады ў пяты клас хадзіў, а яна нарадзілася перад самымі вясеннімі канікуламі... Мяне завуч з дырэктарам павіншавалі і адпусцілі з урокаў у раддом.

К і м. Бывайце.

К а р а л ё ў. Стаяць! Я цябе яшчэ не адпусціў. Кажы, хто і навошта цябе прыслаў да мяне?

К і м. Мяне ніхто не прысылаў… Мая сястра хворая. Мне патрэбны грошы, каб вылечыць яе...

К а р а л ё ў. Якая к чорту сястра, калі ты сцвярджаеш, што ты мой сын!

К і м. Канечне, яна не родная мне. Калі здарылася Зона і дзетдом рассялілі, яна ўзяла мяне, Піню і Баранесу на выхаванне… Мэрыя выдзеліла трохпакаёвую кватэру. Гэта называецца сямейны дзіцячы дом. Яна нас усынавіла і ўдачарыла…

К а р а л ё ў. А цяпер ты хочаш, каб я яе ўмацярыў, аж на пяцьдзясят тысяч баксаў?!

К і м. Яна захварэла! Гэта пасля Зоны!.. І калі не будзе грошай, яна памрэ! І нас расселяць па дзіцячых дамах! Я — нічога… Прывыкну… А вось Піня з Баранесай…

К а р а л ё ў. Хто такія Піня з Баранесай?

К і м. Дзеці. Хлопчыку пяць, дзяўчынцы тры…

К а р а л ё ў. Яны таксама ад мяне?

К і м. Пусціце!

К а р а л ё ў. Не, пачакай…

К і м. Я больш нічога не скажу!

К а р а л ё ў. Я скажу, сынуля… Мяне сентыментальнымі байкамі разжалабіць не атрымаецца… Па-першае, я сам хапануў за жыццё вось так і болей, але я ніколі не быў няшчасненькім. Ніколі! Галодным быў! Прыніжаным быў! Бітым быў! У адчаі да слёз гарачых быў! Але няшчасненькім ніколі! Ні-ко-лі!

К і м. Не ва ўсіх жа клыкі, як у ваўка.

К а р а л ё ў. Ты як з бацькам размаўляеш, гадзёныш!

К і м. Даруйце.

К а р а л ё ў. Гэта першае. А па-другое, сын мой, калі чалавек пакутуе, значыць, Гасподзь Бог яго за нешта пакараў! Ён адпрацоўвае свае грахі… І калі я буду аблягчаць яго долю, хоць самую горкую, значыць уступлю ў канфлікт з самім Богам! А з гэтым паханам лепш не спрачацца…

К і м. Вы падвялі пад сваё злое існаванне прымітыўную філасофскую базу і гэтым апраўдваеце свае абыякавыя адносіны да ўсяго і ўся… І ў першую чаргу да сябе самога…

К а р а л ё ў. Чаму ты раней да мяне не прыходзіў?!

К і м. Таму што маці, паміраючы, сказала: «Кім, дай мне слова, што звернешся да яго толькі тады, калі не будзе выйсця, калі будзе тупік. Я яго кахаю і не хачу, каб хоць нечым ён быў у жыцці засмучаны». У мяне цяпер тупік. Калі яна памрэ, я згублю сям'ю… І дзеці згубяць яе… А так я ніколі б да вас і не звярнуўся і не падышоў…

К а р а л ё ў. Чаму?

К і м. Ваўкоў баюся.

К а р а л ё ў. Ты зноў?!

К і м. Даруйце…

К а р а л ё ў. Ты разумееш, усё, што ты прыдумаў, абсалютна неверагодна…

К і м. Таму гэта і праўда! Хлусн礼 вы па свайму вопыту павінны ведаць…

К а р а л ё ў. Зноў?!

К і м. Дык вось, хлусня неверагоднай не бывае! Яна заўсёды апранае былое адзенне праўды…

К а р а л ё ў. Слухай ты, Спіноза, я б цябе мог проста выгнаць…

К і м. Я б даўно сам пайшоў, вы ж не пускаеце мяне…

К а р а л ё ў. Мне раскалоць цябе — раз плюнуць…

К і м. Каліце…

К а р а л ё ў. У цябе фота маці ёсць?

К і м. Цяпер няма… Калі здарылася Зона і нас вывозілі, рэчы браць забаранілі…

К а р а л ё ў. Ну а ты памятаеш яе? Пазнаў бы на здымку?

К і м. Канечне.

К а р а л ё ў. Не пашчасціла табе, сынуля… Рэч у тым, што ў мяне захаваўся здымак усёй дэлегацыі, якая ездзіла на фестываль… Зараз… *(Дастае з шуфляды стала здымак у рамачцы.)* Вось, іншым разам зірну, каб збегаць на спатканне са сваім юнацтвам. На, зірні і ты… Падкрэсліваю, тут уся дэлегацыя. Уся! Гэта мы на Краснай плошчы пасля паходу ў Маўзалей. Мяне пазнаў… Вось я ў цэнтры абдымаю дзвюх прыгажунь… Якая з іх твая мама?

К і м. Ні тая, ні тая…

К а р а л ё ў. Правільна. Адна з іх цяпер жонка камандуючага пагранвойскамі, а гэта працуе дыктарам радыё… Жывыя, здаровыя… ну а дзе ж твая нябожчыца-маці?

К і м. Здымак вельмі дробны…

К а р а л ё ў. А я табе лупу дам. На! Шукай…

Кім *(паводзіць лупай па здымку)*. Вось яна…

К а р а л ё ў. Дзе?

К і м. Пятая злева ў другім радзе…

К а р а л ё ў. Пакажы, пакажы… *(Бярэ здымак, потым вырывае з рук у Кіма лупу, уважліва разглядае.)* Дык як ты кажаш яе звалі? Эма?

К і м. Эльвіра… дайце, калі ласка, вады…

К а р а л ё ў. Ты так расхваляваўся?

К і м. Мне лякарства трэба запіць…

К а р а л ё ў. Не толькі сястра, і ты хворы?..

К і м. Прафілактыка. Пасля Зоны…

К а р а л ё ў. Можа мінералкі?

К і м. Проста вады. З-пад крана.

К а р а л ё ў. Зараз…

К а р а л ё ў выходзіць імкліва. Выходзіць і К і м. Вяртаецца са шклянкай К а р а л ё ў.

А ў якой школе ты вучышся? Гэй! Ты дзе? Кім!

Бярэ тэлефон, набірае нумар.

Зараз будзе выходзіць пацан, не выпускай яго… Як выпусціў?! І машыну даў?! Ты… А калі б ён сказаў, каб ты мне галаву адрэзаў, ты б і гэта зрабіў, уррод! Пазвані ў машыну і скажы… Лёня без мабільніка?! Усё! Не пападайся мне сёння на вочы, прыдурак!!!

Ходзіць па пакоі, трымаючы перад сабой здымак. Задуменна спыняецца. Бярэ са стала насоўку, што пакінуў Кім.

Ды не… Лухта ўсё гэта! Лух-та!

Клініка. За столікам Ю л я і Л е н а. Вечар.

Л е н а. Ты зноў сабралася ў бар?

Ю л я. Так…

Л е н а. І што ты там робіш?

Ю л я. Гляджу на яго.

Л е н а. Дзіўлюся…

Ю л я. Я сама дзіўлюся… Мне даўным-даўно нехта салодкага кіпеню ў душу лінуў… Плыву… Прыходжу ў бар

і чакаю... Ён з'яўляецца і пачынае напівацца... Кожны дзень... Ты ўяўляеш? Кожны дзень!.. Потым сядзіць у кутку за столікам, смаліць. З выгляду круты-круты, а я бачу ў ім дзіцёнка, што выйшаў пагуляць на перон, а цягнік з бацькамі пайшоў... Ты разумееш, ён плача...

Л е н а. Не выдумляй. Такія не плачуць.

Ю л я. Плача! Ён плача нават тады, калі смяецца...

Л е н а. У цябе аналізы палепшыліся.

Ю л я. Яго ніхто ніколі не любіў...

Л е н а. Ты ведаеш, што нас, жанчын, у адносінах да мужыкоў падзяляюць на тры катэгорыі: сёстры, жонкі, маці...

Ю л я. Адкрыла Амерыку...

Л е н а. Ды не ў прамым сэнсе! Як характар, як від... Сёстры строгія, сухаватыя і прагматычныя. Не раўнуюць. Жонкі раўнівыя, больш чуллівыя, аднак таксама патрабавальныя і строгія... Ну і мамачкі... Чым болей сыночак гадасцей робіць, тым больш яго любяць. Чым больш падоністы, тым даражэйшы. Ты — тыповая мама...

Ю л я. А ты?

Л е н а. Я і па прафесіі і па натуры — сястра... Большага мужчыны не заслугоўваюць! Ты калі пазнаёмішся з ім...

Ю л я. Ужо пазнаёмілася...

Л е н а. І што?

Ю л я. Да сябе запрашаў. У яго спальня са шкляным дахам... Спіш, а на цябе зоркі свецяць...

Л е н а. Дык ты хадзіла?!

Ю л я. Ты з глузду з'ехала! Як гэта я пайду.

Л е н а. Ты ж казала, што кахаеш...

Ю л я. Кахаю.

Л е н а. Чаму ж не пайшла?

Ю л я. А ты б пайшла за трыста долараў?

Л е н а. Ён табе яшчэ і трыста долараў даваў?!

Ю л я. Прапаноўваў. Ну скажы, ты б пайшла?

Л е н а. Калі б кахала, якія пытанні!

Ю л я. Ой, не выпендрывайся ты... Як гэта называецца, ты ведаеш...

Л е н а. Ведаю! Але я як медык, мілая, яшчэ нешта ведаю... Быў у маёй практыцы выпадак, калі праблемы такія ж, як і ў цябе, у адной дзяўчынкі адышлі самі па сабе, без медыкаментаў.

Ю л я. І што з ёй здарылася?

Л е н а. Што з усімі намі рана ці позна здараецца. Зацяжарыла...

Ю л я. І што?

Л е н а. Арганізм складаны камп'ютар... Нешта ў ім шчоўкнула — праз тры месяцы з уліку знялі. А ўжо рукой на яе ўсе махнулі...

Ю л я. Значыць, яна кахала і ён кахаў...

Л е н а. У гэтыя дэталі я не ўнікала.

Ю л я. Іначай нічога б не адбылося...

Л е н а. Можа. Не затрымлівайся.

Ю л я. Добра... *(Выходзіць.)*

З'яўляецца К і м.

К і м. Яна зноў пайшла?

Л е н а. Вітацца трэба.

К і м. Хэлло!

Л е н а. Чао, бамбіна!

К і м. Па-французску трэба казаць «гутэн таг». Чаму ты яе зноў адпусціла швэндацца па начным горадзе?

Л е н а. А ты раўнуеш?

К і м. Яна мая сястра, і я за яе непакоюся. Рэўнасць жа, як вам, мабыць, вядома з сусветнай літаратуры, бывае толькі да маці... Вы Сафокла чыталі?

Л е н а. Слаўны з цябе мужчына атрымаецца, Кім...

К і м. Не падлізвайцеся...

Л е н а. Не, сур'ёзна. Быў бы ты гадоў на пятнаццаць старэйшы, я б выйшла за цябе замуж.

К і м. Быў бы я гадоў на пятнаццаць старэйшы, я б з'еў каля загсу свой пашпарт, а з табой не ажаніўся...

Л е н а. Паччаму?

К і м. Ты спазнялася калі-небудзь на цягнік?

Л е н а. На цягнік не... Затое я заўсёды спазняюся на спатканні.

К і м. Вы гэта робіце знарок, міс! І на спатканні вы не спазняецеся, я ведаю... Вы прыходзіце іншым разам раней за вашага амаранта і з-за вугла назіраеце, калі з'явіцца ён, а потым цярпліва вытрымліваеце пяць-сем хвілін і...

Л е н а. Нахабнік!

К і м. ...і з лёгкадумным выглядам заяўляецеся. Ах, я зноў спазнілася!

Л е н а. Усё, надакучыў!

К і м. Вы гублялі калі-небудзь грошы?

Л е н а. Усё!

К і м. Ці праспалі вы хоць раз на экзамен?

Л е н а. Усё я сказала!

К і м. Вы плакалі хоць раз без прычыны, а проста ад замілавання?

Л е н а. Ты мяне давядзеш!

К і м. Узяць з вамі шлюб — тое ж самае, што пасадзіць сябе на жорсткую дыету на ўсё жыццё... Я жартую. Куды яна пайшла?

Л е н а. Куды і заўсёды.

К і м. І зноў без кофты... Толькі прастуды мне яшчэ не хапала... Я пайшоў.

Л е н а. Ты, можа, прабачэння папросіш?

К і м. Міс, даруйце мне і ў маёй асобе ўсім мужчынам, што крыўдзілі вас, крыўдзяць цяпер і будуць крыўдзіць *(выходзіць)*.

Л е н а *(глядзіць на сябе ў люстэрка)*. Ну, нягоднік малы! Трэба ж наплесці такога...

З'яўляецца К а р а л ё ў.

К а р а л ё ў. Добры вечар...

Л е н а. Добры. Вы да каго?

К а р а л ё ў. Не ведаю. Мабыць, да цябе.

Л е н а. Тады чым магу?

К а р а л ё ў. Ты даўно тут працуеш? Нічога, што я на ты?

Л е н а. Карона не зваліцца. Даўно працую.

К а р а л ё ў. Ты не можаш мне сказаць, хто тут дзяжурыў дваццатага.

Л е н а. А вы хто?

К а р а л ё ў. Ты не бойся, усё нармальна...

Л е н а. А я і не баюся...

К а р а л ё ў. Разумееш, дваццатага са мной непрыемнасць адна здарылася. У нейкай бальніцы мне дапамаглі. Выскачыў, схапіў таксі і... нават дзякуй не сказаў.

Л е н а. Падумаеш! У нас такая прафесія: ні грошай, ні дзякуй.

К а р а л ё ў. Разумееш, мне здорава дапамаглі... Я ў гарачцы быў... не памятаю, як дадому дабраўся... І не памятаю, у якой бальніцы быў...

Л е н а. Крутая гарачка была.

К а р а л ё ў. Ты нават не ўяўляеш.

Л е н а. Якога вы казалі?

К а р а л ё ў. Дваццатага.

Л е н а. А ў які час?

К а р а л ё ў. Вечарам.

Л е н а. Да дзесяці? Пасля?

К а р а л ё ў. Пасля.

Л е н а *(глядзіць у графік)*. Я дзяжурыла 20-га. З 21-й да сямі раніцы.

К а р а л ё ў. Не-е, там медсястра прыгожай была...

Л е н а. Дзякую за камплімент.

К а р а л ё ў. Не-не-не! Я не тое хацеў сказаць! У сэнсе прыгожая, што падобная...

Л е н а. На каго? На Сафі Ларэн ці Пугачову?

К а р а л ё ў. На маці маю падобная! На маці! Ты таксама нішто сабе, але ты на яе не падобная...

Л е н а. Ты таксама да майго бацькі не дацягваеш...

К а р а л ё ў. Хіба я супраць?

Л е н а. Значыць, так... Дваццатага вечарам дзяжурыла я. Нічыіх гарачак тут не было. Усё?

К а р а л ё ў. Не ўсё. Па-першае, не крыўдуй. Калі я цябе пакрыўдзіў, прашу прабачэння.

Л е н а. За вас ужо папрасілі прабачэння.

К а р а л ё ў. Хто?

Л е н а. Тут адзін акселерат швэндаецца... Што па-другое ў вас?

К а р а л ё ў. А па-другое, хачу аказаць вашай клініцы дабрачынную дапамогу... *(кладзе на столік канверт)*.

Л е н а. А па-трэцяе, ніякіх медыкаментаў, ні за якія грошы я вам даставаць не буду... Так што забярыце свой дабрачынны канверт і каціцеся к чортавай матары...

К а р а л ё ў. Ды якія к чорту медыкаменты! Калі мне спатрэбяцца наркотыкі, я іх воз дастану... І цябе магу пачаставаць...

Л е н а. Значыць проста так ахвяруеце…

К а р а л ё ў. Не, не зусім.

Л е н а. Забярыце канверт.

К а р а л ё ў. Спакойна! Ты будзеш чыстая, як херувім. *(Дастае з кішэні насоўку.)* Вось бачыш насоўку… На ёй кроў. Не баішся крыві?

Л е н а. Я медсястра і не баюся нават голых мужчын…

К а р а л ё ў. Гэта калі яны хворыя… Цяпер вось гэтая бутэлечка… Тут таксама кроў. Мне трэба ведаць: ці ёсць паміж імі розніца.

Л е н а. І ўсё?

К а р а л ё ў. І ўсё. Гэта *(паказвае на канверт)* раздасі лабаранткам за паслугі. А хочаш, купі для іх новы мікраскоп.

Л е н а. Там хопіць на мікраскоп?

К а р а л ё ў. Хопіць. Ну? І ў чым тут крымінал? Запэўніваю, што ўласнікі гэтых крывей жывыя і здаровыя.

Л е н а. Навошта гэта вам?

К а р а л ё ў. Я пісьменнік. Пішу дэтэктывы. Распрацоўваю адзін сюжэт. Хачу, каб усё ў ім было праўдападобным.

Л е н а. Ну добра, зайдзіце дні праз тры, ці лепш пакіньце тэлефон, я вам пазваню…

Зумер.

Даруйце, мне ў палату трэба… *(Выходзіць.)*

К а р а л ё ў накіроўваецца да выхаду і сутыкаецца з Ю л я й.

Ю л я. На вуліцы надзвычай холадна…

К а р а л ё ў. Так…

Ю л я. Затое на небе зорак багата…

К а р а л ё ў. Так…

Ю л я. І ўсе буйныя-буйныя… І мігцяць.

К а р а л ё ў. Так…

Ю л я. І яшчэ. Адзін мой выпадковы знаёмы ў бары, калі я сказала яму, што кахаю цябе дванаццаць гадоў… Прасіў перадаць табе, што ты ўрод…

К а р а л ё ў. Я з ім згодны. *(Абдымае яе.)* Я сапраўды ўрод…

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Дом Каралёва. Ноч. Ціхая музыка. Ю л я і К а р а л ё ў у павольным танцы.

Ю л я. Дзякую табе…

К а р а л ё ў. За што?

Ю л я. За тое, што я кахаю цябе…

К а р а л ё ў. Даруй, я не ведаю, што ў такіх выпадках гаварыць трэба…

Ю л я. І не гавары нічога…

К а р а л ё ў. Хочаш шампанскага?

Ю л я. Баюся.

К а р а л ё ў. Чаго?

Ю л я. У мяне і так усё кружыцца. Я абамлею…

К а р а л ё ў. Ну і на здароўе… У мяне нашатырны спірт ёсць…

Ю л я. Давай.

К а р а л ё ў. Нашатырны спірт?

Ю л я. Шампанскае.

К а р а л ё ў. Зараз…

Ю л я. Можна я прылягу?

К а р а л ё ў. Канечне, канечне… Што ж ты слабенькая такая? Можа есці хочаш?

Ю л я. Не, дзякуй… *(Прылягла на край ложка.)* Ой, сапраўды зоркі! А адна рухаецца нават…

К а р а л ё ў. Гэта самалёт…

Ю л я. А чаму не чутно?

К а р а л ё ў. Высока…

Ю л я. А можа спадарожнік?

К а р а л ё ў. Можа… Лёд пакласці?

Ю л я. Як хочаш… Якая я шчаслівая… Палову свайго жыцця не жыла, а ляцела… Што б ні здарылася, што б ні накаціла… варта было толькі ўспомніць пра цябе — усё! Усе праблемы радасцю рабіліся… *(Смяецца.)* Калі ў час путчу цябе арыштавалі, я хацела на плошчы абліць сябе бензінам і падпаліць.

К а р а л ё ў. Прыпадачная!

Ю л я. Калі ты недзе заявіў, што не прызнаеш Бога, цэлы дзень стаяла ў царкве на каленях і маліла, каб Ён дараваў

табе… А калі цябе паклалі на аперацыю — ледзь з глузду не з'ехала…

К а р а л ё ў. Юля, мілая, у мяне ніколі нічога падобнага не было… Пашкадуй… Памаўчы... Мая псіхіка не вытрымлівае. Я заплакаць магу…

Ю л я. Такой бяды…

К а р а л ё ў. Колькі памятаю сябе — я быў адзін… У мяне адсутнічае, паталагічна адсутнічае пачуццё натоўпу… Мне ў ім млосна. Натоўп — гэта жывы і да нейкай ступені разумны арганізм… Ён адчувае гэта і ненавідзіць мяне. Я заўсёды хацеў любіць, а ад мяне шарахаліся, як ад заразнага… А калі спрабавалі любіць мяне, дык абавязкова за нешта. Тады я шарахаўся, бо адразу ж адчуваў гэта… Я праклінаў сябе за гэта, я люта зайздросціў тым, хто бачыць тое, што хоча бачыць, і не заўважае таго, чаго не трэба…

Ю л я. Мы шампанскае піць будзем?

К а р а л ё ў. А-а, даруй… Табе не цікава?

Ю л я. Я цябе кахаю, дурненькі…

К а р а л ё ў. За цябе…

Ю л я. А я за цябе…

К а р а л ё ў. У гэтым доме столькі перабывала людзей, а, здаецца, не было ніводнага чалавека і ніводнай жанчыны…

Ю л я. Ты проста з маленства заўсёды абараняўся. Гэта ўжо ўвайшло не толькі ў звычку, а і ў характар. На цябе ніхто і не думае нападаць, а ты ўсё адно абараняешся… Як ты яшчэ толькі трымаешся? Ты ўжо павінны быў усё сваё здароўе на гэта пакласці...

К а р а л ё ў. Нічога. Мяне не так проста скруціць.

Ю л я. Ну во! Зноў іголкі выпусціў… Ну, а цяпер на каго, вожык?

К а р а л ё ў. Даруй…

Ю л я. Запрасі мяне яшчэ танцаваць.

К а р а л ё ў. Ты так любіш танцаваць?

Ю л я. Абалдзенна!

К а р а л ё ў. А я ненавіджу…

Ю л я. Ну намагніся ўжо.

К а р а л ё ў *(уключае музыку, галантна падыходзіць).* Мадам! Белы танец!

Ю л я. Па-першае, мадэмуазель, а па-другое — на белы танец жанчыны запрашаюць.

К а р а л ё ў. Ну ўсё адно, прашу вас...

Танцуюць. Б'е гадзіннік.

Ю л я. Колькі?

К а р а л ё ў. Тры гадзіны...

Ю л я. Позна. Час ехаць.

К а р а л ё ў. Можа застанешся? Заставайся...

Ю л я. Не, давай не сёння. Не сёння. Добра?

К а р а л ё ў. Як хочаш... *(Засмяяўся.)* Жах! Ціхі жах!

Ю л я. Што?

К а р а л ё ў. Нічога. Я адвязу цябе.

Ю л я. Не трэба і праводзіць! Не трэба. Добра?

К а р а л ё ў. Як скажаш... Жах!

Ю л я. Вызаві таксі...

К а р а л ё ў. Ды якое таксі?! *(Бярэ тэлефон, націскае кнопку.)* Серж? Ну што, пакрыўдзіўся? У нас проста няўдалы дзень з табой быў учора... Даруй. Значыць, сядзеш на «Аўдзі» і адвязеш маю госцю, куды скажа... Я сам сябе ахоўваць буду... Стоп, стоп! Будзеш везці яе, як мяне самога. Малайчына, здагадлівы... Яна ўжо спускаецца.

Ю л я. Бывай...

К а р а л ё ў. Я хоць да машыны праводжу!

Ю л я. Не трэба. Я знайду дарогу.

К а р а л ё ў. Тады спакойнай ночы...

Ю л я. Добрай раніцы! Пацалуй мяне.

Цалуюцца. Ю л я выходзіць.

К а р а л ё ў *(смяецца)*. Жах! Жах!

Тэлефон. Каралёў націскае кнопку.

Г о л а с. Камандзір, гэта боцман...

К а р а л ё ў. Ну?

Г о л а с. Калі разбудзіў — даруйце, але вы загадалі гэту інфармацыю дакладваць у любы час.

К а р а л ё ў. Слухаю.

Г о л а с. Халдзей вывез дачку за мяжу. Яна ў Кёльне. Мне вылятаць?

К а р а л ё ў. Не трэба, адбой. Праблема здымаецца.

Г о л а с. Зусім?

К а р а л ё ў. Зусім. Дзякую.

Г о л а с. Зразумела. Ну, а...

К а р а л ё ў. Усё, што атрымаў, — ваша... Усё, што ведаеш, — забудзьце.

Г о л а с. Ужо забыліся. Дзякую. Пазваніце — буду рады.

К а р а л ё ў. Будзь здароў!

Г о л а с. Бывайце...

Каралёў выключае тэлефон, ходзіць па пакоі, падыходзіць да акна.

К а р а л ё ў. А дзень павялічыўся. Ледзь прыкметна, але святлее... І спаць не хочацца.

Дом Юлі і Кіма. К і м сядзіць каля акна. З'яўляецца Ю л я.

К і м. Мэм, прыстойныя жанчыны заяўляюцца дадому да апоўначы.

Ю л я. А ты не спіш?

К і м. У мяне заўтра... якое заўтра? Сёння! Кантрольная. Мне трэба падрыхтавацца, а вы мала таго што подла адсутнічаеце дома і прымушаеце мяне хвалявацца, дык яшчэ прыязджаеце пад раніцу і на «мерседэсе».

Ю л я. Гэта не «мерседэс»! Гэта «аўдзі», а ты... ты бурчыш, як свёкар! Дзеці спяць?

К і м. А што могуць рабіць дзеці а чацвёртай гадзіне ночы? Ой-ё-ёй! Ой-ё-ёй! Мы сэканомім на энергаталонах... Вы, мэм, ззяеце, як ёлачная цацка...

Ю л я. Кі-ім!

К і м. Што пачварная?

Ю л я. Калі б ты ведаў... Калі б ты ведаў...

К і м. Я нічога не хачу ведаць, я хачу спаць. Лена тэлефанавала.

Ю л я. Якая Лена?

К і м. З клінікі.

Ю л я. Чаго?

К і м. Непакоілася за вас, мэм, і пыталася, куды вы падзеліся...

Ю л я. І што ты сказаў?

К і м. Я сказаў, што вы дома, стаміліся і спіце разам з дзецьмі. Бачыце, як вы нізка палі... Мала таго, што за-

гульваеце начамі, дык яшчэ вымушаеце непаўналетняга прыстойнага падлетка хлусіць дарослым.

Ю л я. Навошта ж ты хлусіў?

К і м. А што мне было рабіць? Сказаць, што і мне невядома, дзе вы падзеліся? Каб і яна хвалявалася ўсю ноч... А так я зло ў свеце паменшыў роўна ў два разы, і твая сяброўка спакойна спала на начным дзяжурстве. І я таксама іду спаць... чаго і вам жадаю.

Ю л я. Я толькі чаю пап'ю...

К і м. Вас там не напаілі нават чаем? Які жах! Я зараз прыгатую.

Ю л я. Я сама... Ідзі спі.

К і м. Калі вас яшчэ і голадам марылі — магу прапанаваць аўсяную кашу.

Ю л я. Разбяруся. Ідзі спаць...

К і м. Сонца ўзыходзіць. Дабранач, мэм!

Ю л я. Не здзекуйся. Ідзі.

К і м. Пайшоў. *(Пайшоў.)*

Ю л я. Кім!

К і м. Што?

Ю л я. Я цябе люблю...

К і м. Гэта ў вас ад бяссонніцы...

Ю л я. Ну хопіць ёрнічаць, я сур'ёзна!

К і м. У чатыры раніцы толькі пеўні сур'ёзна кукарэкаюць, сур'ёзныя ж размовы людзі вядуць пасля дзевяці... Гуд бай!

Ю л я. Чакай.

К і м. Ну што яшчэ?

Ю л я. Я хачу, каб ты ведаў, што б ні здарылася, што б ні адбылося, я заўсёды буду з табой, з Пінем і з Баранесай...

К і м. Не веру...

Ю л я. Чаму?

К і м. Вы парушылі іерархію, якую ж самі і ўстанавілі...

Ю л я. Ну добра! З Пінем, з Баранесай і з табой! Ты задаволены?

К і м. Я незадаволены, але скараюся жорсткаму лёсу.

Ю л я. Ты балаболка!

К і м *(пазяхаючы)*. Я таксама хачу зрабіць сур'ёзную заяву: калі вы будзеце замест лячэння прападаць у барах, ездзіць на «мерседэсах», то...

Ю л я. Клянуся, гэта ў першы і апошні раз! *(Абдымае яго.)*

К і м. Дадуць мне сёння паспаць ці не! Гэта абуральна! *(Выходзіць.)*

Юля *(глядзіць у акно)*. Сон... Раніца... Ранішні... Сон...

Офіс Хадзеева. З'яўляецца К а р а л ё ў.

Х а д з е е ў. Што табе трэба?

К а р а л ё ў. Прыстойныя людзі вітаюцца і прапаноўваюць сесці *(паўза)*. Можна мне сесці?

Х а д з е е ў. Сядай.

К а р а л ё ў. Я прыйшоў табе сказаць, што ты дарма адправіў сваю Зайку ў Кёльн.

Х а д з е е ў *(падхапіўся)*. Адкуль ты ведаеш?

К а р а л ё ў. Не кіпяціся! Гэта яшчэ не ўсё. Ёй ужо нічога не пагражае. Ні ў Кёльне, ні тут. Я прыйшоў разлічыцца з табой *(пачынае выкладаць з саквояжа пачкі грошай)*, папрасіць прабачэння і сказаць, што я быў свіннёй...

Х а д з е е ў. Чаму быў?

К а р а л ё ў *(горача)*. Таму што я ўжо даўно не свіння!

Х а д з е е ў. І як даўно?

К а р а л ё ў. Сем гадзін. З паловай.

Х а д з е е ў. Ну-у, так доўга не жывуць...

К а р а л ё ў. І тым не менш... Але і ты фрукт... З-за гэтай муры *(ківае на грошы)* сябру, хоць і быламу, кулю пад сэрца... Ну менш іх, больш — якая розніца...

Х а д з е е ў. Дык а чаго ж ты тады...

К а р а л ё ў. Я ж сказаў табе, кім я быў! Свіннёй.

Х а д з е е ў. Вось я і хацеў замачыць цябе. На сала.

К а р а л ё ў. Бяры свае грошы, людаед... І яшчэ раз даруй... За дачку. Я разумею, што ты перажыў.

Хадзееў нервова набірае нумар.

Г о л а с. Слухаю.

Х а д з е е ў. Як вы?

Г о л а с. Усё ў парадку.

Х а д з е е ў. Дзе яна?

Г о л а с. На занятках.

Х а д з е е ў. А ты?

Г о л а с. Тут. Каля дзвярэй класа. Не хвалюйцеся, усё ў парадку.

К а р а л ё ў. Усё ў парадку. Не мучай дзіцёнка. Туды ніхто не паехаў ад мяне... А сёння ноччу я і тут усё зняў...

Х а д з е е ў. Што адбылося?

К а р а л ё ў. Пагібель адбылася... Катастрофа... Душэўны «Тытанік», Хадзееў...

Х а д з е е ў. Ты ж мяне заўсёды Халдзеем клікаў...

К а р а л ё ў. Табе і ў трэці раз сказаць, кім я быў?! Што ты прыніжаеш мяне!

Х а д з е е ў. Хто цябе прыніжае...

К а р а л ё ў. Я папрасіў у цябе прабачэння, з дачкой тваёй усё нармальна... Я вярнуў твае грошы...

Х а д з е е ў. А ты мне нічога не вінен...

К а р а л ё ў. Што значыць не вінен? Канчай залівань.

Х а д з е е ў. У мяне на залівоны няма часу. Ты мне нічога не вінен.

К а р а л ё ў. Ды ты што?! Я зранку вышкрабаў адусюль апошнія грошы, машыну загнаў за палову цаны, прадаў за бясцэнак два прадпрыемствы!

Х а д з е е ў. Я за чужую шызафрэнію не адказваю...

К а р а л ё ў. Паслухай, Хадзееў...

Х а д з е е ў. А вось цяпер я — Халдзей... А ты забірай свае бабкі і каціся...

К а р а л ё ў. Я не жабрак! Мне твае падачкі не трэба!

Х а д з е е ў. Якія падачкі, Каралёў? Успомні, калі я каму падаваў хоць адзін рубель... Тыдзень таму ты мне прадаў вось гэта *(паказвае прастрэленую кніжачку)*, я купіў і ўсё. Мы квіты.

К а р а л ё ў. Я яе пакідаў у залог!

Х а д з е е ў. У мяне не ламбард! І я не ліхвяр! Будзь здароў...

К а р а л ё ў *(спрабуе вырваць з рук Хадзеева кніжачку)*. Дай сюды!

Х а д з е е ў. Я зараз паклічу ахову і цябе вышпурнуць адсюль к чортавай матары!

К а р а л ё ў. Дай сюды і забяры свае ванючыя грошы!

Х а д з е е ў. Гэта не мае грошы.

К а р а л ё ў. На ёй мая кроў!

Х а д з е е ў. Ты прадаў яе... Гэта мая ўласнасць.

К а р а л ё ў. Я не мог яе прадаць! Гэта падарунак. Дай сюды!

Х а д з е е ў. Ды пайшоў ты!!! *(Змагаюцца за кніжачку. Падаюць.)*

Дом Каралёва. Уваходзіць злы, ускудлачаны і паматы К а р а л ё ў. Яго, пэўна, сапраўды «вышпурнулі».

К а р а л ё ў *(выкідваючы з усіх кішэняў грошы)*. Урроды! Пазабіваў бы ўсіх...

З'яўляецца Л е н а.

Л е н а. Можна, Ігар Міхайлавіч?

К а р а л ё ў. Можна. А ты хто?

Л е н а. Лена з клінікі...

К а р а л ё ў. З якой клінікі? Якая Лена?

Л е н а. Вы прасілі мяне зрабіць аналізы...

К а р а л ё ў. А-а-а... Ну й што?

Л е н а. Вы, мабыць, памыліліся. Справа ў тым, што і ў бутэлечцы і на насоўцы адна і тая ж кроў...

К а р а л ё ў. Гэтага не можа быць!!! Вашы лабаранткі пераблыталі нешта!

Л е н а. Наша лабараторыя рабіла аналіз толькі з прабіркі. У нас такой апаратуры няма, каб здымаць з тканіны. А з насоўкі рабіў мой знаёмы... Ён судмедэкспертам працуе... У міліцыі...

К а р а л ё ў. І што?

Л е н а. Усё аднолькава... Надзвычай рэдкая група. Перадайце вашаму знаёмаму, каб ён здаў у сваёй паліклініцы кроў...

К а р а л ё ў. Каму?

Л е н а. Сабе самому. Не давядзі Бог што-небудзь здарыцца і спатрэбіцца пераліванне — будуць праблемы... Надзвычай рэдкае спалучэнне...

К а р а л ё ў. Ды на насоўцы зусім іншая кроў!!! Ты разумееш?

Л е н а. Вось вынікі аналізу з нашай лабараторыі, а гэта рабіў мой сябар... З насоўкі, якую вы прынеслі... Нават лейкацыты аднолькавыя...

К а р а л ё ў. Дурдом...

Л е н а. Сяброўкі з лабараторыі дзякуюць за мікраскоп...

К а р а л ё ў. А міліцыянер?

Л е н а. Міліцыянеру за мікраскоп падзякую я...

К а р а л ё ў. Выпіць хочаш?

Л е н а. Не-е, мне яшчэ сёння цалавацца.

К а р а л ё ў. Ну, ідзі...

Л е н а. Дзякуй вы ўжо сказалі?

К а р а л ё ў. У старажытнасці ганцоў за такія навіны не дзякавалі... Ім галовы адсякалі.

Л е н а. Ну падумаеш, рэдкая група... Было б ад чаго расстройвацца...

К а р а л ё ў. Усё. Дзякуй. Ідзі.

Л е н а. Бывайце... *(Выходзіць.)*

К а р а л ё ў *(сам сабе)*. Пашлякі маюць рацыю: сваякоў у нас намнога больш, чым мы думаем... «А поворотись-ка, сын! Экой ты смешной какой!» *(Націскае кнопку.)* Серж! Ты памятаеш, хлапчук да мяне прыходзіў? Ты яшчэ яму нос разбіў і на машыне ў горад адправіў.

Г о л а с. Памятаю...

К а р а л ё ў. Чаго ты хмыкаеш? Падымі на ногі ўсіх, каго можна, і знайдзі яго. Клічуць — Кім. Сірата. Жыве ў нейкім сямейным доме. Язык падвешаны добра... Гадоў дванаццацьтрынаццаць. Апрануты... Чаго ты рагочаш?

Г о л а с. Шэф, вы будзеце смяяцца, але ён сядзіць у мяне.

К а р а л ё ў. Затрымай яго!

Г о л а с. Навошта яго затрымліваць? Ён да вас і прыйшоў...

К а р а л ё ў. Хай заходзіць...

Нервова прыбірае на стале пачкі з грашыма.

Дурдом... Дурдом...

Уваходзіць К і м.

К і м. Добры дзень...

К а р а л ё ў. Салют, салют... Што ж гэта такое, га? Кімблінклінтан! Я для яго за вадой пабег, як афіцыянт таннага кафэ, а ён змыўся. Чаго ты збег?

К і м. Мне стала сорамна.

К а р а л ё ў. Што такое?

К і м. Даруйце.

К а р а л ё ў. За што?

К і м. Я падманваў вас...

К а р а л ё ў. Бывае...

К і м. І мне надзвычай пагана ад гэтага...

К а р а л ё ў. У жыцці, Кім, з малога трэба пачынаць, а ты адразу пяцьдзясят тысяч долараў.

К і м. Пра што гэта вы?

К а р а л ё ў. Я так разумею, што хворай сястры ў цябе няма, як няма і Моні з Графіняй.

К і м. Моні з Графіняй няма.

К а р а л ё ў. Ну во!

К і м. Піня з Баранесай ёсць. І сястра ў мяне сур'ёзна хворая... І на лячэнне за мяжой ёй патрэбна гэтая сума.

К а р а л ё ў. Дык у чым жа тады твой падман?

К і м. Я не ваш сын...

К а р а л ё ў. Чый жа ты, хлопчык?

К і м. Адкуль мне ведаць. У мяне ваша гісторыя... Толькі не з вакзалам звязаная, а... Ды якая розніца... Калі жыў у дзетдоме, вы ж ведаеце, кожны выдумляе сабе бацькоў... У кожнага або лётчык, або геолаг, або вадалаз...

К а р а л ё ў. Мой шпіёніў для роднай дзяржавы ў Лаосе... Аднойчы адзін паскуднік падлавіў: «Як за ён там моза спіёніць, калі там усе маленькія і з вузкімі вацыма. Там за ўсе кітайцы».

К і м. А сапраўды?

К а р а л ё ў. Што сапраўды? Што сапраўды... Гісторыю трэба ведаць, троечнік! Там тады былі амерыканцы і ён шпіёніў сярод амерыканцаў.

К і м. А-а-а...

К а р а л ё ў. Бэ-э-э...

К і м. Я пра бацьку нічога не выдумляў, няма і няма... А вось маці ў мяне была... Альпіністка... З прыгожым імем Эльвіра... І я быў зусім маленькі, калі яна загінула пры ўзыходжанні на Эльбрус...

К а р а л ё ў. Распранайся, зараз абедаць будзем.

К і м. Не, я спяшаюся.

К а р а л ё ў. Куды?

К і м. Піню з Баранесай трэба забраць з садзіка. Сёння скарочаны дзень.

К а р а л ё ў. Я пашлю машыну, іх забяруць.

К і м. Вы што, ні з кім яны нікуды не пойдуць. Бывайце. І… яшчэ раз даруйце…

К а р а л ё ў. Чакай. Яшчэ пару пытанняў назасыпку. Скажы *(паказвае фотаздымак у рамачцы)*, ты калі-небудзь бачыў гэты здымак?

К і м. Не. Адкуль жа?

К а р а л ё ў. На каго ты тады паказваў?

К і м. Вось. Другі рад. Пятая злева.

К а р а л ё ў. Чаму на яе? Менавіта на яе?

К і м. Ну-у… Можа таму, што ўсе глядзяць у аб'ектыў, а яна на вас… І позірк такі… Мне здаецца, яна вас кахала…

К а р а л ё ў *(нервова)*. Яе завуць Эльвіра!!!

К і м. Абалдзець можна…

К а р а л ё ў. Не спяшайся! Гэта мелката! Далей не абалдзець, далей па ўсіх законах трэба чокнуцца.

К і м. Ну?

К а р а л ё ў. Яна сапраўды займалася альпінізмам! І іх групу накрыла лавінай пры ўзыходжанні на Эверэст…

К і м *(разгублена)*. На Эльбрус…

К а р а л ё ў. Не, на Эверэст! Усе загінулі. Нікога не знайшлі… І гэта яшчэ не ўсё! Яна нарадзіла дзіця трынаццаць год таму, але малое памерла праз некалькі месяцаў!

К і м. Адкуль вы ўсё гэта ведаеце?

К а р а л ё ў. Пасля твайго першага візіту я хоць і быў на сто працэнтаў упэўнены, што ты вешаеш мне на вушы лапшу, усё ж такі вырашыў даведацца, што за краля стаіць у другім радзе пятая злева… Сябры мне гэту інфармацыю і выдалі!

К і м. А… адкуль яна? З якога горада?

К а р а л ё ў. Расанск… Ну? Чаго ты вачыма лыпаеш?

К і м. Першыя гады… я жыў у Расанскім Доме дзіцяці… Містыка…

К а р а л ё ў. Гэта не містыка!

К і м. А што?

К а р а л ё ў. Чартаўшчына! І гэта яшчэ не ўсё! Ты не ведаеш таго, што я не хачу, каб ты ведаў...

К і м. Даруйце… Я пайду…

К а р а л ё ў. Ну, а цяпер як на духу: сястра сапраўды хворая?

К і м. Хворая.

К а р а л ё ў. Нешта прыдумаем… Гэта яна цябе прыслала?

К і м. Яна.

К а р а л ё ў. І як яе завуць?

К і м. Юля…

К а р а л ё ў. Юля?!

Клініка. Ю л я і Л е н а.

Л е н а. Слухай, мілая, ты паводзіш сябе, як сямікласніца!

Ю л я. Паклёп! Я паводжу сябе, як пяцікласніца!

Л е н а. Чым ты займалася?

Ю л я. У класікі гуляла з унучкай акуліста.

Л е н а. А на працэдуры я за цябе павінна хадзіць?

Ю л я *(абдымае сяброўку)*. Ленка-а-а…

Л е н а. Што Ленка?

Ю л я. Не бубні…

Л е н а. Я не бубню!

Ю л я. А што ты робіш?

Л е н а. Зайздрошчу. Хто выйграў?

Ю л я. Я.

Л е н а. Дзіцёнка пакрыўдзіла. Марш у сёмы кабінет! Бегаць за табой яшчэ трэба! Хуценька! Апаратура перагрэлася!

Ю л я. Бягу, бягу!

Выходзіць. З'яўляецца К а р а л ё ў.

Л е н а. Ігар Міхайлавіч! Якім ветрам?

К а р а л ё ў. У вашай клініцы гэтага… аддзялення няма?

Л е н а. Якога аддзялення?

К а р а л ё ў. Ну гэтага… дзе прыдуркаў лечаць.

Л е н а. Не-е, гэта ж за горадам… У нас толькі неўралогія. А што вы захварэлі?

К а р а л ё ў. Я нарадзіўся хворым.

Л е н а. Тады ўсё о'кэй. Вы ведаеце, калі чалавек пачынае выздараўліваць?

К а р а л ё ў. Ну?

Л е н а. З таго самага моманту, калі скажа сам сабе, што ён хворы.

К а р а л ё ў. А калі чалавек разумнець пачынае па тваёй логіцы? З таго самага моманту, калі прызнае сам сябе крэцінам?

Л е н а *(смяецца)*. Мабыць, так.

К а р а л ё ў *(не смяецца)*. Я — крэцін.

Л е н а. З выздараўленнем вас, Ігар Міхайлавіч!

К а р а л ё ў. Называй мяне проста Кім...

Л е н а. Чаму Кім?

К а р а л ё ў. Ведаеш, што такое абрэвіятура?

Л е н а. Не.

К а р а л ё ў. Двоечніца. Загалоўныя літары, якімі нешта ці нехта называецца. СССР, КПСС, НКВД, ОПРЭСЭТЭ... ЁКАЛЭМЭНЭ...

Л е н а. А гэта што такое?

К а р а л ё ў. Не ведаю. І ведаеш, усё, што называецца абрэвіятурай, надзвычай нетрывалае. Усё распадаецца... І я распадаюся...

Л е н а. А чаму вы Кім?

К а р а л ё ў. Маё прозвішча Каралёў, завуць Ігар Міхайлавіч.

Л е н а. А-а-а...

К а р а л ё ў. Што тут смешнага?

Л е н а. У мяне ёсць знаёмы Кім.

К а р а л ё ў. Гэта міліцыянер твой?

Л е н а. Не-е, у яго іншая абрэвіятура *(і раптам пачынае істэрычна рагатаць)*. Ой, не магу!

К а р а л ё ў. Чаго гэта цябе разабрала?

Л е н а *(рагоча)*. Не магу...

К а р а л ё ў *(пахмурна)*. Хопіць рагатаць!

Л е н а. Чаго гэта вы?

К а р а л ё ў. Не магу без злосці глядзець на тых, хто смяецца!

Л е н а. Я вас слухаю. Зноў аналіз крыві трэба зрабіць?

К а р а л ё ў. Я і без аналізу ведаю: кроў мая сапсаваная ўшчэнт...

Л е н а. Што за песімізм!

К а р а л ё ў. Значыць так: у вобмарак не падаць і ніякіх пытанняў не задаваць. О'кэй?

Л е н а. Ес, сэр!

Каралёў дастае з кішэні пачкі грошай... Адну, другую, трэцюю... Пяць.

К а р а л ё ў. Пяцьдзясят тысяч. Тут у вас лечыцца...

Л е н а. Божа...

К а р а л ё ў. Ты абяцала ў вобмарак не падаць!

Л е н а *(заплакала)*. Ігар Міхайлавіч, мілы... Вы ведаеце...

К а р а л ё ў. Ведаю! Вось перадай ёй запіску... Толькі сама не чытай...

Л е н а. Ды за каго вы мяне...

К а р а л ё ў. Усё! Ніякіх пытанняў. Ты абяцала.

Л е н а. Можна я вас пацалую?

К а р а л ё ў. Не хачу.

Л е н а. Чаму?

К а р а л ё ў. Ты з міліцыянерамі цалуешся.

Выходзіць.

Л е н а *(перакладае пачкі, потым закрывае іх газетай і шэпча, прыціскаючы запіску да грудзей)*. Госпадзі, Святы Божа! У першы раз звяртаюся да цябе... Дзякуй Табе, дзякуй Табе... дзякуй.

З'яўляецца К і м.

К і м. Ба-а! Грэшніца ўзносіць малітвы... Чароўная Алена, праз якую грэкі разбабахалі Трою, зрабілася Марыяй Магдалінай!

Л е н а *(кідаецца да хлопчыка і пачынае яго цалаваць)*. Кім! Кім! Кім!

К і м *(вырываецца)*. Вашы «деяния», сястра, падпадаюць пад крымінальны кодэкс! Гвалтоўная спроба, спакушэнне непаўналетняга. Стацця саракавая, пункт трэці, абзац другі. Ад двух да сямі з канфіскацыяй маёмасці.

Л е н а. А маёмасць за што?

К і м. Каб не было дзе спакушаць іншых. Што гэта з вамі? Міліцыянеру генерала далі?

Л е н а. Не-е, на канфіскацыю маёмасці за такое брыдкае качаня, як ты, я не згодная.

К і м. А што ў вас можна канфіскаваць? Уся маёмасць — адзін халат.

Л е н а *(гуллівa)*. Ты ўпэўнены?

К і м. Ды й халат казённы...

Л е н а. Значыць так: у вобмарак не падаць і з глузду не з'язджаць. Дамовіліся?

К і м. Зараз ты скажаш, што ў цябе закахаўся прынц Самшытавых астравоў…

Л е н а. Але-е оп! *(Рэзка адхінае газету.)* Толькі спакойна.

К і м *(глядзіць на грошы і пасля паўзы)*. Міліцыя нуль адзін ці нуль тры?

Л е н а. Нуль два.

К і м. Званю. Я тваім падзельнікам быць не збіраюся… Тут не ад двух да сямі… Гэта пажыццёвая катарга…

Л е н а. Грошы, Кім, абсалютна чыстыя. Іх перадалі на яе лячэнне. Прынёс адзін чалавек.

К і м. А ты не здагадалася папытацца ў яго даведкі?

Л е н а. Якой даведкі?

К і м. З псіхбальніцы.

Л е н а. А ў цябе хіба пыталіся даведку, калі ты хадзіў па багатых дамах і выдаваў сябе за сына, выпрошваючы грошы на яе лячэнне? Ды там і даведкі пытацца не трэба было, і так ясна, што… *(Круціць каля скроні.)*

К і м. Адкуль ты ведаеш?

Л е н а. Юля сказала… Толькі прасіла, каб я табе нічога не гаварыла… Я слова ёй дала.

К і м. Ты сваё слова стрымала.

Л е н а. Ладна, гэта я ад радасці… Можа менавіта ты і зрабіў гэта. Клянуся, я не верыла, што можна знайсці такія грошы. І Юля не верыла. Толькі ты верыў.

К і м. Ты пералічыла іх?

Л е н а. Што тут лічыць? У пачцы сто штук па сто. Дзесяць тысяч.

К і м. І колькі пачак?

Л е н а. Ты што да пяці лічыць не ўмееш?

К і м. Не трэба ёй пра гэта гаварыць.

Л е н а. Згодная.

К і м. Толькі на гэты раз дай слова і завяжы свой язык марскім вузлом.

Л е н а. Магіла, Кім…

К і м. Скажы яшчэ век свабоды не відаць… Што ў цябе за лексікон? Во што значыць з міліцыянерамі якшацца.

Л е н а. Заткніся, ты!!!

К і м. Ціха! Яна ідзе…

З'яўляецца Ю л я.

Ю л я. Хлопчыкі-дзевачкі, я як новенькая. Прывітанне, Кім! *(Цалуе Кіма.)* А што гэта з вамі?

К і м. А што?

Л е н а. Што?

Ю л я. Нейкія вы напружаныя...

Л е н а. Гэта табе здаецца.

К і м. Нічога не здаецца. Юля, я зрабіў Лене прапанову.

Ю л я. Якую?

К і м. Праз пятнаццаць гадоў выйсці за мяне замуж. Яна думае...

Л е н а. От, балда!

Ю л я. Няўжо не згодная?

Л е н а. Не!

К і м. Слава Богу! Ты ж праз пятнаццаць гадоў старая будзеш. Як гэта я пра гэта не падумаў.

Л е н а. Слухай, Юля, калі б я жыла, як ты, з такім балбесам пад адным дахам, клянуся, я б даўным даўно яго атруціла чым-небудзь...

К і м. І гэта кажа медык... Прадстаўнік самай гуманнай прафесіі. Бедныя хворыя!

Л е н а. Табе пошта. Танцуй.

Ю л я. Якая пошта?

Л е н а. Пісьмо.

Ю л я. Ад каго?

Л е н а. Спадзяюся, што ён падпісаўся.

Падае Юлі пісьмо. Юля расканвертоўвае і чытае. Выраз твару яе паступова мяняецца.

Ю л я *(застагнала)*. Кі-і-ім...

І як падкошаная звалілася пад ногі да Кіма.

Л е н а і К і м *(кідаюцца да яе)*. Юля!!! Юля!!!

Дом Каралёва. К а р а л ё ў п’яны сядзіць на падлозе сярод пустых бутэлек.

К а р а л ё ў *(гучна дэкламуе)*. Я вас любил... В душе моей угасла не совсем... Но пусть она вас больше не тревожит... *(Крычыць.)* Я не хочу!!! Чаму не хачу? Хачу... *(налівае, п’е)*.

Г о л а с. Шэф, вы ў парадку?

К а р а л ё ў. У парадку.

Г о л а с. Мне падалося, што вы крычалі.

К а р а л ё ў. Я займаюся мастацкай самадзейнасцю. Не перашкаджай.

Г о л а с. Даруйце.

К а р а л ё ў. Стой! Серж, ты жанаты?

Г о л а с. Не.

К а р а л ё ў. Пашчасціла табе. Калі б ты быў жанаты, я б цябе... звольніў зараз.

Г о л а с. Сапраўды пашчасціла.

К а р а л ё ў. І ведай, як толькі жэнішся — ты без работы. Жанчыны нам напаскудзілі яшчэ ў біблейскія часы... Яблычка ёй захацелася, а цяпер мучайся!

Г о л а с. Пра каго вы?

К а р а л ё ў. Пра Еву.

Г о л а с. Гэта ваша знаёмая?

К а р а л ё ў. Знаёмая... І твая таксама.

Г о л а с. У мяне Евы не было.

К а р а л ё ў. Ну і не трэба. Што гэта я хацеў табе сказаць. А! Калі я задумаю жаніцца, ты мяне павінен будзеш застрэліць. Усёк?

Г о л а с. Як загадаеце, шэф... даруйце, да вас прыйшлі.

К а р а л ё ў. Хто?

Г о л а с. Хадзееў...

К а р а л ё ў. Хай заходзіць.

Г о л а с. У яго можа быць зброя.

К а р а л ё ў. Хоць атамная бомба. Прапусці. *(Дэкламуе.)* Но пусть она вас больше, не тревожит... Я! Не! Хо! Чу!

Уваходзіць Х а д з е е ў. Аглядае пакой.

Х а д з е е ў. Харо-о-ош!

К а р а л ё ў. Выпіць хочаш?

Х а д з е е ў. Я за рулём.

К а р а л ё ў. З твайго дазволу!.. *(П'е.)*

Х а д з е е ў. Слухай, Каралёў, ты псуеш маю рэпутацыю...

К а р а л ё ў. Што пс... псую?..

Х а д з е е ў. Мой аўтарытэт.

К а р а л ё ў. А як гэта я яго... пс... ну, гэта...

Х а д з е е ў. Ты Атаманава ведаеш? Учора ў клубе ён пытаецца ў мяне: «Што ж ты, Хадзееў, хоць і былога, але

сябра і прыстойнага чалавека (гэта цябе!) давёў да адчаю?» Гэта я цябе давёў да адчаю! Дык вось, мне такія размовы не патрэбны.

К а р а л ё ў. Ну, блінклінтан! Ты ж хацеў мяне забіць, ледзь не забіў, а цяпер размоў баіцца...

Х а д з е е ў. Мне такія размовы не патрэбны!

К а р а л ё ў. Ды што, я іх размаўляю?! Якое сёння чысло?

Х а д з е е ў. Дваццаць першае.

К а р а л ё ў. А дзень?

Х а д з е е ў. Аўторак. Месяц і год ведаеш?

К а р а л ё ў. Я два тыдні ні з кім не размаўляў! Я з дому не выходзіў! Я тэлефон разбіў! Якія і з кім размовы?

Х а д з е е ў. Я яшчэ раз кажу: мне такія размовы не патрэбны! Чым я магу табе дапамагчы?

К а р а л ё ў. Аддай мне маю кніжачку.

Х а д з е е ў. Гэта кніжачка не твая. Я яе купіў у цябе...

К а р а л ё ў. Тады прадай!

Х а д з е е ў. Прадаваць яе я не хачу і не буду.

К а р а л ё ў. Добра. Тады зрабі для мяне адну важную паслугу.

Х а д з е е ў. Якую?

К а р а л ё ў. Пайшоў вон!

Х а д з е е ў. Значыць, сёння аўторак. Можаш яшчэ п’янстваваць да канца тыдня.

К а р а л ё ў. А ў мяне гарэлка скончылася.

Х а д з е е ў. Забяспечу. *(Націскае кнопку.)* Серж, падыдзіце, калі ласка, да маёй машыны і вазьміце ў багажніку, ён адкрыты, скрынку «Абсалюта». Цытрон падыдзе?

К а р а л ё ў. Кла-ас!

Г о л а с. Шэф, мне выконваць?

К а р а л ё ў. Ды ты ашалеў! Хто такое не выконвае?

Х а д з е е ў. Значыць, у нядзелю ты павінен толькі лёгка пахмяліцца. Калі я застану цябе ў такім стане ў панядзелак, ты ў Навінках...

К а р а л ё ў. А што я там буду рабіць?

Х а д з е е ў. Не ты будзеш рабіць, а з табой.

К а р а л ё ў. Што?

Х а д з е е ў. Прыводзіць у чалавечае аблічча. Будзь здароў. *(Выходзіць.)*

К а р а л ё ў *(дэкламуе)*. Ну пусть она вас больше не!.. Тревожит!

Г о л а с. Шэф, да вас жанчына.

К а р а л ё ў. Што ёй трэба?

Г о л а с Л е н ы. Мне трэба цябе!!!

К а р а л ё ў. Ну трэба дык трэба. Заходзь. *(Спявае.)* Я не хочу!.. Печалить вас ничем…

Уваходзіць Л е н а.

К а р а л ё ў. Чым магу?

Л е н а *(кідае канверт)*. Вось. Забяры, што даваў мне на мікраскоп.

К а р а л ё ў. Калі гэта мы пілі з табой брудэршафт? Чаму гэта ты на ты?

Л е н а. Я са жлаб'ём размаўляю толькі на ты!

К а р а л ё ў. Я і пакрыўдзіцца магу…

Л е н а. Оё-ёй! Як я перажыву? Ён пакрыўдзіцца! Пляваць я на цябе хацела, Каралёў! Калі ты хоць пальцам мяне зачэпіш, сюды заявіцца мой Гэ-А-Дэ са ўзводам амонаўцаў і скруціць і цябе, і тваіх бандзюг у бараны рог!

К а р а л ё ў. Ну, са ўзводам канечне. Гэ-А-Дэ — гэта ГАД.

Л е н а. Трымай жлоб! *(Выкідвае з сумачкі пачак за пачкам.)* Ёй ужо нічога ў гэтым мярзотным свеце не патрэбна і нічога не дапаможа. Тым больш ад цябе! Абрэвіятуру сваю не выкарыстоўвай. Які ты Кім? Вазьмі сабе лепш Гэ-А-Дэ… А лепш пакінь адно Гэ. З цябе хопіць... Пералічы свае грошы, а то яшчэ потым скажаш, што ў цябе купюру сцягнулі… Яна кахае цябе! Кахае большую частку свайго жыцця! Госпадзі! Было б каго! Хворая на галаву! А ты мог падумаць, што яна спецыяльна хадзіла за табой па барах, каб спакусіць і хапануць з цябе грошы на лячэнне. Што яна спецыяльна падаслала да цябе Кіма!

К а р а л ё ў. Ён мне так сказаў.

Л е н а. Ідыёт! Ён збіраў для яе грошы, а калі яна даведалася, то прымусіла яго ва ўсіх, каго ён спрабаваў падмануць, ва ўсіх папрасіць прабачэння… Яна паслала яго прасіць прабачэння! Паслала прасіць прабачэння!!!

К а р а л ё ў. Кім — мой сын…

Л е н а. Такія, як ты, не могуць і не павінны размнажацца. Ты яго больш ніколі не ўбачыш... Ён яе на цябе не прамяняе, нават калі ты яму Эйфелеву вежу купіш! Яна сабрала каля сябе гэтых няшчасных дзетак, яны жывуць з апошняга, калі вы абжыраецеся. Але яны шчаслівыя... шчаслівыя! А тваё шчасце толькі, каб напіцца і пажэрці! Пажэрці і напіцца. Яна зубамі выцягнула з тваіх грудзей атручаную кулю...

К а р а л ё ў. Гэта была яна?!

Л е н а. Яна! Дура! Трэба было ўзяць малаток і закалаціць яе далей... У самае тваё сабачае сэрца! Ты грошы свае паганыя пералічваць будзеш?

К а р а л ё ў. Ну буду. Чаму яна сама мне пра ўсё не расказала?

Л е н а. Што яна табе магла расказаць? *(Блазнуе.)* «Мілы! Каханы мой адзіны! Ты разумееш, я з клінікі, у мяне дрэнная кроў, рэгулярна калоцца трэба, бываюць прыпадкі, я ў любы момант затрэсціся магу. А цяпер пацалуй мяне і дай баксаў на лячэнне...» Гэта яна павінна была табе сказаць?! Жлоб... *(Выходзіць.)*

К а р а л ё ў нейкі час сядзіць нерухома. Потым націскае кнопку.

Г о л а с. Слухаю, шэф...

К а р а л ё ў. Набяры нуль дзевяць...

Г о л а с. Зараз.

Чуваць доўгія гудкі, потым адказвае жаночы голас.

Ж а н о ч ы г о л а с. Сорак сёмая.

К а р а л ё ў. Справачная?

Ж а н о ч ы г о л а с. Справачная.

К а р а л ё ў. Скажыце, калі ласка, чаго гэта мне апошнім часам гэтак не шанцуе?

Дом Юлі і Кіма. Ю л я ў ложку. К і м стаіць перад акном. Л е н а рыхтуе ін'екцыю.

К і м. Дзень павялічыўся на тры гадзіны дваццаць мінут.

Ю л я. І да Новага года засталося дзесяць месяцаў і адзін дзень...

Л е н а. Давай руку *(робіць укол)*.

Ю л я. Дзе дзеці?

К і м. На вуліцы гуляюць.

Л е н а. Я пайду. Мне яшчэ па трох адрасах трэба быць.

Ю л я. Зайдзі пасля дзяжурства. Кім нешта смачнае гатуе.

Л е н а. Зайду. Кім, прасачы, каб гэта было выпіта да вечара.

К і м. Будзе выпіта.

Л е н а. Чао!

Л е н а накіроўваецца да выхаду і сутыкаецца з Каралёвым.

Л е н а *(да Кіма.)* Чаму ты ніколі не зачыняеш дзверы?

К і м. А хто апошнім заходзіў, я ці ты?

Л е н а. Я. Чаму ты за мной не зачыніў?

К а р а л ё ў. Юля, мне трэба з табой пагаварыць…

Ю л я. Выйдзіце…

Л е н а *(да Каралёва).* Ты чуў? Вый-дзі-це! Гэта яна цябе на вы называе… Выйдзіце!

Ю л я. Лена…

Л е н а. Што Лена? Што Лена? *(Каралёву.)* Тры хвіліны. Роўна тры хвіліны… Пайшлі на кухню, Кім.

Выходзяць. К а р а л ё ў павольна падыходзіць да Ю л і.

Ю л я. Не плач…

К а р а л ё ў. Я не плачу…

Ю л я. Плачаш…

К а р а л ё ў раптам грымнуўся на калені перад ложкам і зарыдаў.

Ціха-ціха-ціха-ціха… Супакойся. Гэта не праз цябе, я б усё адно…

К а р а л ё ў *(плача).* Я не ведаю, я не ведаю, што на мяне найшло, што накаціла… Зацьменне нейкае, гіпноз… Я ж глядзеў у твае вочы… Скаціна… Я нават прабачэння не буду прасіць, бо не хачу, каб ты мне даравала… Не хачу...

Ю л я. Я не пакрыўдзілася… Я проста страшна спалохалася, што больш ніколі цябе не пабачу… А астатняе… Усё, што ёсць, тое і было. Ніякія грошы не дапамогуць.

К а р а л ё ў. Выходзь за мяне замуж...

Ю л я. Дурненькі… Мне засталося ад сілы паўтара месяца…

К а р а л ё ў. Вось і добра! Усё жыццё марыў стаць удаўцом… Хаця чорта лысага! Я цябе адаб'ю, выцарапаю, вырву з лапаў і Люцыфера, і Вельзевула і Лопэ дэ Вегі…

Ю л я. Ну, а яго ў гэтую кампанію за што?

К а р а л ё ў. І калі табе наканавана памерці — пры родах памрэш… Калі будзеш раджаць дзявятага дзіцёнка…

Ю л я. Я не супраць…

К а р а л ё ў. Тады паехалі…

Ю л я. Куды?

К а р а л ё ў. У манастыр! Да святых сясцёр… Я ім некалі машыну цэглы прывёз, яны мне кніжачку падаравалі… Кніжачка маё сэрца ўратавала… Калі ўжо такога, як я, нечыя малітвы ўратавалі, што пра цябе казаць. Паехалі! Я стану на калені, і яны павянчаюць нас.

Ю л я. Ты з глузду з'ехаў.

К а р а л ё ў. У нас мала часу… У нас зусім яго няма… Я цябе люблю… Я кахаю цябе!

Ю л я. Кі-ім…

Каралёў ахінае яе коўдрай, бярэ на рукі і выносіць з пакоя.
Праз нейкі час. Аэрапорт. Ю л я, К а р а л ё ў і Л е н а каля барнай стойкі п'юць каву.

К а р а л ё ў. Вось, каб не забыць… Вазьмі размоўнік. Тут па ўсіх тэмах асноўныя фразы і ў нашай транскрыпцыі… Я, калі ездзіў, карыстаўся.

Л е н а. Юля, табе адну адзіную фразу трэба запомніць: іх лібэ діх! Іх лібэ діх… Паўтарай яе ўсім без выключэння мужчынам, потым з тых, хто клюне, выберы якога-небудзь фрыца і настаў яму *(паказвае на Каралёва)* вось такія рогі…

К а р а л ё ў. Слухай, я цябе ведаю ўсяго пару месяцаў, а ты мне надакучыла так, быццам гадоў трыццаць была маёй цешчай.

Л е н а. Гэта не ўсё-ё… Я яшчэ гадоў пяцьдзясят кумой тваёй буду.

К а р а л ё ў. Якой кумой?

Л е н а. Ну, а хто ж тваіх дзяцей хрысціць будзе?

К а р а л ё ў. Не-е! Хто заўгодна, толькі не ты!

Ю л я. Лена! Ігар! Ну, Божа мой! Я ад вас стамілася. Колькі можна? *(Паўза.)* Кім не прыедзе?

К а р а л ё ў. З дзецьмі застаўся… Заявіў, што доўгія провады — лішнія слёзы…

Л е н а. Перажывае момант адчурання.

Ю л я. Які момант?

Л е н а. Ты ж для яго была і сястрой і маці, а цяпер вунь каго песціш.

К а р а л ё ў. Зноў?

Л е н а. Камплексуе падлетак…

Паўза. Юля застагнала.

К а р а л ё ў. Што такое?

Ю л я. Мне дрэнна…

Заціскаючы рукой рот, выбягае.

К а р а л ё ў. Юля!!! *(Да Лены.)* Чаго ты сядзіш?!

Л е н а. А што мне рабіць?

К а р а л ё ў. Ёй дрэнна!

Л е н а. Ну й што?

К а р а л ё ў. Як што? Ёй жа моташна стала!

Л е н а *(абыякава)*. На здароўе…

К а р а л ё ў. Ты… Памажы ёй!

Л е н а. Чыя гэта жонка? Мая ці твая? Сам дапамагай…

К а р а л ё ў. Чым я ёй дапамагу?!

Л е н а. Агуркоў салёных купі на дарогу!

К а р а л ё ў *(пасля паўзы)*. Што… Што…

Л е н а. Сто! Я ж казала, што ты жлоб…

К а р а л ё ў *(насоўваецца на яе і шэпча радасна)*. Лена… Лена-а-а…

Л е н а. Што такое? Не чапай мяне! Пусці! Пусці табе сказана!

К а р а л ё ў *(абдымае яе)*. Ленка!

З’яўляецца Х а д з е е ў.

Х а д з е е ў. Што тут адбываецца?

Л е н а. А вы не бачыце. Гвалт над чэснай дзяўчынай у міжнароднай зале аэрапорта.

Х а д з е е ў. А дзе Юля?

Ю л я *(з’яўляецца)*. Я тут.

К а р а л ё ў. Як ты?

Ю л я. Нармальна.

Х а д з е е ў. Дакладваю. Нас з табой сустракаюць. Я забіраю дачку і гэтым жа рэйсам вяртаюся. Ты будзеш жыць у яе пакоі. Гэта два крокі ад клінікі. Прафесар Шварц рэкамендуе дзённы стацыянар.

К а р а л ё ў. Гэта што?

Л е н а. Як што? Увесь дзень лечышся, а потым усю ноч здароўе гробіш.

Х а д з е е ў. Ужо абвесцілі рэгістрацыю. Лена, пайшлі багаж афармляць. Мы каля пятай стойкі будзем.

Х а д з е е ў і Л е н а выходзяць.

Ю л я. Што гэта з табой?

К а р а л ё ў. Нічога...

Ю л я. А чаго ты так глядзіш?

К а р а л ё ў. Та-ак... Я праз тыдзень у адведкі прыеду.

Ю л я. Навошта табе грошы траціць!

К а р а л ё ў. Грошы трэба не эканоміць! Грошы трэба зарабляць! У цябе ж свой пакой будзе. Ты днём у стацыянар, а я ў піўбар... А ноччу буду сачыць за тым, каб ты сваё здароўе не гробіла...

З'яўляецца К і м, ведучы за рукі хлопчыка і дзяўчынку. Канечне ж гэта Піня з Баранесай.

К і м. Яны дасталі мяне!

Ю л я. Кім!

К і м. Калі я сказаў, што ты паехала ў аэрапорт, яны такі вой паднялі... Увесь пад'езд на вушы паставілі! Суседка выклікала міліцыю, бо падумала, што я іх забіваю... Адразу дваіх...

К а р а л ё ў. І што?

К і м. Міліцыя нас і прывезла сюды. Вунь машына стаіць. *(Да дзяцей.)* Ну што? Вось ваша мэм... Цалуйцеся!

Юля падбягае і абдымае спачатку маленькіх дзяцей, а потым Кіма. Так яны і стаяць абняўшыся.
Каралёў павольна-павольна падыходзіць да іх. На гэтым мы з імі і развітаемся. Дай вам Бог шчасця!

К а н е ц

1. Хто, на вашу думку, з'яўляецца галоўным героем п'есы? Чаму вы так лічыце? Абгрунтуйце сваю думку.
2. Як вы ставіцеся да таго, што Кім хадзіў да багатых людзей, выдаваў сябе за іх сына і выпрошваў грошы на лячэнне Юлі?
3. Паназірайце за мовай Кіма і падумайце, ці дапамагае яна лепш зразумець характар падлетка.
4. Якім чалавекам вам уяўляецца Юля?
5. Што ў характары Ігара Каралёва вы ўхваляеце, што — асуджаеце?
6. Якія жыццёвыя, маральныя праблемы ўздымаюцца ў п'есе Аляксея Дударава «Кім»?
7. «Дамалюйце» словамі фінал п'есы. Як, на ваш погляд, будуць (або могуць) складвацца жыццёвыя лёсы герояў твора?
8. У чым вы бачыце жанравую адметнасць п'есы?

## Пытанні і заданні да раздзела

**1.** Прыгадайце з пройдзенага ў сёмым класе або паглядзіце ў слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў, што азначаюць наступныя паняцці: «паэзія» і «проза», «лірыка» і «эпас». Параўнайце і адзначце падабенства і адрозненні паміж паняццямі «паэзія» і «лірыка», «проза» і «эпас».

**2.** З мэтай паглыблення ведаў пра тэму, ідэю, праблему твора яшчэ раз прачытайце артыкул, змешчаны пасля твора «Дзяльба кабанчыка». Ахарактарызуйце пералічаныя паняцці, падмацаваўшы адказ разважаннямі аб усіх трох творах. Як гэтыя паняцці выяўляюцца ў творах розных літаратурных родаў? У якіх творах ідэя нібы фармулюецца самім аўтарам, у якіх яе трэба «вывесці» самому чытачу з апісанняў, разважанняў, выказванняў аўтара і герояў, карцін твора?

**3.** Вы ўжо сустракаліся з такімі паняццямі, як аповед, апісанне, партрэт, пейзаж, дыялог, маналог. Знайдзіце адпаведныя прыклады ў разгледжаных творах і пакажыце, у якім родзе літаратуры яны сустракаюцца часта і ў якім амаль зусім не сустракаюцца. Чаму?



# ГОЛАСАМ ДУШЫ І СЭРЦА



## ЛІРЫЧНЫЯ ЖАНРЫ

Лірычныя творы адлюстроўваюць жыццё праз пачуцці аўтара. Калі ў эпасе на першым плане падзея, то ў лірычным творы — эмоцыя, перажыванне. Лірыцы ўласціва вобразнае выяўленне самых разнастайных адчуванняў і думак.

Паняцце пра ***лірыку***, як і пра эпас, прыйшло да нас з антычных часоў. Словам «лірыкос» старажытныя грэкі называлі вершы, якія чыталіся пад акампанемент ліры. Сваю музычную прыроду лірыка захавала і сёння, і гэта важна памятаць, гаворачы пра павышаную эмацыянальнасць, інтанацыю, меладычнасць, рытмічныя асаблівасці верша.

***Лірычная паэзія*** заўсёды раскрывае перад намі ўнутраны свет чалавека, і чым ён багацейшы, прыгажэйшы, тым больш цікавы і важны для нас, бо ў ім — дабрыня і справядлівасць, любоў і спагада, вера і надзея на лепшае.

У адрозненне ад эпічнага, лірычны твор, як правіла, не мае сюжэта, не паказвае чалавечыя характары ў іх развіцці і разнастайных сувязях. Лірычны твор звычайна пішацца ў форме маналога. Ён невялікі па аб’ёме. Але затое кожнае слова, кожны гук у вершы маюць асаблівае значэнне, глыбокі сэнс.

Паэт дзеліцца сваімі думкамі, перажываннямі шчодра і шчыра, давярае чытачу самае патаемнае, асабістае, што патрабуе асаблівай чуласці і суперажывання. Чытанне лірычных твораў — не толькі задавальненне, гэта і праца, якая ўзнагароджваецца радасцю ўзаемаразумення з людзьмі і суперажывання з паэтам.

Мова лірычных твораў найчасцей вершаваная: рытм, рыфма, разнастайныя сродкі мастацкай выразнасці (эпітэты, параўнанні, метафары) дапамагаюць перадаць у невялікім творы невычэрпнае багацце чалавечай душы.

## НАРОДНЫЯ ПЕСНІ

***Песня*** — вершаваны твор пераважна лірычнага або ліра-эпічнага характару, меладычны па сваім інтанацыйным малюнку і прызначаны для спявання.

Народныя песні з'яўляюцца вытокам, шчодрай крыніцай лірычнай паэзіі. Здаўна яны адпавядалі спрадвечнай патрэбе чалавека ў выяўленні пачуццяў і перажыванняў, сугучных яго настрою. Каб зразумець лірычную прыроду народных песень, звернемся да гісторыі іх узнікнення.

У далёкай старажытнасці мастацтва было адзіным і арганічна ўключала ў сябе танец, гульню, музыку і словы. Вядучую ролю ў агульным танцы-гульні адыгрываў рытм. Паступова эмацыянальныя словы-воклічы пачалі складвацца ў цэласныя тэксты. Так нарадзілася харавая песня. Змест песень адпавядаў канкрэтнай жыццёвай сітуацыі, таму сярод іх можна выдзеліць ***калядныя, веснавыя, купальскія, жніўныя, вясельныя, жартоўныя, любоўныя***. З хору вылучаліся салісты — першыя паэты-лірыкі, якія ўмелі мяняць тэкст, рабіць яго больш прыгожым і выразным, перадаючы словамі свае мары і спадзяванні, свой погляд на прыроду і чалавека. Пісьменнасці яшчэ не было, песні перадаваліся вусна ад чалавека да чалавека, з пакалення ў пакаленне. У народнай памяці заставаліся самыя яркія, удалыя варыянты песень, у якіх кожнае слова, кожны вобраз былі адшліфаваны народнай мудрасцю і талентам.

«Народныя песні валодаюць магічнымі чарамі ўздзеяння на пачуцці людзей, бо нясуць у сабе самае дарагое і запаветнае з таго, што напаўняла народную душу, чым яна жыла і жывілася, чым яна пакутавала і цешылася, да чаго імкнулася і што адмаўляла» *(Ніл Гілевіч)*.

## БЯРОЗА З ЛІСТОМ...

Бяроза з лістом
Усю восень шумела:
— Мая бяроза, мая белая!
Як жа мы расстанемся?
— Ты мой лісточак,
Ты мой зялёны,
Так мы расстанемся:
Ветры павеюць,
Лісток абвеюць,
А я застануся.
— Не бойся, бяроза,
Не бойся, белая!
Я ж цябе не пакіну.
Цяпер я ападу,
А вясной прыйду,
З табой шумець буду.
Мамулька з дачкой
Усю ночку гаварыла:
— Мамулька ж мая родная!
Як жа, мы расстанемся?
— Сваты прыйдуць
І цябе вазьмуць,
А я застануся.
— Мая мамулька,
Мая родная!
Я ж цябе не пакіну:
Хоць замуж пайду,
Я ў госці прыйду,
З табой гукаць буду.

## ЗЕЛЯНЕЮЦЬ, ЗЕЛЯНЕЮЦЬ ЛУГІ, СЕНАЖАЦІ...

Зеляненюць, зеляненюць
Лугі, сенажаці,
Пытаецца сын у мацеры,
Ды каторую ўзяці.

А ці тую багатую,
Што хораша ходзіць,
А ці тую сірацінанчку,
Што ўсё добра робіць?

А ці тую багатую,
Што валы, каровы,
А ці тую сірацінанчку,
Што чорненькі бровы?

Багатая, няўдалая
У садочку гуляла,
А бедная сірацінанчка
Ўжо тры копы нажала.

У багатай, нехарошай
Валы паздыхаюць,
А ў беднай сірацінанчкі
Бровы не зліняюць.

1. Праслухайце народныя песні ў музычных запісах.
2. Успомніце, што вам вядома пра віды народных песень (сямейна-абрадавыя, каляндарна-абрадавыя, лірычныя). Да якога віду

адносяцца песні, з якімі вы пазнаёміліся, у якіх жыццёвых сітуацыях яны выконваліся?
3. Уважліва перачытайце тэкст песні «Бяроза з лістом». Звярніце ўвагу на тое, як многа ў ёй памяншальна-ласкальных слоў, пяшчотных зваротаў. Якія перажыванні выклікаюць гэтыя словы?
4. Вызначце агульнае ў будове народных песень. З чым звязаны паралелі са светам прыроды, пастаянныя звароты да яе сіл?
5. Якая з народных песень спадабалася вам найбольш? Што сугучнае свайму настрою вы ў ёй пачулі? Якія выяўленчыя сродкі (эпітэты, параўнанні, метафары) робяць гэтую песню прыгожай і выразнай?
6. Паслухайце народныя песні ў жывым выкананні. Прыгадайце, з якімі падзеямі яны звязаны. Запішыце тэкст адной песні.

## Паралелізм

Чалавек у народнай песні непадзельны з прыродай, ад сіл якой заўсёды залежала яго жыццё. Таму аўтары народных песень бралі вобразы найперш з навакольнага свету. Песня часта ўяўляла сабой адно вялікае разгорнутае параўнанне, у якім падзеі чалавечага жыцця супастаўляюцца са з'явамі прыроды. Такі мастацкі прыём называецца ***паралелізмам.***

Сапраўды, у песні ідуць дзве паралельныя лініі: прыроды і чалавечага жыцця. Не перасякаючыся ў творы, яны зліваюцца, аднак, у адзінае ўражанне ў нашым уяўленні. Так, песня «Бяроза з лістом» будуецца на супастаўленні з'явы прыроды (лістападу) і развітання маці і дачкі. У свеце народнай фантазіі прырода і чалавек нібы роўныя: бяроза з лістком размаўляюць, сумуюць, як і маці з дачкой. Такое адухаўленне прыроды стварае асаблівы настрой, асаблівую пранікнёнасць песні.

У якіх вядомых вам народных песнях выкарыстоўваецца паралелізм? Растлумачце яго ролю ў песні.



# «Я — СЫН СВАЁЙ ЗЯМЛІ, НАШЧАДАК БЕЛАРУСАЎ...»

## ГРАМАДЗЯНСКАЯ ЛІРЫКА

**Янка Купала**

### СПАДЧЫНА

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай.

Аб ёй мне баюць казкі-сны
Вясеннія праталіны,
І лесу шэлест верасны,
І ў полі дуб апалены.

Аб ёй мне будзіць успамін
На ліпе бусел клёкатам
І той стары амшалы тын[1],
Што лёг ля вёсак покатам[2];

І тое нуднае ягнят
Бляянне-зоў на пасьбішчы,
І крык вароніных грамад
На могілкавым кладзьбішчы.

І ў белы дзень і чорну ноч
Я ўсцяж раблю агледзіны,
Ці гэты скарб не збрыў дзе проч,
Ці трутнем ён не з’едзены.

Нашу яго ў жывой душы,
Як вечны светач-полымя,
Што сярод цемры і глушы
Мне свеціць між вандоламі[3].

---

[1] *Амша́лы тын* — пакрытая мохам агароджа.
[2] *По́катам* — адзін ля аднаго, без асаблівага парадку.
[3] *Вандо́лы* — равы, канавы.

Жыве з ім дум маіх сям'я
І сніць з ім сны нязводныя...
Завецца ж спадчына мая
Ўсяго Старонкай Роднаю.

1. У вершы «Спадчына», напісаным у далёкім 1918 годзе, калі ў час Першай сусветнай вайны большая частка Беларусі была акупіравана нямецкімі войскамі, паэт разважае пра лёс роднага краю. Што трывожыць яго, што дае надзею?
2. Растлумачце сэнс слова «спадчына». Што разумее пад сваёй спадчынай Янка Купала? Якія параўнанні знаходзіць ён, каб перадаць сваю любоў да «Старонкі Роднай» і замілаванне ёю?
3. З якіх канкрэтных малюнкаў паўстае перад намі вобраз роднага краю? Які настрой яднае гэтыя малюнкі ў адзінае цэлае?
4. Перачытайце апошнія радкі верша. Чаму словы «Старонкай Роднаю» напісаны з вялікай літары? Якое значэнне мае слова «ўсяго» перад імі?
5. Паэт неаднаразова паўтарае займеннікі «я», «мне», «мая», што падкрэслівае глыбока асабісты характар лірычнага перажывання. Паразважайце, як звязана грамадзянская значнасць тэмы і шчырае выказванне ўласнай чалавечай пазіцыі.
6. Праслухайце запіс песні «Спадчына» на музыку Ігара Лучанка ў выкананні ансамбля «Песняры». Як звязаны мелодыя песні і інтанацыя верша?
7. Разгледзьце на форзацы 1 ілюстрацыю Міхася Басалыгі да верша Янкі Купалы «Спадчына». Якія агульныя вобразы і якія адрозненні вы заўважылі ў творах паэта і мастака? Які вобраз на пярэднім плане ў карціне М. Басалыгі, што хацеў сказаць гэтым аўтар? У папярэдніх класах вы знаёміліся з маляўнічымі беларускімі пейзажамі М. Савіцкага, П. Данелія, П. Масленнікава і інш. Чым адрозніваецца ад іх твор М. Басалыгі, выкананы ў тэхніцы графікі?

## Лірычны герой

Лірыка, у адрозненне ад эпасу, не малюе канкрэтныя жыццёвыя сітуацыі і вобразы-персанажы. Яна стварае вобраз лірычнага героя. У гэтым вобразе перададзены найперш думкі і пачуцці, настрой і перажыванні паэта, яго характар. Аднак, хоць у лірычных творах аўтар часцей за ўсё гаворыць ад свайго імя, знак роўнасці паміж паэтам і лірычным героем

ставіць нельга. ***Лірычны герой*** — абагульнены вобраз, які ўзнікае ў думках чытача пасля прачытання верша і аб'ядноўвае ў сабе рысы, уласцівыя многім людзям, пачуцці, знаёмыя ўсім. Менавіта таму мы так лёгка знаходзім у лірычным творы настрой, адчуванні, сугучныя з нашымі.

Так, лірычны герой верша «Спадчына» — патрыёт, лёс якога непарыўна звязаны з лёсам Радзімы. Ён шчыра любіць свой край і трывожыцца за яго будучыню. Менавіта такім уяўляецца і сам аўтар верша — Янка Купала. Разам з тым пачуцці, выказаныя ў вершы, блізкія і зразумелыя кожнаму беларусу.

**Максім Багдановіч**

## СЛУЦКІЯ ТКАЧЫХІ

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна, —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам ззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бора...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узора
Цвяток радзімы васілька.

1. Уважліва разгледзьце фотаздымкі слуцкіх паясоў (гл. уклейку). Якія вобразы беларускай прыроды вы заўважылі ў прыгожым арнаменце? Якія колеры пераважаюць у слуцкіх паясах?

2. Верш Максіма Багдановіча «Слуцкія ткачыхі» расказвае пра далёкае XVIII стагоддзе, калі на Беларусі ў майстэрнях-«персіярнях» выраблялiся слуцкія паясы, якія сталі шырока вядомымі ў свеце. Чаму, на вашу думку, паэт звярнуўся да гэтай тэмы?
3. Прачытайце верш і паназірайце, як мяняецца яго настрой.
4. Намалюйце словамі той светлы малюнак роднай прыроды, які мы разам з паднявольнымі жанчынамі нібы бачым з акна чужога дома. Чаму ў гэтым малюнку столькі прывабнасці? Якія эпітэты, параўнанні і метафары дапамаглі вам уявіць карціну? Запішыце іх у сшытак і растлумачце ролю гэтых мастацкіх сродкаў у творы.
5. Якія вобразы супастаўляюцца ў вершы? Прачытайце ў слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў, што такое антытэза. Растлумачце, як выкарыстоўваецца прыём антытэзы ў вершы «Слуцкія ткачыхі».
6. У вершы паэт разважае не толькі пра несправядлівасць у грамадстве, але і пра сутнасць мастацтва, сапраўдную прыгажосць. Як даводзіць паэт думку пра нацыянальную адметнасць мастацтва? Ці заўсёды мы ўмеем цаніць сваё, роднае?
7. Верш «Слуцкія ткачыхі» стаў народнай песняй, на яго словы пісалі музыку і кампазітары. Як вы думаеце, чаму?

## Пра верш «Слуцкія ткачыхі»

Верш М. Багдановіча «Слуцкія ткачыхі» выразна дзеліцца на дзве супрацьпастаўленыя часткі і своеасаблівае падагульненне, вывад.

З першых слоў непрымірыма сутыкнулася ў творы роднае, сваё, з чужым, панскім.

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы...

Чуеш жывы боль развітання ў гэтым звароце яшчэ і яшчэ раз да слова «родны», што бязлітасна змяняецца на «панскі»... Размежаванне «роднага» і «чужога» арганізуе ўсю будову, рытмічную аснову твора. А наступныя радкі адкрыта пачынаюць выказваць варожасць паміж «панскім дваром» і «роднай хатай»:

Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.

Тут ужо гучыць думка пра прымус, тым больш што слова «ўзяты» інтанацыйна ўзмацняецца як канцавое слова радка: у ім выразна відаць яго «залежны» стан, у ім жыве сваімі супярэчнасцямі рэальны свет — той, дзе высокае мастацтва здабываецца так не па-чалавечы, гвалтам, прымусам.

І як чыста, вырываючыся сваім «лёгкім» гучаннем ад іншых, не такіх «галасістых» радкоў, нібы ўспамін аб рыфме «дзеля красы», гучыць радок:

Ткаць залатыя паясы.

У ім разбягаюцца ўдалеч галосныя а-а-а-ы(й)а-а(й)а-ы, як песня, як недасяглая мара аб вольным, дзеля сапраўднай чалавечай красы, мастацтве.

У першай частцы верша перамагае «чужая» тэма. Яна праходзіць, адольваючы ўсё, што звязвае з родным, нават дзявочыя сны. І як вынік гэтага — першая частка заканчваецца такімі радкамі:

Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны, —

дзе ў цэнтры ўвагі персідскі ўзор. Другая частка верша звязваецца з папярэдняй праз новую тэму — «А за сцяной смяецца поле...». Як вольна, як бы вырваўшыся з-за сцен панскага палаца, імкнуць на волю радасныя думкі! І зноў, як працяг роднай тэмы, ажывае ў думках малюнак прыроды:

А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна, —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам ззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бора...

Гэтыя радкі як бы вымаўлены на адным дыханні. Падтрыманыя парывам захаплення, яны ад перапоўненасці пачуцця аж пераплёскваюцца праз край. І як вяршыня тэмы роднага краю ўзнікае матыў васількоў. Тут бачым наступ

роднай тэмы, якая ўжо зраўнялася ў сваёй моцы з чужой. Радкі гучаць больш дынамічна, упэўнена, чым у першай частцы. У іх рытме чуваць хада перамогі.

Прыгожа, раздольна разаслаўся ў марах пейзаж слуцкім поясам, зайграўшы ўсімі колерамі, прашумеўшы жытам, абдаўшы халодным срэбрам ракі, мільгануўшы зубчастым арнаментам беларускага бору... І пры радках аб хвалях «ліючайся ракі», здаецца, пояс сам сплывае з рукі.

І вось — як заключны акорд верша — выхапленая з агульнага малюнка рука, якая не здольна на здраду і тчэ, «забыўшыся». Цяпер ужо забыўшыся і на забарону роднага, і сваіх дзявочых сноў — міжвольна і неадольна, бадай, як і ўсё наша мастацтва, праз нягоды стагоддзяў, — тчэ ўзор свае Бацькаўшчыны:

Заміж персідскага узора
Цвяток радзімы васілька.

Як перамога, закрасаваў жывы «цвяток радзімы васілька» над мёртвым персідскім узорам.

*Паводле Анатоля Клышкі*

У чым сакрэт мастацкай дасканаласці верша М. Багдановіча «Слуцкія ткачыхі»?

## Сімвал

***Сімвал*** (у пер. з грэч. — умоўны знак) — умоўнае абазначэнне з'явы праз прадмет, які нечым яе нагадвае. Так, у народных песнях калінка, рабінка, лілея сімвалізуюць дзявочае хараство. У многіх паэтычных творах ноч абазначае гора і няшчасце, а сонца — наадварот, шчасце і дабрабыт. За сімваламі значэнне замацоўваецца трывала, паўтараецца ў многіх творах, таму лёгка пазнаецца і ўспрымаецца.

У вершы «Слуцкія ткачыхі» вобраз васілька — сімвал Бацькаўшчыны, народнага мастацтва. «Багдановічаўскі “цвяток радзімы васілька” стаў сімвалам нацыянальнай адметнасці беларускага мастацтва. Гэта сімвал нацыянальны, які народжаны самой гармоніяй прыроды, “жывой красой” неба, жытняга поля, ракі, лесу, і ўзнікае ў творы мастацтва

як бы падсвядома, сам па сабе... Ён убачаны нібы ў “яснай далі”, узбуйнена, святочна, у светлым ззянні і харастве роднай зямлі» *(Тамара Чабан)*.

1. Чаму васілёк, а не іншая кветка, стаў сімвалам беларускага мастацтва?
2. Прывядзіце прыклады сімвалаў з вядомых вам вершаў, народных песень і растлумачце, чаму гэтыя вобразы сталі сімвалічнымі.

### Уладзімір Караткевіч

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ

Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа,
Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць
суровыя вежы
І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро.
Ты ляжыш там, дзе сіняя Прыпяць ласкава віецца,
Дзе Сафія[1] плыве над Дзвіною, нібы карабель...
Там, дзе сэрца маё з першым крокам,
як молат, заб’ецца,
Калі б нават сляпым і глухім я прыйшоў да цябе.
Што сляпым? Нават мёртвым успомню высокія зоры,
Над ракою чырвонай і цьмянай палёт кажаноў,
Белы ветразь на сініх, на гордых, як мора, азёрах,
І бары-акіяны, і неба — разлівы ільноў.
Дзе мой край?
Там, дзе людзі ніколі не будуць рабамі,
Што за поліўку[2] носяць ярмо ў безнадзейнай турме,
Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,
А мужчыны, як скалы — ударыш, і зломіцца меч.
Дзе мой край?
Там, дзе мудрыя продкі ў хвоях паснулі,
Дзе жанчыны, як радасны сон у стагах на зары,

---

[1] *Сафі́я* — будынак старажытнага сабора ў Полацку.

[2] *По́ліўка* — суп з якой-небудзь прыправай (мучной, бульбяной, крупяной і г. д.); тут: сродак фізічнага існавання.

А дзяўчаты, як дождж залаты. А сівыя матулі,
Як жніўё з павуціннем і добрае сонца ўгары.
Там звіняць неўміручыя песні на поўныя грудзі,
Там спрадвеку гучыць мая мова, булатны клінок.
Тая гордая мова, якую й тады не забудзем,
Калі сонца з зямлёю ў апошні заглыбяцца змрок.
Ты — наш край. Ты — чырвоная груша
над дзедаўскім домам,
Лістападаўскіх знічак густых фасфарычная раць[1],
Ты — наш сцяг, што нікому, нікому на свеце, нікому
Не дамо абсмяяць, апаганіць,
забыць ці мячом зваяваць.
Мы клянёмся табе баразной сваёй першай на полі
І апошняй раллёй, на якую ўпадзём у журбе.
Мы клянёмся табе, што ніколі,
Ніколі,
Ніколі,
Так,
Ніколі не кінем,
Не кінем,
Не кінем цябе.

1. У чым адметнасць інтанацыі гэтага верша?
2. Якое пытанне паўтарае паэт? Якія звесткі з гісторыі Беларусі дапамагаюць знайсці адказ на гэтае пытанне? Якія прыкметы роднага краю з'яўляюцца ўстойлівымі сімваламі Радзімы, народнымі святынямі?
3. Якія эпітэты і параўнанні, ужытыя для характарыстыкі роднай мовы і песні, дапамагаюць зразумець галоўную думку твора?
4. Паспрабуйце даць адказ на пытанне «Дзе твой край?». Што вы ведаеце пра тую вёску ці горад, якія лічыце сваёй радзімай?
5. Чаму верш «Беларуская песня» заканчваецца радкамі клятвы роднаму краю? Прачытайце іх уголас. Як тут выяўляецца грамадзянская пазіцыя паэта?
6. Вызначце памер верша. Звяртайце ўвагу на радкі, па якіх зрабіць гэта лягчэй, напрыклад: «І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро». Як вершаваны памер дапамагае стварыць інтанацыю твора?

[1] *Раць* — войска; тут: вялікая колькасць.

7. Прачытайце ў Слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў, што такое ода. Ці можна назваць одай верш Уладзіміра Караткевіча «Беларуская песня»? Абгрунтуйце сваю думку. Якія яшчэ творы велічнага, узнёслага гучання, у якіх услаўляецца родная зямля, мова, песня, вам вядомы з папярэдніх класаў або з самастойнага чытацкага вопыту?
8. Падумайце, якія з вобразаў роднага краю, створаных у прачытаных вамі вершах, найбольш блізкія вам. Выкарыстоўваючы іх, намалюйце словамі карціну «Мой родны край».
9. Пазнаёмцеся па кнізе «Памяць зямлі беларускай», стваральнікам якой быў Уладзімір Караткевіч, з архітэктурнымі помнікамі Беларусі. Архітэктуру называюць «застылай музыкай». Паспрабуйце паразважаць, якая мелодыя гучыць у строгім абрысе Белай вежы, у вытанчаным сілуэце Сафійскага сабора ў Полацку, у класічных мурах Мірскага замка (гл. уклейку).

## Вучымся выразна чытаць верш

Перад чытаннем верша трэба вызначыць яго ідэю, асноўную інтанацыю гучання і мэту, якую ставіць перад сабой чытальнік.

Ідэя верша «Беларуская песня» — клятва вернасці свайму краю, асноўная інтанацыя — велічная, узнёсла-ўрачыстая.

Мэта чытання — перадаць захапленне прыгажосцю, слаўнай гісторыяй і народам Беларусі.

Вылучаем сэнсавыя часткі твора і складаем партытуру чытання. У кожнай частцы паэт шукае адказ на пытанне «Дзе мой край?». Слова «край» выдзяляецца лагічным націскам і кожны раз гучыць з новым падтэкстам. Першая частка дае адказ на пытанне, расказваючы пра гістарычныя і геаграфічныя сімвалы Беларусі. Новыя і сэнсава важныя паняцці, паўторы, параўнанні, парушэнне прамога парадку слоў выдзяляюцца лагічным націскам (падкрэсліваем словы) і лагічнымі паўзамі (ставім у залежнасці ад працягласці паўзы значок | або ‖).

Калі нечаканы выраз, трапная метафара патрабуюць эмацыянальнага вылучэння, ставім значок псіхалагічнай паўзы (V). Павышэнне і паніжэнне тону голасу абазначаем стрэлачкай над словам.

Дзе мой край?| Там,| дзе вечную песню пяе Белавежа,‖
Там, дзе Нёман| на захадзе| помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх| дрэмлюць суровыя вежы‖
І вішнёвыя хаты| глядзяцца ў шырокі Дняпро.
Ты ляжыш там, дзе сіняя Прыпяць‖ ласкава віецца,‖
Дзе СафіяV плыве над Дзвіною,| нібы карабель...
Там,| І дзе сэрца маё з першым крокам,| як молат, заб'ецца,|
Калі б нават сляпым і глухім я прыйшоў да цябе.
Што сляпым? Нават мёртвым успомню высокія зоры,|
Над ракою чырвонай і цьмянай палёт кажаноў,
Белы ветразь на сініх, на гордых,| як мора, азёрах,|
І бары-акіяны, і неба — разлівы ільноў.

Асэнсуйце прапанаваную партытуру чытання першай часткі верша, падумайце, ці з усім вы згодны, прапануйце свае варыянты, калі яны ёсць. Зрабіце самастойна партытуру чытання наступных частак твора і падрыхтуйце дома выразнае чытанне верша.

## *Шандар Пецёфі

## (1823—1849)

Венгерскі паэт, рэвалюцыйны дэмакрат, аўтар лірычных вершаў, паэм, публіцыстыкі.

### ПАТРЫЯТЫЧНАЯ ПЕСНЯ

Я сэрцам і душою твой,
Мая краіна!
Бо прысягнуў табе адной
Любоўю сына.

Мая душа — прасветлы храм,
Яснота неба.
Я за цябе яе аддам,

* Тут і далей зорачкай пазначаны творы, рэкамендаваныя праграмай для чытання і абмеркавання.

А калі трэба,
Няхай з грудзей юначых кроў
Струменем хлыне,
Каб шчасце вечнае было
Маёй Айчыне.

Я назаўсёды прысягаў
Высокай мэце,
Бо толькі ты адна ў мяне
На гэтым свеце.

Я друг і следам за табой
Усюды крочу,
Не так, як цень, а ў ясны дзень
І цёмнай ноччу.

І ўжо калі гусцее змрок
І дзень канае,
Расце ў душы мой горкі сум,
Любімы краю.

Я да тваіх іду сыноў,
І песняй роднай
Мы молімся, каб ты заўжды
Была свабоднай.

*Пераклад М. Хведаровіча*

1. Верш выдатнага венгерскага паэта Шандара Пецёфі «Патрыятычная песня» напісаны ў далёкім XIX стагоддзі, калі яго народ змагаўся за незалежнасць ад Аўстрыйскай імперыі. Растлумачце, чаму твор так названы, якую галоўную думку ён сцвярджае.
2. Як звязаны з назвай твора яго інтанацыя, лёгкае, напеўнае гучанне?
3. Што аб'ядноўвае і што розніць вершы Шандара Пецёфі «Патрыятычная песня» і Уладзіміра Караткевіча «Беларуская песня»? Чаму ў Уладзіміра Караткевіча песня менавіта беларуская?



# «ПАЗНАЦЬ, ЗНАЙСЦІ СЯБЕ Ў БЯЗМЕЖНЫМ»

## ФІЛАСОФСКАЯ ЛІРЫКА

**Максім Танк**

### ШЧАСЦЕ

Простае шчасце людское,
Так, як і наша з табою,

Пэўна, складаецца з солі,
З хлеба, сабранага ў полі,

З поту, з дарожнага пылу,
З роднага небасхілу,

З дружбы, мацнейшай ад смерці,
З песні... І так мне здаецца:

Каб з чаго іншага скласці,
Дык ці было б яно шчасцем?

1. Вы не раз чулі, як людзі жадаюць адзін аднаму шчасця. А ці задумваліся, што такое шчасце?
   Падбярыце сінонімы да гэтага слова.
2. Раскрыйце сэнс паэтычных вобразаў, з якіх Максім Танк «складае» чалавечае шчасце.
   Чаму менавіта гэтыя паняцці найперш вылучае паэт?
3. Чаму пасля слоў «З песні...» стаіць шматкроп'е? З чаго яшчэ, на вашу думку, складаецца «простае шчасце людское»?
4. Вызначце вершаваны памер твора, адкажыце, як рытм звязаны з апавядальнай інтанацыяй верша.
5. Як трэба чытаць гэты верш: гучна і пафасна ці ўдумліва і разважліва? Падрыхтуйцеся да выразнага чытання твора.

## *Сяргей Грахоўскі

* * *

Чалавеку патрэбна не слава,
А людская ўвага і ласка,
І сардэчнае шчырае слова,
І вясёлая добрая казка.

Чалавеку патрэбна усмешка
Незнаёмых вачэй і знаёмых,
Каб дажджамі размытая сцежка
Стала лёгкай на кручах[1] і стромах[2].

Чалавеку не трэба спагады, —
Дабрата чалавеку патрэбна,
Каб, мінаючы прорвы і спады,
Узбірацца на стромкія грэбні,

Каб сяброў сустракаў клапатлівых
На дарогах, далёкіх ад дому,
І каб сам быў заўсёды шчаслівы,
Калі шчасце прыносіш другому.

1. З якіх дэталяў, своеасаблівых «мікравобразаў», ствараецца ў вершы метафара жыццёвага лёсу чалавека?
2. Што патрэбна чалавеку, каб яго шлях быў больш светлым і радасным?
3. У чым, на думку лірычнага героя, сэнс чалавечага жыцця? Адкажыце радкамі верша.
4. Вершы Максіма Танка «Шчасце» і Сяргея Грахоўскага «Чалавеку патрэбна не слава...» з’яўляюцца роздумам аб сэнсе чалавечага жыцця, прызначэнні чалавека. Пакажыце, што ў гэтых творах думка зліта з пачуццём (звяртайце ўвагу на эпітэты «сардэчнае шчырае», «вясёлая добрая» і г. д.).
5. Што збліжае і што адрознівае лірычных герояў верша Сяргея Грахоўскага «Чалавеку патрэбна не слава...» і Максіма Танка «Шчасце»?

[1] *Кру́ча* — крутое месца, круты бераг, спуск.
[2] *Стро́ма* — круты схіл, абрыў.

## *Васіль Зуёнак

* * *

Дала прырода мне ваду і цвердзь,
Дала агонь, каб не блукаў я слепа,
Дала жыццё, а з ім дала і смерць...
Дала зямлю — а я глядзеў у неба...

А каб агонь свяшчэнны не патух,
Каб зноў не захлынуўся чорнай багнай,
Дала прырода мне высокі дух.
А я ствараў багоў — я неба прагнуў...

Я шмат чаго тады не разумеў,
Я і цяпер, бадай, не разумею.
Я іх ствараў, і з імі я старэў.
Як і цяпер стварaю і старэю.

Усё, што сёння ісцінай слыло,
Назаўтра толькі рэхам адгукнецца.
І сіняй птушкі сіняе крыло
Кавалкам неба ў сэрцы разаб'ецца.

Загадкі непазнаных берагоў...
Адказ — адна ў мяне самаахова.
Адказу не было — ствараў багоў,
Каб потым іх забыць і ўславіць новых.

Бог — невядомасць. Вечны вораг мой.
Яго ствараю і яго звяргаю.
Бясконцы з ім і ўсеадольны бой.
Яго кляну, яму ж і прысягаю.

Быў атам — «непадзельны» — атам-бог.
Цяпер — цяпер ажно дыханне займе,
Калі ступаю праз яго парог —
Галактыку адкрыць у пі-мезоне[1].

---

[1] *Пі-мезо́н* — элементарная часціца *(фіз.)*.

Якое неба заўтра засялю?
З якіх арбіт пабачацца мне цуды?
Не ведаю. Адно скажу: зямлю —
Вось гэту, грэшную, ніколі не забуду.

Як ёсць яна — я сэнс вышынь лаўлю.
Ствараю неба — сонечны паганец[1].
А дайце неба — я створу зямлю,
І пойдзе ўсё зваротнымі кругамі.

1. Як у творы асэнсоўваецца стваральная сіла чалавечага розуму?
2. Выраз «сонечны паганец» вяртае нас да старадаўніх, дахрысціянскіх вераванняў нашых продкаў. Чаму, на вашу думку, лірычны герой так сябе называе?
3. Якія навуковыя тэрміны ўжыты ў творы? З якой мэтай?

## *Леанід Дайнека

За крокам крок. І дзень за днём.
Усход жыцця. Жыцця змярканне.
Нас паліць стоеным агнём
Вялікай страты прадчуванне.

Дзе той парог апошні, дзе?
Чаму мацнее сум у сэрцы?
Жывем каля магіл людзей
І вечна марым аб бяссмерці.

1. Які радок верша перадае хуткаплыннасць чалавечага жыцця? Растлумачце сэнс ужытай у ім метафары.
2. Да каго звернуты пытанні, якія ёсць у творы? З якой мэтай аўтар ужывае такі прыём?
3. Чаму чалавек павінен задумвацца аб тым, як хутка бяжыць час?

---

[1] *Сонечны пага́нец* — тут: прыхільнік язычніцкіх вераванняў, адухаўлення прыроды.

## Анатоль Вярцінскі

* * *

Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.
Каб светла-залатую яго ніць
віць і далей — любоўю, справай дзейнай
ды словам, што ад справы неаддзелена.
Тварыць!

Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.
Надзеяй, праўдай, мужным парываннем,
высакародным, дружным намаганнем,
што потым зоркай у вяках гарыць.
Тварыць!

Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.
Маральны самы, самы натуральны
пачатак гэты вось жыццестваральны.
Інакш — якая ад жыцця карысць?
Тварыць!

Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.
Не марнаваць, не нішчыць, не бурыць, —
Тварыць!

1. Чаму лірычны герой верша надае такое значэнне стваральнаму пачатку? Паразважайце, ці заўсёды людзі прытрымліваюцца такой жыццёвай пазіцыі.
2. Чаму непарыўная ніць жыцця ўяўляецца паэту менавіта светла-залатой?
3. Гэты верш з'яўляецца глыбокім роздумам аб прызначэнні чалавека на зямлі і адначасова заклікам да людзей жыць актыўна і асэнсавана. Якое значэнне ў творы мае рытарычнае пытанне «інакш — якая ад жыцця карысць?»
4. Якую ролю ў вершы адыгрывае паўтор аднаго і таго ж слова-сказа ў канцы кожнай страфы? Чаму гэты сказ ужываецца з клічнай інтанацыяй?
5. Пазнаёміўшыся з вершамі-разважаннямі, паспрабуйце і самі на нейкі час стаць філосафамі. Дапішыце адным радком-падагульненнем верш Максіма Танка:

Я спытаў чалавека,
Які прайшоў праз агонь,
І воды,
І медныя трубы:
— Што самае цяжкое
На гэтым свеце?
І ён адказаў:
— ...

Параўнайце свае варыянты з вершам Максіма Танка, змешчаным у дадатку на с. 347, і паразважайце, чаму паэт даў менавіта такі адказ.

# «ТЫ МНЕ ВЯСНОЮ ПРЫСНІЛАСЯ...»

## ІНТЫМНАЯ ЛІРЫКА

### Максім Багдановіч

### РАМАНС

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.
З гэтай пары я пачаў углядацца
Ў неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.
Але расстацца нам час наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас.
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час.
Буду ў далёкім краю я нудзіцца,
У сэрцы любоў затаіўшы сваю;
Кожную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.

Глянь іншы раз на яе, — у расстанні
Там з ёй зліём мы пагляды свае…
Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,
Глянь іншы раз на яе…

1. Зорку Венеру, якая носіць імя грэчаскай багіні хараства, беларусы завуць яшчэ і Мілавіцай. Што сімвалізуе сабой гэта зорка? Чаму яе ўзыход звязваецца з успамінамі пра каханне?
2. Якое значэнне мае эпітэт у выразе «светлыя згадкі»? Прасачыце яго сувязь з агульным уражаннем ад верша.
3. Як адносіны да каханай дзяўчыны характарызуюць лірычнага героя верша?
4. У гэтым на дзіва светлым і даверлівым вершы гучыць шкадаванне з-за расстання з каханай, аднак галоўная думка аптымістычная і жыццесцвярджальная. Паспрабуйце яе сфармуляваць, выкарыстоўваючы радкі з твора.
5. Якія радкі паўтараюцца ў вершы? З якой, на вашу думку, мэтай? Якімі яшчэ сродкамі ствараецца напеўнае, меладычнае гучанне твора?
6. Вызначце памер верша. Паразважайце, як звязаны ён са зместам твора (звярніце ўвагу, што вершы, напісаныя трохскладовымі памерамі, гучаць звычайна больш спакойна, павольна).
7. Праслухайце раманс «Зорка Венера» (музыка С. Рак-Міхайлоўскага) і скажыце, як адпавядае яго мелодыя зместу і інтанацыі верша Максіма Багдановіча.
8. Прачытайце ў Слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў, што азначае слова «раманс» і зрабіце вывад аб тым, ці з'яўляецца верш М. Багдановіча класічным рамансам.

## Аркадзь Куляшоў

## БЫВАЙ…

Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая.
Чаму так горка, не магу я зразумець.
Шкада заранкі мне, што ў небе дагарае
На ўсходзе дня майго, якому ружавець.

Ці помніш першае нясмелае прызнанне?..
Над намі жаўранкам звінеў і плакаў май.
Назаўтра золкае, туманнае світанне,
Суровы позірк твой і мой нямы адчай…

Пайшла, пакінуўшы мне золкі і туманны,
Палынны жаль смугой ахутаных дарог,
Каб я хвілінны боль і горыч гэтай раны
Гадамі ў сэрцы заглушыць сваім не мог.

Пайшла, ніколі ўжо не вернешся, Алеся.
Бывай, смуглявая, каханая, бывай.
Стаю на ростанях былых, а з паднябесся
Самотным жаўранкам звініць і плача май.

1. Верш «Бывай» Аркадзь Куляшоў напісаў, калі яму было чатырнаццаць гадоў, а потым на працягу ўсяго жыцця вяртаўся да твора, дапрацоўваючы і ўдасканальваючы яго. Як разумееце вы пачуцці лірычнага героя верша? Якімі словамі яны падкрэслены?
2. Як адпавядаюць малюнкі прыроды душэўнаму стану чалавека?
3. Імя дзяўчыны, як самотны ўздых, вырываецца з грудзей лірычнага героя толькі ў самым канцы верша. Якімі ж эпітэтамі называе каханую паэт? Якой яна вам уяўляецца?
4. Праслухайце песню «Алеся» (музыка Ігара Лучанка) у выкананні ансамбля «Песняры». Якіх радкоў няма ў песні? Падбярыце эпітэты, якімі можна характарызаваць мелодыю песні.
5. Прачытайце ў Слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў, што такое элегія, і дакажыце, што верш «Бывай...» можна назваць элегіяй.
6. Ці ведаеце вы музычныя творы, якія маюць назву «элегія»? Што аб'ядноўвае гэтыя жанры ў музыцы і ў паэзіі?

## *Сяргей Грахоўскі

* * *

Як я жыў без цябе?
І не ведаў, што недзе на свеце,
За глухімі лясамі,
За сотнямі ўзгоркаў і меж,
Не на дальнім сузор'і,
А ў нас на планеце
Ты ў зялёным і ціхім
Завулку жывеш.

Як я жыў без цябе?
А маглі ж не сустрэцца ніколі,

За паўкроку адно
Аднаго абмінуць,
Разысціся,
Як сцежкі расходзяцца ў полі,
І не знаў бы,
За страту каго папракнуць.

Мабыць, трэба было
Праваліцца ў пекла,
Траціць блізкіх,
Пакутаваць, мерзнуць, гарэць,
Ратавацца,
Каб лютая сцюжа не ссекла,
Каб цябе
Пад Палярнаю зоркай
Сустрэць,
І пазнаць,
І адразу забыцца аб крыўдзе,
Каб убачыць праменьчыкі
У зрэнках тваіх,
Нарадзіцца ізноў
І паверыць, што прыйдзе
І збавенне, і шчасце
Адно на дваіх;
Падабрэць, памякчэць,
Назаўсёды скарыцца
Непадкупнай
Суровай тваёй чысціні,
Каб істоты тваёй адкрываць
Таямніцы,
Каб душу гартаваць
На высокім агні.

Час ляціць і ляціць,
Завіруха завеяла скроні,
Пакідаюць насечкі
Гады на ілбе.
Я гляджу на цябе,
Я дзіўлюся і сёння,
Чым я жыў без цябе,
Як я жыў без цябе?

1. Чаму лірычны герой паўтарае адно і тое ж пытанне, якім верш і пачынаецца, і заканчваецца? Што падкрэслівае такая кальцавая кампазіцыя твора?
2. Прачытайце радкі верша, у якіх сцвярджаецца думка, што каханне робіць чалавека лепшым.
3. Якія вобразы сведчаць аб тым, што верш напісаны ад імя немаладога чалавека? Ці захаваў ён адчуванне непаўторнага цуду кахання?
4. З якога параўнання ўзнікла метафара «завіруха завеяла скроні»? З якой мэтай яна ўжыта ў творы?

*Міхась Шушкевіч

## ТЫ МНЕ ВЯСНОЮ ПРЫСНІЛАСЯ

Летняя ночка купальная
Яснай растаяла znічкаю.
Падаюць зоры світальныя
Ў чыстыя воды крынічныя.

Ой ты, дзяўчыначка мілая,
Як жа ты свет упрыгожыла.
Ластаўка ты легкакрылая,
Светлы мой сон растрывожыла.

Ты мне вясною прыснілася
Неразгаданымі чарамі,
Сэрца парыўна забілася
Вольнымі крыламі-марамі.

Пэўна, цябе, ненаглядная,
Стрэў я часінай удалаю.
Ты мая доля спагадная,
І не шкадую німала я.

1. Аўтар верша, які вы прачыталі, не займаўся спецыяльна літаратурнай творчасцю. Па яго прызнанні, гэты верш быў напісаны пад уражаннем першага спаткання з каханай дзяўчынай. Якім настроем прасякнуты твор?
2. Як ствараецца ў вершы адчуванне чысціні, прыгажосці, музыкі?
3. Падбярыце адно, але самае змястоўнае і пяшчотнае слова, якое магло б стаць назвай гэтага верша.
4. Праслухайце песню (музыка Ю. Семянякі) на верш Міхася Шушкевіча «Ты мне вясною прыснілася», вызначце адметнасць яе інтанацыі.

## Інверсія

Каб падкрэсліць сэнсава важнае слова, паэт часта адступае ад звычайнага, прамога парадку слоў у сказе. Так, ён гаворыць: «Ой ты, дзяўчыначка мілая...», хоць пры агульнапрынятым парадку слоў трэба было б сказаць «мілая дзяўчыначка». Эпітэт «мілая» тут вылучаецца інтанацыяй. Аўтар нібы замірае, запавольвае дыханне перад гэтым словам, якое нельга вымавіць адразу. Слова, якое стаіць не на прывычным месцы, заўсёды выдзяляецца паўзай (напрыклад, дзеяслоў з метафарычным значэннем «упрыгожыла» ў наступным радку). Нельга, немагчыма аднавіць прамы парадак слоў у вершы Міхася Шушкевіча — тады знікла б паэзія. Незвычайны парадак слоў у сказе, які дапамагае зразумець ідэю твора і стварае своеасаблівы ўсхваляваны настрой, называецца ***інверсіяй*** (ад лац. — перастаноўка).

Прывядзіце прыклады інверсіі з прачытаных вамі раней вершаў і растлумачце яе ролю ў творы.

# «З ПРЫРОДАЙ ЗЛІЎШЫСЯ ДУШОЙ...»

## ПЕЙЗАЖНАЯ ЛІРЫКА

### Якуб Колас

*(Урывак з паэмы «Сымон-музыка»)*

* * *

О, край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у свеце божым
Гэтых светлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе бары-лясы гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць;

Гэтых гмахаў[1] безгранічных
Балатоў тваіх, азёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе вясной лугі цвітуць,
Дзе шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?..

1. У чым адметнасць і прывабнасць беларускіх пейзажаў (гл. уклейку з рэпрадукцыяй карціны Г. Вашчанкі «Мір зямлі маёй»)?
2. Пакажыце, як праз зрокавыя, гукавыя і нават пахавыя вобразы Якуб Колас стварае адчуванне паўнаты і радасці жыцця.
3. Якія радкі сведчаць аб духоўнай сувязі лірычнага героя твора з продкамі, аб яго любові да роднай зямлі, замілаванні ёю? Якое значэнне мае эпітэт у выразе «светлыя берагі»?
4. Якую ролю ў творы адыгрывае адухаўленне прыроды? Прывядзіце прыклады з тэксту.
5. Гэты твор, па сутнасці, з'яўляецца адным разгорнутым пытаннем, звернутым да чытача. Які адказ вы можаце даць на яго?
6. Зрабіце ілюстрацыю (ці вусны слоўны малюнак) да гэтага ўрыўка з паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка». Абгрунтуйце ваш выбар вобразаў, колераў, мастацкіх дэталяў.

## Максім Багдановіч

* * *

Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог,
Улажылі спаць мяне вы на зямлі.
Не курыцца светлы пыл усцяж дарог,
Ў небе месяца прагляну ў бледны рог,
Ў небе ціха зоркі расцвілі.

Знічка коціцца агністаю слязой,
Прашумела мякка скрыдламі сава;
Бачу я, з прыродай зліўшыся душой,
Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,
Чую ў цішы, як расце трава.

[1] *Гмах* — велічны будынак, тут: бязмежная прастора.

1. Ахарактарызуйце радкамі верша душэўны стан лірычнага героя. Якія выразы найярчэй перадаюць злітнасць чалавека з прыродай?
2. Як вы разумееце выраз «знічка коціцца агністаю слязой»?
3. Якую мастацкую ролю адыгрывае паўтарэнне зычных гукаў «ц — ц — ц — с — с» у першым радку верша? Як выкарыстоўваецца гукапіс у наступных радках?
4. Якімі сродкамі ствараецца мелодыя верша? Як бы вы вызначылі яе танальнасць, рытм?
5. Паслухайце накцюрн «Ноч» Анатоля Багатырова (ці «Накцюрн» Фрыдэрыка Шапэна) і параўнайце ўражанні ад верша Максіма Багдановіча і музыкі.

## *Поль Верлен
## (1844—1896)

Французскі паэт-сімваліст. Увёў у лірычную паэзію складаны свет пачуццяў, перажыванняў. Надаў вершу тонкую музыкальнасць. Аўтар шматлікіх зборнікаў вершаў.

### ШАРАЯ ГАДЗІНА[1]

Месяц чырвоны над нізкім туманам,
Нізкі туман карагодзіць над лугам,
Там, дзе чароты зялёным паўкругам
Глухнуць у крэхаце жаб несціханым.

Вейкі заплюшчылі зноўку лілеі,
Стойкія, стромкія, далечна ў полі,
Як таямнічыя знакі, таполі,
І светлячок па-над лозамі тлее;

Совы, разняўшы цяжэзныя крылы,
З прыцемкаў мякка вяслуюць і шэра,
Млечны Шлях пенячы, ціха Венера
Долу сыходзіць... Ноч наступіла.

*Пераклад Алега Лойкі*

---

[1] *Шарая гадзіна* — час перад змяркannем.

Параўнайце пейзажныя вершы Максіма Багдановіча і французскага паэта Поля Верлена па наступным алгарытме:

- настрой твораў;
- уважлівасць паэтаў да канкрэтных дэталяў;
- колеры, якія выкарыстоўваюцца аўтарамі;
- меладычнасць гучання, інтанацыя твора.

## *Васіль Зуёнак

* * *

Над зямлёю
шугае верасень —
Восені ветразь!..
І плывуць у блакіце чыстым
Ключы галасістыя...
Цеплыня адплывае,
крылом узмахнуўшы аслаблым —
Летам бабіным...
Не трымайце ж мяне сягоння,
Сцены хат,
у лагодным палоне:
Над зямлёю шугае верасень —
Восені ветразь!..
Не шукайце, сябры і родныя,
Не гукайце на сцежках пройдзеных...
Не сустрэнемся — слёз не ліце.
«Ён жа быў летуценнік, — скажыце, —
Ён таксама паплыў
пад вераснем,
Ён —
пад ветразем...»

1. Якія ўражанні ў вас звязаны з надыходам ранняй восені? Ці адпавядае верш вашаму ўспрыманню гэтай пары года?
2. Прасачыце, як умела карыстаецца паэт гукапісам. Звярніце асаблівую ўвагу на гучанне ключавога вобраза «восені ветразь», які некалькі разоў паўтараецца ў вершы.
3. Як вы разумееце выраз «шугае верасень»?
4. Як характарызуюць лірычнага героя твора словы «ён — пад ветразем»?

5. Параўнайце верш Васіля Зуёнка «Над зямлёю шугае верасень...» і рэпрадукцыю карціны Леаніда Шчамялёва «Асенні кліч» (гл. форзац 2). Які настрой і якія вобразы іх аб'ядноўваюць? Якія колеры пераважна выкарыстоўвае мастак? Як перададзены ў карціне парыў аўтара да высокай мары, яго летуценні?
6. Праслухайце, калі ёсць такая магчымасць, музычную п'есу «Верасень» са зборніка «Поры года» Пятра Чайкоўскага (ці «Поры года» Антоніа Вівальдзі). Параўнайце ўражанні ад музыкі, верша Васіля Зуёнка і твора пейзажнага жывапісу. Якія агульныя выяўленчыя сродкі ў гэтых розных відаў мастацтва?

***Алесь Наўроцкі**

## ЧАТЫРОХГРАННАЯ ВАЗА

Чатырохгранная ваза — гэта прырода,
дзе чатыры грані — поры года.

### I

### Зіма

Зноў заснежыла. Можа, ў раз соты.
Хоць бы ўгледзець душу адну.
Белыя скруткі калючага дроту
кідае мяцеліца мне на спіну.

Дрыжыць агеньчык. Можа, там прыстану?
Сярод шалёнага енку-выцця
ў неаглядна-сівым акіяне
змагаецца кропля жыцця.

### II

### Вясна

Не мыльная пена зляцела з коней былінных —
дзе-нідзе бялее набраклы вадою снег.
І не шабельны звон зазвінеў над лагчынай —
ручаі звіняць, з узгорка ўзяўшы разбег.

Пазіраеш — і травы зямлю пакрылі.
І куды вачыма ні кінь —

начапілі бярозы зялёныя крыллі
і ўзлятаюць пад неба сінь.

### III

### Лета

Знаёмы малюнак, сэрцу блізкі:
прападае сцежка ў прасторах палёў.
Жыта то нахіляецца нізка,
то выпрамляецца зноў.

Вунь хмарка плыве над лесу дзялянкай,
грымоты далёкія нараслі.
Эх, як жа пасля ўсмешак маланкі
лёгка дыхаць зямлі!

### IV

### Восень

Лета, зматвай свае вудачкі!
Дрэвы выплаўляюць руду.
Вецер свістаў спачатку ў дудачку,
потым у дудку, а ўжо затым у дуду.

Адзвінелі промняў сонечныя прыіскі,
адзвінеў дажджоў серабрысты апад,
адзвінелі лісты і ляжаць залацістым прысакам[1], —
што прайшло, не вернеш назад.

Чатырохгранная ваза — гэта прырода,
дзе чатыры грані — поры года.

1. Як мяняецца інтанацыя ў кожнай з чатырох частак верша? Чым гэта абумоўлена?
2. Для кожнай пары года паэт знаходзіць зрокава выразныя вобразы, афарбаваныя ў пэўны колер. Знайдзіце іх у тэксце, паразважайце над іх прызначэннем. Чаму, на вашу думку, у вобразах навальнічнага лета не вылучаны нейкі адзін колер?

---

[1] *Пры́сак* — гарачы попел.

3. У вершы мы не толькі «бачым», але і «чуем» кожную пару года. Якія слыхавыя вобразы дапамагаюць нам у гэтым? Чаму, прапануючы нам паслухаць, напрыклад, мелодыю восені, аўтар ужывае такую метафару: «Вецер свістаў спачатку ў дудачку, потым у дудку, а ўжо затым у дуду»? Прасачыце, як па-майстэрску выкарыстоўвае паэт магчымасці гукапісу, свядома паўтараючы ў карцінах пор года пэўныя зычныя і галосныя гукі.
4. Паспрабуйце намаляваць рознакаляровую чатырохгранную вазу прыроды. Магчыма, гэта будзе букецік: замерзлая галінка, коцікі вярбы, кветка васілька і яркі кляновы ліст... А можа, нешта іншае, што будзе толькі намёкам, згадкай?

## Паэтычныя тропы

Словы, якія набываюць у вершы пераносны сэнс, называюцца ***тропамі***. Яны надаюць паэтычнай мове асаблівую выразнасць, падкрэсліваюць самыя характэрныя прыкметы прадметаў і з'яў.

З тропаў вам ужо вядомы асноўныя, якія складаюць «табліцу множання» паэтычнай мовы (менавіта множання, бо яны значна ўзмацняюць уздзеянне слова). Гэта ***эпітэты*** («светлыя згадкі», «простае шчасце людское»), ***параўнанні*** («дзяўчаты, як дождж залаты»), ***сімвалы*** («цвяток радзімы васілька»), ***метафары*** («у небе ціха зоркі расцвілі»). Разнавіднасцю метафары з'яўляецца ***адухаўленне*** («вецер вые ў сотні труб») і ***ўвасабленне*** («колас з коласам гутарку дзіўную завялі...»). Часта верш будуецца як адно разгорнутае ўвасабленне.

У аснове паэтычнага тропа заўсёды перанос прыкмет адной з'явы ці прадмета на другую. Гэты перанос можа адбывацца не толькі на аснове падабенства, але і на аснове іншых сувязей. Так узнікае ***метанімія*** (ад грэч. «перайменаванне») — замена аднаго слова ці выразу іншым на аснове знешняй ці ўнутранай сувязі паміж з'явамі. Напрыклад, Васіль Зуёнак гаворыць «не трымайце ж мяне сягоння, сцены хат, у лагодным палоне», маючы на ўвазе пад выразам «сцены хат» звыклы ўклад чалавечага жыцця.

Разнавіднасцю метаніміі з'яўляецца ***сінекдаха*** — мастацкі троп, заснаваны на замене множнага ліку адзіночным

ці часткі цэлым (або наадварот). Памятаеце, гаворачы пра слуцкіх ткачых, Максім Багдановіч выхоплівае з іх вобліка толькі адну дэталь: «тчэ, забыўшыся, рука...». Зразумела, што не толькі рука тчэ ўзор, ды тым больш яна не можа «забыцца». Вобраз, спецыяльна ўзбуйнены, служыць для абазначэння ўсёй асобы чалавека.

Паэтычныя тропы — аснова мастацкай выразнасці мовы.

Прывядзіце прыклады метаніміі і сінекдахі з прачытаных вамі раней вершаў, растлумачце сувязі, якія ляглі ў іх аснову, і ролю гэтых тропаў у творах.

## Максім Багдановіч

## САНЕТ

Замёрзла ноччу шпаркая крыніца;
Твая пара, зімовая нуда!
Цяпер няма ўжо руху ні сляда,
І нават зверху слоем снег лажыцца.

Ды ўсё дармо, бо там, пад ім, струіцца
Магутная, жывучая вада.
Чакай! Яе йшчэ прыйдзе чарада!
Здалее хваляў хор на вольны свет прабіцца.

Прыклаў я гэты сімвал да сябе,
Схіліўшыся ў надсільнай барацьбе,
І разгадаў прыроды роднай словы.

Як — прамаўчу, бо кожны з вас — паэт.
Рассейце ж самі лёгкі змрок прамовы,
Сваёй душы туды праліце свет!

1. Згадзіўшыся са словамі Максіма Багдановіча аб тым, што кожны з вас — паэт, паспрабуем разгадаць загадку «шпаркай крыніцы». Перачытайце першую частку верша і падумайце, як мог узнікнуць гэты вобраз.
2. У першай частцы «Санета» Максім Багдановіч развівае тэму «шпаркай крыніцы», у другой — прапануе кожнаму прыкласці гэты сімвал да сябе і зрабіць вывад. Якім ён атрымаўся ў вас?

3. Дакажыце на аснове радкоў з твора, што яго лірычны герой, нягледзячы на тое, што жыццёвы лёс яго складваўся няпроста, аптымістычна ставіцца да жыцця.
4. Вызначце колькасць радкоў у творы і асаблівасці яго кампазіцыі.
5. Успомніце, што такое рыфма. Вызначце, якія радкі рыфмуюцца ў першай частцы верша, якія — у другой. Абазначце аднолькавыя сугуччы аднолькавымі літарамі і запішыце своеасаблівую формулу — рыфмаграму верша.
6. Прачытайце ў Слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў, чым вызначаюцца змест і форма санета. Ці адпавядае верш Максіма Багдановіча гэтым патрабаванням?

## *Уільям Шэкспір
## (1564—1616)

Буйнейшы англійскі драматург і паэт, стваральнік санетаў, аўтар трагедый «Рамэа і Джульета», «Гамлет», «Атэла», «Кароль Лір» і інш.

### САНЕТ

Мастак цудоўны, незраўнаны час,
Нам творыць дзівы дзіўныя няспынна.
І ён жа ўсё, што захапляе нас,
Нібы тыран, знішчае ў міг адзіны.

Пазбыўшы лета, ён зіму вядзе
Ў наш засмучоны свет, такі знямелы,
Дзе ані кветкі, ні лістка нідзе,
Адзін прасцяг сцюдзёны, снежна-белы.

І каб не кветак хараство за шклом,
Зачыненых у ільдзяной вязніцы,
На цуды, створаныя мастаком,
Маглі б, напэўна, мы ураз забыцца.

Зіхценне кветкі страцілі зімой,
Але душа іх з той жа пекнатой.

*Пераклад Уладзіміра Дубоўкі*

1. Які вобраз у санеце Уільяма Шэкспіра перадае ідэю неўміручасці душы, вялікую сілу прыгажосці?

2. Чым блізкія санеты Уільяма Шэкспіра і Максіма Багдановіча па галоўнай думцы?
3. Санеты звычайна пішуцца адным вершаваным памерам. Вызначце яго на прыкладзе гэтага твора.
4. Параўнайце колькасць радкоў у санетах і іх падзел на строфы і сэнсава закончаныя часткі.

## *Адам Міцкевіч
## (1798—1855)

Славуты польскі паэт, аўтар шматлікіх балад, рамансаў, санетаў, паэм і паэтычных аповесцей.

### ДА НЁМНА

Нёмне, рэчка мая радаводная, дзе
Тыя воды, што браў я ў маленстве ў далоні,
Па якіх потым плыў у самотным палоне
Сэрца ахаладзіць, што зайшлося ў нудзе?

Цень красы тут Лаура сачыла ў вадзе,
Валасы заплятала і ўквечвала скроні,
Вобраз вабны яе ў срэбных хваляў на ўлонні
Я слязамі ў запале муціў у жудзе.

Радаводная рэчка мая, дзе твае
Маладыя крыніцы, што білі няспынна,
Дзе нявінных гадоў навіна і правіна?

Дзе бунтоўнасць, якой мне цяпер не стае?
Дзе Лаура мая? Дзе былая сябрына?..
Знікла ўсё, што ж не высахлі слёзы мае!

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

1. Адам Міцкевіч нарадзіўся на Навагрудчыне і ўсё жыццё апяваў сваю радзіму ў паэзіі. З чым звязаны для лірычнага героя ўспамін пра раку Нёман?
2. Знайдзіце ў вершы зваротак і растлумачце яго ролю.
3. Чаму выраз «рэчка мая радаводная» паўтараецца двойчы, як гэта звязана з кампазіцыяй санета?
4. Параўнайце твор Адама Міцкевіча з прачытанымі санетамі Максіма Багдановіча і Уільяма Шэкспіра.

## Анатоль Грачанікаў

* * *

Свяці, кахання чыстая зара!
Свяці — пачуццяў сэрцаў не азмрочвай —
Над доляй плугара і песняра
І над высокай доляю жаночай.
Усіх людзей пара табе, пара,
З'яднаць чароўнай сілаю прарочай.
Бо, сапраўды, на свеце без кахання
Жыцця няма — ёсць толькі існаванне.

1. Які настрой пануе ў гэтым творы? Падбярыце адпаведныя выразы з тэксту.
2. Раскрыйце сэнс метафары, якую ўжывае паэт, каб вызначыць пачуццё кахання. У якіх яшчэ з вядомых вам вершаў каханне звязвалася з вобразамі зоркі, заранкі?
3. У вершы арганічна спалучаюцца філасофскія і інтымныя матывы. Прачытайце радкі, у якіх сфармулявана галоўная думка твора. Чаму, на вашу думку, аўтар ужывае слова «сапраўды»? Да каго яно звернута?
4. Вызначце асаблівасці рыфмоўкі радкоў у творы.
5. Верш А. Грачанікава «Свяці, кахання чыстая зара!» — гэта актава. Прачытайце ў Слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў, у чым адметнасць актавы як класічнай формы верша. Чаму яна мае такую назву, якая супадае з музычным тэрмінам?

## Максім Багдановіч

### ТРЫЯЛЕТ

Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асляпіла вочы.
Ды што мне цемень вечнай ночы,
Калісь глядзеў на сонца я.
Няхай усе з мяне рагочуць.
Адпаведзь вось для іх мая:
Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асляпіла вочы.

1. Так сапраўды бывае: глянеш на сонца — і на нейкі час у вачах становіцца цёмна. Але праз імгненне яшчэ ярчэй відаць тое, што вакол. Чаму паэт звярнуўся да такой з'явы?
2. Здаецца, што паэт ведае нейкую таямніцу, недаступную тым, хто смяецца з яго. Як вы думаеце, што ён мае на ўвазе, калі гаворыць пра сонца і «цемень вечнай ночы»? Што перамагае?
3. Некаторыя радкі гэтага верша паўтараюцца, несучы іншы настрой і падтэкст. Раскрыйце яго і падрыхтуйце выразнае чытанне твора.
4. Прачытайце ў Слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў, што такое трыялет. Праверце, ці адпавядае верш Максіма Багдановіча класічнай кампазіцыі трыялета.

## *Данута Бічэль

## ТРЫЯЛЕТ

Лёгкія сняжынкі у цішы
Долу апускаюцца нясмела...
Светла ў полі, светла на душы...
Лёгкія сняжынкі у цішы...
Спіць сасна ў бахматым шалашы,
А навокал так бялютка-бела...
Лёгкія сняжынкі у цішы
Долу апускаюцца нясмела.

1. Знайдзіце ў вершы слова, якое найлепш перадае настрой твора.
2. Як суадносяцца ў вершы стан прыроды і чалавечай душы?
3. Якім вам уяўляецца лірычны герой гэтага верша?
4. Паслухайце пачатак сімфоніі Пятра Чайкоўскага «Зімовыя летуценні». Якія вобразы, малюнкі, адчуванні ўзніклі ў вашым уяўленні? Ці пераклікаюцца яны з вершам Дануты Бічэль?
5. Які радок у вершы Дануты Бічэль паўтараецца тройчы? З якой, на вашу думку, мэтай?
6. Паслухайце твор Сяргея Рахманінава «Вясеннія воды». Якія вобразы, малюнкі прыроды выклікала музыка? Чаму б і вам не паспрабаваць свае сілы ў стварэнні прыгожага? Паспрабуйце напісаць трыялет, які перадаваў бы захапленне сонечным веснавым днём, радасць абуджэння прыроды, вашы надзеі на лепшае. Першыя радкі (а значыць, і якія яшчэ?) няхай гучаць так, як у вершы Сяргея Чыгрына:

Чыстая, вясёлая вада
З красавіцкім сонейкам у згодзе...

Параўнайце свае спробы з творам паэта, змешчаным у дадатку на с. 347.

7. Разгледзьце рэпрадукцыю карціны Вітольда Бялыніцкага-Бірулі «Ранняй вясной» (гл. форзац 1). Якія вобразы і якія колеры ствараюць радасны настрой надыходу вясны?

## Жанры лірыкі

Калі вы знаёміліся з канкрэтнымі творамі, то заўважылі, што існуе пэўная заканамернасць паміж тым, пра што расказвае твор, і яго мастацкімі асаблівасцямі. Змест і форма ў вершы ўзаемазвязаны і ўзаемаабумоўлены.

Паводле зместу і формы лірыка дзеліцца на наступныя жанры: філасофска-медытатыўныя[1], велічальныя, песенныя, сатырычна-выкрывальныя. З філасофска-медытатыўных жанраў вам ужо знаёмыя ***медытацыя*** — верш, у якім аўтар разважае на нейкую важную тэму («Трэба дома бываць часцей...» Р. Барадуліна, «Як я жыў без цябе?» С. Грахоўскага), ***філасофскі верш*** — твор, у якім асэнсоўваюцца філасофскія праблемы сэнсу чалавечага жыцця («Шчасце» М. Танка, «Жыццё даецца, каб жыццё тварыць...» А. Вярцінскага), ***элегія*** — верш, у якім выяўляецца смутак, жаль з прычыны грамадскай несправядлівасці або асабістага няшчасця («Бывай» А. Куляшова). Многія вершы пра Радзіму, беларускі народ, з якімі вы пазнаёміліся ў папярэдніх класах, адносяцца да ***велічальных жанраў***. Гэта ***ода*** — урачысты, узнёслы верш у гонар нейкай з'явы, падзеі ці асобы («Беларуская песня» У. Караткевіча, «Зямля Беларусі» П. Броўкі, «Мы — беларусы» Р. Барадуліна, «Продкі» А. Пісьмянкова). Своеасаблівай разнавіднасцю оды з'яўляецца ***рэквіем*** — урачысты верш у гонар памерлых («Рэквіем па кожным чацвёртым» А. Вярцінскага).

[1] *Медыта́цыя* — разважанне, роздум.

З ***песенных жанраў*** вам вядомы ***раманс*** — невялікі верш напеўнага характару пра каханне — і ***песня*** («Раманс» М. Багдановіча, «Ты мне вясною прыснілася...» М. Шушкевіча).

***Сатырычна-выкрывальныя*** вершы ў дасціпнай форме высмейваюць заганы ў жыцці грамадства і чалавечым характары.

Жанры лірыкі склаліся вельмі даўно, яшчэ ў старажытнасці, таму нават назвы іх па паходжанні пераважна грэчаскія. Межы паміж асобнымі жанрамі лірыкі даволі ўмоўныя, у адным вершы могуць спалучацца розныя жанравыя прыкметы. Так, у вершах «Бывай» А. Куляшова і «Раманс» М. Багдановіча спалучаюцца рысы элегіі і песні, у вершы Я. Купалы «Спадчына» — медытацыі і оды.

Класічная паэзія выпрацавала ўстойлівыя віды верша — так званыя «цвёрдыя» страфічныя формы: санет, трыялет, актава і інш. Для іх характэрна дакладна вызначаная колькасць радкоў у вершы, пэўная сістэма рыфмоўкі, якую вы паспрабавалі вызначыць пры вывучэнні канкрэтных твораў, і адметная для кожнага віда верша кампазіцыя. Так, ***санет***, які складаецца з чатырнаццаці напісаных ямбам радкоў, выразна дзеліцца на дзве часткі: у першых васьмі радках падаецца развіццё тэмы, у наступных — кульмінацыя і развязка, падагульненне. У ***трыялеце*** (ад васьміpадковага верша, у якім два першыя і два апошнія, а таксама першы і апошні радок аднолькавыя) радок, які паўтараецца тройчы, заастрае ўвагу чытача на асноўнай думцы твора. ***Актава*** — таксама васьміpадковы верш, шэсць першых радкоў у якім звязаны перакрыжаванай рыфмоўкай, а два апошнія — сумежнай, што прыцягвае ўвагу да галоўнай думкі твора. Класічныя віды верша існуюць на працягу многіх стагоддзяў ва ўсіх еўрапейскіх літаратурах, апрацаваны талентам выдатных майстроў слова і заключаюць у сабе законы прыгажосці і гармоніі. Таму яны актыўна ўжываюцца і ў сучаснай лірыцы.

## Пытанні і заданні да раздзела

**1.** Ахарактарызуйце асноўныя асаблівасці эпасу і лірыкі як літаратурных родаў.

**2.** Як звязаны паміж сабой народныя песні і лірычная паэзія?

**3.** Якія тэматычныя групы можна вылучыць сярод лірычных твораў? Прывядзіце прыклады вершаў.

**4.** На якія жанры дзеляцца лірычныя творы? Успомніце вершы, якія вы чыталі ў папярэдніх класах, і паспрабуйце вызначыць, да якога жанру лірыкі іх можна аднесці. У якіх з вядомых вам вершаў спалучаюцца прыкметы розных жанраў?

**5.** Якімі сродкамі ствараецца рытм у вершы? Якую мастацкую ролю ён адыгрывае?

**6.** Што такое паэтычныя тропы? Раскажыце пра іх, прывядзіце прыклады з вывучаных вершаў. Чаму менавіта для лірыкі характэрна багатае ўжыванне паэтычных тропаў?

**7.** Якую ролю ў вершы адыгрывае гукапіс? Пакажыце на прыкладзе магчымасці гукапісу ў стварэнні мастацкага вобраза.

**8.** Якія класічныя віды верша вам вядомы? Чаму, на вашу думку, яны існуюць многія стагоддзі і папулярныя сёння?

**9.** Якую форму верша вы выбралі б, калі паспрабавалі б напісаць верш пра каханне?

**10.** Што збліжае лірыку і музыку, лірыку і жывапіс? Прывядзіце прыклады.

**11.** Напішыце водгук пра верш, які вам найбольш запомніўся, уразіў вас. Пастарайцеся перадаць сваё захапленне вершам, раскрыць сакрэт яго мастацкай дасканаласці і растлумачыць, чаму ён вам спадабаўся. Узорам для вас няхай будзе артыкул А. Клышкі «Пра верш “Слуцкія ткачыхі”».



# ПАВОЛЬНАЯ ПЛЫНЬ АПОВЕДУ



## ЭПІЧНЫЯ ЖАНРЫ

Роды і жанры літаратуры склаліся не адразу. Узнікалі яны ў працэсе гістарычнага развіцця літаратуры, у прамой, непасрэднай залежнасці ад духоўных запатрабаванняў чалавека эстэтычна пазнаваць свет і самога сябе, выказваць свае думкі і настрой, пачуцці, свае ўяўленні аб прыгожым і непрыгожым у жыцці. Перш чым з'явіцца ў літаратуры, роды і жанры складваліся ў вуснай творчасці народа, у фальклоры. Менавіта з фальклору прыйшлі ў літаратуру, набыўшы новыя якасці, апавяданне — з народнай казкі, лірычны верш — з народнай песні.

Асаблівасцю эпічных твораў з'яўляецца шматбаковы паказ жыцця чалавека ў разнастайных яго праявах. Вобразы герояў раскрываюцца пры апісанні пісьменнікамі іх учынкаў і паводзін, партрэта, мовы, ролі пейзажу ў стварэнні вобраза, у аўтарскай характарыстыцы. Эпічныя творы даюць шырокія замалёўкі дзейнасці чалавека, паказваюць шматграннасць праяў яго жыцця. Аснову эпічных твораў складае аўтарскі аповед пра падзеі і людзей. Эпічныя жанры адрозніваюцца адзін ад аднаго шэрагам асаблівасцей: большым або меншым ахопам жыцця, складанасцю жыццёвага матэрыялу, характарам сюжэта, кампазіцыі. У адпаведнасці з гэтым адрозніваюць эпічныя жанры буйной формы (раман), сярэдняй формы (аповесць), малой формы (апавяданне, навела, казка і інш.). У аснову твораў малой эпічнай формы часцей за ўсё кладзецца які-небудзь эпізод. Сюжэт буйны́х і сярэдніх эпічных твораў ахоплівае цэлы шэраг эпізодаў, падзей, якія не заўсёды маюць паслядоўную кампазіцыю, могуць перамяжацца ў часе, у падзеях.

## Якуб Колас

# ХМАРКА

Не шукай ты шчасця, долі
На чужым далёкім полі.
*Янка Купала*

Ніякага клопату і гора не ведала гэта прыгожая белая Хмарка. Яна не ведала, з чаго і як радзілася на свет, адкуль узялася яна; не ведала нават, ці ёсць у яе маці. Можа, затым яна і была такая шчаслівая, што нічога не ведала аб белым свеце.

Той дзень, праўдзівей, тая раніца, калі з'явілася яна на небе, была вельмі ж ціхая — такая ціхая, што нават чутно было, як спявалі, седзячы на круглым лісціку зялёнай лотаці, два прыўдалыя конікі. Сіваваронка, снуючыся каля таўшчэразнага жаралістага дуба, дзе было яе гняздо, трашчала, бы тая трашчотка, на ўвесь луг, сварачыся з цыбатым і даўганосым Буслам, які, праўда, і вухам не вёў на ўсю гэту плявузготу сярдзітай суседкі, а любоўна цешыўся са сваіх дзетак, што таксама сядзелі ў гняздзе на тым жа дубе. Дзесь у небе жалобна пішчэў галодны каршун, і гукі яго далёка расплываліся ў нерухомай цішы летняй раніцы.

У ветра, відаць, было нейкае свята ў гэту раніцу, або добра нагуляўся ён дзе за ўчарашні дзень, бо яшчэ не варушыўся і спаў, хоць сонейка падбіралася пад поўдзень.

І гарачая была гэта раніца. Грэчка, якая зачынала ўжо зацвітаць, і даўно акучаная бульба проста млелі ад гарачыні і ў знемажэнні тужліва паапускалі сваё лісце. І лісточкі іх таксама пачыналі жаўцець. Маленькі беленькі камячок, які спярша была гэтая Хмарка, пачынаў тым часам павялічвацца, шырыцца і рабіцца болей грузкім.

Добра было гэтай Хмарцы плыць высока-высока ў безгранічных разлогах светаў і акідаць поглядам прыгожыя малюнкі зямлі, што ляжала пад ёю.

З тэй страшэннай высачыні, на якой плыла Хмарка, усё выглядала вельмі хораша, вельмі прыгожа: здалёку ўсё з'яўляецца нам іначай, як яно ёсць папраўдзе, бо такая

ўжо натура і схільнасць нашай душы — бачыць усё добрае і прыгожае ў тым, што далёка ад нас, што не з намі. І паплыла паволі шчаслівая Хмарка ў далёкую-далёкую дарогу, дзе застанаўляючыся, як прыемная думка, дзе кіруючыся на малюнкі, што найбольш зацікаўлялі яе: і поле з пясчанымі схіламі сваіх узгоркаў, зялёныя лугі з пакручастымі стужкамі бліскучай вады, адвечныя лясы-бары — адным словам, усе тыя з'явы, якія першымі кінуліся ў вочы нованароджанай Хмарцы, заставаліся ўсё далей і далей, і сама гэта даль адкрывалася ў намітку сіняватай смугі. Уласнае шчасце бязроднай Хмаркі (яна не памятала роду) не давала ёй мажлівасці прымеціць чужое гора. Ёй здавалася, што ўсе на свеце, як і сама яна, радуюцца і цешацца сваёй доляй. Па гэтай прычыне Хмарка не ведала, якую тугу і жаласць пакідае яна за сабою на зямлі, з якой прагавітасцю чакала поле задаволення свае смагі. Унь там, за вёскаю, чуць-чуць калышацца ў межах пажоўклае жыта. Гэта вецер, толькі што абудзіўшыся, пачынае пазяхаць, пацягацца. Бедныя каласкі пільна прыглядаюцца да Хмаркі. Калі-нікалі іх ажыўляе надзея ўздужаць з ласкі шчодрай Хмаркі. Але Хмарка ідзе далей, толькі цянёк ад яе праплыве, як здань якая, па жыце, і яно нікне каласкамі, стаіць, нікому не скардзіцца, як бы самлеўшы. І сумна рабілася ўсюды, і нейкая крыўда і жаласць бруіліся над усім, што пакідала Хмарка. Два прыўдалыя конікі перасталі спяваць і пахаваліся пад лісток лотаці. Гэта яны спявалі песню ў чэсць Хмаркі, а яна так зняважыла іх.

Пташкі таксама змоўклі, а маленькі ручаёк, здавалася, панёс свой жаль у зямлю пад каменні, у цень альховых кустоў.

А Хмарка, шчаслівая, радасная, ясная, як майская раніца, усё ішла, ішла далей і далей да невядомых краёў свету, і толькі ёй рабілася крыху сумна, ёй шкода было пакідаць тыя малюнкі, да якіх ужо прывыкла, але жывая натура гнала яе і гнала, не даючы супачынку.

Так ішла яна ўвесь дзень. Пад вечар, як сонейка схілілася блізка да захаду, Хмарка зайшла ў такі край, які непадобен быў да тых краёў, адкуль яна выбралася ў дарогу.

Перад ёю пачаліся высокія горы, вярхі якіх пакрывалі адвечныя снягі. Сонейка пачало хавацца за край зямлі, апошнія стрэлы яго праменняў ахварбавалі яе ў агнявісты колер і патухлі. Востры холад пустых і жудасных верхавін дзікіх гор моцна сціснуў Хмарку. Яна скурчылася ўся, зрабілася маленькай і тонкай, знайшла зацішак між гор і спынілася, прыхіліўшыся да старой Скалы. Страшна стала Хмарцы.

— Адкуль прыпаўзла, нябога? — спытала Скала Хмарку.

Яшчэ большы страх агарнуў яе.

— Не ведаю, — боязна адказала яна.

— Што робіш, чым займаешся? Хмарка зрабілася яшчэ меншай і маўчала.

— Я люблю паслухаць, што робіцца на свеце, — апраўдвала Скала сваё пытанне. — Што ж ты бачыла, раскажы мне.

Хмарка крыху асмелілася і пачала расказваць, як хораша на зямлі, як усе там шчаслівы і радасны, як спяваюць мошкі, конікі, травы, збажына.

— Хто сам шчаслівы, таму здаецца, што і ўсе шчаслівы, — сказаў Арол на гутарку Хмаркі. — Быў і я ў тых краях, адкуль прыблуталася імасць[1]. Там, гаворыш, — шчасце? А што ж, па-твойму, няшчасце? Там палі выплакалі апошнія слёзы, каб даць табе жыццё, шчаслівая Хмарка! І цяпер там нават расы не бывае. Але не для таго назначаліся слёзы, каб радзіць цябе на свет для бадзяння па чужых краях… — І доўга яшчэ гаманіў Арол, наракаў на Хмарку.

Слухала Хмарка нараканні Арла, і прыкра зрабілася ёй. Прайшла ноч, зачаўся новы дзень, зноў пайшла ў дарогу Хмарка. Цяпер яна ўжо не чула сябе шчаслівай і вольнай, як наўперад: так глыбока запалі ёй арліныя словы.

Дні ішлі, праходзілі тыдні, а яна, як заклятая, усё хадзіла па свеце. І дзе толькі не была яна! Якога гора не прыйшлося зажыць[2] ёй у дарозе! Насілася яна над пустэлямі, перад ёю рассцілаліся моры, якія не мелі берагоў. Ганялі яе ветры, ірвалі на кусочкі яе тонкія валаконцы. І нідзе

---

[1] *І́масць* — пані, ваша вялікасць.

[2] *Зажы́ць* — тут: перажыць, адчуць.

на свеце не было ёй супакою. І вярнулася яна зноў у той край, адкуль і выйшла. Пажоўклыя палі, сухія травы, пагарэлая збажынка гаротна віталі Хмарку; пацямнела яна, зажурылася, паапускала пасмы і заплакала халоднымі слязьмі над роднымі палямі...

Стары Дуб, абмыўшыся дажджом, павесялеў і сказаў да Бусла, з якім даўно ўжо быў у дружбе:

— От навука для тваіх дзяцей. Моцна ж накажы ты ім, дружа, каб не лёталі дарэмна па свеце, не бадзяліся: у сваім родным кутку работы досыць для кожнага.

Бусел маўчаў. Відаць, ён іначай пазіраў на гэту з'яву, а можа, і не дачуў слоў свайго сябра.

## Пра твор Якуба Коласа «Хмарка»

Вы прачыталі твор Якуба Коласа «Хмарка». Несумненна, гэта твор апавядальны, г. зн. эпічны. Але сярод эпічных жанраў мы знойдзем і казку, і легенду, і апавяданне. З названых трох эпічных жанраў, мабыць, найбольш падыходзіць тут азначэнне «казка», бо ў творы расказваецца пра з'яву прыроды — прыгожую Хмарку. Пісьменнік звяртаецца да алегорыі, да іншасказання, як гэта робіцца звычайна ў казках ці байках. Пацвярджаецца такое меркаванне і тым, што сам Якуб Колас уключаў гэты твор у кнігу пад назвай «Казкі жыцця». Але «Хмарку» можна назваць і ***апавяданнем***, бо тут усё як у апавяданні: і герой, і сюжэт, і розныя іншыя адзнакі названага жанру (разгорнутыя апісанні, характарыстыкі, дыялог). Толькі гэта не звычайнае апавяданне, а ***алегарычнае***. У ім удала спалучаецца рэальнае і казачнае. Апавяданне можна таксама назваць ***філасофскім***, у якім не проста расказваецца пра нейкі выпадак з жыцця, а раскрываецца праз алегорыю вельмі важная агульнажыццёвая праблема — адносіны чалавека да сваёй зямлі, да радзімы. Пра Хмарку і яе паводзіны пісьменнік гаворыць то з лёгкім гумарам, то з прыхаваным сумам.

Калі вы чыталі твор «Хмарка», то, напэўна, згадвалі верш Рыгора Барадуліна «Трэба дома бываць часцей», п'есу «Вечар» і інш.

Сапраўды, гэта творы блізкія па тэме, шмат у чым падобныя па сваім змесце, па аўтарскай думцы — ідэі.

Прыгожая белая Хмарка, пра якую расказваецца ў апавяданні, нагадвае нам пра герояў тых твораў, у прыватнасці дарослых дзяцей, якія, пакінуўшы свой родны кут і сваіх бацькоў, раз’ехаліся па свеце ў пошуках лёгкага жыцця, забыліся на свае сыноўнія абавязкі перад домам, перад роднымі. «Яна (Хмарка), — піша аўтар, — не ведала, з чаго і як радзілася на свет, адкуль узялася яна; не ведала нават, ці ёсць у яе маці». Жыла і цешылася жыццём, паглядаючы на ўсё з вышыні.

«Уласнае шчасце бязроднай Хмаркі (яна не памятала роду) не давала ёй мажлівасці прымеціць чужое гора. Ёй здавалася, што ўсе на свеце, як і сама яна, радуюцца і цешацца сваёй доляй».

Вось так характарызуе Хмарку аўтар.

1. Сваімі словамі перадайце, як пачувала сябе Хмарка ў падарожжы, з кім яна сустрэлася і якую праўду аб жыцці пачула.
2. Што змянілася ў поглядах Хмаркі на жыццё пасля доўгага і далёкага падарожжа?
3. Якую ролю ў творы адыгрывае пейзаж, малюнкі прыроды? У залежнасці ад чаго змяняюцца фарбы, адценні ў абмалёўцы прыродных з’яў? Параўнайце пейзаж у пачатку твора і ў канцы. Чым яны адрозніваюцца?
4. Якая галоўная думка (ідэя) твора і як яна суадносіцца з эпіграфам?
5. Падумайце, як ставіцца пісьменнік да Хмаркі, з якім пачуццём гаворыць пра яе.
6. Ці адрозніваецца літаратурная казка Якуба Коласа «Хмарка» ад народных казак? У чым, на ваш погляд, яе мастацкая своеасаблівасць, прыгажосць?
7. Якую ролю адыгрывае алегорыя ў мастацкім паказе жыцця, характарыстыцы персанажаў?

## Уладзімір Караткевіч

# ПАРОМ НА БУРНАЙ РАЦЭ[1]

*(Урывак з рамана «Нельга забыць»)*

Дарогу на поўнач ад горада кантралявалі інсургенты[2], ездзіць па ёй было небяспечна. Таму ганцам, каб трапіць у размяшчэнне коннага палка, даводзілася скакаць з захаду, перапраўляючыся ўброд праз Друць, або — гэтая дарога была карацейшая, але яшчэ больш небяспечная — праз Дняпро, каб адчуць сябе спакойна пад аховаю ўрадавых войск. Да пэўнай ступені спакойна.

На пяцьдзясят вёрст выгінастага рэчышча быў толькі адзін паром, на вярсту вышэй ад горада. Яго нельга было аддаць у рукі паўстанцам, якія маглі б такім чынам парушыць сувязь паміж часцямі карных войск і біць іх паасобку. Дзеля гэтага на левы, процілеглы гораду бераг Дняпра генерал Фікельмонт выслаў роту выпрабаваных у баях салдат пад камандай капітана Пора-Леановіча. Капітану не вельмі верылі як нашчадку сепаратысцкай[3] фаміліі і ўраджэнцу Магілёва. Таму «ў дапамогу яму» і на «адпачынак» паставілі таксама капітана, Юрыя Горава, карэннага русака са старой маскоўскай фаміліі.

Гораў быў ранены ў левую руку ў сутычцы з атрадам паўстанцаў пад Ракавам і адасланы «ў тыл» на лячэнне і адпачынак.

---

[1] *«Паром на бурнай рацэ»* — твор пра падзеі паўстання 1863—1864 гадоў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Гэта псіхалагічна вельмі насычаны і дынамічны аповед, дзе пісьменнік, абапіраючыся на сямейнае паданне пра свайго родзіча, удзельніка тых падзей, апісвае час, калі паўстанне ўжо затухала. Праўда, разрозненыя групы паўстанцаў яшчэ блукалі па лясах. Яны былі ўжо не такімі баяздольнымі, як у разгар паўстання. Тым не менш пагроза для ўрадавых войск яшчэ існавала. Таму паром на Дняпры ахоўваўся ротай салдат. Тут у бурлівую жнівеньскую ноч 1863 года і разгортваюцца трагічныя падзеі *(Паводле Алеся Марціновіча)*.

Умоўна гэты невялікі эпічны твор, у аснову якога лёг канкрэтны эпізод, можна аднесці да жанру апавядання.

[2] *Інсурге́нт* — паўстанец.

[3] *Сепараты́ст* — прыхільнік адасаблення нацыянальнай меншасці.

Тылу не было. У гэты трывожны жнівень 1863 года вайна была ўсюды. «Белыя» спрачаліся з «чырвонымі», беларусы не хацелі мірыцца з шавінізмам «белага жонду»[1]. Успыхвала, згасала і зноў выбухала абурэнне палітыкай цара.

Пераспелае жыта плакала зярнятамі, а ў жыце стаялі шыбеніцы. І не ўстаў ніхто, і не сказаў людзям, што няможна рэзаць адзін аднаго, што свет вялікі і на кожнага хопіць ніў, што хлеб аднолькава смачны, на якой мове яго ні называй. Не мог сказаць…

Справа ішла больш чым пра хлеб. Справа ішла пра свабоду.

Становішча было трывожнае. У канцы ліпеня генерал Фікельмонт даў загад знішчыць на Дняпры ўсе чаўны. Асобныя атрады выканалі загад. У чаўнах, віцінах[2] і шугалеях[3] да апошняй душагубкі[4], папрасякалі днішчы. Было спалена бярвенне, з якога інсургенты маглі б звязаць плыты. Прыбярэжнае насельніцтва, якое жыло найбольш з рыбнай лоўлі, было асуджана на голад.

Кардон[5], які абараняў паром, жыў нервова і напружана.

А між тым баяцца не было прычыны. Цэнтр паўстання даўно перамясціўся на захад. Галоўны атрад паўстанцаў Прыдняпроўя быў разгромлены яшчэ на пачатку лета, і генералу Фікельмонту гэта не магло не быць вядома…

Кіраўнік атрада, Усяслаў Грынкевіч, быў узяты ў палон і асуджаны на смерць. Цяпер ён сядзеў на гарадской гаўптвахце і чакаў. Яго павінны былі вылечыць, выспаведаць перад Збаўцам ад грахоў і толькі потым застрэліць, як сабаку.

Але асобныя дробныя атрады яшчэ блукалі па пушчах. І пагудкі перабольшвалі іх сілу. Ніхто нічога не ведаў, як заўсёды на вайне, і кардон калаціла ліхаманка трывогі і жаху.

---

[1] *Жонд (пол.)* — урад.

[2] *Віці́на* — крытае судна для перавозкі збожжа.

[3] *Шугале́я* — лодка, выдзеўбаная з аднаго кавалка дрэва.

[4] *Душагу́бка* — рыбацкі човен.

[5] *Кардо́н* — пагранічны або загараджальны атрад, месца, дзе ён размяшчаецца.

Таму нікога не здзівіла, што 18 жніўня на кардон прыляцеў улан[1] на ўспененым кані і нешта хутка перадаў Пора-Леановічу. Гораў пераправіў конніка на другі бераг (загад Фікельмонта прадугледжваў абавязковую прысутнасць на плывучым пароме аднаго з афіцэраў пры чатырох салдатах) і са шкадобаю глядзеў, як жывёла, амаль па-чалавечы стогнучы, выносіла ўлана на стромы чырвоны адхон.

Гэта было надвячоркам. Парыла так нясцерпна, што салдаты і капітан абліваліся потам.

Цьмянае ад сонца люстра ракі здавалася мёртвым. Не боўтала рыба, і шэрыя чаплі на водмелях стаялі зморапыя, падобныя на пачварных вядзьмарак, апранутых у лахманы. Толькі ластаўкі ў быстрым лёце чыркалі крыламі ваду, ды недзе за бясхмарным гарызонтам бурчаў нябачны пярун. Бурчаў упарта, раз-пораз.

«Будзе вераб'іная ноч», — падумаў Гораў.

Быццам адказваючы яму, адзін з салдат уздыхнуў:

— Залье нас сёння. Як вясной, будзем куваць на востраве...

А ў Маскве цяпер цішыня. Масква толькі пачынае ажываць: вяртаюцца з дач і маёнткаў людзі. На ліпах Няскучнага саду першыя жоўтыя лісцікі: з багатых восеньскіх рынкаў даносіцца пах «валовых мордачак» (улюбёныя яблыкі маменькі). Маменька, пэўна, паехала цяпер у манастыр, маліцца за здравіе воіна Юрыя і каб Бог дараваў яму веру. Едзе паўз Круціцкае падвор'е ў сваёй нехлямяжай, падобнай на гарбуз брычцы. Фурман Сідар з вялізным — на траіх — задам крычыць на сустрэчных страшным голасам: «Адзі, сцеражыся!» А ў блакітным небе сляпуча блішчаць купалы сабораў і плыве лягусенькі контур Круціцкага церамка.

А вось і сам ён, Юрый, выходзіць з парадных дзвярэй, праходзіць дарожкай пад ліпамі, з насалодаю дыхаючы празрыстым і ўжо схаладнелым паветрам. Ванька з прарэхам пад пахай трусіцца на козлах.

— Гэй, Ванька!

І вось ляціць, ляціць брычка. Спачатку па Цвярской, потым бульварам, потым на Арбат. І ўзмывае, захлынаецца ў

[1] *Ула́н* — салдат або афіцэр коннай арміі.

грудзях ад радасці сэрца. Так, вайна скончана, вайны ніколі больш не будзе. І ліпы! І Арбат! І цудоўныя асабнячкі… І Nadine ўстае яму насустрач у гэтай сваёй белай сукенцы…

— Гэта вы? Божа мой, як я рада!

І зноў — занадта паспешліва — апускае да вышывання свае нявінныя цёмна-сінія дзівосныя вочы. Што з таго, што яны толькі двойчы абмяняліся некалькімі словамі, што яны амаль незнаёмыя. Усё адно — гэта Масква, і сонца, і дзень без крыві і стрэлаў. І Масква — гэта і ёсць Nadine, Надзенька, Надзейка, як кажуць тут.

Што з таго, што ён цэлы год не бачыў яе, што яны мала знаёмыя. Вось ён бачыць яе валасы колеру ржавых кляновых лісцяў, такія пушыстыя, мяккія, лягусенькія, падзеленыя белым радком, яе рот з прыпухлай ніжняй губкай.

— Надзенька, каб вы толькі ведалі, як я сумаваў па вас, як нясцерпна мне было без вас на гэтай зямлі, што стаптана капытамі конных палкоў.

Яна ўсміхаецца. І цішыня. Недзе ўдарыў і змоўк у шкляным паветры далёкі звон. Шчасце! Масква! І цішыня, цішыня ў шатах ліп. Цішыня.

Стрэл.

Гораў ад неспадзяванкі спатыкнуўся аб корань, які — д’ябал ведае нашто — выпер акурат на дарозе…

Сярод двара тварамі да забітай брамы стаялі два чалавекі: салдат-дзяншчык і афіцэр. Салдат трымаў скрынку з пісталетамі і распачатую калоду карт. Афіцэр браў са скрынкі пісталеты і, амаль не цэлячыся, страляў у браму, у белы чатырохкутнічак, прыбіты да шула.

— А-а, камрад… Да зброі, вісусы-гусары… Горава каторы ўжо раз уразіў яго сухі прыгожы твар, белыя валасы і бакенбарды і, галоўнае, страшнаватыя блакітныя вочы, у якіх відна была пагарда да ўсяго. І яшчэ рэзкі шрам паўз брыво і левую скронь.

Калі пры першай сустрэчы ён запытаўся ў Пора-Леановіча, адкуль узялася гэтая адмеціна, той неахвотна буркнуў:

— Шпагаю тут адзін… падурэў…

— Ну і што? — спытаў тады Гораў.

— Паспадзяваўся занадта на французскую школу, — з жахлівай іроніяй сказаў Леановіч, — у славутага, бачыце, Мерсье вучыўся.

Гораў ведаў, што чалавек, з якім звёў яго лёс, мае славу першага ў палку, і не толькі ў палку, брэцёра[1], што ён страляе толькі дуэльнымі пісталетамі, але за такім заняткам, як сёння, застаў Леановіча ўпершыню.

— Руку набіваў, — сказаў Пора-Леановіч з паблажлівай ласкавасцю, — адвучвацца нельга...

Гораў глядзеў, як пальцы Пора-Леановіча з незвычайнай пяшчотай мацалі сталь, і здзіўляўся, чаму нешматслоўны, заўсёды іранічны калега сягоння такі гаваркі, быццам баіцца пакінуць язык хоць на хвіліну без работы.

А Леановіч ужо скончыў з пісталетамі, палажыў іх у футляр і сеў да стала.

— Сёння я нап'юся, — вельмі сур'ёзна сказаў ён.

Гораў сеў за стол з другога боку. Ён толькі прыгубіў першую чарку: піць не хацелася.

За акном пякло, аж нельга было трываць. Грозны Дняпро ледзь варочаў у разамлелых берагах цяжкія, як расплаўленае волава, плыні. Пярун бурчаў ужо зусім блізка, гнеўна, амаль без перапынку.

Гэтае чаканне жахлівага, разлітае ў млявай прыродзе, прыгнятала нервы. Кроў здавалася густой і цяжкай, як ртуць. Яна цякла павольна, нараджаючы панылa-злосныя, амаль ліхаманкавыя думкі. А Леановіч куляў чарку за чаркай, як быццам усё памятаючы, што яму трэба напіцца да моцы божай...

Задуха стала нясцерпная. І нясцерпным стала чаканне.

Толькі Леановіч, здавалася, не адчуваў нічога. Яго нахабныя і страшныя вочы гарэлі вясёлым шаленствам. І Гораў, успомніўшы яго сённяшнюю забаўку, зразумеў, што чалавек, які сядзіць насупроць яго, — страшны, вельмі небяспечны чалавек, драпежнік, у якога, пэўна, зусім няма ў душы месца для так званых пакут сумлення...

Вераб'іная ноч за акном ужо ўзяла свае правы. Неяк вельмі хутка. Дождж паліў так, што здавалася, паветра было менш, чым вады. Маланкі крэслілі неба так часта, што жоўты агеньчык свечкі стаў зусім няпэўны і непатрэбны. У сінім агні бліскавіц Гораў бачыў мярцвячы твар, укрыты кропелькамі поту...

---

[1] *Брэцёр* — заўзяты дуэлянт.

Увайшоў Іван, той самы, з якім Гораў размаўляў на пароме. Рэзкі чырвоны твар Іванаў, твар сапраўднага салдафона, быў мокры. З-пад салдацкай бесказыркі вісела пасма рэдкіх засівелых валасоў. І, нягледзячы на тое, што ён быў мокры, хоць выціскай, што з шыняля капала на падлогу вада, кожны пазнаў бы ў ім старога, бывалага салдата. Бо выраз ягонага твару быў выразам афіцыйнай адданасці і пачцівасці, праз які відочна праглядала лёгкая пагарда і свая, незамаскіраваная, думка аб усім.

— Чаго табе? — спытаў Леановіч.

— Ваша высакароддзе, вада прыбывае. Рака пайшла старыкам[1]...

Гораў мог бы пабажыцца, што на твары ў Леановіча мільганула радасць.

— Брашы больш, — з недапушчальнай фамільярнасцю[2] сказаў капітан, — што ж, за гадзіну залівені магло так раку наліць?

— Мабыць, у вярхоўях не адну гадзіну ліло, ваша высакароддзе. Вадамерная рэйка напалову пад вадою.

— Ну і што з таго?

— Праз паўгадзіны яна схаваецца ўся. Старык залье. Будзем на востраве.

— Ну і добра. Дні два можам не чакаць мяцежнікаў... Ідзі да д'ябла.

І, убачыўшы, што салдат усё яшчэ стаіць, спытаў:

— Ну, чаго табе яшчэ?

— Прахожыя могуць сунуцца ў ваду на звычайным пераездзе цераз старык... Дазвольце там каравул паставіць... Могуць патапіцца.

— Табе што да таго? — іранічна спытаў капітан. — Няхай не суюцца ў ваду, няхай варочаюцца ў Збароў і там начуюць... Ніякіх каравулаў.

— Слухаюся — ніякіх каравулаў, — сказаў Іван і выйшаў.

Леановіч яшчэ хвіліну маўчаў, гледзячы за акно, дзе ў сінім святле маланак буйна скакалі па зямлі густыя вадзяныя бізуны...

---

[1] *Ста́рык* — старое перасохлае рэчышча.

[2] *Фамілья́рнасць* — развязнасць, бесцырымоннасць.

— У вас ёсць народ, — ціха сказаў Гораў. — Ёсць павага да чалавека, любоў да яго. Хіба гэтага мала? Я ведаю, многа дрэннага робяць улады, але ж людзі не вінаватыя.

— Мы вельмі любім народ, — сказаў Леановіч, усміхаючыся краёчкам прыгожых губ. — Каб зручней залазіць яму ў кішэнь. Не-е, вы, Юрый Аляксандравіч, з вашай слінявай вераю ў чалавека ідзіце — ведаеце куды? Гэта быдла па галаве трэба біць. І ваша, і наша, і польскае, і ўсякае. Іншага яны не варты... Шкадаваць? Каго? За што? За тое, што яны мэкаюць і бобам сыплюць? За тое, што ў іх спіна прыстасавана для сядла? За тое, што іхнія зады самі пэндаляў просяць? Не-е, Юрый Аляксандравіч, будзем шчырыя... Ёсць мой мозг і мая рука, што кожнага здолее ўзяць за глотку. Я іду! Хіліся!.. І нікога не шкадуй для сваёй мэты... Пакуль у сілачку не ўваб'ешся — маўчы, слухайся і паступова прывучай усіх баяцца сябе... А там — не шкадуй. Ні жанчын, ні дзяцей. Ідзі па трупах, і добра табе будзе. З людзьмі ўсякія сродкі добрыя. Здрада, атрута, данос, а пасля нож, бізун, турма... І не трэба саромецца. Я не саромлюся. На прыгожыя словы — пляваць. Я такіх брыдот нараблю, што ўсіх ванітаваць будзе. Вас будзе ванітаваць, а я тым часам на кожнага пятлю накіну. І зацягну...

Жудасны чалавек сядзеў перад Горавым. Страшны, як шалёная рысь. І Гораў, не хочучы паказаць свайго адчування, няшчыра пазяхнуў і спытаў:

— Вы на французскую хваробу ніколі не хварэлі, капітан? Бо нешта мне здаецца, такія словы сведчаць аб размякчэнні спіннога мозгу.

— Нават слоў маіх баіцеся, — жорстка засмяяўся Пора-Леановіч. — Не, капітан, я не хварэў на французскую хваробу. Ніколі. І продкі мае не хварэлі. Зберагалі для мяне сваю сілу.

— Ішлі б вы лепей спаць, капітан.

— А вы што?

— Я не хачу вас слухаць. Я афіцэр. Што б я ні думаў, я звязаны прысягай і законамі гонару.

— Псу пад хвост, — сказаў Леановіч.

Ён устаў і шырока пацягнуўся, выпростваючы мускулы, засмяяўся:

— Галоўнае — стаць на той бок, які выйграе. Гораў адышоў ад стала, успёрся локцямі на падваконне і прыціснуў лоб да халоднага шкла.

Дождж ліў так, што ўся зямля ў сляпучым святле бліскавіц укрывалася сінім мільгаценнем кропель. Быццам поле нізкіх, ля самай зямлі, кветак вырастала і зноў згасала ў цемры. Білі грымоты. Нехта люта сваволіў, ломячы ў хмарах тоўстыя дрэвы.

Праз шум дажджу пачуліся шоргат колаў па хліпкай зямлі і глухія галасы.

Гораў угледзеўся ў цемру.

«Нехта прыехаў».

Ён накінуў плашч і выйшаў.

Сярод двара ў касым святле, што падала з акон, стаяла запрэжаная пара. Дымелі спіны замораных коней, а за імі ледзь вымалёўваўся цёмны сілуэт лёгкай брычкі з падузнятым верхам. Фурман, сівавусы чалавек, падобны ў плашчы на натапыраную птушку, завіхаўся ля коней. Ад маланак цень яго, вялізны і нягеглы, кідаўся ва ўсе бакі.

Фіранка брычкі адшмаргнулася, з-за яе ступіла на прыступку невялічкая нага. Жанчына, высокая і зграбная, у цёмным плашчы, стала проста ў ваду, якая плыла па ўсім двары, і азірнулася.

— Сюды, пані, — спяшаючыся з ганка ёй насустрач, голасна сказаў Гораў.

Ён адчыніў перад жанчынаю дзверы. Тая пераступіла парог і адкінула капюшон, мружачы вочы ад сляпучага — пасля цемры — агеньчыка свечкі.

Здзіўлены Леановіч глядзеў на жанчыну вялізнымі вачыма.

Глядзець было на што. Ніколі яшчэ Гораў не бачыў такога аблічча.

Густыя цёмныя бровы, якія здаваліся б амаль мужчынскімі, каб не агромністыя, як чорныя азёры, бліскучыя вочы і прыпухлы маленькі рот. Прамы невялічкі нос, мяккі авал трохі асіметрычнага аблічча, якому самая гэтая асіметрычнасць надавала дзіўны выраз мяккай жаночай пакорлівасці і адначасова ўладнасці, нават прывычкі ўладарыць...

— На той бераг, калі ласка, — сказала жанчына. Леановіч глянуў на гадзіннік. Было адзінаццаць.

— Сядайце, піце чай, — спакойна сказаў Пора-Леановіч.— Сымон, фурману шклянку гарэлкі. Коней — выцерці.

— Дзякуй вам за добрыя словы, але я не магу.

— Не пярэчце, калі ласка, — ветліва, але цвёрда сказаў Леановіч.

Жанчына прыўзняла на яго вочы, быццам здзіўленая гэтай нечаканай цвёрдасцю. Але ўсё ж паслухалася, села.

Гораў паспешліва згроб разам з абрусам рэшткі вячэры і выпіўкі. Адной рукой. Правая вісела на перавязі. Яна зусім загаілася, але не магла доўгі час вісець, зацякала.

Сымон паспешліва, відаць, з большай ахвотаю, чым для афіцэраў, збіраў на стол.

Увесь гэты час жанчына безуважна глядзела ў акно. І нават потым, калі пілі чай, не дакранулася да ежы, як ні прымушаў яе Леановіч. Толькі пагрэла рукі аб шклянку, глынула некалькі разоў гарачага чаю. Леановіч павольна і з відочнай асалодаю сёрбаў бурую ад заваркі вадкасць.

Калі Сымон прыбраў са стала, капітан зручна сеў, прыхіліўшыся спіною да сцяны, і, спытаўшы дазволу, закурыў.

— Дык чаго б вы хацелі, пані?

— На той бераг. Я вельмі спяшаюся, — усхвалявана сказала яна. — За ўсю дарогу я толькі тут на цэлую гадзіну затрымалася.

— Давядзецца чакаць да раніцы, — спакойна сказаў Леановіч.

— Чаму?

— Загад генерала Фікельмонта — уначы абараняць паром, не падпускаць чужых людзей. Тым больш цывільных[1]... Пераначуйце тут. Пакой мы аддамо вам.

— Мне нельга.

— Вельмі шкадую, пані. Загад Фікельмонта. Ваенны час, пані. Інсургенты.

— Я не інсургент. Я толькі жанчына, маці.

— Захварэла дзіця? — пацікавіўся Пора-Леановіч.

— Не. Я спяшаюся да мужа.

---

[1] *Цыві́льны* — невайсковы.

— Шкадую, пані, але дапамагчы не магу. Палявы суд — непрыемная штука. І ёсць загад Фікельмонта, — як малому дзіцяці, зычліва тлумачыў Леановіч.

— У мяне таксама загад. Яго сіяцельства. Прачытайце.

Ніхто не папрасіў назваць прозвішча. У гэты час на Беларусі было толькі адно «сіяцельства», падпарадкоўваючыся волі якога, рухаліся палкі, ганцы заганялі да смерці коней, людзі мучылі людзей.

— Так, загад Мураўёва, — сцвярджальна сказаў Леановіч, гледзячы на паперу.

Гораву здалося, што выгляд у Леановіча не вельмі здзіўлены.

— Ого, — сказаў Леановіч, — дык вы жонка Усяслава Грынкевіча. Таго?

— Але, — сказала жанчына, — вы ж бачыце, што я вязу памілаванне. Будзьце літасцівы. Замянілі пажыццёвай катаргай. Гэта такое шчасце! Такое...

Яна ўпершыню ўсміхнулася. Не было нічога прыгажэйшага за гэту ўсмешку...

Леановіч маўчаў, нешта абдумваючы. Зірнуў на гадзіннік. Машынальна глянуў і Гораў. Дванаццаць гадзін. Быццам у адказ, праз грымоты навальніцы данесліся глухія ўдары сабornай званіцы горада.

— І яшчэ адна прычына, — сказаў нарэшце Леановіч.— Вераб'іная ноч. Рака ўсхадзілася. Можна ўтапіць паром і вас. І людзей.

— Зразумейце, яго кожную хвіліну могуць забіць.

Гораў бачыў: яшчэ дзесяць хвілін такога катавання — і жанчына можа заплакаць. Другія на яе месцы плакалі б ужо.

Пора-Леановіч з той самай дагодлівасцю на сухім прыгожым твары накінуў на плечы жанчыне плашч.

— Выйдзем, пані... Гораў, хадзем з намі. Дождж пачынаў сціхаць, затое ўзняўся і гразіўся яшчэ больш памацнець вецер...

Рака шалела. Нізавыя парывы вятрыскі раскалыхалі вялікія, у рост чалавека, хвалі. Яны каціліся супраць плыні, шоргаючы белымі грабянцамі. Хвалі ішлі адна за адной, і процілеглы бераг губляўся ў чарнільнай навальнічнай цемры.

Але і адтуль, са змроку, далятаў усхваляваны, нізкі гук вады. Рака таўклася ў берагі, хочучы вырвацца з іх. Праз пляму святла на вадзе слізгануў па хвалях дзіравы кошык, потым — цэлае дрэва, яблыня, вымытая з карэннямі. Дзіўна было бачыць на яе галінах, апырсканых пенай, галінах, якія круціліся, то знікаючы пад вадой, то зноў выплываючы, два ці тры зеленаватыя яблыкі.

Леановіч моўчкі паказаў рукою, што трэба вяртацца ў пакой. Толькі там, у разамлелай цеплыні начнога чалавечага гнязда, ён сказаў:

— Вы самі бачыце, пані. Паром немінуча знясе. Пачакайце да раніцы.

— Але ён чакае, — сказала яна.

— Ён чакаў два месяцы. Некалькі лішніх гадзін нічога не паправяць, — абыякава, аж да здзеклівасці, сказаў капітан.

«Не можа ж ён не разумець яе становішча, — думаў Гораў. — Што гэта? Здзек або халодная подласць?»

Жанчына, здавалася, не заўважала інтанацый Леановіча.

— Для асуджанага кожная гадзіна чакання — гэта лішнія маральныя пакуты, — проста і сурова сказала яна. — Вы ведаеце гэта...

— Вы можаце загінуць пры пераправе.

— Я не баюся гэтага.

— Я за вас таксама не баюся, — спакойна сказаў Леановіч.— Але я адказваю за жыццё салдат. У іх таксама жонкі.

— Я магу паехаць з ёю, — нечакана для самога сябе сказаў Гораў.

— Вы адзін не здолееце, — са спакойнай усмешкай на прыгожых і жорсткіх вуснах сказаў Пора-Леановіч. — Не звяртайце ўвагі, пані. Гэты парыў сведчыць аб добрым сэрцы, але ў капітана Горава раненая рука... у бітве з інсургентамі.... Дарэчы, у гэтай бітве ён паказаў сябе героем.

Гэта быў несумленны ўдар, але Гораў змаўчаў: ён не хацеў сказаць, што ранены пад Ракавам, а не тут, ён наогул не хацеў апраўдвацца.

— Так, — сказаў ён, — але можна спытаць у салдат, хто захоча.

— Салдацкая самадзейнасць? — спакойны тон Леановіча межаваў са здзеклівасцю. — Ну, не... А адказваць — мне.

— Мне здаюцца падазронымі вашы паводзіны, — сказаў Юрый.

— Капітан Гораў, — не павышаючы голасу, сказаў Леановіч. — Я забараняю вам... Вы пакуль што падначалены.

Гораў змоўк. Ён зразумеў, што капітана не зрушыць, што ён мацнейшы за каменны мур. І такі ж раўнадушны.

— Я паплыву, — сказала жанчына, — я добра плаваю.

Зірнуўшы на яе рашучы твар, Гораў зразумеў, што гэта не пустая пагроза.

— Я не дазволю вам гэтага, — сказаў Леановіч. — Вы забылі, што я мужчына і, воляй лёсу, адказваю за жыццё дамы, за ваша жыццё.

— Вы мужчына? — горка сказала яна. — Сапраўдны мужчына сам паплыў бы са мною, калі не хоча рызыкаваць салдатамі і гэтым паромам. Вы проста баязлівец.

— Я дзесяць разоў стаяў на бар'еры пад кулямі, — рэзка сказаў Леановіч. — І я тройчы ранены на вайне.

Яна кінулася да яго, потым бяссільна апусцілася на лаўку.

— Майце літасць, пан капітан.

Слухаць маўчанне, якое настала пасля гэтых слоў, было нясцерпна. Гораў выйшаў на ганак і доўгі час стаяў, затуліўшыся ад халоднага ветру, за рогам хаты. Потым, ледзь вырываючы ногі з раскіслага глею, пайшоў да брамы пад рэдкім, як слёзы, дажджом.

Далёкія чырвоныя бліскавіцы ўсё яшчэ ўспыхвалі на вяршынях чорных вольхаў. Вецер не сціхаў. Рака ўтрапёна плёскалася пад адхонам.

Гораў абышоў пасты — усюды яго сустракалі воклічамі. Кардон не спаў.

...У гадзіну ночы, агледзеўшы ўсё, што трэба і не трэба, Гораў усё яшчэ хадзіў пад дажджом.

Падыходзячы нарэшце да ганка паўз асветленыя вокны хаты, ён убачыў у акне твар Леановіча, жахлівы, відавочна пастарэлы твар. Леановіч глядзеў у цемру.

У акне бакоўкі Гораў убачыў постаць жанчыны. Тая кідалася ў бакі, як зняволеная. Стала, ударыла кулачком па печцы.

Гораў апусціў галаву. Яму не хацелася больш ісці ў хату.

Зноў рака, зноў відовішча звар'яваных хваль. Зноў двор, — чортаў дождж, плашч пачынае прамакаць! — зноў месца за рогам і агеньчык запалкі ў руцэ.

Палова на другую.

Якраз у гэты час Грынкевічава выйшла на ганак. За ветрам Гораў невыразна пачуў:

— Божа, Божа, Божа...

За яе спіною з'явіўся ў цемры аранжавы прастакутнік дзвярэй і ў ім — цёмная постаць.

— Зайдзіце ў пакой, — зычліва ледзяным голасам сказаў Леановіч, — я адказваю за вас.

Яна нехаця паслухалася, і Гораў, адчуваючы, што зараз можа адбыцца нешта жахлівае, пайшоў за імі ў пакой, зноў убачыў змучаны, без крывінкі, твар.

— Майце літасць...

І раптоўна ўся сіла гэтай натуры, уся яе палкая страснасць выбухнула парывам гора, падобнага чымсьці на экстаз:

— Няўжо ў вас не было кахання... хоць маленькіх успамінаў?! Яшчэ тры гады таму ён быў толькі маім жаніхом! Разумееце вы, ці ў вас лядзяш замест сэрца?! Быў май, і мы гулялі ў гарыпні... Такі смех быў над паплавамі... А цяпер ён заўчасна сівы, змучаны. Яму нельга!..

І гэтыя словы вярнулі яе да прытомнасці.

— А-а-х-х, вы! Чаго вы варты? — з невымоўнай пагардай сказала яна. — Фронт забіў вашу душу.

Вы не разумееце нават, што ён не за сябе, што ён за народ, за вас, за гэтых бедных людзей. Ён не дзеля грошай, не дзеля ўлады. Ён чысты, як... неба. Каб народ быў вольны. Гэта і ваш народ, пан капітан... Воля патрэбна ўсім. А нам, беларусам, рускім, палякам, — больш за ўсіх. Бо мы штодня без яе паміраем у пакутах.

Твар Леановіча скрывіўся нейкай жудаснай грымасай:

— Пані, я адпраўлю вас не на другі бераг, а з аказіяй[1] у Магілёў, калі пачую яшчэ хоць слова ў гэтым стылі.

Жанчына паківала галавой:

— Які ж вы нізкі чалавек!

Ляснулі за ёю дзверы бакоўкі...

---

[1] *Ака́зія* — зручны выпадак для якой-небудзь справы.

Але на вуснах у начальніка кардона зноў з’явілася прыязная і страшнаватая ўсмешка.

— Капітан, — сказаў ён, — гэта, здаецца, вас прыставілі наглядаць за мною, а не мяне за вамі. Мне здаецца, яны зрабілі дрэнны выбар.

Гораў аслупянеў. Ён ніколі не ведаў, ніколі нават не мог падумаць, што на яго можа ўпасці такое падазрэнне. Ён стаяў, моўчкі хапаючы ротам паветра. Бялявыя хвалістыя валасы прыліплі да спатнелага лба, глыбокія сінія вочы сталі жаласныя.

Быццам атрымаўшы ўдар пад грудзі, ён з хвіліну моўчкі хапаў ротам паветра, а потым кінуўся прэч з пакоя.

Стоячы за рогам хаты, адчуваючы, як мокры ліст высокай вяргіні часам гладзіць яго па шчацэ, ён у думках пагражаў Леановічу самай жахлівай помстай і ў той самы час ведаў, што нічога ён яму не зробіць, што гэты брэцёр з халоднымі вачыма робіць правільна, затрымліваючы жанчыну да раніцы, што на баку гэтага чалавека — права, права вайны, якой яны абодва служаць…

Было дваццаць хвілін на трэцюю.

Ля плота, непадалёк, стаяў Іван, трымаючы нешта за пазухай.

Гораў глыбока ўздыхнуў — нясцерпна было вось так, аднаму, стаяць у цемры — і падышоў да яго. Салдат трымаў за пазухай адну руку. На яго цёмным твары блішчалі вочы пад кашлатымі бровамі.

— Што гэта ў цябе?

— А галчаняткі… бедныя. Познія, — сіпатым голасам сказаў Іван.— Гняздо раскідана. Страшная штука ўраган. Дзе хавацца? На якой зямлі?

Яны памаўчалі. Іван глядзеў за пазуху.

— Ты адкуль, Іван? — ціха спытаў Гораў.

— Маскоўскі.

— Землякі, — з нечаканай для сябе пяшчотай сказаў Юрый.

Зноў запанавала маўчанне. Толькі шапацеў па дзядоўніку дождж…

— Галчаняткі вы… дурныя. Бач, вачыма лыпаюць.

І раптам Гораў, амаль нечакана для сябе, сказаў:

— Іван, як пераправіцца цераз раку?

Іван спадылба глянуў на афіцэра, павагаўся, а потым адказаў:

— Яно можна.

Тон ягоны быў не зусім упэўнены.

— Ты не думай, — заспяшаўся Гораў. — Я сам з табою паеду...

— Вядома, загад, барын, іначай нельга, — сурова сказаў Іван. — Можна б і ў начальніка кардона спытаць, але ён, відаць, заснуў.

І дадаў:

— Мы човен схавалі.

— Човен? Як асмеліліся? А загад?

— А адкуль у вас рыба ў юшцы? — амаль груба спытаў салдат. — Што ж нам, на кашы сядзець? Калі самі сабе не паможам...

— Добра, добра, — сказаў Гораў і пасуровеў. — Што ж, Іван, са мной паедзеш?

— Цяжка ўтраіх, — уздыхнуў Іван, — але паспрабаваць трэба.

— Едзем.

— Ну-к, што ж, — Іван памаўчаў, потым падаў голас камусьці ў цемру: — Сідар, а Сідар, галчанятак вазьмі...

Гораў ужо цёпаў прэч ад яго па глыбокай гразі. Спыніўся пад акном бакоўкі, паскроб у шкло пальцам. І амаль адразу ўбачыў за каламутнымі шкельцамі яе твар з пашыранымі вачыма. Гораў прыклаў палец да губ, і яна здагадалася, бязгучна расчыніла акенца.

— Збірайцеся, — шэптам сказаў ён, — і дзьмухніце на свечку: хай думаюць, што вы спіцё.

Бакоўку адразу агарнула цемра. Белы твар наблізіўся да вачэй Горава.

— Памажыце мне.

Дзве цёплыя рукі абвілі шыю Горава. Падтрымліваючы жанчыну за стан, ён павольна пацягнуў яе на сябе — акенца было вельмі вузкае. Перагнуўшыся назад, ён адчуў, як на яго ключыцы ляглі цвёрдыя жаночыя грудзі. У наступную хвіліну яна стаяла поруч з ім.

— Дайце мне руку, — шэптам сказаў ён, — хадзем.

Маленькія цёплыя пальцы ўсунуліся ў яго далонь. Гораў, спяшаючыся, павёў жанчыну да берага, спачатку амаль на дыбачках, потым бягом…

— Іван, дзе ты? — шапянуў ён, нахіліўшыся з адхону.

— Тут, — прагучаў сіпаты голас.

Салдат стаяў на невялічкай утаптанай сцежцы.

— Хутчэй, — сказаў ён, і яны ўсе пабеглі берагам да высокіх зараснікаў лазы.

…Гораў трапіў нагою па калена ў ваду, балюча накалоў руку на сухую і вострую, як косць, лазіну ў гушчары. Іван узяў жанчыну з рук Горава і, занадта гучна боўтаючы нагамі па вадзе, панёс яе некуды ў нетры прыдоннай лазы.

— Ёсць, — сказаў ён, вярнуўшыся, — дайце руку.

І пацягнуў Горава.

Ударыўшыся каленямі аб борт чоўна, Гораў пераваліўся ў хісткую пасудзіну.

— Чакайце, — буркнуў Іван, — толькі сцябла схаваю.

— Якое сцябла?

— Ну, тутэйшае слова, латок, на які нерат[1] укладваюць… Хлопцы, калі згубім, не пахваляць.

Ён яшчэ з хвіліну вазіўся ў лазе, як вялізны бабёр, потым сунуў у руку Горава вясло.

— А другое?

— Гэта вам не катанне на Яўзе… Тут адным трэба ўпраўляцца. Вяслуйце ў самага борта, а потым злёгку падайце канец убок і ўгору.

— Дайце я, — сказала жанчына, — ён не ўмее.

— Сілы пашкадуй, дзіцятка, — грубым голасам сказаў Іван. — Да конскіх могілак дзве вярсты… у цемры.

Конскімі могілкамі называлася месца, ля якога стаяла гаўптвахта.

Іван моцным штуршком выкінуў човен з лазы. І адразу — спачатку слаба, потым мацней — пасудзіну пачало гайдаць, а потым кідаць на хвалях.

— Чорт, — сказаў салдат. — Наўскос бяры, не стаў бокам да хвалі.

— Нічога не бачу.

---

[1] *Не́рат* — рыбалоўная прылада.

Бледная бязгучная маланка якраз у гэту хвіліну заліла няпэўным дрыготкім святлом абшар Дняпра, пасівелага ад ярасці, імклівыя грабянцы хваль, далёкі чорны бераг. Вёслы Горава і Івана апусціліся ў ваду, ружовую ад святла бліскавіцы. І адразу вада стала чарнільнай, а на людзей цяжка наваліўся змрок. Потым, быццам хочучы памагчы, неба разпораз пачало раздзірацца ўспышкамі святла. Гораў бачыў твар жанчыны, якая з прагай, з чаканнем, зусім без усведамлення небяспекі, толькі з імкненнем наперад, да волі, глядзела на другі бераг, які амаль не набліжаўся.

Шкарлупінку кідала ў правалы паміж хваль, вецер адкідваў цёмны шаль на жанчыне, як вялізныя імпэтныя крылы...

Гораву здавалася, што гэта цягнецца вечнасць, што цемры і страшным ударам у борт душагубкі ніколі не будзе канца. Човен, пэўна, моцна адносіла.

І ўсё ж надышоў момант, калі хвалі сцішыліся, шкарлупінка плаўна загайдалася ў зацішку, за высокай касой процілеглага берага.

— Ну, барын, — уздыхнуў Іван, — думаў, патонем.

— Мы не маглі патануць, — упэўнена сказала яна. — Як жа нам патануць, калі мы неслі жыццё.

Слізнучы на чорнай гліне абрыву, яны ўзвялі жанчыну на роўнае месца.

— Ідзіце, — сказаў Іван, — туды... Мы не можам праводзіць вас...

І цень жанчыны паглынуў змрок...

...Гораў спусціўся ўніз і знайшоў пад адхонам Івана. Нацягнуўшы са стажка сухога сена, той наклаў на яго сухіх леташніх галін лазы, прыплаўленых у повень Дняпром, і паспеў раскласці ў лагчынцы невялічкае, але зыркае вогнішча.

— Сушыцеся, — сказаў ён, — потым самі будзеце веславаць. Я пераплыву... Не трэба, каб нас бачылі разам, ваша высакароддзе.

Яны моўчкі сушылі вопратку каля агню. А пасля, калі размялі рукамі сухую, пакарабачаную тканіну, заўважылі, што над Дняпром толькі завязаўся світанак.

У гэтым жаўтавата-шэрым брудным святле вялікая рака сціхла, быццам засаромеўшыся таго, што нарабіла ў

мінулую ноч. Усё яшчэ было ветрана, але нізавы вецер даў месца верхавому, і той сагнаў хвалю, разгладзіў сваім подыхам нахмураную паверхню ракі. Яшчэ падалі кроплі дажджу, але відно было, што дзень хутка ўсміхнецца ўсімі сваімі прамытымі і цёплымі барвамі[1]. Ды і дождж быў такі рэдкі, што незразумела было: ці то падалі скупыя кроплі, ці небывала дружна хадзіла жорам верхаводка.

Іван скруціў вопратку ў вузел і, трымаючы яе на паднятай руцэ, сказаў:

— Дык я паплыву, ваша выскароддзе... Прыйду потым на кардон паплавамі.

І сказаў, быццам даравання прасіў, быццам не афіцэр падбіў яго на процізаконны ўчынак:

— Вайна вайною, а баб шкада... Вельмі баб шкада...

...Калі Гораў, не зусім спрытна валодаючы вяслом, перабраўся цераз Дняпро і паплыў каля нізкага берага, дзень вось-вось павінен быў перамагчы світанне. Раскашавала мокрая лаза, цяжкія някошаныя травы на берагах дымелі, з улоння Дняпра плыла сытая па́ра, як ад вядра з сырадоем.

«Божа, — падумаў Гораў, — нават рэкі цякуць малаком. І на гэткай зямлі, поўнай даброшчаў, паміраць? І такой светлай раніцай чакаць смерці? Ну не, няхай хоць на дзве гадзіны скараціць такое чаканне — і то добра. Я не шкадую».

За павароткаю ракі адкрыўся, зусім непадалёку, кардон. На паромным прычале стаяў, успёршыся на балясы[2], млявы Пора-Леановіч з цыгаркаю ў зубах.

Паплёўваў у ваду. Іранічным позіркам глядзеў на човен, які набліжаўся, выплываў з імглы.

Гораў прывязаў човен у лазе, выбраўся з яе на сухі бераг і пайшоў паўз прычал. Леановіч глядзеў на зграбную постаць маладога чалавека нейкімі дзіўнымі, саркастычна-пагардлівымі вачыма. І гэтыя вочы прымусілі Горава зрабіць выгляд, што нічога не было, што яны толькі што развіталіся.

— Баюся, што вы дарэмна пайшлі на парушэнне прысягі, капітан Гораў.

---

[1] *Ба́рва* — колер; густа-чырвоны колер.

[2] *Баля́сы* — агароджа з точаных фігурных слупкоў.

Юрый спыніўся. Вочы яго спакойна сустрэлі позірк вачэй Леановіча.

— Тут не прысяга. Вайсковы загад не можа датычыцца жанчыны, якая вязе літасць свайму мужу. І той не афіцэр, хто не паможа жанчыне ў такіх абставінах.

— Вы яшчэ хлопчык, капітан... І як лёгка яна вас абдурыла.

— У яе загад графа Мураўёва.

— Святая нявіннасць...

— У яе загад. І нельга гуляць жыццём памілаванага.

На вуснах Пора-Леановіча з'явілася іранічная ўсмешка.

— Вы лічыце, што наш граф так лёгка выпускае з пятлі людзей?

— Н-не разумею вас.

— Яму проста апрыкралі жаночыя просьбы. Яму да слёз хочацца, каб яго лічылі высакародным, каб хоць адна прыгожая жанчына лічыла вылюдкам не яго, а Фільку.

— Што?

— Ён замяняе страту пажыццёвай катаргай і пасылае жанчыну. А за дзве гадзіны да гэтага з губернатарскай поштай пасылае фельд'егера[1], каб на месцы паспяшаліся.

Гораў сцяў зубы:

— Калі гэта праўда, то ён падлюга.

— Ён чалавек, — сказаў Леановіч. — Чаго ад людзей чакаць?

— Што далей? — сурова спытаў Гораў.

— Жанчына, відаць, не шкадавала грошай: яна ехала, наступаючы яму на пяты. Як яна магла зрабіць такую дарогу за сорак восем гадзін — не ведаю. Гэта трэба быць жалезным чалавекам... І ўсё ж фельд'егер вырваўся з апошняй станцыі, узяўшы апошняга каня. Ён апярэдзіў яе не больш чым на дзве гадзіны.

Твар Горава быў белы як палатно.

— Не лічыце графа дурным, — раўнадушна сказаў Леановіч.

Ён памаўчаў хвіліну.

---

[1] *Фельд'е́гер* — ваенны кур'ер.

Гораў не мог болей вытрымаць:

— Дзе той фельд’егер?

— Вы самі яго перавезлі цераз Дняпро надвячоркам... Гэты ўлан прывёз мне загад: што б там ні было, затрымаць гэтую жанчыну да трох гадзін раніцы. Хопіць, каб прыняў апошнюю літасць ад ката, памаліўся апошнюю ноч і ўдосталь пакачаўся на шворцы[1].

— А ў яе вечныя пакуты сумлення, што спазнілася на паўгадзіны?

— Магчыма, — сказаў Леановіч.

— Ну што ж, — сказаў Гораў, — я парушыў ваш план — яна ўсё ж паспее. І гэта дрэнна — што вы зрабілі, гэта вельмі несумленна.

— Не мне ж іх шкадаваць. Як кажуць, воўк ваўку — чалавек. А вы парушылі абавязак і гонар афіцэра.

— Гонар афіцэра не ў тым, каб быць катам, — ускіпеў Гораў. — А жанчына паспее, яна не можа не паспець.

Леановіч не слухаў яго:

— Для самазаспакаення думайце, што гэты інсургент быў крыклівы кар’ерыст, а яго жонка — распусніца.

— Гэта ганебна, тое, што вы кажаце.

— Ідзіце па трупах, дарагі Гораў. Ідзіце па трупах... А пакуль што... — Ён пазяхнуў. — Пакуль што ідзіце лепей выспіцеся... Бадай што, і я пайду.

Падсвядома, нейкімі глыбінямі душы Гораў разумеў, што гэты чалавек падобны на сціснутую спружыну, якую лёгка выпусціць з палону, і тады яна б’е — да смерці. Не варта было рызыкаваць, калі апошняя дзея ўсё ж асталася за ім, Горавым. Юрый як мага спакойна паглядзеў у яго лянівыя вочы, поўныя жахлівай пагарды да ўсяго і пустаты, на рэзкі шрам паўз брыво.

— Бадай што, ваша праўда, — сказаў ён, — я добра папрацаваў у тыя дзве гадзіны, што вы спалі. Трэба адпачыць.

І ён пайшоў угору, да паромшчыкавай хаткі. Пора-Леановіч глядзеў яму ў спіну цяжкім позіркам.

Гораў спаў да дзесяці гадзін. Калі ён, умыты, ружовы ад сну і заспакоены, выйшаў з хаты на бераг, дык убачыў

---

[1] *Шво́рка* — вяровачка, павадок.

Леановіча ў той самай паставе — ён стаяў, абапёршыся на парэнчы паромнага прычала. Цыгарка дыміла ў яго тонкіх спакойных губах, быццам не гадзіны прайшлі з іх ранішняй размовы, а толькі некалькі імгненняў. Юрый стаў ля парэнчаў, за некалькі крокаў ад яго.

— Выспаліся? — спытаў ён.

— Анягож, — быццам нічога паміж імі не адбылося, адказаў Леановіч.

— Ну вось і добра, — сказаў Гораў, — зараз снедаць будзем. Сымон ужо і гарэлку на стол паставіў... Чаму не пагаманіць пра месца чалавека на зямлі?

Леановіч пакасіўся на яго:

— Сумленне ў мяне, пан Юрый, спакойнае, чаму і не пагаманіць.

Яны моўчкі стаялі. Леановіч паплёўваў у ваду. Гораў абдзіраў кару з ліпавага прутка.

На процілеглым беразе, над адхонам, з'явілася лёгкая параконная брычка. Фурман, асцярожна трымаючы коней за аброць, заводзіў яе да пераправы. Колы брычкі небяспечна падскаквалі па размытых каляінах. На заднім сядзенні сядзеў нехта ў вайсковай форме.

— Трэба будзе даслаць салдат, каб падправілі спуск, — абыякава сказаў Леановіч. — І каго гэта яшчэ нясе?..

Зрок у Горава быў не горшы, чым у сапсана[1].

— Учарашні ўлан едзе, — сказаў ён і не стрымаўся: — Мазалі, відаць, набіў на паўшар'ях, як пірагі.

— Гэ-эй! — пралунаў над ракою зычны голас. Афіцэры стаялі моўчкі. Перад імі плыла імкліва-спакойная скаламучаная плынь. Дзень раздумаў пагодзіцца, і светлаватыя хмары віселі над ракой.

— Гэ-эй! — крычалі з таго боку два галасы. — Па-ро-ом, па-ром, паром!!!

Леановіч ляніва павярнуўся да Івана.

— І чаго гарлаюць? — незадаволена сказаў ён. — Бяры, Іван, трох салдат і перавязі гэтых гарлапанаў сюды.

— Хто з афіцэраў паедзе, ваша высакароддзе?

— Ніхто, — сказаў Леановіч.

---

[1] *Сапса́н* — сокал.

...Увесь час, пакуль паром пераплываў раку, афіцэры стаялі моўчкі.

І толькі калі ўлан падышоў да іх і адказыраў, Леановіч спакойна кінуў недакурак цыгаркі ў раку і адразу ж закурыў новую.

Улан стаяў перад імі, кучаравы («Ванька-ключнік», — падумалася Гораву), з румянымі вуснамі і нахабнымі светлымі вачыма.

— Паспеў? — спытаў Леановіч.

— Так точна.

— Што новага?

— Генерал Фікельмонт выказвае вам удзячнасць за дасканала выкананы загад.

— Што? — яшчэ нічога не разумеючы, спытаў Гораў.

Улан стаяў «струнка», але з той няўлоўнай вольнасцю, якая ўласціва фельд'егерам і дазваляе думаць аб лёгкай пагардзе да «пехтуры», хоць бы і афіцэраў.

— Папа клікаць не давялося, — усміхнуўся ўлан, — але апошні ліст напісаў.

— Дзе было пакаранне смерцю? — спакойна спытаў Леановіч. — Стойце вольна.

Улан трошкі адставіў нагу.

— За абвахтай, — сказаў ён. — На конскіх могілках. А палове чацвёртай.

У Горава як абарвалася нешта ў грудзях. Белы, як снег, ён спытаў:

— Жонку бачылі?

— Так точна. Спазнілася хвілін на дзесяць. Яна амаль да абвахты падышла, а тут на задворках як каленкор ірванулі... То яна бегла, а тут пайшла, як сонная... А гэты, вядома, яшчэ цёплы быў.

— Плакала? — спытаў Гораў.

— Не, зусім не плакала. Толькі і сказала: «Божа, пакарай іх...» Не шкадавала. Я б такую бабу, што мужа не шкадуе, кожны дзень лейцамі аходжваў.

— У цябе тваёй думкі не пытаюць, — суха сказаў Леановіч.

— Дазвольце ісці?

— Ідзі.

Фельд'егер скочыў у брычку. Коні пацягнулі яе на адхон, слізгаючы капытамі і ссоўваючы ўніз чырвоны, як кроў, глей.

Потым колы заляскаталі паўз хату, па паплаўцы за ёю, па беразе старыка.

А потым брычка знікла.

Леановіч нахіліўся над вадой і спакойна сплюнуў у раку недакурак цыгаркі.

Тонкі нясцерпны звон напоўніў вушы Горава. Ён мацнеў, мацнеў, мацнеў. Адчуваючы, што прытомнасць знікае кудысь, Гораў варухнуў непаслухмянымі вуснамі. Голас, на яго здзіўленне, быў моцны і звонкі.

І тады, ступіўшы крок наперад, Гораў выразна адчаканіў:

— Капітан Пора-Леановіч, вы нягоднік.

Леановіч рэзка павярнуў галаву, адарваўся ад парэнчаў. Яго халодныя вочы з цікавасцю разглядалі Горава.

— Гораў, вы забыліся на туз, — холадна сказаў ён.

— Вы падлюга і нягоднік! — сказаў Гораў.

— На тры крокі, — іранічна сказаў Леановіч. — Каб разбэшчаная знатнасць не абражала нявіннасці і чысціні.

І раптам пасур'ёзнеў, на гладка выгаленых шчоках набраклі каменныя жаўлакі.

— Што ж, гэтым рана ці позна павінна было скончыцца. Мы занадта перашкаджалі адзін аднаму... Зайдзіце ў хату, вазьміце стрэльбу і чакайце мяне на сцежцы ў Турск, ля вярбы. Я вас даганю... Раю ўлічыць, мы ідзём на сяброўскае паляванне. На качак.

І спакойна павярнуўся да Горава спіною. Нават не паглядзеў на яго, калі той накіраваўся да хаты...

Яны ішлі рука да рукі, як сябры. Ніхто, нават вартавы ля пераправы цераз старыцу, не мог бы падумаць, што гэта не ўчарашнія камрады[1], а ворагі. Леановіч дружалюбна падтрымліваў Горава, калі яны ішлі кладкаю.

Хата паромшчыка знікла за густымі вербамі, пад якімі ляжала старыца. Хлюпаючы ботамі, яны ішлі далей і далей у лугі. А над імі высока вісела шэрае нізкае неба.

— Пойдзем да Камарына. Там зручней.

---

[1] *Камра́д* — таварыш.

Камарынам звaўся другі старык, другое старое рэчышча Дняпра — доўгае і вузкае возера ў лугах. Яго здалёк адзначалі цёмна-зялёныя шапкі дубоў. Гораву было ўсё адно куды ісці, ён ведаў, што гэта яго апошняя дарога, і таму згодна кіўнуў галавой.

Пора-Леановіч са спакойнай усмешкай сказаў:

— Біцца будзем без секундантаў. На гонар. У ваенны час за такую справу, якой мы хочам заняцца, пагражае цытадэль. Таму той, каму пашанцуе забіць другога, не павінен гаварыць пра дуэль, або, як казалі продкі, двабой. Забітага — на інсургентаў.

Гораў прагна дыхаў вільготным паветрам, тым паветрам, якое ў дні жніўня выразна прадчувае раскошную цёплую восень.

Крычалі кнігаўкі, малілі аб вадзе, хоць яе досыць было на залітых лугах. І іхні енк аддаваўся недзе глыбока пад сэрцам.

— Пі-іць, пі-іць, — крычала адна, але Гораву здавалася, што гэта яна ў смяротнай скрусе плача — жы-ыць, жы-ыць.

Няўжо можна проста хадзіць па лугах, не думаючы, што чакае смерць? Вось качка ўзнялася з сітнягоў, паказала рабую грудзіну. Напэўна, сэрца яе абарвалася ад жаху, калі яна ўбачыла за спінамі людзей трубкі, што вывяргаюць полымя і смерць. Адкуль ёй было ведаць, што людзі занятыя больш важнай справаю.

— У вас правая не ў парадку. Не пужайцеся, я таксама буду левай.

— Я не пужаюся, — сказаў Гораў і, хоць зусім не думаў пра гэта, дадаў з паважнасцю: — Я хачу толькі хутчэй стрэліць у вас. Вы мне абрыдлі.

Недзе далёка скупы прамень сонца прабіўся праз хмары і палажыў на мокрай траве ізумрудную пляму. Каржакаватыя дубы над Камарынам патыхалі вільгаццю. Бліснула стужка затокі.

Здзічэлы конь — іх многа было ў тое лета — чуйна ўзняў галаву ад вады (з цёмных шэрых губ падалі кроплі) і кінуўся прэч. Коні баяліся людзей. Ад людзей пахла не хлебам, а крывёю, як ад ваўкоў.

— Досыць, — сказаў Пора-Леановіч, — далей не пойдзем. У выпадку чаго будзем казаць, што забілі з хмызоў пад дубамі.

Хмызы былі крокаў за дзвесце. А вакол былі мокрыя лугі з высокай перастаялай травой.

Леановіч дастаў з ягдташа[1] скрыначку з дуэльнымі пісталетамі.

— Мае, — сказаў ён, — дагледжаныя, выбірайце першы лепшы.

І, кінуўшы на зямлю плашч, пачаў мерацць ад яго крокі.

— Дзесяць крокаў, спадзяюся, не многа? — са злоснай іроніяй спытаў ён.

Гораў сурова кіўнуў галавою.

І ад бар'ера яшчэ пяць крокаў, на падыход.

Яны разышліся на крайні след.

— Па першаму крыку кнігаўкі, — крыкнуў Леановіч.

За дваццаць крокаў, зусім блізка, Гораў бачыў постаць ворага з пісталетам у апушчанай руцэ. Бачыў страшныя блакітныя вочы, прыгожы рот, сціснуты ў змрочнай і жорсткай усмешцы. І ён ведаў, што, як бы ні хацелася жыць, ён, Гораў, не стане на бар'еры бокам да ворага, не захіліць грудзей пісталетам, хоць правілы дуэлі і дазваляюць гэта. Бо было нешта большае за страх, які жыў у ім.

Кнігаўкі, спуджаныя крокамі, стаіліся, але потым пачулі цішыню і пачалі ўзлятаць.

Каўкнула першая.

— Пара, — сказаў Леановіч.

Гораў пайшоў, уздымаючы пісталет. Як праз сон, ён бачыў усё бліжэй і бліжэй пустыя блакітныя вочы.

Крок. Яшчэ крок. Яшчэ.

Мокрыя травы пакідалі на ботах бледна-зялёныя сцяблінкі і пялёсткі перастаялых кветак. І Гораў з жахлівай выразнасцю, як ніколі ў жыцці, бачыў гэта.

І яшчэ бачыў, як са спакойнай усмешкай ішоў на яго вораг і ягоны пісталет быў амаль ужо на ўзроўні грудзей.

І тады, ведаючы, што даволі ісці, што гэта апошняя хвіліна жыцця, і пакутуючы гэтым, не шкадуючы ні аб чым,

[1] *Ягдта́ш* — паляўнічая сумка.

Гораў удыхнуў гаркаватае паветра і, не цэлячыся, націснуў курок.

Лёгкі дымок празрыстым камячком вэлюму паплыў на ўзроўні яго вачэй. Праз гэты дымок здзіўленыя вочы Горава ўбачылі, як Пора-Леановіч тарганууся наперад, быццам наткнуўся грудзьмі на нешта нябачнае, і стаў.

Хіснуўся, неяк дзіўна заводзячы руку з пісталетам і гледзячы на Горава. А потым моцным узмахам рукі адкінуў свой пісталет у балоціну.

Нейкая страшная сіла хіліла да зямлі яго дужае цела. Ён змагаўся, але яна паставіла яго на дрыготкія калені і потым шпурнула на траву сваёй магутнай рукой.

І Гораў кінуўся на дапамогу, забыўшы ўсё: ірвануў мундзір, раздзёр сарочку на грудзях і ўбачыў нізка пад левым саском маленькую круглую ранку.

Гэта было зусім не страшна, толькі адна-дзве кроплі крыві. Але Горава здзівіла не гэта. Яго здзівілі вочы Леановіча, у якіх цяпер не было пустаты, а было мярцвянае здзіўленне.

Леановіч варухнуў вуснамі.

— Пісталет... пісталет у багну, — заспяшаўся ён. Здзіўленыя, неяк па-дзіцячы светлыя вочы спыніліся на Гораве, які калаціўся ад непапраўнасці зробленага.

Пора-Леановіч засноўдаў рукамі па грудзях і раптам, на апошнім дыханні, сказаў ясным і чыстым голасам:

— Дзякуй вам... Дзякуй...

Потым ягоныя вусны замерлі, а позірк здзіўлена і безуважна спыніўся на шэрым небе, пад якім усё яшчэ лёталі і малілі аб літасці кнігаўкі.

— Усё, што я вам расказаў, — праўда, — сказаў Гораў.

Гэта было праз два дні пасля двабою. За кардонам, у лугах, непадалёк ад той вярбы, ля якой яны стрэліся ў дзень дуэлі, стаяла на збароўскай дарозе добра знаёмая параконная брычка. Жанчына ў чорным сядзела на заднім сядзенні, прылажыўшы да рота чорную карункавую[1] хустачку. Гораў стаяў адной нагою на прыступцы брычкі. У абаіх былі празрыстыя ад бледнасці твары.

---

[1] *Кару́нкі* — ажурныя, сятчастыя вырабы з ільняных, шаўковых і іншых нітак для аздобы бялізны, адзення і падобнага.

— Вам не варта паказваць жалобу, — сказаў Гораў, — вы ж ведаеце, што Мураўёў забараніў насіць жалобныя ўборы, ён і тут бачыць жалобу не па забітых, а па радзіме. Вас могуць з гэтай прычыны абразіць на дарозе...

Ён падняў на яе веі і ўбачыў вялізныя змучаныя вочы.

— Мне ўсё адно, — сказала жанчына.

— І ўсё ж накіньце плашч другога колеру. Пасты на дарогах падвоены з прычыны забойства афіцэра.

— Вы расказалі мне жахлівую рэч, — сказала жанчына.— Я і сама здагадвалася, што з гэтым мураўёўскім памілаваннем не ўсё добра. Зараз я пераканалася ў гэтым. Але чаму цяпер менавіта вы начальнік кардона?

— Я ж казаў: пасты на дарогах падвоены з прычыны забойства капітана Пора-Леановіча.

— Хто яго забіў? — уважліва гледзячы на Горава, спытала жанчына. — Няўжо інсургенты зноў з'явіліся?

— Яго забіў я, — цвёрда і сумна сказаў Гораў. — Не трэба непакоіцца. Мы страляліся на сумленнай дуэлі.

— Не варта было. Ён толькі выконваў загад.

— Варта было, — сказаў Гораў, — для яго самога.

Жанчына моўчкі глядзела на мокрыя лугі, што драмалі ў плямах скупога сонечнага святла. Потым нахілілася, выцягнула з дарожнага куфра цёмна-сіні плашч і накінула яго зверху жалобнага адзення.

— Мабыць, ваша праўда, — сказала яна. — Я была зусім разбітая, але вы сваёй мужнасцю далі мужнасць і мне. Я ведаю, што мне рабіць.

— Куды вы цяпер?

— У Вільню. Да Мураўёва. Я даб'юся ў яго аўдыенцыі і не пабаюся сказаць, што думаю пра яго.

— Гэта вельмі небяспечна. А вы яшчэ такая маладая, і для вас не цяпер, але магчыма шчасце.

Нясцерпны жаль і нямое замілаванне ахапілі душу Горава, калі яна ўзяла яго руку ў свае.

— Я ведаю, ёсць многа добрых людзей, — сказала яна, — людзей з усёабдымным, з чалавечым сэрцам. Такіх, як вы. Але што я магу зрабіць, калі мне ўсё жыццё будуць трызніцца тыя дзесяць хвілін, на якія я спазнілася. Калі

сэрца чалавечае не можа забыць... Дарагі мой чалавек. Я ведаю — у мяне ўсё канфіскуюць. Мяне, хутчэй за ўсё, чакае Сібір.

Яна схіліла галаву, а праз імгненне ўскінула на Горава цёмныя веі.

— Але мне лягчэй. Людзі заўсёды людзі. Людзі ўсюды людзі... Дай вам Бог шчасця за добрае сэрца. Шчасця з невядомай мне рускай жанчынай, такой самай добрай, як вы.

— Не трэба, пані, — сказаў Гораў.

— Маўчыце, — сказала яна амаль сурова. — Чым я магу аддзякаваць за ўсё? Толькі словам. Дай вам Бог шчасця. І вам, і дзецям, і ўсім нашчадкам вашым. Дай Бог, каб мае ўнукі ніколі не варагавалі з вашымі.

Ён схіліў галаву.

— Рушай, — сказала яна фурману пасля хвіліны цяжкага маўчання. — Бывайце, дарагі.

— Бывайце.

Брычка павольна пакацілася па дарозе...

А ён стаяў і глядзеў, як брычка, зрабіўшыся цёмнай кропкай, знікала недзе пад чорнымі хмаркамі, ад якіх цягнуліся да зямлі шэрыя завесы дажджу...

1. Пра якія падзеі з гісторыі Беларусі расказваецца ва ўрыўку з рамана?
2. Які канкрэтны жыццёвы эпізод лёг у аснову аповеду? Як у гэтым эпізодзе праз паводзіны і выказванні галоўных герояў (Пора-Леановіча, Горава, жонкі кіраўніка паўстанцкага атрада Грынкевіча) раскрываюцца іх адносіны да падзей, іх чалавечыя характары?
3. Перадайце сваімі словамі сюжэт апавядання, знайдзіце ў ім завязку, момант найвышэйшага напружання (кульмінацыю) і развязку.
4. Чаму твор заканчваецца смерцю Пора-Леановіча? Ці можна было чакаць такой развязкі? Чаму Пора-Леановіч дзякуе Гораву за сваю смерць?
5. Як вы ацэньваеце паводзіны царскіх сатрапаў, генералаў Мураўёва і Фікельмонта, якія выдалі жонцы Грынкевіча дакумент аб памілаванні мужа і ў той жа час далі загад падначаленым зрабіць так, каб яна спазнілася і Грынкевіч быў пакараны смерцю?
6. Як пра такія паводзіны разважае Пора-Леановіч і як адрэагаваў на гэта Гораў? Якія асаблівасці характараў гэтых людзей тут выявіліся?

7. Ахарактарызуйце жонку Грынкевіча як асобу і як жанчыну. У доказ сваіх меркаванняў прывядзіце прыклады з апісаннем яе паводзін, выказванняў.
8. Як паказана ў апавяданні прырода? Чаму ў цэнтры твора знаходзіцца апісанне «вераб'інай ночы»? Як гэта апісанне звязана з падзеямі жыцця, з перажываннямі і пачуццямі герояў твора? Як малюнкі прыроды суадносяцца з сітуацыяй дуэлі?
9. Як бы Вы сфармулявалі галоўную думку — ідэю твора?
10. Калі б вы былі мастаком, які эпізод з апавядання вы выбралі б для ілюстрацыі твора.
11. Як вы думаеце, ці можна на аснове гэтага апавядання стварыць кінафільм?

## Генрых Далідовіч

# ГУБАТЫ

### 1

...Ласяня, нечакана прачнуўшыся, пачула, што нехта сюды ідзе. Хоць яшчэ мала пражыло на свеце, але ўжо адчула, што гэта тупае не той малы рудаваты, але шпаркі і спрытны, дужы ў нагах, з учэпістымі зубамі звер, які нядаўна, зваліўшы з ног, цяў яго за кумпяк, што цяпер abлівaўся нечым цёплым і соладка пахкім ды балюча ныў. Той звер падпоўз зусім нячутна, насупраць ветру, а пасля, як яно крыху адстала ад маці, неспадзявана выскачыў з-за кустоў, збіў з ног; тым болей гэта ішла не лёгкая даўгахвостая знаёмая ліса, якая часта блізка падыходзіла і доўга пазірала на іх, дужую маці і яго — свавольніка, і не баязлівы заяц-сусед, не буравата-шэры, з белаю мызаю барсук-валацуга, якіх маці ніколі не баялася і не адганяла, якія любілі пастаяць ля іх і самі пасля адыходзіліся. Валокся нехта цяжка, ломячы галінкі і парыпваючы, тупаючы; а пасля, калі гэтыя шаргавітыя крокі пачуліся зусім блізка, хтосьці, рассякаючы паветра, лёгка шуснуў сюды, да ягонай схованкі — пад густы лазовы куст, і ласяня, адплюшчыўшы вочы, са страхам убачыла праз папаратныя камлі амаль такога ж невысокага, толькі другога колеру — не рыжаватага, а чорна-белага — звера, які нядаўна разарваў яго сцягно.

Стомленае, аслабелае ласяня не магло ўжо ўцякаць, яно толькі торгнулася, крышку праехаўшы ўперад на складзеных пярэдніх нагах і жываце, і зноў заплюшчыла вочы, чакаючы ўдару, за якім ягонае цела зноў ірвануць вострыя клыкі, — адчуваючы, як зайшлося ад страху сэрца, шурхне, збягаецца і халаднее скура. Звер, які чамусьці амаль не пахнуў лесам, дзікім сіверам, ператраўленым пахам дзічыны, а меў нейкія чужыя, як палявыя, пахі, не накідаўся, а патаптаўся паблізу, нават не датыкаўся, а пасля залівіста, аж заклала ў вушах, забрахаў.

І праз брэх чуваць было, што гучныя крокі ўсё прыбліжаліся, цяжэлі, ад іх аж пачало, здаецца, бухаць у вушах; нарэшце заціхлі, у гэтую хвіліну змоўк і брэх — і спачатку халодны цень, а пасля і нешта вялікае, пахкае і лесам, дымам, смалою, і гэтым чорна-белым зверам, і яшчэ нечым зусім не звярыным, не дзікім, прысела над ім, мякка лэпнула па здаровым сцягне, ад чаго ласяня ўздрыгнула, моцна заплюшчыла вочы і адчула: ну, вось і няма сіл уратавацца, вось і прыйшла смерць!.. І яно абыякава падумала: што будзе, хай тое і будзе. Ад слабасці і адчаю апала галава, тыцнулася зубамі ў зямлю, аж забалелі губы і набілася ў рот сырога пяску.

Яно плюшчыла вочы, аж уздрыгвалі бровы, сціскалася ў камячок, чакаючы ў любое месца цела балючага ўдару, але ўдару не было. І тады яно з цяжкасцю адплюшчыла вочы і як скрозь вільготны туман, відаць, праз слёзы, убачыла, што сядзіць каля яго на каленях невядомы яму звер, трымаючы пярэднія ногі з доўгімі пальцамі высока над зямлёю. І гэтыя ногі, і твар звера былі белыя, зусім без шэрсці, добра кранутыя загарам. Доўгая шэрсць была толькі на круглай галаве з высокім белым ілбом.

— Дальбуг, плача па-чалавечаму... — са здзіўленнем пачулася ад таго, і ласяня ўспомніла, што і ў лесе, і за лесам, за рэчкаю, ужо не раз чула такія далёкія гукі, і здзіўлялася, які ж звер іх вымаўляе, хацела пачуць лепш, убачыць таго, але маці зводзіла падалей, балюча таўхалася, каб яно ніколі не імкнулася ісці на гэтыя галасы, і вось яно цяпер пачула, убачыла, хто так гукае (пачула, але нічога не разумела, як не ведала, што гэта ніякі не звер, а чалавек, і не абы-які чалавек, а тутэйшы ляснік).

— Ну, што з табою, маё цялятка? Ножку зламала, гойсаючы, ці матка цябе кінула?.. — і яшчэ рукою палэпаў яго па спіне, ад чаго яно зноў заплюшчыла вочы, задрыжала, сціснулася.

Той раптам, як толькі даткнуўся да раны, адхапіў — як ад агню — руку, што стала чамусьці чырвона-яркай, абцёр яе аб зямлю.

— Ды вось яно што!.. — усклікнуў. — Ваўке цябе парвалі... Беднае ты маё, бязвіннае...

І ён хуценька ўстаў, нарваў паблізу травы і ёю, прыціскаючы, выцер ніжэй раны, кінуў убок, зноў вырваў і працягнуў жмут да калена — услед за яго рухам нага запякла, зайшлася ад болю. Адляцелі і зазвінелі мухі.

— Трэба ратаваць цябе, цяля маё, — сказаў ляснік, падсунуў пад жывот ласяняці спачатку адну, а пасля і другую руку, падцягнуў, выносячы з-пад куста, пасля падкінуў, высока падняў, што ў ласяняці не толькі абвіслі доўгія белаватыя ногі і не маглі дастаць зямлі, але і закружылася ад непрывычкі галава, і панёс, блытаючыся ў роснай папараці, што па грудзі рабіла вільготнай яго вопратку.

Паперадзе іх пабег сабака — падаўся не скачкамі, аж выцягваючыся, як беглі сёння ваўкі, а задрабязіў, часта прыпыняючыся і нюхаючы зямлю: там, прыходзячы з поля, жылі мышы, рыўся, выварочваючы чорна-жоўтыя купіны, стары крот.

За драбналессем, якое ўжо высыхала ад ранішняга, але вельмі цёплага сонца, пачалося знаёмае канюшыннае поле, дзе ласяня з маці не раз ласаваліся смачнаю травою, а калі не было надта горача, то і ляжалі, адпачывалі, напіўшыся вады ў блізкай рэчцы і вяртаючыся ад яе ў лес.

Хутка яны падышлі да зарослай кустамі, аерам старой рэчкі, дзе закіданая гніллём вада была нясмачная, абагнулі яе і апынуліся ля амаль безбярэжнай, стромкай новай рэчкі-канавы, за якой — у цемнаватай зелені і сярод мноства дамоў — чуліся тыя знаёмыя галасы. Яны з маці часта стаялі тут, на беразе, і з вялікай цікавасцю глядзелі туды, гадаючы, што там за жыццё...

Чалавек прайшоў берагам і апынуўся ля кладкі, неакораных, але гладкіх зверху жэрдак, перакінутых з аднаго берага

на другі. Ступіўшы, ён пагойдаўся і паволі, калышучыся, бокам падаўся на другі бераг, дзе яно ні разу не было: страх і боязь за сваё жыццё праходзілі, але незнаёмыя мясціны з дзіўнымі галасамі, з дзіўным, не лясным, пахам, таемная будучыня так расхвалявалі, што ад усяго гэтага ўзрушэння заслязіліся вочы і пачалі падаць з іх на зямлю буйныя кроплі...

**2**

Ляснік, прыйшоўшы дамоў не вуліцай, а сцежкай, праз загадзя адчыненыя жонкай дзверы ўнёс ласяня ў хату, за парогам якой стаяла вялікая печ, дзе шугала полымя і кіпела вада ў гаршках. Тут стаяў зусім незнаёмы для ласяняці дух, якім яшчэ там, у прылеску, пахнуў гэты чалавек.

Ласяня апусцілі і палажылі ў кут на цвёрдую падлогу, а сам носчык разагнуўся і памахаў, мусіць, здранцвелымі рукамі.

— Дзе ты яго ўзяў? — спытала невысокая поўненькая гаспадыня. — Такое ж яшчэ малюсенечкае...

— Падабраў у Каралёвым бары, — адказаў муж, высокі, плячысты, сярэдніх гадоў мужчына. — Ваўке зад парвалі, а матку, відаць, уходалі. Каб яшчэ з гадзіну якую, то і яму капцы былі б: крывёю сышло... Трэба спіртам абмыць рану ды падбелам прыкласці. Схадзі ты, Маня, нарві...

— Божа, ты мой божа! — пабедавала гаспадыня, збіраючыся выходзіць на двор. — Гэтакае маленечкае, колькі яшчэ там пажыло, а ўжо такі боль... Хай яе з такой доляй!.. Хоць дзікі звер, але як шкода...

Жанчына, накульгваючы, падалася з хаты, а мужчына падышоў да ляжанкі-печы, палэпаў па ёй, намацаў белую анучу, страсянуў яе, што пасыпаўся пыл, пагамтаў у руках, падышоў да вузкай высакаватай шафкі, адцягнуў верхняе шкло і дастаў бутэлечку, у якой напалавіну было празрыстай вадкасці. Адкаркаваўшы зубамі бутэльку, ён пачаў ліць з яе на анучку, якая ўвачавідкі памакрэла — з яе ўпалі долу кроплі, запахлі незнаёмым хмелем, намнога мацнейшым, чым пахне паслядажджовы лісцвяны лес.

Паставіўшы на месца бутэльку, мужчына падышоў да яго, ласяняці, нагнуўся і прыклаў халодную анучку да раны — ад чаго яго сцягно, здаецца, апалілі агнём.

Яно дзіка замукала, спрабавала ўскочыць, але ляснік паклаў другую дужую руку на спіну і прытрымаў, супакойваючы: «Ну, пацярпі, маё цялятка, папячэ яшчэ трохі і сціхне!..» — і вадзіў ды вадзіў, выціраючы, латкаю па ране і вакол яе, раз за разам перакручваючы анучку, хаваючы ў сярэдзіну камячка крывяныя плямы. Выціраў, трымаў спіну і сам ад нечага крывіўся, робячы зусім маленечкія вочкі.

Ласяня моцна-моцна заплюшчыла вочы і зайшлося ад болю, ад якога закалола ў скроні, думала, што вось ужо напраўду наступіў канец. Але пасля — і нават нечакана — боль пачаў паціху слабець, пакідаючы толькі пра сябе напамінак, шчымлівы зуд, і здалося, што параненая нага, якая торгала, палягчэла, стала лёгкая-лёгкая. Мужчына гладзіў яго па галаве, шыі, і яно сцішылася, ткнулася галавою да цвёрдага долу, стомлена, але з палёгкаю заплюшчыла вочы, адчуваючы, што будзе жыць, што небяспека праходзіць, прападае, а замест яе прыплывае спакой ды суцяшэнне, што стала менш балець, а пасля раптам захацелася есці: сёння маці не паспела яго пакарміць з-за ваўкоў, збегла недзе з поўным вымем. Ад успаміну пра цёплае салодкае малако ў ласяняці сабралася ў роце сліна, і тая, якую не паспела пракаўтнуць, пацякла на ніжнюю губу...

— Ці не естачкі ты хочаш? — лагодна запытаў ляснік. — Зараз знойдзем табе малачка, напоім, каб падужэў, — і адышоў да белай шафкі.

Адчыніў дзверцы, узяў з палічкі збанок, трымаючы яго вялізнай рукою за горлачка, пакруціўся, нешта шукаючы, пасля ўзяў міску, наліў у яе малака і паднёс, даў ласяняці. Яно пачула знаёмы малочны пах (хоць ён быў не зусім такі, як у мамы-ласіхі), адразу ткнулася ў міску, ды так няўдала, што свежае, відаць, яшчэ нядаўна надоенае малака залілося ў ноздры, ад чаго прыйшлося некалькі разоў фыркнуць і апырскаць чалавека ды падлогу.

— Ды ты не ўмееш яшчэ піць з місы... Ты яшчэ, брат, зусім нягеглы, — усё так жа лагодна сказаў ляснік, устаў і зноў падаўся да шафкі.

Узяў там бутэльку і, нагінаючы, ільючы на стол, пачаў пераліваць у яе з міскі малако.

Ласяня, шкадуючы, што так хутка прапаў ласунак, аблізала языком губы, бараду, адчуўшы, што і гэтае малако

смачнае, з радасцю праглынула ўсё, што трапіла ў рот, яшчэ больш распаляючы голад.

Ляснік хутка вярнуўся, несучы ў руках бутэльку з чырвонаю соскаю, даў яе, халодную, мяккую, і ласяня, скрывіўшыся ад непрыемнага гумавага паху, пацягнула і адчула, што малако палілося ў рот тонкім струменьчыкам. Ад радасці яно ледзь не захлынулася, памкнулася ўсхапіцца, але яго працяў боль у назе, і прыйшлося аціхнуць, перачакаць, калі стане лягчэй, тады ўжо смактаць далей, выцягваючы шыю і стараючыся не выпусціць слізкай соскі.

І ўжо смокчучы, яно бачыла, як з другой, адгароджанай палавіны хаты, адчыніўшы дзверы, зайшло двое заспаных босых дзяцей — худаваты, але высокі хлопчык гадоў сямі і поўненькая, у доўгай белай кашульцы, дзяўчынка гадоў пяці. Спачатку, тручы ручкамі вочы, яны з дзівам пазіралі на бацьку і на яго, а пасля ажывіліся, пайшлі сюды хуткахутка — і ў іх адразу прапаў сон, шырока адплюшчыліся вочы і паадкрываліся роцікі.

— Гэта другое цялятка? — запытала мякенькім, далікатным голасам дзяўчынка. — Дзе ты яго ўзяў?

Бацька нічога не адказваў, пасміхаўся.

— Гэта не цялятка, — сказаў хлопчык, пакручваючы на голым вострым плечуку шлейку ад майкі. — Гэта маленькі лось. Так, татусь?

— Так, дзеці, — сказаў ляснік. — І цяпер ён будзе жыць у нас, пакуль не вылечым яго.

— Лёсь, лёсь! — прысеўшы каля ласяняці і гладзячы яго маленькаю ручкаю па спіне, гаварыла дзяўчынка, а пасля зайшла з другога боку і пацягнулася да бутэлькі... — Дай я, татусь...

І як той згадзіўся, узяла бутэльку і трымала яе абедзвюма ручкамі.

Ласяня, з цікавасцю пазіраючы на маленькіх дзяцей, высмактала ўсё малако, нават доўга патрымала пустую соску, ад чаго тая засвістала, а пасля зліплася. Як забралі яе з рота, яно пацмокала языком, адчула, што зусім змарылася, што самі пачалі ліпнуцца вочы.

...Ноччу — пасля таго як яго рану прыклалі падбелам, зноў напаілі і яно спала — прытрызнілася, што паблізу блукае маці, ціхенька падклікае яго — самотна мычыць.

Яно прахапілася, прыслухалася — мыканне прапала. Толькі, здаецца, дзьмухнуў, адбіўся ад сцяны вецер. Як яно суцішылася, пачынала засынаць — зноў пачулася жалобнае мыканне.

Ласяня напялася, абаперлася на пярэднія калені, каб стаць на заднія ногі, а пасля падняць ужо адну і другую пярэднія, але задняя не ўперлася, як у лесе, аб зямлю, а паехала, зарыпела капытом па падлозе. На нагу аб'ехала з плячэй старая фуфайка, і яно заблыталася ў ёй і ў падасланай, але ўжо збітай набок дзяружцы.

— Ужо хвост падняло, га? — пачуўшы яго грукат, азваўся гаспадар, які ў майцы і ў трусах прыйшоў сюды са спальні і ўключыў святло, асляпіўшы зусім ласяня. — Ужо і сіла ест? Га? Гэта добра, але каб не нарабіла ты нам бяды, я адгараджу цябе, — і ён, прыпаднімаючы, прывалок перад сабою і паставіў наўскасяк высакаваты столік. — А заўтра, маё даражэнькае, я цябе ў дрывотню затарабаню. Там табе будзе воля... — пастаяў крыху, упёршыся грудзінай на столік, пагладзіў па спіне і, выключыўшы святло, пашлэпаў назад у спальню.

**3**

Прайшло некалькі тыдняў.

Ласяня акрыяла, падужэла, пачула, што ў яго залячылася рана — спачатку зацягнулася цвёрдаю, тоўстаю, бураю ад крыві нарасцю, а пасля гэтая нарасць пачала сушэць, свярбець і адлушчвацца ды абвісаць.

У падпаветцы — на ахапку сена — яно спала ноччу, а днём гуляла па двары, пазнаёмілася з усімі яго насельнікамі. Палюбіла шчыра гаспадара, добрага і спагадлівага чалавека, мірна ўжылося з таварыскім сабакам, са свавольнікам цялём, амаль равеснікам, з якім гойсала па двары; з катом, з курамі — драбнатой — яму было нецікава, і яно без ніякай злосці, толькі дзеля жарту не адганяла тых, а наўмысна бегала за імі, нясмелымі, пудкімі, бачачы, як яны баязліва ўцякаюць, і гаспадар, заўважыўшы гэта, у першы раз накрычаў, кажучы, што ката чорт не возьме, а вось курэй не трэба гэтак палохаць: яны і пер'е губляюць, і «адбіваюцца», не нясуцца. З вялікай — амаль з ласіху — каровай адразу ж,

у першую хвіліну сустрэчы, ніякага сяброўства не выйшла: яно памкнулася да яе, да вымя, пачуўшы пах малака, але тая балюча трэснула задняю нагою, і яно, плачучы ад болю, больш не падышло да яе, як і тая ганарліва не звяртала ніякай увагі.

Найбольш ласяня пасябравала з гаспадаровымі дзецьмі — з хлопчыкам і дзяўчынкаю. Яно не ведала, каго больш з іх любіла. Відаць, абаіх пароўну. З імі яно і дурэла, бегала па двары, брала з іхніх рук смачны хлеб, салодкія цукеркі і пернікі, ад іх яно атрымала смешную, нават дураслівую мянушку — Губаты.

Прыдумаў гэта хлопчык. Усё дзівіўся, што ў яго, ласяняці, такая гарбатая морда, абвіслая верхняя губа, а пасля і выдумаў: «Губаты!» Падклікалі яго адным з цялём клічам: «Цяля-цяля!» — а мянушку вось далі такую.

Спачатку называлі так дзеці, а пасля пачалі гэтак падклікаць і сталыя.

У адзін з апошніх летніх дзён, у яшчэ раннюю, сівую ад туману раніцу, да якой яго рана стала цвёрдай, зарубцавалася, ужо не трэскалася і не балела, толькі крышачку саднела, хоць так і не зарасла шэрсцю, чамусьці зрання прынёс яму вядро з пойлам не босы, яшчэ заспаны хлопчык, а сам гаспадар. Ён быў ужо ў аброшаных кірзавых ботах, старым пінжаку, на плечы якога начаплялася шмат лясной павуціны, і ўвесь ён пахнуў вільготнымі грыбамі.

Прынёс па паўвядра пойла яму і цяляці, якое сёння чамусьці ўсё яшчэ не выводзілі ў поле і з якім яны дасюль елі з цабэрка свежую траву.

Хлопчык заўсёды стаўляў перад ім вядро, апускаў у яго руку, і Губаты, ловячы пальцы, хлябтаў смачнае цёплае пойла, а пасля ўжо языком вылізваў наліплае да дна салодкае цеста. Цяпер Губаты тыцнуўся ў вядро, шукаючы мяккіх пальчыкаў, абліў да вачэй морду і, нічога не абмацаўшы, не мог піць, толькі выплёхваў усё долу.

Ляснік моўчкі пазіраў, але пальцаў сваіх не даваў і за такую марнату не крычаў. Стаяў і курыў зацяжкамі, моршчыўся. Быў ён сёння нейкі задумлівы, надта сур’ёзны.

Як цяля выпіла і вылізала сваю долю, ласяня абы-як гэтаксама апаражніла вядро, ляснік узяў з плота зматаны

ланцуг, надзеў ашыйнік на цялячую шыю, адчыніў брамку і павёў яго з двара. У тыя разы, калі выводзіў цяля на пашу, зачыняў брамку перад самым носам Губатага, якому гэтаксама хацелася пайсці разам, не заставацца аднаму, а сёння чамусьці не паспяшаўся гэтага зрабіць, і Губаты — спачатку нясмела, як не верачы, што яму гэта можна, а пасля смялей — памкнуўся следам.

Яны падаліся па выцэментаванай сцежцы ля хаты; ідучы, Губаты ўбачыў, што ў запацелае ад цяпла акно пазірае гаспадыня, глядзіць самотна і нават, здаецца, нечага жаласліва — выцірае рогам белай хусцінкі вочы.

За яшчэ адной брамкаю амаль адразу пачаўся бела-шэры брук, на якім Губаты ледзь не спатыкнуўся, не могучы ісці па камянях. За брукам ляжаў неабгароджаны вялізны — ад вуліцы да лесу — выган, амаль увесь ужо выгаралы ад сонца, рыжы, але мясцінамі, у лагчынках, яшчэ зеленаваты. Гаспадар прывёў іх да зелянейшай лапіны, па дарозе вырваўшы з зямлі калок, да якога, відаць, раней прывязвалі цяля.

Як гаспадар прыпыніўся, нагнуўся, пачаў забіваць каменем у дол сплясканы зверху калок, пятлёю надзеўшы яго на ланцуг, стала і ласяня, здзіўленае такім вялікім прасторам, над якім, здаецца, намнога пабольшала і блакітнае, з лёгкай парнасцю неба.

— Ну што, Губаты? — кінуўшы вобзем камень, ляснік падняўся, атрапаў аб штаніны рукі, а пасля пагладзіў яго па спіне. — Стаў ты ўжо дужы, здаровенькі, то ідзі ў свой дом, так сказаць, і жыві, дзе ўсе тваё сваякі жывуць... Бо цяперака, покуль ты яшчэ малое, табе добра ў нас, а скора будзе нядобра... Ідзі, покуль дзеці спяць... — сказаў так і падштурхнуў у зад. — Ідзі, звярок, мілы, да свайго, а пра нас забудзь... Так будзе табе ж лепей...

Губаты адышоўся, пхнуў мызаю цяля — і яны, як штодня ў двары, імтанулі адсюль. Але хутка цяля, ірвануўшыся, стала: яго, напяўшыся, затрымаў ланцуг. Ляснік, які шлэпаў у ботах за імі, замахаў вялікімі рукамі — і Губаты, зусім не спалохаўшыся, а дурасліва і як дражнячыся, падскочыў, брыкнуў заднімі нагамі і гайцануў далей, імгненна п’янеючы ад вялікай прасторы, бегу, адчуваючы, як яму ўсяго гэтага дасюль не хапала.

## Пытанні і заданні да раздзела

**1.** Назавіце асноўныя адзнакі эпічнага роду. Адкуль бярэ пачатак гэты род літаратуры?

**2.** Якія віды народных, фальклорных апавядальных твораў вы ведаеце? Назавіце іх, прывядзіце прыклады.

**3.** Чым адрозніваецца апавяданне ад навелы, аповесць ад апавядання? Пакажыце гэта адрозненне на прыкладах твораў, змешчаных у вучэбным дапаможніку або іншых, прачытаных вамі твораў.

**4.** Якія прыёмы і сродкі паказу жыцця выкарыстоўваюцца ў эпічных творах? Ахарактарызуйце іх.

**5.** Супастаўце паняцці: эпас — проза. Паспрабуйце вызначыць (можна з дапамогай Слоўніка літаратуразнаўчых тэрмінаў), ці аднолькавае значэнне гэтых паняццяў-тэрмінаў. Калі не аднолькавае, то ў чым яны збліжаюцца і чым адрозніваюцца?



# «ДЗВЮХ ПЛЫНЯЎ ВОЛЬНАЕ ЗЛІЦЦЁ»



## ЛІРА-ЭПІЧНЫЯ ЖАНРЫ

Эпас знаёміць нас са знешнім светам праз падзеі, вучыць бачыць і разумець розныя чалавечыя характары ў дзеянні. Лірыка дапамагае глыбей спазнаць свет чалавечых эмоцый, зразумець перажыванні іншых людзей, разабрацца ва ўласнай душы. Вы пераканаліся, наколькі розная прырода гэтых літаратурных родаў, наколькі яны непадобныя нават па знешніх прыкметах: аб'ёме твораў, моўным афармленні, мастацкіх асаблівасцях. І разам з тым у эпічных творах часта сустракаюцца эмацыянальныя выказванні, якія перадаюць адносіны аўтара да падзей і герояў, нават вялікія аўтарскія разважанні, якія называюцца ***лірычнымі адступленнямі.*** І наадварот, у лірычных творах, напрыклад, у пейзажнай лірыцы, вы знаходзілі апісанні, уласцівыя эпасу. Існуюць таксама творы, у якіх лірычны і эпічны спосабы адлюстравання жыцця маюць аднолькава важнае значэнне. Такія творы называюць ***ліра-эпічнымі.*** Гэта — паэма, балада, прытча, байка.

## Янка Купала

# МАГІЛА ЛЬВА

*(З народнага падання)*

### I

Нам продкаў кемкасць захавала
Шмат весцяў дзіўных з быўшых год,
Хоць гэтых весці ўжо нямала
Ў няпамяць кінуў сам народ.

Усё ж яшчэ штось засталося
Унукам з прадзедаў жыцця...
Няхай жа гэтыя калоссі
Мінуць скаранне небыцця!

Няхай той час, што згінуць мусіў
У беспрасветнай векаў мгле,
Для беспрыпыннай Беларусі
Хоць толькі ў песні ажыве.

Збіраць пачнем зярно к зярняці,
Былое ў думках ускрашаць,
Каб быт на новы лад пачаці
І сеўбу новую пачаць.

Пачнём дакапывацца самі
Разгадкі нашых крыўд і бед,
Што леглі цёмнымі лясамі
На нашай долі з даўных лет.

Пачнём някратаны паданні
Сачыць пад бацькаўскай страхой,
Шукаць ад рання і да рання,
А толькі хай шукае свой.

### II

Над быстрым Днепрам, дзе сягоння
Стаяць Магілева муры,
Драмала пушча ў сотні гоняў,
Змагала громы і віхры.

На дрэва дрэва нагінала,
Адно к другому прыгняла,
Сукі з сукамі пасплятала
І з ветрам гутарку вяла.

Ваўкоў, дзікоў, ласёў, мядзведзяў
Была там днёўка і начлег
У летні час, і ў галаледдзе,
І ў зімавы глыбокі снег.

Людзей не знаў лес гэты хмурны,
Зайздросна сцежкі свае крыў,
Адно сваім дном Днепра бурны
З вясны да восені ўдаль плыў.

А з пушчы вырваўшысь на поле,
Шумеў і грозны слаў праклён,
Што не даваў яму лес волі —
Давіў галлём з усіх старон.

У гэтай пушчы з перадвекаў —
Што так драмала ўдоўж і ўшыр, —
Сялібу меў сабе Машэка,
Разбойнік страшны на ўвесь мір.

## III

Даўней не зналі так марнеці,
Як мы марнеем з году ў год,
Асілкаў шмат было на свеце,
Быў шмат дужэйшы наш народ.

Асілкам гэтакім адроду
Машэка быў ў сваёй радні, —
Дзіцём нясці ўжо мог калоду,
Якой трох сталых — не маглі.

Але хоць сілу меў такую, —
Нікому крыўды не рабіў, —
Натуру меў ён залатую,
Як бы ягнём, патульны быў.

Чаму ён так змяніўся з часам,
Што да разбойства давяло,
І да крыві людской стаў ласым,
Сваё пакінуўшы сяло?

Ці дома хлеба меў замала,
Ці крыўду вызнаў ад каго,
Ці мо' прастору не ставала,
І ў пушчы стаў шукаць яго?

Ўсё гэта не было прычынай,
Але, як вестка падае,
Была прычынаю дзяўчына,
Машэка згінуў праз яе.

## IV

У вёсцы той, дзе жыў ён змалку,
Дзе пасвіў, дзе араў, касіў,
На воку дзеўку меў, Натальку,
Аб ёй адной ён толькі сніў.

Былі з сабою адналеткі,
На прызбе рыліся ў зямлі,
На сенажаці рвалі кветкі,
Ўдагонкі разам часта йшлі.

Як толькі ён яе дагоніць,
Як пёрка, носіць на руках,
Смяецца, весела гамоніць,
Хоць там дзяўчыну мучыць страх.

Калі ўжо сталі падрастаці,
К рабоце трэ' было ісці,
Дык ці то ў полі, ці то ў хаце
Умелі той таго найсці.

Аб чым з сабой тады ўдваёчку
Снавалі думкі, сеўшы ў рад, —
Пытаць аб гэтым трэба ночку
І за акном вішнёвы сад.

Жылі... Дзянькі за днямі гналі
Так ад вясны і да вясны.
Пасля і самі не спазналі,
Як палюбіліся яны.

## V

Каханне — лёгкая прынада
Для сэрцаў чуткіх, маладых,
Хоць бы гняздзілася ў ім здрада,
Хоць гэта б яду быў кяліх.

Усе мы п'ём яго з дурноты,
Жывём ні явай і ні сном.
А прападзе к яму ахвота —
Тады — па часе ўжо — плюём.

На гэту вудачку кахання
Папаў Машэка, як не свой;
Ані спакою, ні прыстання
Не меў ён з гэтаю бядой.

Сябе сам кінуў у няволю
Дзявочых ласк і пустаты;
Пацех меў шмат, цярпення болей,
То весел быў, то — як струты.

Дзяўчына... ведама, дзяўчына —
Хто там згадаў, што ў ёй сядзіць;
Любіла ж, пэўна, хоць часінай, —
У лес па гэта не хадзіць.

Машэка гэтакі асілак,
Што рваў дзярэўе з каранём,
Ў руках яе стаў, як апілак:
Яго забрала харaством.

## VI

О, шмат прыгожанькіх дзяўчатаў
Старонцы нашай Бог прыдбаў!
Царэвіч ехаць мог бы ў сваты
К ёй не адной, каб толькі знаў.

Душы і сэрцайка такога,
І той бязмернай дабраты
Шукаці хіба толькі ў Бога, —
Ў другіх людзей не знойдзеш ты.

На беларускую дзяўчыну,
Калі тут праўду ёй аддаць,
Ніхто йшчэ каменем не кінуў
І не паважыцца кідаць.

Наталька ў вёсцы між сваімі
Найпрыгажэйшаю была,
Грудзямі, шчочкамі, вачыма,
Як мак, між макамі цвіла.

Павеўна, як даспелы колас,
Ішла наперад у танок,
З грудзей гарачых звонкі голас
Змяняла ў песню — як званок.

Прыхільна хлопцы аглядалі
Яе павабны гібкі стан,
Дый толькі сціха уздыхалі...
Адзін Машэка быў тут пан.

## VII

Той панства меў недаўгавечна,
Канаў пацехі час святы:
Па Днепру выпала канечна
Па Украіну гнаць плыты;

Машэку йкраз чарга папала.
Спачатку слухаць не хацеў;
Быць можа, на яго бы стала,
Бо не на жарты сілу меў,

Але Наталька ўгаварыла:
«Едзь! Штосьць заробіш к жаніцьбе».
Ну, як тут не паслухаць мілай!
І наш Машэка, у жальбе

Па ненаглядненькай дзяўчыне,
Паплыў з плытамі ў край чужы
Таей Дняпровай гладдзю сіняй
Ад роднай прадзедаў мяжы.

Зямля сябе у зелень скрыла,
Лес цёмны з ветрам гаманіў,
Зязюля век людзям лічыла,
А сонца цешылася з ніў.

Машэка плыў, марнеў з нягоды,
Аддыху рэдка меў калі.
І думаў, каб хаця ўжо воды
Яго Дняпровы не змаглі.

## VIII

Ў дарозе шчасце паручыла,
Загнаў да Кіева плыты,
Дамоў вяртаўся з новай сілай
Пабачыць родныя куты.

Натальку любую сустрэці,
Аджыць агнём яе вачэй,
Бо гэткіх вочак на ўсім свеце
Ён не сустрэў ані ў аднэй.

Спяшыць няўпынна, крок за крокам,
Мінае поле і лясы.
Зямлі сваёй жаданым вокам
Шукае, як канюх расы.

Штось каля Ўзвіжання дабраўся
Дамоў з далёкай чужыны…
О, лепш бы першай не даждаўся,
Як нарадзіўся ён, вясны!

Бядак дачуўся ад суседаў,
Што ўжо Натальці маладой
Не засталось даўно і следу, —
Як бы Дняпровай сплыў вадой.

Сплыла і ўся яго надзея
Дажыць у радасці жыццё.
Каханне ў сэрцы гэтак сеяў,
А жаць прыйшлося пракляццё.

**IX**

Непадалёк, дзе жыў Машэка,
Быў двор вялікі, а ў двары
Стаялі хорамы ад векаў
Над самым Днепрам, на гары.

Абведзен быў высокім мурам
Палац, як той астрог, кругом,
Сталетні ліпы ўкруг панура
Стагналі ночаю і днём.

Баярын тамка жыў багаты,
Яшчэ лятамі малады,
Да сваявольства быў заўзяты,
Па-свойму час губляў з нуды.

Усюды броіў самазбродам,
Тварыў закон свой і свой суд
Над абнядоленым народам,
Што збыць не меў сіл сваіх пут.

Паціху толькі ў вёсках людзі
Маркотну гутарку вялі
Аб крыўдах тых, што ім на грудзі
Праз пана каменем ляглі.

О, як адзін хто праз другога
Цярпіць, то йшчэ тут паўбяды,
Але не скрыці ад нікога
Нам крыўды цэлай грамады!

**X**

Праз вёску са сваёй дружынай
Баярын гэты ехаў раз,
І ля Натальчынай хаціны
Ён затрымаўся на папас.

Тут хараство яму дзявоча
Упала ў вочы, бо нідзе
Яго не бачылі йшчэ вочы
Штось прыгажэй у прастаце.

Як грозны быў, дык стаў лісліве,
Пачаў к дзяўчыне падсядаць,
Пускаць туман і, як бы дзівы,
Ёй брэдні ўсякія складаць.

Што гаварылі, чым ёй кадзіў —
Не варта паўтараці тут,
Але з тых пор, як па загадзе,
Ён спадабаў вясковы кут.

Тады-сяды стаў заглядаці
Ўсё да Натальчыных акон,
Хоць і глядзелі бацька, маці
На гэта коса з першых дзён.

Пасля к сабе яе стаў клікаць,
Яна ішла за ім, як цень,
Аж пачала ўся вёска тыкаць
На дзеўку пальцамі штодзень.

## XI

Людская хітрасць даніманнем
Патрапіць шмат зла натварыць,
Калі прыкінецца святляным
Святлом, што праўдаю гарыць.

Душу вам лёстачкамі выйме
І павядзе на павадку
Яе пуцінамі крывымі,
І ўжо не ўскрэснуць бедаку.

З Наталькай выйшла гэтаксама,
Сама к бядзе пайшла сваей,
Звязаўшы дружбай сябе з ямай,
Не дбала свету і людзей.

Забыла ўсе Машэкі ласкі,
Каханне шчырае яго, —
Пад чарам ворагавай казкі
Зраклася мілага свайго.

Не прачувала горкай долі,
Якую лёс людзям нашле;
Раз, як пайшла у двор, дык болей
Яе не ўбачылі ў сяле.

Сваю так сетку распускае
На мух услужлівы павук,
Пакуль не ўваліцца якая
І ўсіх не выведае мук.

### XII

Мінула восень, а за ёю
Прыйшла з марозамі зіма.
Машэка жыў з сваёй сям'ёю, —
Не жыў, а блукаўся, як цьма.

Як бы не чуў дакучных кпінак,
Аддаы гору і жальбе;
Ўжо ведаў, дзе найшла прыпынак
Яго Наталька для сябе.

Падчас бліжэй к двару падходзіў,
Страшэнна кляў і выгражаў,
І страх на стражу ўсю наводзіў,
Якую пан сабе дзяржаў.

Але не меў Машэка сілы
Такой, што сцены б разваліў
Туды, дзе вораг з яго мілай
Пасцель пуховую дзяліў.

Не мог на мак яму змяць косці,
Пракляцце толькі прызываў,
Ад сцен адходзіў з большай злосцю
І штосьці жудкае кнаваў.

З дня ў дзень хмурней ён станавіўся,
Расла ў ім помста, як змяя, —
І сам, як гадзіна, ў ёй віўся,
Ў жыцці не бачачы пуцця.

## XIII

Што ёсць на свеце горш ад помсты,
Што знойдзеш ад яе страшней,
Каго не згоніць з сцежкі простай,
Не ўкіне ў цьму, за ноч цямней?

Душу і думы атумане,
Ачэпіць зводным павуццём
І распасцяжыць уладанне
Над целам, над усім жыццём.

Засела так яна ў Машэкі,
І суладаць з ёю не мог,
Крыві б пусціў, здаецца, рэкі,
І ў іх бы з крыўдай сваёй лёг.

Крывёй ці віннай, ці нявіннай
Насмерць упіўся бы з душой,
Другіх губіў бы і сам гінуў,
Абы цярпеў чужы і свой.

У муках страшных дачакаўся
Машэка першых дзён вясны
І з вёскай роднай папрашчаўся,
Уцёк з радзімай стараны.

У пушчу ўцёк, у ёй асеўся,
Змяніўся ўвесь, як ваўкалак,
У скуру воўчую адзеўся
І стаў на жыр выходзіць так.

## XIV

Так страшным стала яго імя
На ўсю аколіцу з тых дат
Паміж сваімі і чужымі,
Як страшны імем сваім кат.

З сваёй бярлогі на дарогу
Вылазіў грозны з булавой,
Як пошасць, сеяў скрозь трывогу,
Загоны росячы крывёй.

Спачатку дань жыццём плацілі
Яму адны багатыры,
Пасля знаходзілі ў магіле
Спачын і вёсак жыхары.

Не памагалі мольбы, чары, —
Крывавы суд тварыў, караў;
Абезгалоўлены ахвяры
З сабою ў пушчы забіраў.

Дарма шукаюць яго схову
Бацькі забітых і сыны,
Адно збірае больш галоваў
Ён з непамернай той вайны.

Штодзень расце Машэка ў славу,
Расце з крывавага жніва,
Бароніць пушча яго справу,
А гімн пяе яму сава.

## XV

Ці доўга йшчэ бы гаспадарыў
Ён гаспадаркаю такой,
Крывёй палошчучы папары,
Крывёй гарачаю людской,

Каб не сустрэў сярод дарогі
Адно здарэнне, як той вір,
Калі раз, выбрыўшы з бярлогі,
Йшоў з булавой сваёй на жыр[1].

Ішоў і ўбачыў, як карэта
Напроць кацілася якраз;
Машэка рады знайдзе гэтай
І не марнуе дарма час.

---

[1] *Ішоў на жыр* — ішоў на разбой, рабаванне.

Мінута. Ўжо стрымаў ён коні,
Як сноп, зваліўся ўжо фурман,
Ўжо булавой у дзверцы звоне,
З карэты скочыў к яму пан.

Але не ўспеў і азірнуцца,
Як на зямлі няжыў ляжыць;
Машэка доўбняй замахнуцца
Яшчэ на некага спяшыць…

І дзіва дзіў: рука самлела,
Слязамі вочы заліліcь…
Наталька тут яго сядзела
І так глядзела, як калісь!

## XVI

Як чалавек ні азвярэе
З якіх там колечы прычын, —
Надойдзе час і азарэе
Яго душа хоць міг адзін.

Чуццё прабудзіцца людское,
Дабро у сэрцы ажыве,
І зацвітуць красой святою
Дзіцячы думкі ў галаве.

Чуць толькі ўгледзеў у калясцы
Машэка любую сваю, —
Ў яе ўтануў даўнейшай ласцы,
Ёй пакарыўся без баю.

Бы тую пёрынку птушыну,
Ў сваю бярлогу яе нёс,
З лісточкаў мяккую пярыну
Ёй слаў і сам у радасць рос.

Быў рад сваёй так доўгай згубе,
Ў нагах з пакораю сядаў,
Як здаўна, песціў і галубіў,
І словы чулыя складаў.

А толькі бедную Натальку
Жыццё з ім цешыць не магло,
Як тую грэшную русалку —
Жывыя людзі і святло.

## XVII

Спазнаўшы панскія раскошы,
Дзіцё сяла і грамады,
Не мела сіл змагчы ў пустошы
І адзіноцтва, і жуды.

Хоць на Машэку спазірала
Прыхільным поглядам падчас,
А ўсё у думках штосьць knavala,
Агонь благі ў вачах не гас.

У думках думала няўпынна,
Як ёй разбойніка згубіць,
Якога не магла нявінна
Ўжо так, як некалі, любіць.

Раз, калі спаў Машэка з ёю,
Зрабіць надумала сваё —
За кроў пралітую крывёю
Яму яго забраць жыццё.

Паціху ўстала, нож агромны
Ўзяла ў яго з-пад галавы
І утапіла ў шыі соннай,
Ды той застаўся йшчэ жывы.

Яна другі раз замахнула
І трэці раз перавяла, —
Яго і жылка не дрыгнула, —
Душа ад цела адышла.

## XVIII

Так страшны той разбойнік згінуў,
Што ўмеў любіць і забіваць;
На грэх пусціўся праз дзяўчыну
І мусіў праз яе сканаць.

Яна, сваё зрабіўшы дзела,
Ўжо страхам гнаная нямым,
У вёску родную ляцела
І расказала аб усім.

Прынесла добрыя ўсім весці,
Што ўжо разбойніка няма;
Яе віталі добрай чэсцю,
З усімі цешылась сама.

Вяла з сабой сяло народу,
Дзе спаў Машэка вечным сном,
Куды йшчэ ўчора усе ходы
Былі закрытыя людзём.

Сышлася вёска над Машэкай
Нядаўну бачыці гразу,
І не было там чалавека,
Каб хоць адну пусціў слязу.

Йшлі ад яго к гары вялікай,
Ахвяры дзе яго ляглі, —
Касцей знаходзілі без ліку,
Галоў без ліку там знайшлі.

## XIX

Капалі ў пушчы дол глыбокі,
Дно высцілалі у кару,
І насып сыпалі высокі —
Машэку насып, як цару.

А на гары той недалёкай
Хавалі косці у зямлі
Ахвяр, што ад рукі нялёгкай
Без часу на той свет сышлі.

За днямі дні пабеглі шпарка,
Ў няпамяць шоў за годам год,
Мянялась свету гаспадарка,
Жыццё-быццё змяняў народ.

Той насып, дзе ляжаў Машэка,
У мох і дзерава аброс;
Пякла улетку яго спека,
Зімой трашчаў над ім мароз.

Машэкі імем сталі маткі
Пужаць, калышучы, дзяцей,
А кумкі, збегшысь на папрадкі,
Аб ім шаптаць адна аднэй.

Яго высокую магілу —
Дзе лес ды вецер панаваў —
Знаць, што вялікую меў сілу,
«Магілай Льва» народ назваў.

## XX

Над ёю з часам дрэвы палі,
І горад вырас, як з зямлі,
Яго Магілевам назвалі,
Бо йнакш прыдумаць не маглі.

Там, дзе пушчар быў і балота, —
Муры глядзяцца у раку,
Зіяюць вежы пазалотай,
Жыццё кіпіць, як у гаршку.

Пры самым месцы, дзе хаваці
Людцы нябожчыкаў нясуць,
Гару з магілкамі відаці —
Яе Машэкавай завуць.

І ціха, ціха на гары тэй
Чарнеюць пліты і крыжы,
То летнім сонейкам сагрэты,
То ззябшы ўзімку, ў маразы.

Падчас вясной заблудзіць птушка,
Зазвоніць песенькай сваей,
Павесялее спяча душка
Ды зноў засне яшчэ мацней.

А пад гарой Дняпровы хвалі
З вясны да восені шумяць
І штось гавораць цёмнай далі,
А што? — нам, грэшным, не паняць!

1. Сцісла перакажыце сюжэт твора. Які момант у развіцці дзеяння з'яўляецца найбольш напружаным?
2. Знайдзіце звязаныя з развіццём дзеяння апісанні прыроды, якія папярэджваюць нас аб тым, што адбудзецца нешта страшнае.
3. Якім быў галоўны герой паэмы Машэка ў юнацтве? Знайдзіце ў пачатку твора эпітэты, якія найбольш выразна вызначаюць яго характар.
4. Што змяніла, зламала Машэку? Якім ён стаў? Пацвердзіце свае словы ўрыўкамі з тэксту. Як змяніліся адносіны паэта да свайго героя? Як ён цяпер называе Машэку?
5. Ці можна нейкім чынам апраўдаць тыя зверствы, якія чыніў Машэка?
6. Прачытайце словы, у якіх Янка Купала, адступаючы ад сюжэта, разважае пра страшную сілу помсты. Якое значэнне ў творы мае гэтае лірычнае адступленне, як яно характарызуе самога паэта?
7. Якой вам уяўляецца Наталька? З дапамогай якіх параўнанняў, эпітэтаў стварае аўтар яе партрэт?
8. Якія ўзнёслыя словы знайшоў паэт, каб перадаць прыгажосць і сардэчнасць беларускіх дзяўчат? Якое пачуццё аўтара заключана ў гэтых словах?
9. Як тлумачыць паэт здраду Натальці? Асуджае ён дзяўчыну ці шкадуе?
10. Чаму Наталька забіла Машэку? Як паставіліся да яе ўчынку людзі? Якую ацэнку ён выклікае ў вас?
11. Што вы можаце сказаць пра інтанацыю твора, яго гучанне?
12. Растлумачце сэнс назвы твора. У якіх яшчэ вядомых вам фальклорных творах тлумачылася паходжанне назваў мясцін? Што збліжае паэму «Магіла льва» з легендамі?
13. З сёмага класа вы ведаеце паэму Янкі Купалы «Курган». Успомніце гэты твор і паспрабуйце вызначыць, чым ён блізкі да паэмы «Магіла льва» па настроі, адносінах да мінуўшчыны, выкарыстанні фальклорных прыёмаў і вобразаў.

# ПАЭМА

***Паэма*** (ад грэч. — тварэнне) — вялікі вершаваны, часцей сюжэтны твор, які расказвае пра важныя падзеі, апявае моцныя характары і перадае глыбокія перажыванні аўтара і яго герояў. Так, у вядомай вам паэме Янкі Купалы «Курган» праз сутыкненне гусляра і князя паказваецца лёс народнага мастацтва, яго сіла і непадкупнасць. У паэме «Магіла льва» Янка Купала таксама стварыў моцны і незвычайны характар — Машэку. Але праз яго лёс паэт асуджае жорсткасць і ўслаўляе дабро, чалавечнасць, высакародства.

Паэма часцей расказвае пра важныя гістарычныя падзеі, якія ўплываюць на лёс многіх людзей. Нярэдка ў паэме, як, напрыклад, у творы «Магіла льва», пераасэнсоўваюцца народныя легенды, паданні. Менавіта таму паэмы блізкія да вуснай народнай творчасці, у іх выкарыстоўваюцца ўласцівыя народным песням і легендам сродкі мастацкай выразнасці. Інтанацыя паэмы ўзнёслая, велічная, яна падкрэслівае значнасць тэмы.

У паэме, як вы ўжо заўважылі, спалучаюцца рысы эпасу і лірыкі. З эпічнымі творамі паэму збліжае наяўнасць сюжэта, дыялогаў, вобразаў-персанажаў. З лірычнымі — павышаная эмацыянальнасць, усхваляванасць апавядання, яго вершаваная форма і традыцыйныя для лірычнага верша рытміка-інтанацыйныя сродкі (паўторы, інверсіі і інш.), мастацкія тропы (метафары, эпітэты, метаніміі і інш.).

Як і ў лірычным творы, у паэме выразна выяўляецца вобраз аўтара ці лірычнага героя, іх адносіны да падзей. У адрозненне ад верша, паэма мае больш складаную кампазіцыю (пабудову) твора.

Важнае значэнне ў паэме маюць лірычныя адступленні, якія перадаюць пачуцці і думкі герояў, а таксама разважанні аўтара. Спалучэнне ўласцівасцей эпасу і лірыкі дае магчымасць своеасабліва, узрушана і эмацыянальна, расказаць пра важныя праблемы народнага жыцця.

## Аркадзь Куляшоў

# МАЦІ

На бітву крывавую сына праводзіўшы з хаты,
На шчасце і ўдачу пасеяла маці зярняты.
Калі дачакаецца маці з тых зерняў усходу,
Сын прыйдзе з паходу,
Са славаю прыйдзе з паходу.

Дарэмна ўздыхала,
Чакала
І шчасця, і долі, —
Упалі зярняты
На камень шчарбаты
У полі.

Дарэмна здалёку
Паўнюткія вёдры цягала,
Той камень у спёку
Вадой і слязьмі палівала.

Да кроплі іх выпіў задымлены
Камень пякельны:
Два леты кіпелі на ім яны,
Як на патэльні.

Ля каменя ўпала
Цярплівая маці ў знямозе,
У роспачы скардзіцца стала
Знаёмай дарозе:
«Пачуй мае словы,
Улашчы свой камень суровы,
За гэта вярбою
Гатова я стаць над табою.
Твайго пешахода
Я ў засень ад спёкі б хавала,
У час непагоды
Ад бур і дажджоў засланяла;
Старымі рукамі
Твой дол падмятала б штодня я,
Улашчы свой камень,
Дарога мая палявая».

Сказала дарога ёй:
«Скардзішся, маці,
Дарма ты,
Не ўзыдуць зярняты,
Бо ўпалі на камень шчарбаты.
Не першая ты
Каля камня заходзішся з жалю,
Не раз на ім сеялі, але ні разу не жалі.
На нашыя нівы
Яго закацілі чужынцы;
Чужы і маўклівы,
Даўно ён ляжыць пры гасцінцы.
З-за Буга яго
Закацілі і кінулі ў полі,
Каб сына свайго
Не даждалася маці ніколі.
Не ўзыдуць зярняты
Ні ўвосень на ім, ні вясною,
Пакуль ён не стане зямлёю,
Закляты табою».

З дарогі ўставала
І каменю маці казала:
«Вады табе мала
І матчыных слёз табе мала,
Цяпер я крывёю
Сваёю
Цябе праклінаю:
Ты станеш зямлёю,
А каменем стану сама я».

І тройчы такою
Кляцьбою
Той камень пракляла.
Стаў камень зямлёю,
Сама ж яна каменем стала.

На камні былым пры дарозе
Ўзыходзяць зярняты.
Вяртаецца сын па дарозе
З паходу дахаты.

1. Гэты твор напісаны ў 1943 годзе і прысвечаны трагічным падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Які паэтычны троп ужывае аўтар для характарыстыкі часу?
2. Праз якую ўмоўную сітуацыю перадае Аркадзь Куляшоў бязмежную самаахвярнасць маці? Якія эпітэты дапамагаюць стварыць вобраз жанчыны?
3. Як пераасэнсоўваецца ў творы народны выраз «акамянець з гора»? Якія яшчэ народныя выслоўі ўжываюцца ў творы?
4. Твор Аркадзя Куляшова «Маці» — гэта балада. Як і паэма, балада — ліра-эпічны жанр. Параўнайце прачытаныя вамі паэму Янкі Купалы «Магіла льва» і баладу Аркадзя Куляшова «Маці», звяртаючы ўвагу на сюжэт, вобразы-персанажы, аўтарскія адносіны да падзей, мову і аб'ём твора. З якімі фальклорнымі жанрамі пераклікаюцца гэтыя творы?
5. Звярніце ўвагу на фотаздымак манумента ў гонар маці-патрыёткі (скульптары Андрэй Заспіцкі, Іван Міско, Мікалай Рыжанкоў; архітэктар Алег Трафімчук). Ён прысвечаны Настассі Фамінічне Купрыянавай з беларускага горада Жодзіна, пяць сыноў якой аддалі жыццё за Радзіму ў час Вялікай Айчыннай вайны. Параўнайце лёс Н. Ф. Купрыянавай з лёсам гераіні балады Аркадзя Куляшова «Маці». Якія яшчэ творы пра Вялікую Айчынную вайну вы ведаеце? Якая агульная думка іх аб'ядноўвае?

### *Аркадзь Куляшоў

## БАЛАДА АБ ЧАТЫРОХ ЗАЛОЖНІКАХ

Іх вядуць па жытняй сцяжынцы.
Чатырох.
Пад канвоем.
З дому.
Чатырнаццаць — старэйшай дзяўчынцы,
Тры гады хлапчуку маломў.
Разам з імі ў падвал халодны
Гоняць цётку — сястру Міная,
А Мінай — гэта бацька іх родны,
Бацька родны,
Мсціўца народны.
Піша вораг аб ім у газетах,
Аб чырвонай

Брыгадзе ягонай,
Па усіх
Былых сельсаветах
Клеюць новы
Загад суровы.
Са слупоў, са сцен, аканіцаў
Пагражаюць Мінаю загадам:
Ён павінен скарыцца,
З'явіцца,
Здацца ў рукі фашысцкім уладам.
І вісіць той загад друкаваны
На Мінаевай хаце і клеці;
А не з'явіцца — расстраляны
Будуць заўтра заложнікі —
Дзеці...
У чаканні смяротнага часу
У падвале дзеці Міная.
З імі цётка іх родная разам,
Ёй таксама расстрэл пагражае.
— А чаму нас вартуюць салдаты? —
Знаць маленькаму хлопчыку трэба. —
А чаму не пускаюць з-за кратаў,
За якімі і сонца, і неба?
А ці скора нас вызваліць татка?
— Скора, — цётка гаворыць малому, —
Татка прыйдзе і ўсім нам, дзіцятка,
Волю дасць, і мы пойдзем дадому...
— А чаму не прыходзіць ён?
Сыну
Цяжка ўсё растлумачыць адразу.
— Спі, засні, — суцяшае жанчына
У чаканні смяротнага часу.
Цётка дзецям, уклаўшы малога,
Кажа праўду пра лёс іх суровы.
Не павінен ведаць нічога
Толькі меншы — сын трохгадовы.
— Вы нічога яму не кажыце, —

Навучае
Дзяцей Мінaя.
Сын у сне гаворыць аб жыцце,
Па якому
Пойдзе дадому.
У астрожнай
Трывожнай
Цішы
Сняцца краты меншаму сыну:
— Тут і мокрыя сцены,
І мышы...
Татка, татка... забыў нас... пакінуў.
— Спі, засні, — суцяшае кабета, —
Спі, сынок, не твая гэта справа.
Спі, наш татка не прыйдзе,
На гэта
Ён не мае бацькоўскага права.
Ноч праходзіць,
Сонца ўзыходзіць,
Заспявалі жаўранкі ў полі.
Іх выводзяць салдаты
За краты.
Хлопчык рад і сонцу, і волі.
Іх салдат
Да сцяны прыстаўляе.
Цэліць кат
У льняныя галовы,
Пачынае
З сына Мінaя.
Стрэл.
Упаў хлапчук трохгадовы...
Кат ізноў пісталет узнімае...
На сцяне — заложнікаў цені...

Вось і ўсё.
Перад бацькам Мінаем
Станьце, ўсе бацькі, на калені!

1. Трагічны выпадак, пра які расказвае напісаная А. Куляшовым у 1942 годзе «Балада аб чатырох заложніках», сапраўды адбыўся з сям'ёй партызанскага камандзіра бацькі Міная — Міная Піліпавіча Шмырова. Як апісаныя падзеі раскрываюць бесчалавечную сутнасць фашызму?
2. З самага пачатку ў баладзе ўзнікае вобраз жыта, потым ён паўтараецца («сын у сне гаворыць аб жыце»). Які сімвалічны сэнс мае гэты вобраз?
3. Радкі гэтага твора часта «разрываюцца» на асобныя словы, асабліва ў пачатку балады. Як вы думаеце, чаму?
4. Сюжэт гэтай балады характарызуецца выключнай напружанасцю. Якое слова абазначае яго кульмінацыю (вышэйшы момант напружання)?
5. Якія радкі найлепш выказваюць аўтарскія адносіны да падзей?

**Янка Сіпакоў**

## КАНТРАБАНДА[1]

*Беларуская балада.*
*XVI стагоддзе*

Стаміліся белыя коні і цёмнымі сталі ад поту,
Стаміліся бомы звінець пад дугою —
Матляліся ўжо неахвотна,
Ахрыпла іх песня — яна наглыталася пылу
І ўжо задыхалася ўся,
Калі варта рыплівую брычку спыніла,
Дзе кожнае кола візгліва
жаданага дзёгцю прасіла...
— Гэй, што ты вязеш праз граніцу? —
Чужая злавалася мова:
Пыталася варта сурова,
Шукала упарта ахова,
Шукала яна кантрабанду
У брычцы, як позняя восень, парожняй, —
Не верыла,
Што праз граніцу парожнімі ездзіць можна.
— Дык што ты вязеш?

[1] *Кантрабáнда* — недазволены перавоз праз мяжу тавараў і каштоўнасцей. Тут: духоўных каштоўнасцей.

— Вы ж бачыце самі — нічога.
— А можа, схаваў што?
— Навошта? Пабойцеся Бога —
Вы бачыце ўсё, што са мною…
— Ясна адно, — галадранцы!
Ездзяць тут розныя швэнды[1], —
ахова ўжо стала злавацца. —
А можа, ты кнігі вязеш?
Бо з Прагі тут нейкі Скарына
Кнігі злаўчыўся вазіць на радзіму,
Якую чамусьці пакінуў.
— Кнігі?
Ад іх толькі зло…
Бэсцяць кнігі наш люд паспаліты[2]…
— І ты супраць кніг, падарожны?!
Які малайчына, глядзі ты!
А ведаеш, думаю я, што прыйдзе часіна такая:
Нам скажуць
Скарыну таго затрымаць,
І мы, будзь ты пэвен, яго затрымаем!
І кнігі тады мы яго
Папалім усюды ў краіне…
— Чакайце, а кнігі ж святыя, пра Бога…
Дык як жа паліць іх?..
— Павінен
Сказаць я табе, чалавеча,
Што ты — кацянятка сляпое:
Можна паліць і святое, калі нам загад ёсць на тое.
Ты знаеш, і Бога самога
Мы можам паслаць на спаленне,
Калі непрыдатным ён стане
Для нашага раптам малення…
Я веру, Скарыну таксама,
Касцёр наш падсобіць на неба —
Асудзяць яго на спаленне нашчадкі…

---

[1] *Швэ́нды* (іранічнае) — людзі, якія ходзяць або ездзяць без мэты.
[2] *Люд паспалі́ты* — просты народ.

— Так яму, неслуху, й трэба!
— Ну, едзь, падарожны...
Чакай, а хто там сядзіць у фурманцы?
— Гэта ж фурман мой.
— Бач, з форсам катаюцца нават такія,
як ты, — галадранцы!
Ну, едзь — не мазоль нам вачэй...

Весялей заціліmкалі бомы,
Яны адпачылі крыху —
Дзе падзелася пыльная стома!
Спяшаўся дадому Скарына (а гэта быў ён — вы
пазналі?).
Коней сцябалі абое —
І «пан», і «фурман» коней гналі.
Глядзеў на «фурмана» з усмешкай Скарына —
Усё-ткі правёз кантрабанду ён з Богам!
Бо гэты «фурман» — быў найлепшы друкар,
Украдзены ў караля самога.
Ехаў Скарына Францыск друкаваць свае кнігі дома.
Цілімкалі
Весела
Бомы...

1. Гэты твор расказвае пра нашага найвыдатнейшага дзеяча культуры, пісьменніка, першадрукара, перакладчыка Біблії на беларускую мову. Што вы яшчэ ведаеце пра Скарыну, пра яго дзейнасць за мяжой і на Радзіме? Чаму так высока ацэньваюць дзейнасць Скарыны нашчадкі? Якім паўстае Скарына з твора Янкі Сіпакова «Кантрабанда»?
2. Звярніце ўвагу на жанравыя асаблівасці балады «Кантрабанда». Пра якія падзеі (сучасныя ці з даўняй гісторыі або ўзятыя з паданняў, легенд) аўтар расказвае?
   - Які сюжэт у творы (спакойны, напружаны, драматычны)?
   - Ці ёсць у творы элемент загадкавасці, таямнічасці?
   - Якую ролю ў характарыстыцы герояў твора адыгрывае дыялог? Свае адказы на гэтыя пытанні падмацуйце прыкладамі з твора.

## *Іаган Фрыдрых Шылер
## (1759—1805)

Нямецкі паэт, драматург, аўтар шматлікіх вершаў, балад, драматычных твораў.

### КУБАК

*Балада*

«Гэй, верныя рыцары, світа мая,
Хто смелы ў бездань нырне?
Залаты туды кубак кідаю я,
І Харыбда[1] яго праглыне.
Хто знойдзе мой кубак, з прадоння дастане,
Той возьме яго сабе ў карыстанне».

Сказаў так кароль і ўзышоў на абрыў,
Што над чорнай прорвай навіс,
Дзе вір шалёны шумеў і бурліў,
І кубак шпурнуў уніз.
«Хто кінецца ў мора, яшчэ раз пытаю?
Няўжо я адважных у свіце не маю?»

Прыціхлі, прымоўклі і чэлядзь і знаць:
«Няхай нас ратуе Бог!»
На дзікія хвалі з кручы глядзяць,
І ніхто з іх рашыцца не мог.
І ў трэці раз кароль запытаўся:
«Няўжо тут натоўп баязліўцаў сабраўся?»

Але ўсе маўчалі, як і раней.
І раптам знайшоўся смяльчак:
Рассунуўшы кола знямелых людзей,
Выходзіць шляхетны юнак,
Прыгожы паж наперад выходзіць,
І ахнула світа, вачэй не адводзіць.

---

[1] *Хары́бда* — у грэчаскай міфалогіі адна з пачвар, якая праглынала караблі.

Ён скінуў плашч і над прорвай стаў,
Зірнуў на бурлівую плынь:
Паток, што вір усмоктваў, глытаў,
Назад вяртаўся з глыбінь,
Разрэзваў з грукатам чорныя нетры,
І пырскі фантанам віліся ў паветры.

І плёскат, і булькат, і клёкат, і шып —
Нібы стрэўся агонь з вадой;
І хвалі, уздыбіўшы ўспенены хіб,
Імклівай плылі чарадой.
Навокал усё бушавала, дрыжала,
Быццам мора яшчэ адно мора раджала.

Нарэшце прыліў адступіў, адышоў,
Прыціх, наталіўшы гнеў,
І пашчу Харыбда ашчэрыла зноў,
Таемны разявіла зеў,
І туды, як у лейку, з гулам і свістам
Вада палілася струменем іскрыстым.

Але юнак апярэдзіў прыбой,
Надзеі на Бога усклаў,
І кінуўся ўніз са скалы крутой,
Нырнуў і ў прорве прапаў.
І агарнула прыдворных трывога,
Шкада ўсім стала хлапца маладога.

І прорва стуліла свае берагі,
Здабычы адчуўшы смак.
І шэпт пракаціўся поўны тугі:
«Бывай, адважны юнак!»
Штось глуха шумела, пасля перастала,
І жудасная цішыня настала.

Каб нават карону ўкінуў ён
І сказаў: «Хто яе прынясе,
Таму аддам і карону і трон», —
Адмовіліся б усе.
Харыбда скарбаў сваіх не пакажа,
Пра дзівы марскія ніхто не раскажа.

Нямала ахвяр праглынула яна,
Караблёў патрушчыла шмат,
Ні адзін чалавек з магільнага дна
Жывым не вяртаўся назад.
Тым часам прорва ізноў бушавала,
Бліжэй і бліжэй падступала навала.

І плёскат, і булькат, і клёкат, і шып —
Нібы стрэўся агонь з вадой;
І хвалі, уздыбіўшы ўспенены хіб,
Бягуць адна за адной,
Імчацца з грукатам несціханым,
І пырскі ў паветра ўзлятаюць фантанам.

І раптам блiснула нешта з вады:
То не лебедзь крыламі б’е,
Змагаецца з хвалямі паж малады.
Ён правай рукою грабе,
А ў левай кубак высока трымае,
І крык захаплення над прорвай лунае.

Ён дыхае доўга, шчаслівы стаіць,
Хоць твар і збялеў ад пакут.
Народ на героя з пашанай глядзіць:
«Ён жывы! Ён з намі! Ён тут!
З жахлівае бездані вырваўся ўдала —
Такога на свеце яшчэ не бывала».

Узрушаны двор пераможцу вітаў.
Ён укленчыў перад каралём
І кубак падаў, і кароль загадаў
Напоўніць кубак віном.
Сама каралеўна хлапца частавала,
І сэрца яго ад любві раставала.

«Жыві і красуйся, магутны ўладар! —
Прамовіў пачціва юнак. —
Жыццё на зямлі — найвялікшы дар,
Нябеснае літасці знак,
А там — жах і цемра, схавана глыбока
Адвечная тайна ад прагнага вока.

І вір мяне пацягнуў, павалок
З нястрымнай сілай на дно,
А знізу сустрэчны імчаўся паток,
І яны зліліся ў адно.
І так мяне біла, круціла, вярцела:
Я думаў, душа адарвецца ад цела.

Але Бог не пакінуў мяне ў бядзе,
Не адвярнуў вачэй,
Заўважыў я выступ каменны ў вадзе
І ўчапіўся аберуч хутчэй.
Там і кубак вісеў на галінцы карала,
Ненажэрная прорва яго не забрала.

Пада мною была пурпуровая глыб,
Нібы шлях у пякельную мглу.
Я ўбачыў безліч дзівосных рыб
І між імі рыбу-пілу.
І зборышча гадаў агідных, мясістых
Паўзло, варушылася ў нетрах барвістых.

Саламандры, яшчары, змей вадзяны…
Пачвары звіваліся ў клуб:
То клюшні тырчалі з шурпатай спіны,
То востры высоўваўся зуб.
І ўжо да мяне падплывала акула,
Драпежніца кроў сваім носам пачула.

І стала мне жудасна, ледзь не самлеў,
Мой дух агарнуўся тугой:
Ніхто не ўратуе, я ў прорве вісеў
Сам-насам са смерцю ліхой,
Не чуючы добрага слова людскога,
Сярод страшыдлаў прадоння марскога.

І тут на мяне з багровай імглы
Накінуўся спрут-васьміног,
Прыцягвае, смокча, прэч ад скалы
Я рвануўся, трываць больш не мог,
І вір падхапіў мяне ў тое ж імгненне
І вынес наверх, Бог паслаў мне збавенне».

Падзівіўся кароль: «Дагадзіў ты нам,
Мы чулі цікавы расказ.
Кубак — твой, але ж я і персцень аддам,
У якім неацэнны алмаз,
Калі зноў у падводнае царства адважна
Нырнеш ты і ўсё агледзіш уважна».

Каралеўну спалохаў бацькаў загад:
«Калі ласка, я вельмі прашу,
Зазнаў ён і так небяспекі шмат,
Не губіце жывую душу,
Не прымушайце юнага пажа,
Няхай хто з рыцараў храбрасць пакажа».

З усмешкай кароль на абрыў узышоў,
І кубак знік пад вадой:
«Калі ўдасца табе адшукаць яго зноў,
Будзеш першым у свіце маёй,
І будзе жонкай тваёю тая,
Што гэтак шчыра табе спагадае».

І прасвятлела душа юнака,
Каханне адолела страх.
Румянцам палае ў красуні шчака,
І слёзы ў яе на вачах.
І кінуўся хлопец у вір галавою,
Каб шчасце знайсці ці пакончыць з сабою.

Прыбой наступае, бушуе, раве
І коціцца з шумам назад.
Глядзіць каралеўна: ён, можа, ўсплыве,
А сэрца гаворыць — наўрад.
І спадзяванні гаснуць паволі,
Няма юнака і не будзе ніколі.

*Пераклад Юркі Гаўрука*

1. Якімі вы ўяўляеце герояў балады: пажа, караля, каралеўну? На чыім баку сімпатыі паэта?
2. Якія радкі балады перадаюць найбольш напружаныя моманты дзеяння?

3. Чаму кінуўся ў вір юнак-паж у першым і другім выпадку?
4. Якое ўражанне выклікае апісанне бурлівага мора аўтарам у пачатку балады і з аповеду юнака? Якія эпітэты, параўнанні, метафары дапамагаюць стварыць адпаведны настрой?
5. Ці можна параўнаць душу караля з «ненажэрнай прорвай»? Абгрунтуйце сваю думку.
6. Як вы лічыце, ці адбываліся апісаныя ў баладзе падзеі на самай справе?

## БАЛАДА

***Балада*** — невялікі сюжэтны верш гераічнага ці легендарнага зместу, у якім расказваецца пра незвычайнае здарэнне. Характэрнымі асаблівасцямі балады з'яўляюцца напружаны, з элементамі фантастыкі сюжэт, трагічная развязка. Так, пра фантастычныя, неадпаведныя рэальнаму жыццю падзеі расказваюць балады «Маці» Аркадзя Куляшова і «Кубак» Іагана Фрыдрыха Шылера. Часта балады пішуцца на аснове гістарычнага матэрыялу.

«Мы гаворым “балада” — і ажывае сівая, авеяная паданнямі даўніна, і непаўторным, сурова-гераічным голасам гаворыць з намі гісторыя. Разгортваюцца хвалюючыя старонкі народнай памяці. І шчымлівым пачуццём пранікаюцца нашы сэрцы...

У баладнага слова асаблівы лад і тон. У баладзе пануе атмасфера незвычайнага, адбываецца нешта важнае, істотнае, што мае дачыненне да ўсіх і кожнага. Тут дзіўна і вельмі натуральна спалучаюцца хваляванне аўтара, яго асабістае пачуццё з пачуццямі, перажываннямі ўсяго народа... Гэта паэтычны і трагічны, лірычны і адначасова эпічны дыялог чалавека з гісторыяй, асобы з грамадствам, паэта з народам. Гэта і ўрок мужнасці, веры, маральнай непахіснасці» *(Варлен Бечык)*.

На прыкладзе адной з прачытаных вамі балад пакажыце, чым гэты твор адрозніваецца ад лірычнага верша.

## *Анатоль Вярцінскі

## МЫ, МЁД І ПЧАЛА

А потым гаспадыня да стала,
да чаю мёд нам падала.
І ўсе, адчуўшы пах мядовы,
хваліць той мёд былі гатовы.
Калі ж адчулі яго смак —
хвалілі мёд і так і сяк.
Хвалілі гаспадыню чынна,
што частавала нас гасцінна,
а ўслед за ёй — гаспадара.
Хвалілі потым пчаляра.
Хвалілі луг, хвалілі кветкі,
што мёд даюць надзіва рэдкі.
Усім тут аддалі хвалу.
Забылі толькі пра... пчалу.

1. Што ці хто маецца на ўвазе пад вобразамі пчалы, гасцей?
2. Для чаго А. Вярцінскі расказаў нам гэтую гісторыю? Якой вам уяўляецца пазіцыя аўтара ў гэтым вершы?
3. Верш А. Вярцінскага «Мы, мёд і пчала» — гэта прытча, якая заключае маральнае павучанне. Што робіць гэтае павучанне больш пераканальным?
4. Які вывад вы зрабілі з расказанай гісторыі?

## Кандрат Крапіва

## ГАНАРЫСТЫ ПАРСЮК

*Байка*

Бывае, праўда вочы коле...
Раз гнаў пастух свіней у поле.
Адзін вялі́зарны Парсюк,
Які абегаў вёску ўсю,
За раніцу абшнырыў завуголле,
Цяпер такі меў выгляд важны,

Што носа не дастаць і сажнем[1] —
Вышэй за ўсіх ён сам сябе лічыў,
А што ў самога на лычы,
Не бачыў гэтага, аднак.
І вось адзін тут Падсвіна́к,
Які заўважыў бруд раней,
І кажа: — Дзядзечка, твой лыч у брудзе!
Нязграбна гэта й між свіней,
А што ж, калі заўважаць людзі?
Парсюк наставіў хіб[2], Парсюк раз’юшан:
— Цераз цябе я чырванець прымушан!
Такое мне сказаць асмеляцца нямногія,
Дык гэта ж — дэмагогія[3]! —
Парсюк наш лаецца, не даравацъ клянецца:
— І месца мокрага, — крычыць, — не застанецца!
Ты мой свінячы гонар закрануў! —
І так ён Падсвіна́ка грызянуў,
Што той за сажняў пяць адскочыў.

---

Парсюк не надта быў ахвочы
Глядзецца праўдзе ў вочы.

1. Што ў паводзінах Парсюка выклікае смех? Чаму так раззлавала яго тактоўная заўвага Падсвінака?
2. Як праз лаянку Парсюка выяўляецца яго характар? Якая фраза гучыць асабліва недарэчна?
3. Хто маецца на ўвазе пад вобразамі Парсюка і Падсвінака?
4. Знайдзіце ў байцы крылатыя выразы, блізкія да народных прыказак і прымавак. Растлумачце іх сэнс.
5. На якія часткі дзеліцца байка? Чым яны адметныя?
6. Звярніце ўвагу на дыялог, які займае значнае месца ў байцы. Падумайце, для чаго ім карыстаецца пісьменнік.

---

[1] *Са́жань* — мера даўжыні, роўная 2,1336 метра.
[2] *Наста́віць хіб* — пагрозліва выгнуць пярэднюю частку хрыбта.
[3] *Дэмаго́гія* — пустаслоўе.

# БАЙКА

***Байка*** — кароткае вершаванае апавяданне, якое мае павучальны або выкрывальны характар. Сюжэт байкі *алегарычны*: найчасцей расказваецца пра звычкі і паводзіны жывёл, а падразумяваюцца і высмейваюцца заганы людзей. Іначай кажучы, байка, як і ***прытча*** (невялікі апавядальны твор, які ў іншасказальным выглядзе заключае маральнае павучанне), заўсёды мае пераносны, іншасказальны сэнс.

Персанажы байкі — пераважна жывёлы і птушкі. Гэтыя вобразы прыйшлі ў байку з казкі і захавалі рысы, замацаваныя за імі народнай фантазіяй.

Байка звычайна складаецца з дзвюх частак: апавядання (сюжэта) і вываду (маралі). *Мараль* часцей даецца ў канцы байкі, але можа быць і ў пачатку.

Байка — жанр сатырычны, гэта значыць, для яе ўласцівы выкрывальны смех, дасціпнае адлюстраванне адмоўных з'яў. Для стварэння сатырычнага эфекту ў байцы выкарыстоўваюцца гіпербала (перавелічэнне), іронія (затоеная, прыхаваная насмешка).

## Алегорыя

***Алегорыя*** (ад грэч. — «іншы» і «гавару») — іншасказальнае адлюстраванне прадмета ці з'явы праз вобразы, якія маюць пераносны сэнс. Алегорыя ўжываецца для таго, каб у канкрэтнай, нагляднай форме данесці да чытача нейкую думку.

Іншасказальным характарам вызначаюцца многія народныя казкі, прыказкі, прымаўкі. Устойліва замацаваны алегарычны сэнс маюць у вуснай народнай творчасці вобразы раслін і жывёл: ліса ўвасабляе хітрасць, свіння — неахайнасць, пчала — працавітасць, жыта — жыццё і г. д. Абстрактнае паняцце, такім чынам, перадаецца праз канкрэтны вобраз.

Алегорыя ўжываецца ў байках і прытчах. Так, у байцы «Ганарысты Парсюк» праз вобраз Парсюка паказваецца нахабная сіла тых, хто ваюе супраць праўды пра сябе.

1. Растлумачце алегарычны сэнс адной з вядомых вам баек.
2. Чым блізкія паміж сабой алегорыя і метафара?

## Вучымся выразна чытаць байку

Чытальнік расказвае байку — сюжэт пра нейкае цікавае, смешнае, недарэчнае здарэнне, якое мае павучальны сэнс. Перадаючы голасам характэрныя асаблівасці персанажаў, ён як бы бачыць іх збоку, застаючыся апавядальнікам. Пры чытанні байкі трэба імкнуцца зацікавіць, заінтрыгаваць чытачоў нібы толькі што прыдуманай гісторыяй, выкарыстоўваючы сатырычны падтэкст.

Вызначым мэту чытання байкі «Ганарысты Парсюк»: высмеяць зазнайства, самалюбства, высакамерныя адносіны да акружаючых.

«Ганарысты Парсюк» — такую яркую характарыстыку галоўнаму персанажу байкі дае яе назва, якую трэба прачытаць, падкрэсліваючы самазадаволенасць, напышлівасць героя, што выглядае вельмі недарэчна.

Раздзелім тэкст байкі на сэнсава завершаныя часткі і складзём партытуру іх чытання.

Першы радок байкі — яе мараль, якая патрабуе асабліва ўважлівага прачытання.

Бывае, праўда| вочы коле...\/

Лагічны націск у фразе падае на асабліва важнае па сэнсе слова «праўда». Паміж гэтым словам і наступным фразеалагізмам «вочы коле» — вялікая супярэчнасць, на якой будуецца ўвесь змест байкі. Гэтую супярэчнасць падкрэслівае лагічная паўза, а таксама павышэнне і паніжэнне тону голасу. Затым трэба зрабіць псіхалагічную паўзу, паказваючы, што вы рыхтуецеся расказаць нешта цікавае.

Наступная частка байкі — уступная, у якой расказваецца пра час дзеяння, герояў і завязку канфлікту. Лагічнымі націскамі, паўзамі, павышэннем і паніжэннем тону голасу мы вылучаем сэнсава важныя словы, якія называюць паняцці, герояў, перадаюць супастаўленне, пералічэнне.

Раз гнаў пастух| свіней у поле. ‖
Адзін вялі́зарны Парсюк,
Які абегаў вёску ўсю,|
За раніцу абшнырыў завуголле,

Цяпер такі меў выгляд важны,
Што носа| не дастаць і сажнем —
Вышэй за ўсіх ён сам сябе лічыў,
А што ў самога на лычы,
Не бачыў гэтага, аднак. ‖

У наступных частках — завязка дзеяння, калі далікатны Падсвінак, нібы просячы прабачэння, асмельваецца зрабіць заўвагу; кульмінацыя, калі раз'юшаны Парсюк абараняе свой «свінячы гонар»; і развязка. Апошнія два радкі дапаўняюць мараль, вяртаючы нас да слова «праўда» — сэнсавага цэнтра байкі.

Паспрабуйце самастойна закончыць складанне партытуры чытання байкі і падрыхтуйце яе выразнае чытанне.

***Уладзімір Корбан**

## МУЗЫКАЛЬНАЯ КАМЕДЫЯ

Матулі неспакой: што робіцца з малым?!
Ну так і трэцца ля шафёра!
Ледзь толькі той на двор прыгоніць «ЗІМ»,
Сынок заўсёды з ім.
Старанна калупаецца ў маторы.
Пухір — а ведае і камеры і блок,
Яму вядома шрубачка любая.
Жалеззя ў свой пакойчык навалок,
Пілуе нешта, склёпвае, згібае.
«А можа, у хлопчыка да тэхнікі ухіл?..» —
Не раз падказвалі суседзі.
Матуля ў крык: «Мой Федзя
Ды каб у бруд палез, у пыл?
Я гэтага не дапушчу ніколі!
У нас ён будзе піяністам —
Сучасным Лістам[1]!»
Вось Федзя ўжо ў музычнай школе,

[1] *Ферэнц Ліст* — вядомы венгерскі кампазітар, піяніст, дырыжор.

Развучвае дыезы ды бемолі[1],
Хоць і жадання ў яго няма.
У хлопчыка ў кішэнях гайкі,
Ён марыць аб майстэрстве пайкі...
Але дарма.
Матуля з ім змагаецца штосілы —
Выкідвае з кватэры гайкі і балты,
Дзяўбе, дзяўбе: «Музыка ты!»
І ўсё ж дабілася нарэшце, адвучыла
Ад «чорнай» працы хлапчука.
Ды захадам такім сынка
Яна таленавітым не зрабіла.
Падрос ён, шавялюру адпусціў,
— Ну як жа! — «Чыжыка» блямболіць
навучыўся!
«Я Шубертам[2], Бетховенам[3] зрабіўся!»
— Дзе трэба і не трэба ён часціў
І талентам сваім хваліўся
Направа і налева як мага.
І хто ён зараз дзякуючы маме? —
Ні богу свечка і ні чорту качарга.
А ў нас яшчэ бывае так часамі,
Я дам параду мамам усім чыста:
Не трэба перашкод малым рабіць.
Куды шаноўней слесарам выдатным быць,
Чым дрэнным піяністам.

1. У байцы Кандрата Крапівы «Ганарысты Парсюк» асноўная думка твора раскрываецца праз іншасказанне, праз сюжэт, у якім галоўнай дзейнай асобай выступае Парсюк. Чым адрозніваецца ад папярэдняй байкі твор Уладзіміра Корбана «Музыкальная камедыя»?
2. Знайдзіце ў тэксце байкі «Музыкальная камедыя» радкі, у якіх непасрэдна фармулюецца мараль байкі. Падумайце і адкажыце, ці толькі да гэтага выпадку — захапленне хлопчыка тэхнікай — можна

[1] *Дые́зы ды бемо́лі* — знакі павышэння і паніжэння гуку ў нотным пісьме.

[2] *Франц Шуберт* — аўстрыйскі кампазітар.

[3] *Людвіг ван Бетховен* — нямецкі кампазітар, дырыжор.

дастасаваць гэтую думку. Які больш шырокі, абагульнены сэнс яна мае?
3. У байцы ўжываюцца яскравыя выказванні тыпу: «Ні богу свечка ні чорту качарга». Скажыце, як яны называюцца і дзеля чаго ўжыты.
4. Ці ёсць у гэтай байцы іронія, гіпербалы?
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання гэтай байкі. Прадумайце, з якой інтанацыяй трэба чытаць кожную яе частку.

## Пытанні і заданні да раздзела

**1.** Якія рысы, уласцівыя эпічным і лірычным жанрам, аб'ядноўваюць у сабе паэмы, балады, прытчы, байкі?

**2.** На прыкладзе адной з прачытаных вамі паэм раскажыце пра яе жанравыя асаблівасці: тэму, ідэю, сюжэт, вобразы-персанажы, аўтарскія перажыванні і пачуцці, адлюстраваныя ў творы.

**3.** На прыкладзе адной з балад пакажыце, што ўласціва гэтаму літаратурнаму жанру.

**4.** Чым блізкія паміж сабой і чым адрозніваюцца паэма і балада?

**5.** Што адрознівае прытчу ад іншых ліра-эпічных твораў?

**6.** Што аб'ядноўвае такія літаратурныя жанры, як прытча і байка?

# КАЛІ ХАРАКТАРЫ РАСКРЫВАЮЦЦА Ў ДЗЕЯННІ

## ДРАМАТЫЧНЫЯ ЖАНРЫ

Асноўнай асаблівасцю драматычнага спосабу адлюстравання жыцця з’яўляецца паказ чалавека ў дзеянні, раскрыццё яго характару праз паводзіны, учынкі, выказванні. Гэтым драматычныя творы блізкія да эпічных. Але ў эпічных творах звычайна расказваецца аўтарам пра тое, што адбывалася з героямі раней, пра падзеі, якія ўжо былі, прайшлі. У драматычных — дзеянне паказваецца, яно адбываецца непасрэдна перад намі, падзеі разгортваюцца на нашых вачах. У драматычных творах адсутнічае аўтарскі аповед, апісанне, зрэдку сустракаюцца толькі тлумачэнні таго, як выглядае сцэна, ды *рэмаркі* — кароценькія заўвагі аб знешнім абліччы персанажа, яго паводзінах. Сам падзел драматычнага тэксту на часткі вельмі адметны: гэта дзея, акт, карціна, з’ява.

Драматычныя творы маюць форму *дыялога* — размовы дзвюх і больш асоб. Але не ўсякі дыялог, не ўсякая размова можа быць асновай для драматычнага твора. Дыялог часта прысутнічае і ў эпічных творах — раманах, аповесцях, апавяданнях, там, дзе героі абменьваюцца думкамі, што-небудзь паведамляюць адзін аднаму. У драматычных творах дыялог непасрэдна звязаны з дзеяннем, з *канфліктам*, што ляжыць у аснове сюжэта, ён падштурхоўвае, рухае дзеянне п’есы. Драматычныя творы часцей за ўсё сюжэтныя, заснаваныя на вострым канфлікце, барацьбе характараў.

Побач з дыялогам у драматычных творах нярэдка сустрэнем і маналог, або *рэпліку* — разгорнутае эмацыянальнае выказванне, разважанні героя, звернутыя да гледача ці чытача. Гэтым драматычныя творы зблiжаюцца з лірыкай, дзе форму маналога мае амаль кожны верш.

Драматычныя творы звычайна пішуцца для пастаноўкі на сцэне. Іх змест раскрываецца пры дапамозе ігры акцёраў у адпаведным чынам аформленым спектаклі. Сувязь драматычных твораў з тэатрам абумоўлівае іх будову, *кампазіцыю*. Яны не могуць быць вельмі вялікімі па працягласці дзеяння, а гэта значыць, і па аб'ёме, не могуць мець, як у рамане, шмат сюжэтных ліній, дзейных асоб.

Першым беларускім вандроўным лялечным тэатрам была ***батлейка*** (XVI — пачатак XX ст.). Спачатку батлейка мела рэлігійны характар, але паступова батлейшчыкі пачалі ўводзіць інтэрмедыі, бытавыя сцэнкі камедыйнага характару. Падобныя лялечныя тэатры былі і ў іншых краінах: ва Украіне (XVII ст.) ён называўся вертэп, у Расіі (XVII ст.) гэта быў тэатр Пятрушкі. Аб'ядноўвала гэтыя тэатры тое, што ўсе героі спектакляў былі вясёлымі, непераможнымі абаронцамі слабых і прыгнечаных.

Самыя даўнія з драматычных жанраў — трагедыя і камедыя. Яны ўзніклі каля двух з паловай тысячагоддзяў таму, яшчэ ў Старажытнай Грэцыі, з народных прадстаўленняў, якія разыгрываліся ў час розных свят, карнавальных відовішчаў. ***Трагедыя*** мае ў сваёй аснове вельмі востры канфлікт, непрымірымую барацьбу супрацьлеглых сіл, якая заканчваецца смерцю галоўнага героя. ***Камедыя*** — наадварот, паказвае такія жыццёвыя з'явы, якія выклікаюць смех. Смех можа быць і нязлосным, лёгкім (гумар), і вельмі з'едлівым, вострым (сатыра). ***Драма*** як жанр узнікла значна пазней. Яна адрозніваецца ад камедыі і трагедыі тым, што паказвае з'явы паўсядзённага жыцця, канфлікты, нярэдка вострыя (драматычныя), але без трагічнай развязкі.

У залежнасці ад зместу, характару дзеяння вызначаюць такія віды камічных твораў, як *вадэвіль, фарс* (гл. Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў).

## Янка Купала

# ПАЎЛІНКА

*Камедыя ў двух актах*

Асобы:

Сцяпан Крыніцкі, засцянковы шляхціч, 45 г.
Альжбета, яго жонка, 40 г.
Паўлінка, дачка Крыніцкіх, 19 г.
Пранцісь Пустарэвіч, сваяк Крыніцкіх, 50 г.
Агата, яго жонка, 43 г.
Якім Сарока, настаўнік, 25 г.
Адольф Быкоўскі, 24 г.
Госці, музыкі

Рэч адбываецца да рэвалюцыі, у хаце Крыніцкіх.

## АКТ ПЕРШЫ

Абшырная святліца. Направа ад публікі вокны ў сад, бліжэй да аркестра — стол; каля стала — лавы і табурэцікі, над сталом — вісячая недарагая лямпа, на сцяне — абразы. Налева — дзверы ў сенцы, бліжэй да аркестра — куфар. Напроці — сцяна і дзверы ў бакоўку (каморку); справа пры сцяне ад бакоўкі — ложак, засланы коўдрай, у галавах высока накладзена падушак; налева — у кутку — печ; на сцяне стрэльба, старасвецкі з гірамі гадзіннік і некалькі тандэтных[1] малюнкаў. Час — асенні вечар перад Пакровамі.

### З'ява I

Паўлінка *(адна)*

Стройная і досыць прыгожая дзяўчынка. Адзеўшыся ў недарагую крамніну, але чысценька; без хусткі — у валасах колькі грабеньчыкаў. Сядзіць на ложку і пільна шые крамны кафтанік. Як падымаецца заслона — Паўлінка пяе.

Ой, пайду я лугам, лугам,
Дзе мой мілы арэ плугам;
Ой, пайду я лугам, лугам!
Ён арэ поле валамі,
А я плачу ўсё слязамі;
Ён арэ поле валамі.

Перастаўшы пецъ.

[1] *Тандэ́тных* — тут: недарагіх, танных.

Э-э, штось не пяецца сягоння. Неяк сэрцайка трасецца, як бы хто яго знячэўку перапужаў. А мо’ гэта песня вінавата? Даліпантачкі аніяк не магу сама з сабой да ладу прыйсці. Ану, на шчасце зачну другую. Якую ж бы тут? Ага!.. *(Пяе.)*

Дый чаго ж ты, дуб зялёны,
Пахінаешся?
Дый чаго ж ты, мой міленькі,
Задумляешся?

Пеючы, падыходзіць да акна і пaглядае, пасля ізноў садзіцца.

А ўсё-такі нешта нецікава на сэрцы. І чаго яму, бедненькаму, не стае? Піць і есці, дзякаваць богу, хватае, часам татка дае грошы і на сукенкі... Чаго, чаго, здаецца, тут хацець?.. Ох, ох, як жа маркотненька! Проста хоць збірай манаткі ды йдзі ўпрочкі з хаткі. Ужо вечарэе: зараз не будзе як шыць, а трэба сягоння канешне кончыць. Заўтра Пакровы... у Міхалішках кірмаш... Эх, эх, каб хаця той прыйшоў, каго так хочацца сягоння пабачыць. *(Садзіцца пры акне і пачынае зноў, шыючы, пець.)*

Ой, ляцелі гусі дый з-пад Беларусі,
Селі яны, палі на сівым Дунаі!

Селі яны, палі, ваду замуцілі
Дый нас, маладзенькіх, з сабой разлучылі.

Бадай тыя гусі марне запрапалі,
Як мы любіліся — цяпер перасталі.

*(Паглядзеўшы ў акно.)* Ну, ужо зусім няма як без агню шыць! Зараз трэба запаліць лямпу. Цямнее і цямнее, ночка набліжаецца, а яго як няма, так няма! А шчыра абяцаўся, шэльма, напэўна прыйсці. *(Шукае запалак і запальвае лямпу.)* І што гэты тата да яго мае. З таго часу, як даведаўся, што ён на мяне мілым вокам пaглядае, усё роўна як чорная кошка між імі перабегла. Ён-то нічога, але тата — дык жыўцом бы яго з’еў. Ну, але тата сваё, Якім сваё, а я — сваё. Паглядзім, чый верх будзе: таткаў, ці мой, ці яго? *(Падумаўшы.)* Казаў, прыйдзе сягоння, каб там і ліха гарэла. «Трэба, кажа, сякую ці такую зрабіць пастанову. Мы, кажа, не дзеці — маем свой розум і можам

сабой пакіравацца. Толькі ты, кажа, Паўлінка, павінна на гэта прыстаць канешне, бо іначай, кажа, згінем, як рудыя мышы...» *(Ускочыўшы.)* Ай! нехта ідзе. Ён, ён, напэўна, ён!

### З’ява II

П а ў л і н к а, Я к і м

Я к і м. Вось і я — як тут быў! Добры вечар яснепекнай панне Паўлінцы. Што, золатца маё ненаглядпае, прачакалася трохі мяне, ненавісніка? *(Глянуўшы на бакі.)* А ці нікога няма? *(Гаворачы, набліжаецца да Паўлінкі, вітаецца і хоча абняць яе.)*

П а ў л і н к а *(баронячыся)*. Ой, ой! памалу! Усе дома, усе дома. Толькі ў Якіма не ўсе дома, бо поначы ходзіць да маладых дзяўчат. Дадуць, дадуць зараз пытлю старыя. *(Тупаючы нагой.)* Пазваленне ёсць гэтак позна прыходзіць?

Я к і м *(садзячыся)*. Ёсць, ёсць, мая ты сакатушка, шчабятушка! Кажы толькі хутчэй, галубка мая бяскрылая: тата твой дома ці не? Бо ж сама ведаеш, якая ў нас з ім страшэнная любасць...

П а ў л і н к а *(садзячыся за шыццё)*. Ой, чаму ж не ведаю: як між катом і сабакам, якраз. Але, але смела будзь, як у бога пад прыпечкам. Паехалі абое на торг і, пэўна, позна вернуцца, бо маюць трохі сяго-таго да прадання і маняцца сякія-такія зрабіць пакупкі. Бачыш, заўтра мае быць трохі гасцей з кірмашу. *(Абнімае Якіма, раптам знаходзіць у кішэні кнігу.)* А гэта што? *(Чытае няўмела першыя радкі з «Песні аб Сокале» М. Горкага. Потым ён забірае ў яе кнігу і сам чытае.)*

Я к і м. Та-а-к! Значыцца, тым кшталтам, вечарынка будзе.

П а ў л і н к а. Так, так! Вечарынка быць-то будзе, але не ўсе на ёй будуць.

Я к і м. Эх, Паўлінка! Ты ўсё сваё; мне і так горка на душы, як бы хто там палын засеяў, а ты яшчэ прытычкамі сваімі соліш. Вазьму назлосць ды прыйду. Што ж яны са мною зробяць?

П а ў л і н к а. Зрабіць-то нічога не зробяць, але і ты сам нічога не зробіш; а толькі пераробіш...

Я к і м *(робячы папяросу)*. Ці ясне-панна Паўлінка пазволіць мне закурыць пры ёй?

П а ў л і н к а. Ого, скуль такая далікатнасць? Рукам каля дзяўчыны дае волю без пытання, а як папяроску закурыць, дык пазвалення просіць. Не пазваляю затое, вось і ўсё тут!

Я к і м. А я закуру.

П а ў л і н к а. А я не дам!

Кідае шыццё і хоча адабраць папяросу. Нейкі час тузаюцца, бегаюць адно за адным па хаце і няўмысля раскідаюць на ложку падушкі.

Я к і м *(бегаючы)*. Ну, ужо годзе, годзе, Паўлінка! Болей нічому без твайго пазвалення даваць волі не буду.

П а ў л і н к а. Ну, калі так, то згода!

Садзяцца. Я к і м курыць. П а ў л і н к а шые.

Я к і м *(памаўчаўшы)*. Паўлінка!

П а ў л і н к а. Га! Ці пан Якім забыўся, як я завуся?

Я к і м. Ды не! Я хацеў бы, золатца, сур'ёзна з табой пагаварыць.

П а ў л і н к а. І-і!!! Ведаю я гэтыя сур'ёзнасці. Першнаперш будзе, ці я люблю, пасля — ці вельмі моцна, а пасля — ці гатова ўсё чысценька зрабіць, што чарнабрывы Якім захоча, а там, а там... і паехала, як на непадмазаных калёсах... Ці ж не праўда?

Я к і м. Праўда то праўда, але ўсяму мусіць быць канец.

П а ў л і н к а. Ну, дык слухаем, вашэці. А вось можа і новую песеньку нам спяіцё. Адно толькі за ўмовай: або надта вясёлую-вясёлую, каб аж лявоніху захацелася ісці, або такую сумна-сумненькую, што, выслухаўшы яе, — раз, два, ды бухтыль у вір галавою! вось так!

Паказвае і чуць не валіцца; Якім падхоплівае і садзіць яе на лаве.

Я к і м. Гэта будзе ад цябе, маё ты сонейка, залежаць. Як захочаш — такая і песенька выйдзе: або вясёлая, радасная, як бы самое неба яснае, або сумная, гаротная, як асеннія хмары над гэтай зямелькай чорнай. *(Памаўчаўшы.)* Эх, эх! І дакуль жа ўсё гэта будзе цягнуцца? Дакуль, як сухавей, сушыць і мучыць нас будзе?

П а ў л і н к а *(жартаўліва)*. Толькі не нас, а мяне, трэба гаварыць. Мне дужа добра, весела і так лёганька, лёганька на сэрцы, што...

Я к і м *(з дакорам)*. Паўлінка!

П а ў л і н к а *(закрываючы губы рукой)*. Ну, ну, ужо маўчу... як нямая рыба.

Я к і м *(як бы сам да сябе)*. Калі, калі ўжо надойдзе тая часінка, што нас злучыць навекі, і мы ўжо ніколі не расстанемся? Калі? Калі?..

П а ў л і н к а. Ха-ха-ха! На святое ніколі. Вельмі ўжо татка мой заеўся на цябе з таго часу, як даведаўся, што мы з табой злюбіліся. Ну, а без таты гэты інтэрас наладзіць будзе вельмі трудна.

Я к і м. Трудна то яно трудна, але няма таго злога, каб не выйшла на добрае. Хоць бы, прымерам, мы з табой так зрабілі: выбраўшы падхадзячую часіну, калі стары будзе не ў злосці, узяліся з табой за рукі, падышлі да яго, укленчылі і сказалі: так і так, наш добры бацечка, — я люблю Паўлінку, а я люблю Якімку — вельмі-вельмі моцна, так, што і жыцця нам аднаму без аднаго нямашака, ну дык супакойце нашы сэрцайкі, дайце нам пазваленне ўзяць ды пажаніціся.

П а ў л і н к а. Э-э!!! Не туды, мой дурненькі Якімка, паехаў! Уедзеш гэтак у нерат, што ні ўзад ні ўперад. Каб гэта яшчэ толькі з мамкай, то яно сяк-так, як табе не раз я і казала, але са старым дык чыстая бяда, настаяшчае гора. Хоць ты яму кол на галаве чашы, дык нічога не выдзеўбеш. «На парог, кажа, каб і не важыўся паказвацца; мазгаўню, кажа, гаду пашчапаю!» Вось і рабі з ім, што хочаш! Каб мог, дык на першай асіне павесіў быў цябе. Ну, і дзе ж у такім разе набрацца смеласці, ісці кленчыць перад ім і прасіць пазвалення?.. Задасць такога пытлю і табе, і мне разам, што і жаніцьба ў галаву не палезе.

Я к і м. Так то яно так! Але я неяк усё яшчэ надзеі не трачу, — а ну ж адпусціцца. Быў жа такі час, што мяне любіў ды нават у бядзе то тады, то сяды памагаў.

П а ў л і н к а. Быў час, але вадою сплыў. Памагаў, пакуль не ўбачыў, што трэба і дачкою памагчы, а як да гэтага стала даходзіць, вось у ім і адазвалася шляхоцкая фанабэрыя. Другую песню цяпер пяе. Нож точыць... востра нож точыць

родны мой татка на таго, каго сам калісь любіў і каго я палюбіла... *(Устаючы, горача.)* І на векі вечныя любіць буду.

Ідзе і папраўляе падушкі, за ёй — Якім, абнімае яе і садзяцца, абняўшыся, на ложку.

Я к і м *(памаўчаўшы, ласкава)*. Паўлінка!

П а ў л і н к а *(смеючыся)*. Ізноў забыўся, як завуся?

Я к і м. А ты ізноў сваё... Слухай, міленькая: ці ты надумалася зрабіць тое, аб што я цябе надовічы прасіў і маліў? Сама ж ты, золатца, казала мне не раз і цяпер кажаш, што татка твой ні на якія просьбы не згодзіцца. Значыцца, сама добра разумееш, што іншага выхаду для нас нямашака. А гэтак, як я казаў, будзе найлепей. Ці то мы будзем першыя, або апошнія? Янка Лукашонак з сваёй Зосяй так зрабілі, Ігнась Манякоўскі з сваёй Дамінісяй, ды і шмат хто... Бацькі спачатку пазлуюць, пазлуюць трохі і адпусцяцца, — ведама, бацькаўскае сэрца. Вось мы з табой, міленькая, такім парадкам самі сабе шчасце збудуем і нічыёй ласкі прасіць не будзем. Адно, абы твая згода — і ўсё будзе добра. Я ўжо, прызнацца табе, гаварыў з папом. Ён заўтра прыязджае ў Міхалішкі імшу адпраўляць і заначуе ў ваколіцы. Ну, а мы к яму... раз, два і — гатова.

П а ў л і н к а. Думаць то я думала, але неяк страшна. Можа б было лепей, каб яшчэ трохі пачакаць, а то так скора, раптам... Хто спяшыць, той людзей смяшыць.

Я к і м. Якая ты нядобрая, Паўлінка! Ты зараз — страшна, страшна, пачакаць, пачакаць! Гэтак і ўсю сваю моладасць пачаканкамі перачакаем. А так гэта дачэснае жыццё можна добра наладзіць, так добра, абы толькі ахвота ў нас была ды вытрываласць.

П а ў л і н к а. А што калі зловяць? Гэта ж я не выжыву з сораму, людзі вочы выберуць, нельга будзе на свет паказацца. Цяпер і то колькі ўсякай брыды ўслужлівыя суседзі і суседкі на нас вернуць, а што і гаварыць тады, як нам гэта «бог наш уцечка» не ўдасца.

Я к і м. Не бойся, золатца, не зловяць! Усё пойдзе гладка. Заўтра ў вас вечарынка; пасля вечарынкі ўсе будуць спаць моцна, так што хоць з гарматаў страляй — нічога не пачуюць. Я ўсё акуратна прыгатую, ты толькі звяжаш у

клумак што патрэбнейшае, а там праз момант — і ты мая на векі вечныя.

П а ў л і н к а *(нібы са злосцю)*. Не я твая, а ты мой на векі вечныя!

Я к і м. Ну, хай будзе, як Сора казала; але гэта толькі тады ў нас выйдзе, калі ты прыстанеш на тое, аб што я цябе прасіў і прашу.

П а ў л і н к а *(падумаўшы, смеючыся)*. Ну, згода да... заўтрашняга дня, а там пабачым.

Я к і м *(павесялеўшы)*. І даўно ўжо трэ' было гэтак сказаць, мая ты кветачка майская. Заўтра вечарам, як толькі ўсе паўкладаюцца, — я ўжо ў садзе пад акном буду на цябе чакаць. Ты аконца адчыніш, лахі пад пахі ды скакель з хаты ў сад, як пятух!

П а ў л і н к а. Гэта ты, як пятух, а я, як...

Я к і м *(перапыняючы)*. Як курыца.

П а ў л і н к а. Не курыца, а як зязюлька.

Я к і м. Як зязюлька, праз акно фырр! а пятух цап, а поп крапілам пырсь! а там...

П а ў л і н к а *(смеючыся)*. А там ізноў фырр!..

Размахвае рукамі і хоча вырвацца. Якім мацней прыціскае яе к сабе і хоча пацалаваць; яна нібы бароніцца, а пасля хватае яго за шыю, і доўга горача цалуюцца.

Я к і м. Ох, каб гэтак усё жыццё і кожную мінутку.

П а ў л і н к а. Ого! Разласаваўся!.. Аскому нагоніш, пакуль ахвоту спагоніш. *(Прыслухаўшыся.)* Ой, недзе туркоча! Ці не едуць толькі нашы з торгу!

Я к і м *(прыслухаўшыся)*. Такі ж нехта едзе!

П а ў л і н к а *(сумна)*. Значыцца, Якімка, трэба ўжо табе рабіць фырр!

Я к і м *(устаючы, з уздохам)*. Нічога не парадзіш — трэба!.. Ой, гэтыя бацькі! І чаму гэта не родзяцца на свет дочкі без бацькоў!..

П а ў л і н к а *(устаючы)*. Ах, чуць не забылася. Ці прынёс мне тое, што абяцаўся?

Я к і м. А як жа, прынёс, маё ты золатца. *(Дастае з кішэні фатаграфію і аддае Паўлінцы.)*

П а ў л і н к а *(прыглядаючыся да фатаграфіі, весела)*. Вот так добра! Заместа аднаго маю ўжо двух: аднаго, што сам

ходзіць да дзяўчат і рукам волю дае, а другога, што трэба насіць за... пазухай. *(Смяецца.)*

Я к і м *(любуецца ёю, хватае і цалуе)*. Ах ты, зязюлька мая ненаглядная!

П а ў л і н к а *(баронячыся)*. Ну, ну, петушок! Не гарачыся: паспееш з козамі на торг. *(Выпіхаючы Якіма з хаты.)* Марш дадому! Раз, два, тры!..

Я к і м *(у дзверах)*. Помні, Паўлінка, — заўтра!.. *(Выходзіць.)*

### З'ява III

П а ў л і н к а *(адна)*

П а ў л і н к а *(папраўляе ложак, пасля прыглядаецца да фатаграфіі, цалуе яе і хавае за пазуху, прыціскаючы грудзі рукамі)*. А што, смачна? цёпленька?.. Га?.. Каля самага сэрцайка дзявочага... Пэўна чуеш, як яно, бедненькае, трапечацца. Выгадна табе тут, як нідзе, нікому!.. Але не, не! Гэтак не выпадае. Яшчэ трохі порана... Паслязаўтра — іншая рэч. А цяпер... *(Ідзе к абразу.)* Пасядзі лепш, саколік, за абразікам. Седзячы гэтак у бога за плячыма, меней будзеш мець грэшных думак у галаве, чымся песцячыся тут *(паказвае)* у маладой дзяўчыны. *(Напяваючы, падыходзіць да сцяны, хавае фатаграфію за абраз і як ні ў чым не бывала садзіцца за шыццё.)*

Дый чым жа твая, дзеванька,
Галоўка занята? (і г. д.)

### З'ява IV

П а ў л і н к а, С ц я п а н, А л ь ж б е т а

С ц я п а н *(п'янаваты ўваходзіць з Альжбетай з сенцаў і прыпявае)*.

Дзе мы едзем, дзе мы йдзём, —
Карчмы не мінаем;
Дзе заедзем, дзе зайдзём, —
Там і пагуляем.

А л ь ж б е т а *(кладучы пакупкі на куфар і раздзяваючыся, да Сцяпана)*. Не смяшы ты людзей. Калі падпіў, дык ляж спаць!

С ц я п а н. Маўчы, баба!.. Ты, каханенькая, родненькая, нічога не разбіраеш... Валасы доўгія, а розум кароткі. *(Прыпявае.)*

Ой, там, на гарэ,
Мужык жонкай арэ,
А другая падбягае:
«Запражы ж ты мяне».

*(Хоча абняць Альжбету.)*

А л ь ж б е т а *(адпіргнуўшы)*. Ах ты, гнілая качарэжка! Яшчэ можа табе чаго захочацца?..

С ц я п а н *(выкручваючы нагамі)*.

Дзед боб малаціў,
Баба падсявала...

П а ў л і н к а. Тата! Ды кіньце ўжо!.. Ось лепей раздзявайцеся ды можа чаго з'ясцё.

С ц я п а н. А можа гэта і добра, каханенькая, родненькая... Каб так кіслай ды гарачай капусты. *(Скідае вопратку і кладзе на куфар.)*

Скіну бурку, скіну боты
Дый надзену лапці;
Кожны дурань ці разумны —
Пан у сваёй хаце.

Садзіцца за стол.

П а ў л і н к а *(кінуўшы шыццё на ложак, да Альжбеты)*. Мамка, дастаньце з куфра настольнік, а я прынясу вам з'есці. *(Выходзіць.)*

З'ява V

С ц я п а н, А л ь ж б е т а

А л ь ж б е т а *(дастаючы настольнік з куфра)*. З кім ты гэтак намурзаўся?

С ц я п а н *(закурваючы люльку)*. Я і з тым, я і з сім, а ты, каханенькая, родненькая, згадай, — з кім?

А л ь ж б е т а. А немач цябе ведае, з кім!

С ц я п а н. Ці ж я не казаў, што ў цябе тут *(торкаючы сабе пальцам у лоб)* не ўсе дома? Але слухай: з зяцем!

А л ь ж б е т а *(здзівіўшыся)*. З зяцем?!

С ц я п а н. Так, так, каханенькая, родненькая. Хто з сватам, хто з сваццяй, а як Сцяпан Крыніцкі, дык з родным зяцем.

А л ь ж б е т а *(накрываючы стол)*. Такі праўду кажуць, што гарэлка людзей з поля зводзіць. Калі ж ты ўспеў яго нажыць?.. Дачка яшчэ замуж не выйшла, а бацька ўжо зяця мае!

С ц я п а н. Калі не маю цяпер, дык буду мець у чацвер. Гэта, бачыш, ён яшчэ толькі збіраецца падмазацца да нашай Паўлінкі; ну, а каб слізчэй усё пайшло, дык перш мяне ён падмазаў.

А л ь ж б е т а *(садзіцца)*. Так бы і казаў адразу. А хто ж гэта такі?

С ц я п а н. Адольф Быкоўскі!

А л ь ж б е т а. Э-э! Я думала, хто там!.. Ажно нічога людскога. Толькі ездзіць ды нюхае, якая дзяўчына пасагу больш мае, а сам дык голы, як бізун.

С ц я п а н. Пасаг нюхае, бо нос мае. Але ўсё-такі гэта для нас блін ды яшчэ маслам падмазаны. Ён сам мне, каханенькая, родненькая, хваліўся, што яго гаспадарка ў сто раз лепшая ад усіх тутэйшых гаспадароў. За аднаго каня толькі, казаў, заплаціў сёлета тры сотні. «На гэтым жа кані, кажа, заўтра да васпанства заедуся з кірмашу». *(Мацаецца па кішэнях, сам сабе.)* Дзе ж бы яна падзелася?.. *(Да Альжбеты.)* Ты, баба, ці не бачыла кніжкі, што я купіў сягоння? Дзе яна прапала?

А л ь ж б е т а. А што я, пастушка над тваімі кніжкамі? Прапіў можа з гэтым сваім зяцем.

С ц я п а н *(ідзе к куфру, знаходзіць у бурцы кніжку і кладзе яе за абраз, дзе Паўлінка палажыла фатаграфію)*. Каханенькая, родненькая, не думай, што я якую дрэнь выбраў сабе на зяця. Заўтра ён прыедзе, паглядзіш, дык адразу што другое запяеш. Адным словам, хлапец: шляхоцкага заводу, з рызыкай, з усякай далікатнасцяй і ўсё такое...

## З’ява VI

П а ў л і н к а, С ц я п а н, А л ь ж б е т а

П а ў л і н к а *(уваходзячы з міскай, з лыжкамі і хлебам пад пахай)*. Аб кім гэта, татка, гаворыце, што мае ўсякую далікатнасць і ўсё такое? *(Ставіць яду на стол і садзіцца за шыццё.)*

С ц я п а н *(едучы.)* Вельмі васпанна цікавая! Скора састарышся, каханенькая, родненькая, як усё будзеш ведаць.

П а ў л і н к а *(просячы)*. Скажыце, скажыце, татачка!

С ц я п а н. Ага, ні села ні пала, захацела баба сала! Калі ўжо табе, каханенькая, родненькая, так хочацца, дык скажу. *(З павагай.)* Знакам тым, гэты паніч з далікатнасцяй і з усякім такім — мой зяць.

П а ў л і н к а *(пырснуўшы смехам)*. Зяць?!

С ц я п а н. Знакам тым, ён не саўсім яшчэ зяць, але скора на яго выкіруецца.

П а ў л і н к а. А як жа годнасць гэтага... гэтага, ну, як яго... што некалі татавым зяцем зробіцца?

А л ь ж б е т а. Дык гэты ж, гэты... Ты, пэўна, яго бачыла некалі... Адольф Быкоўшчык.

П а ў л і н к а. Быкоўшчык!!

С ц я п а н. Але. Але! Пан Адольф Быкоўскі!

П а ў л і н к а. Ну, хіба, татка, для яго другой дачкі пастараецеся або самі з ім ажэніцеся, каб перарабіць яго з простага чалавека на свайго зяця.

С ц я п а н. А ты што? Зломак?

П а ў л і н к а. Зломак — не зломак, але і за ламаку не пайду.

С ц я п а н. А дзяга нашто?

П а ў л і н к а. На ўсё, толькі не на паганяку к замужству.

С ц я п а н. Каханенькая, родненькая, яшчэ паглядзім, дзе каго пасадзім.

А л ь ж б е т а *(едучы, да Сцяпана)*. Еш вот лепей, чымся з пустога ў парожняе пераліваць. Як прыедзе сватацца, тады тое і будзе.

П а ў л і н к а. Татка, ведаеш не сягоння, за каго я толькі пайду, або за нікога.

С ц я п а н *(змяніўшыся, кідаючы лыжку аб стол)*. Што?.. За каго?..

П а ў л і н к а *(устаючы і ідучы к ложку)*. За каго? За Якіма.

С ц я п а н *(стукаючы кулаком па стале)*. Маўчы, гадаўка! Раз сказаў, каб гэтага шэльмы і звання не было ў маёй хаце, каб яго імені я не чуў ніколі... гэтага недавярка, гэтага ...гэтага забастоўшчыка! Дык і не забывайся аб гэтым, каханенькая, родненькая...

П а ў л і н к а *(паірытавана).* Нашто дарэмшчыну вясці. Ён нікому ніякай забастоўкі не рабіў і не робіць.

С ц я п а н *(закурваючы са злосцю люльку).* Чорт яго бяры, не тут успамінаючы, — рабіў ці не рабіў. Знаць і бачыць не хачу яго ў сваёй хаце, гэтага хамуйлу, гэтае плюгаўства.

А л ь ж б е т а. Прыбірай, Паўлінка, ужо са стала!

П а ў л і н к а *(кінуўшы на ложак шыццё і ідучы к сталу).* А даўно гэта, татка, сам з ім цалаваўся?

С ц я п а н. Каханенькая, родненькая, не лезь у вочы. А не, то вон з хаты і цябе з гэтай дрэняй выганю.

Паўлінка ідзе з міскай к дзвярам; неўспадзеўкі дзверы адчыняюцца, увальваецца ў хату п'яны П р а н ц і с ь П у с т а р э в і ч, за ім — яго жонка. Пранцісь няўмысля выбівае міску ў Паўлінкі.

П а ў л і н к а. Ай, што ж гэта, дзядзька, зрабілі?

## З'ява VII

П а ў л і н к а, С ц я п а н, А л ь ж б е т а, П р а н ц і с ь, А г а т а

П р а н ц і с ь. Глупства, глупства, пане дабрудзею! Пахвалёны Езус. Собственно, адкупім, адкупім, вось-цо-да!

С ц я п а н і А л ь ж б е т а. Навекі.

А л ь ж б е т а. А мае ж вы родненькія, ці ж гэта вы ўсё яшчэ з рынку едзеце? Здаецца ж, раней за нас выехалі?

П р а н ц і с ь. Собственно, вось-цо-да, кабыла заблудзіла, пане дабрудзею.

А г а т а. Тудэма-сюдэма, ці ж гэта мачыляпа калі прыехаў у сваім часе дамоў! Ён жа, як рызнік, то туды, то сюды блытаецца па дарозе.

П р а н ц і с ь. Пане дабрудзею, тваё бабскае дзела — маўчаць! Я, собственно, вось-цо-да, спрытны, — тонка панімаю, што і як раблю.

А л ь ж б е т а. Ды садзіцеся ж, мае міленькія!

А г а т а. Тудэма-сюдэма, куды тут садзіцца! Ноч на дварэ, кабыла за плотам, паўвярсты да дому, а гэты, тудэмасюдэма, начніца касавокая, не вытрываў, каб людзям не нарабіць уночы неспакойства. *(Садзіцца, а за ёй — іншыя.)*

С ц я п а н. Э, што там такое! Выспімся! Дзякуй богу, ночка не пятровая, а пакровая.

П а ў л і н к а *(падбіраючы чарапкі)*. Заўтра госці будуць, а дзядзька апошнюю міску стоўк. Трэба, каб на кірмашы дзве адкупіў.

П р а н ц і с ь. Глупства, пане дабрудзею, глупства! Хаўтурнага, собственно, вып'ем па місцы. *(Дастае з бакавой кішэні пляшку, пацягае з яе і хавае назад.)*

А л ь ж б е т а *(смеючыся)*. А каб гэта нам сваток даў гэтай сусолькі пассаць. Ці ж мы з сваццяй паскрэбкі…

П а ў л і н к а *(выходзячы з чарапкамі)*. Ого! Гэтых свянцоных кропель дзядзька і канаючаму не даў бы, не то, што… *(Выходзіць.)*

## З'ява VIII

С ц я п а н, А л ь ж б е т а, П р а н ц і с ь, А г а т а

П р а н ц і с ь *(услед Паўлінцы)*. Глупства, глупства, пане дабрудзею. Маладзенькая яшчэ, маладзенькая! Лазы трэба, собственно, вось-цо-да.

А г а т а *(да Альжбеты)*. Што, сваццейка, тудэма-сюдэма, добрага куплялі на рынку?

А л ь ж б е т а. Ат, сёе ды тое. Паглядзіце, калі хочаце. Нічога такога цікаўскага. *(Устаюць і ідуць абедзве да куфра і разглядаюць кінутыя на ім пакупкі.)*

П р а н ц і с ь *(да Сцяпана)*. Чуў, сват, пане дабрудзею, што сягоння людзі казалі?

С ц я п а н. Не, не, каханенькі, родненькі, не чуў, не было калі! А што?

П р а н ц і с ь. Ды як жа, вось-цо-да! Кажуць, француз, пане дабрудзею, ідзе на Барысава па шапку і рукавіцы, што каліся там заставіў. Чатырыста тысяч войска з сабой вядзе і, собственно…

А г а т а *(перабіваючы з месца)*. Не чатырыста тысяч, а чатыры сотні тысячаў…

П р а н ц і с ь. Глупства, глупства, пане дабрудзею. Усё роўна ідзе, вось-цо-да. Спранжыновы касцёл з сабой нясе, пане дабрудзею.

А г а т а *(з месца)*. Тудэма-сюдэма, не нясе, а на паветры, на машыне, што лётаюць, гэты касцёл вязе.

С ц я п а н і А л ь ж б е т а *(здзівіўшыся)*. Ай-я-я! Аж на паветры касцёл вязуць!..

А г а т а. Але ж, але! Тудэма-сюдэма, я сама на свае вушы чула.

С ц я п а н. Во калі пайшло ўсё ўверх нагамі! Як паставяць гэты спранжыновы касцёл, то можна будзе спадзявацца і для нашага брата якога-такога палягчэння. Дзякуй богу, дзякуй богу!!! А вось мая гэта ахмістрыня, дачушка мая сакатушка, сплуталася з гэтым… з гэтым бязбожнікам, і хоць ты ёй вар на галаву лі.

П р а н ц і с ь. Маладзенькая, собственно, вось-цо-да. Бярозавай кашы не шкодзіла б, пане дабрудзею.

А л ь ж б е т а. Дужа трудна паладзіць з цяперашняй моладдзю. Пайшло такое распуства на свеце, што не дай божа! Заместа кніжак ды набажэнства — чытаюць нейкія дрындушкі. Вецер у ва ўсіх па галаве ходзіць. Гэта ж мне калісь сказалі: ідзі за Сцяпана, — я і пайшла без ніякай спрэчкі са сваімі старымі.

А г а т а. А так, так, тудэма-сюдэма! І мой, як да мяне пасватаўся, бацька-нябожчык і кажа: ідзі, бо ўсё роўна ніхто цябе лепшы не возьме; я падумала, тудэма-сюдэма, ну і пайшла. *(Глядзяць абедзве на сваіх мужоў, пасля — адна на адну, плююць кожная ў другі бок і разглядаюць ізноў клункі.)*

П р а н ц і с ь. Так, так, пане дабрудзею, іначай калісь было. *(Дастае пляшку і п'е, а пасля дае Сцяпану.)* Собственно, глупства, вось-цо-да, было, а ты, сват, выпі, каб тое, што было, у памяці не сядзела.

Сцяпан п'е, Пранціс прытрымлівае за пляшку, каб той залішне не выпіў.

С ц я п а н *(абціраючы вусы ды сплёўваючы)*. Шчыпецца, каб яе гаручка!

П р а н ц і с ь *(хаваючы гарэлку)*. Ага, вось-цо-да, шчыпецца, собственно, бо чужая, пане дабрудзею. *(Абодва закурваюць.)*

А л ь ж б е т а *(да Агаты)*. А ці заўтра, свацейка, будзеце на кірмашы?

А г а т а. Ды трэба ж будзе як сцягацца.

### З'ява IX

Тыя ж і П а ў л і н к а

П а ў л і н к а *(уваходзячы, да Альжбеты.)* Можа б, мамка, прыціснулі сыр, бо да заўтрашняга не адцiснецца.

А л ь ж б е т а. Яшчэ паспее… Дай мне з цёткай разгаварыцца.

П а ў л і н к а. Ідзіце, ідзіце, мамка, а я за вас з цёткай пагавару.

А г а т а. Ідзіце, свацейка, тудэма-сюдэма, не зважайце на мяне. Мы тут з Паўлінкай пачакаем на цябе.

А л ь ж б е т а *(выходзячы)*. Ну, як сабе хочаце.

Паўлінка з Агатай садзяцца на куфры і жыва аб чымсьці гавораць.

### З’ява X

П а ў л і н к а, С ц я п а н, П р а н ц і с ь, А г а т а

С ц я п а н. Знаеце, сваток, гэтага, гэтага… як ён… а каб цябе… *(Да Паўлінкі.)* Паўлінка, як гэты завецца, што мяне сягоння падмазываў?

П а ў л і н к а *(з месца)*. А скуль жа я магу ведаць, хто татку мазаў?

С ц я п а н. Ну, гэты ж?.. каб ён цяміўся… зяць, зяць!

П а ў л і н к а *(прыпамінаючы)*. Як жа ён, як?.. Здаецца, Бык… Бычок…

С ц я п а н. Ага, ён, ён. Не, не так! Быкоўскі, каханенькая, родненькая, вось як. Пан Адольф Быкоўскі. *(Да Пранціся.)* Дык бачыш, сваток, ён, значыцца, падлабуньваецца да маёй Паўлінкі. Што ты на гэта?

П р а н ц і с ь *(дастаючы гарэлку)*. Глупства, глупства, пане дабрудзею. Собственно, бычок, вось-цо-да, больш нічога. *(П’е і дае гарэлкі Сцяпану.)*

С ц я п а н *(выпіўшы)*. Заўтра, знакам тым, прыедзе абнюхаць, як і што, дык і сваток са сваёй загляньце да нас. А ну ж, каханенькі, родненькі, можа які гандаль будзе наладжвацца, дык прыкінеш якое слаўцо. Прыедзьце толькі.

П р а н ц і с ь. Глупства, пане дабрудзею, і прыйсці можна. Собственно, блізка, вось-цо-да.

С ц я п а н. Блізка то блізка, але каб не было слізка: на дождж як бы збіраецца.

П а ў л і н к а *(з месца)*. А ці татка, каня паілі?

С ц я п а н. Не, каханенькая, родненькая. Зараз пайду. *(Да Пранціся.)* Можа разам з сватам пойдзем? Я свайго напаю, а сват свайго паглядзіш, ці добра прывязаны.

П р а н ц і с ь. Глупства, пане дабрудзею. Собственно, жонка завязе, калі б кабыла ўцякла. *(Да Агаты.)* Праўда, баба?

А г а т а *(з месца)*. Што — праўда?

П р а н ц і с ь. Собственно, калі б кабыла ўцякла, то мяне тады ты дамоў завязеш, пане дабрудзею.

А г а т а. А каб ты, тудэма-сюдэма, бокам ездзіў! Ідзі скарэй, паглядзі! Гэта ж і мне з памяці сышло.

С ц я п а н. Пойдзем, каханенькі, родненькі. *(Абымаюцца і сланяючыся выходзяць, напяваючы.)*

Чаму ж нам не пець,
Чаму ж не гудзець,
Калі ў нашых хатачках
Парадак ідзець?

## З'ява XI

П а ў л і н к а, А г а т а

П а ў л і н к а. Але ж калі я яго люблю, цётачка.

А г а т а. Мала што, дзеткі, тудэма-сюдэма, любіш яго, але калі бацька не хоча, дык падумай, што людзі скажуць, як супроці волі старых пойдзеш.

П а ў л і н к а. А што там людзі? Яны ж з ім жыць за мяне не будуць і па маёй смерці за мяне пакутаваць не будуць. Пагавораць, пагавораць ды перастануць, як намазоляць языкі.

А г а т а. Як уважаеш, мае дзеткі. Што ж, я, тудэма-сюдэма, нічога не дараджу.

П а ў л і н к а *(заламаўшы рукі на каленях)*. Калі ён такі добры, такі разумны, што і сказаць не магу.

А г а т а. Усе яны добрыя, пакуль не ўбярэ каторы дзяўчыны ў свае рукі, а як убярэ, тады на іншы лад, тудэма-сюдэма, зайграе, а ты танцуй пад яго дудку. І мой, пакуль толькі сватаўся да мяне, — патульны быў, як цялё, а як ажаніўся, дык праўдзівым ваўком зрабіўся.

П а ў л і н к а *(як бы не зважаючы на гаворку Агаты)*. Кніжкі мне прыносіў... Хораша так аб усім расказваў... як трэба жыць, як людзей трэба ўсіх любіць, і шмат, шмат чаго. І любіць жа ён гэтых людзей зусім неяк не так, як мы іх любім. Гэта ж трэба ведаць, столькі мой тата на яго ўсякай

дарэмшчыны нагаварыў і ачарніў, а ён хоць бы што. «Ведама, кажа, чалавек: яму нешта абышло ці не спадабалася, дык і помстуе. У нас, кажа, усё ідзе не так, як трэба. Людзі, кажа, у нас, як звяры: адзін на другога кідаюцца, адзін другога цкуюць, пад'юджваюць, ненавідзяць адзін другога. Змалку дзён, кажа, прывыкаюць у ненавісці жыць, змалку дзён іх да гэтага вучаць і дома, і за домам. Сляпыя, кажа, усе сляпыя. Адзін над другім не маюць ніякай літасці, хоць усіх душаць зверху ўсялякія пошасці ды злыдні».

А г а т а. Чула я, чула аб ім не раз. Вельмі ўжо, кажуць, тудэма-сюдэма, разумны і добры ён.

П а ў л і н к а *(ажывіўшыся)*. А што ж, ці не праўда? І ўсё б было добра, каб не гэты тата: хоць немаведама што рабі з ім...

А г а т а. Трэба, дзеткі, пачакаць, ану ж, тудэма-сюдэма, ліха перамелецца, і ўсё добра будзе.

П а ў л і н к а. Трэці год, цётачка, чакаем, і нічога не выходзіць. Трэці год трасуся і выглядаю той часінкі, каб толькі з ім пабачыцца. Павешуся, цётачка, павешуся, калі мяне з ім разлучаць!..

А г а т а *(хрысцячыся)*. Мёйца, сына! Тудэма-сюдэма, што ты, Паўлінка? Пабойся бога гэткія рэчы гаварыць напроць ночы! Цьфу! матачка найсвентшая!

П а ў л і н к а *(паказваючы)*. Калі тут, цётачка, так пад сэрцам баліць, што і жыць неўмагату. Такі ён міленькі, такі прыгожанькі, такі паслухмяны... *(Заглядзеўшыся ўдаль.)* Калі яшчэ з татам былі яны добра, прыйдзе, бывала, вады за мяне прынясе, дрэўкі нашчапае. Не глядзіць на тое, што калісь вучыўся, а цяпер сам вуча і большых, і меншых. Ніколі ад яго слова благога не чула. Так, ведаеце, цётачка, і хочацца з кім-колечы аб ім гаварыць і думаць без канца і пачатку. І чаму я такая няшчасная? *(Са слязьмі.)* Бацька родны хоча мяне адарваць ад таго, хто мне цяпер мілей ад усяго чыста — жыцця, хаты роднай, цэлага свету. І чаму ж я такая няшчасная?

А г а т а *(тулячы да сябе Паўлінку, праз слёзы)*. Ціха, мае дзеткі, ціха. Не гаруй, не маркоцься, міленькая, вельмі. Неяк жа ды будзе. Бог найвышэйшы, тудэма-сюдэма, міласэрны, і аб тваёй тут цяжанькай долі не забудзецца.

П а ў л і н к а *(як бы збудзіўшыся)*. А няхай сабе будзе, што мае быць — я свайго такі даб'юся, або згіну, каб і следу не засталося.

А г а т а. А ўсё ж такі, скажы мне, дзеткі, чаму так твой тата на яго заеўся?

П а ў л і н к а. Бо... бо Якім з мужыкоў...

## З'ява XII

П а ў л і н к а, А г а т а, С ц я п а н, П р а н ц і с ь

П р а н ц і с ь *(за дзвярыма)*. Глупства, вось-цо-да. Не дзе падзелася! Я знаю, собственно, дамоў уцякла, пане дабрудзею.

С ц я п а н *(уваходзячы ў хату, а за ім Пранцісь)*. І трэ' было ж свату так дрэнна яе прывязаць, ды ў гэткую яшчэ цемру.

А г а т а *(усхапіўшыся)*. Каго прывязаць?

П р а н ц і с ь. Кабылу, кабылу, пане дабрудзею. Ужо ж не цябе, вось-цо-да.

А г а т а. Дык дзе ж кабыла?

П р а н ц і с ь *(дастаючы пляшку)*. Собственно, няма кабылы, дзе была, вось-цо-да, пане дабрудзею.

А г а т а *(падбягаючы да Пранціся з кулакамі)*. Дык чаго ж ты, тудэма-сюдэма, несвянцоная костка, рассеўся, як у сваёй хаце!

П р а н ц і с ь *(пацягваючы з бутэлькі)*. Глупства, глупства, вось-цо-да. Пасвенцім, собственно, пане дабрудзею, калі несвянцоная.

А г а т а *(хоча вырваць пляшку, Пранцісь не дае)*. Вот я цябе зараз, тудэма-сюдэма, як высвенчу гэтай пляшкай па галаве, дык і сваіх не пазнаеш, няшчасны ты «вось-цо-да». *(Галосячы.)* А божа ж мой, бацюхна мой! Нашто мяне пакараў гэтай, тудэма-сюдэма, п'яніцай, гэтай недарэкай, гэтай куксамордай, гэтай... гэтай...

## З'ява XIII

Тыя ж і А л ь ж б е т а

А л ь ж б е т а *(убягае, трымаючы ў руцэ клінок з тварагом)*. Што гэта ў вас тут парабілася, мае міленькія?

П а ў л і н к а. Кабыла дзядзькава ўцякла ці хто ўкраў. *(Ідзе, садзіцца на ложак і шые.)*

А л ь ж б е т а *(да Пранціся)*. Дык чаго ж, сватка, чакаеце? Бяжыце скарэй дамоў, — пэўна, там; гэта ж ёй не першыня.

А г а т а. Ці ж гэту, тудэма-сюдэма, трухлявую калоду зрушыш з месца! Сядзіць жа вось анцыхрыст, каб яму моль пяты пабіла, і з месца не скранецца.

С ц я п а н *(закурваючы люльку)*. Супакойцеся, сваццця. Не дзе яна дзенецца. Каханенькая, родненькая, яна дома, напэўна дома.

А г а т а. А сват, тудэма-сюдэма, не сунься з сваім носам туды, куды цябе не просяць. *(Да Пранціся.)* Ідзём! Чуеш ці не!..

П р а н ц і с ь *(устаючы)*. Глупства, пане дабрудзею, глупства. Мае мазгі спрытныя. На табе, вось-цо-да, паеду, собственно, дамоў.

А г а т а *(выводзячы Пранціся)*. Бывайце здаровы! Пахвалёны Езус!.. Падла гэты, ламака, нарабіў работы! *(Выходзяць, за імі — Альжбета з клінком.)*

### З'ява XIV

П а ў л і н к а, С ц я п а н

С ц я п а н. Ох, і даюцца ж гэтыя сваякі ў знакі. Але, дзякуй богу, дзве дзюркі ў носе і скончылася, — ужо пазбыўся.

П а ў л і н к а. А даўно гэта таткаў гняды ўцёк з Лужанкі, і татка дамоў пехатой прытрапаў?

С ц я п а н. Што было, тое сплыло і болей, каханенькая, родненькая, не будзе, як кажуць людзі.

П а ў л і н к а. Паглядзім. Заўтра кірмаш.

С ц я п а н. Не бойся, каханенькая, родненькая. Я кабылу злаўлю, але і ты глядзі, каб мне таго зяця злавіла, аб якім я табе сягоння гаварыў.

П а ў л і н к а. Што ён конь ці вол, каб я яго яшчэ мела лавіць?

С ц я п а н. Не конь і не вол, а так сабе, дойная жывёліна.

П а ў л і н к а. Дык, татка, яго і дойце, калі ён для вас такі дойны, а я і не думаю.

С ц я п а н. Нічагутанькі, каханенькая, родненькая. Надумаешся, ваша, як пакармлю бярозавай кашай. Вось

толькі каб пагода была добрая, а то казаў ён, што на кірмаш не паедзе, калі будзе дождж ісці.

П а ў л і н к а. Ліха не возьме! Гэткі цукар не размокне.

С ц я п а н. Каханенькая, родненькая, як скажу, так і будзе; дзве дзюркі ў носе і скончылося. Вось толькі трэба даведацца, ці будзе напэўна заўтра пагода. Купіў я сягоння каляндар — нейкі беларускі, як кажа крамнік. Пытаўся ў яго, ці піша аб пагодзе, дык крамнік гавора мне, што аб пагодзе напісана ў ім болей, як аб чым іншым. Значыцца, паглядзім праўды.

Ідзе і дастае з-за абраза каляндар, адтуль валіцца на зямлю фатаграфія. Паўлінка, саскочыўшы з ложка, падбягае падняць яе, але не паспявае.

С ц я п а н *(падымаючы фатаграфію)*. А гэта што такое?

П а ў л і н к а *(хочучы адабраць)*. Гэта мая. Аддайце мне, тата!

С ц я п а н. Я пытаюся — хто гэта?

П а ў л і н к а. Ці ж, тата, не бачыце?

С ц я п а н *(са злоснай насмешкай)*. Ха-ха-ха! Якім!.. Хай жа ён прападзе саўсім. *(Хоча рваць, Паўлінка адбірае.)*

П а ў л і н к а *(скрозь слёзы)*. Аддайце, татачка, аддайце, не рвіце! не здзекавайцеся над ім...

С ц я п а н *(адпіргнуўшы ад сябе Паўлінку)*. Адчапіся ад мяне, гіцлёўка! Я вам тут наразводжу шашняў...

Стукат у сенцах. Уваходзяць П р а н ц і с ь, А г а т а, а за імі А л ь ж б е т а. Паўлінка стаіць патупіўшыся, глытаючы слёзы, і скубе пальцамі фартух.

### З'ява XV

П а ў л і н к а, С ц я п а н, А л ь ж б е т а, П р а н ц і с ь, А г а т а

П р а н ц і с ь. Глупства, пане дабрудзею. Я, вось-цо-да, казаў, собственно, не дзе падзенецца.

А г а т а *(дражнячы)*. Вось-цо-да, вось-цо-да! Сам кабылу, тудэма-сюдэма, паставіў у вас пад паветкай, а шукае за плотам. Дарма толькі поўзалі і слядоў прыглядаліся.

А л ь ж б е т а. Ну, дзякуй богу, што хоць найшлася. *(Да Сцяпана.)* Што ты там круціш у руках?

С ц я п а н *(тыкаючы фатаграфію ў твар Альжбеце)*. На, на! Любуйся, якія празэнты атрымлівае твая дачушка!

А л ь ж б е т а *(закрываючы рукой твар)*. Чаго соваешся… Такая яна і твая, як мая.

С ц я п а н. Лжэш! Каб яна была мая, то была б такая, як і я.

П р а н ц і с ь. Пакажы, пакажы, пане дабрудзею, што гэта за птушка?

С ц я п а н *(паказваючы)*. На, глядзі, сваток! Павіншуй мяне з такой дачушкай і з гэтым, з гэтым гарэтыкам!

П р а н ц і с ь *(разглядаючы)*. Эге! Гэта гэты разумненькі, вучоны, грамацей… Собственно, Сарока, вось-цо-да.

С ц я п а н. Але ж, але! Якім Сарока.

А г а т а *(да Сцяпана)*. Тудэма-сюдэма, пакажыце і мне, сватка.

П р а н ц і с ь *(да Агаты)*. Ты, пане дабрудзею, баба, не лезь сюды з цікавым носам. Собственно, пільнуй сваёй спадніцы і панчохаў, вось-цо-да. А мы суд, суд зробім… правы і скоры.

П а ў л і н к а *(падыходзячы да Альжбеты, ласкава)*. Мамачка, адбярыце яе ў таткі.

А л ь ж б е т а. Што я з ім, дзеткі, зраблю? Яшчэ біцца будзе…

С ц я п а н *(да Пранціся)*. А добра, сватка, кажаш. Зробім суд, перасуд добрым складам над гэтым гадам. А які?

П р а н ц і с ь. А такі, пане дабрудзею: стражнікаў паклікаць, спраўніку данясці. Собственно, інквізітарскі суд зрабіць — па палавіне шась! і гатова, вось-цо-да.

П а ў л і н к а *(кідаючыся да Сцяпана і цалуючы яму рукі, скрозь слёзы)*. Татачка, аддайце! Не здзекавайцеся над ім!.. Ён жа вам нічога благога не зрабіў.

С ц я п а н *(са злосцю)*. Спаць, спаць пайшла, калі гэткага знайшла! Спаць! *(Рве фатаграфію.)*

П а ў л і н к а *(з плачам апускаючыся на лаву)*. Татка, згубіць мяне хочаце… Гвалтам з хаты выгнаць.

П р а н ц і с ь *(дастаючы пляшку)*. А цяпер, собственно, вып’ем хаўтурнага, вось-цо-да. *(П’е.)*

П а ў л і н к а *(усхапіўшыся з лавы, кідаецца да Пранціся)*. Па кабыле сваёй пі хаўтурнага, а не па чалавеку, якога і падноскаў не варт! *(Вырываючы і разбіваючы аб зямлю пляшку.)* Вось-цо-да!

П р а н ц і с ь *(развесіўшы рукі, здзіўлены, як і ўсе)*. О-о-о!!!

Заслона

## АКТ ДРУГІ

Тая ж самая — што ў першым акце — святліца. За сталом сядзяць: Сцяпан, Альжбета і госці — тры хлопцы і тры дзяўчыны. Мужчыны сядзяць з аднаго канца стала, а жанчыны — з другога. П'юць гарбату, наліваючы на сподкі; закусваюць. Дзецюкі з дзяўчатамі жартуюць, перакідваючыся крошкамі ад хлеба. З левай стараны (гледзячы ад публікі) пры сцяне ад бакоўкі сядзяць два музыкі і, зводзячы інструменты, ціха перагаварваюцца між сабой. Ля дзвярэй ад сенцаў, у канцы куфра, на табурэце стаіць самавар. Паўлінка, прыбраўшыся па-святочнаму, увіхаецца каля гасцей. Трохі ў твары змяніўшыся; час ад часу ўздыхае і няўзнак паглядае ў акно; адно стараецца быць з усімі вясёлай і бойкай. Як падымаецца заслона — Паўлінка нясе гарбату.

### З'ява I

Паўлінка, Сцяпан, Альжбета, госці, музыкі

Паўлінка *(стаўляючы гарбату перад Сцяпанам)*. Што ж гэта нешта татавага зяця так позна ні слуху ні духу? Ці не знюхаў ён, што ў мяне пасагу нямашака?

Сцяпан. Каханенькая, родненькая, не бядуй. Не будзе Гірша, будзе чорт іншы.

Паўлінка *(насмешліва)*. Мала што будзе... Але ж, калі мяне ўжо неяк, як цмокам, стала цягнуць да гэтага Бык... Бычка... Ах, як яго?..

Сцяпан *(з націскам)*. Быкоўскага.

Паўлінка *(падыходзячы да другога канца стала)*. Можа Адэльцы яшчэ шкляначку?

Адэлька *(госця)*. Дзякуй. Ужо напілася.

Альжбета. Ды бяры! Што там пытаешся? Панна Адэля толькі дзве выпіла.

Адэлька. Калі ж болей не хочацца.

Паўлінка *(забіраючы шклянку)*. Вып'еш, вып'еш, Адэлька, — змесціцца.

Альжбета *(падсоўваючы гасцям яду)*. Старайцеся, госцікі, старайцеся. Вось — сыр, масла, вяндліна! Такі ж сягоння трохі папрацавалі каля полькі ды лявонiхі.

Колькі галасоў *(пеpажоўваючы і сёрбаючы)*. Дзякуй, дзякуй! Мы стараемся.

Сцяпан. Чым хата багата — тым рада. Хлеб на стале — рукі свае. Выбачайце толькі, каханенькія, родненькія, што

гарэлкі няма. Але я ў гэтым не вінават. Хацеў узяць у Міхалішках, дык, як на ліха, манаполька цэлы дзень была закрыта.

М у з ы к а *(убок да другога)*. Каб не салгаў, дык бы і не жыў. Я сам бачыў, як пасля імшы адбываўся з пляшкамі пры манапольцы нешпар.

Д р у г і м у з ы к а. Слухаць! Скнэра і больш нічога.

П а ў л і н к а *(паставіўшы Адэлі шклянку, да аднаго з гасцей)*. Можа пан Вінцусь яшчэ вып'е?..

В і н ц у с ь *(госць; уціраючы канцом настольніка губы і лоб)*. Яно б то было ўжо і досыць, але, калі панна Паўлінка так пекна просіць, дык можна яшчэ са шкляначку.

П а ў л і н к а *(ідучы са шклянкай)*. Гэты ўжо дык пятую шклянку бабохае...

С ц я п а н *(да Альжбеты)*. Ці добра хаця ты прасіла Пустарэвічаў? Чаму іх так доўга няма?

А л ь ж б е т а. Каб і не прасіла, то прыедуць. *( З насмешкай.)* Пэўна, собственно, кабыла заблудзіла.

А д з і н з г а с ц е й. Штось сягоння на кірмашы Якіма Сарокі не было. А то, бывала, такім франтам пахаджывае, што куды мяне вядзеш, пусці мяне к чорту.

П а ў л і н к а *(стаўляючы гарбату)*. А пану Банадысю зайздрасць, што так прыадзецца не патрапіць, хоць мо і мае за што.

Г о с ц ь. Чымся грошы траціць на адзежу, я лепей іх каму пазычу.

П а ў л і н к а *(садзячыся на ложку)*. І працэнцік добры злуплю, каб аж у пяты другому закалола.

Г о с ц ь *(самадавольна)*. Хе-хе-хе! А панне Паўлінцы злосць яшчэ не адышла, што калісь гэтаму ягамосці Сароцы не за які працэнт не пазычыў.

П а ў л і н к а. Вельмі ж яму гэтым і не пашкодзілі. Нашліся людзі, што і без працэнтаў пазычылі і далі яму магчымасць паехаць на настаўніцкія курсы. Цяпер нічыёй ласкі не патрабуе.

А д н а з г а с ц е й. Пэўна, што не! Такі чалавек нідзе не прападзе.

С ц я п а н *(прыслухваючыся дагэтуль гутарцы аб Сароцы)*. Каханенькія, родненькія, кіньце аб гэтым свінапасе

гаварыць. Прыелася ўжо мне гутарка аб ім горш горкай рэдзькі. І ці гаманіце аб ім, ці не гаманіце — усё роўна нічога не выйдзе. Я ўжо яму даў дарогу.

П а ў л і н к а *(неспакойна)*. Якую дарогу?

С ц я п а н. А ты, каханенькая, родненькая, не слухай вушы развесіўшы, ды лепей гасцей глядзі. Дзве дзюркі ў носе і скончылося.

Нейкую хвіліну ціха. Паўлінка падыходзіць браць шклянкі, але ўсе адказваюцца.

А л ь ж б е т а. Што ж, выбачайце, госцікі. Не хацелі піць і есці, пасля самі будзеце жалець.

С ц я п а н. Выбачайце, выбачайце, каханенькія, родненькія, адно не скажыце, што ўсяго было ўдаволь, толькі прынукі не было.

К о л ь к і г а л а с о ў *(устаючы з-за стала)*. Дзякуем, дзякуем пану гаспадару і пані гаспадыні. Падмацаваліся, хвала богу, як лепей не трэба.

П а ў л і н к а *(устаючы з ложка)*. Проша паненак сюды прысесці, а, паны кавалеры, вазьміце сабе табурэцікі ды вось тут падсядзьце, а я тым часам пачастую гарбатай нашых музыкаў.

С ц я п а н і А л ь ж б е т а *(вылазячы з-за стала)*. А як жа — трэба, трэба!

Дзяўчаты садзяцца на ложку, хлопцы каля іх на табурэтах; жартуюць між сабой.

А л ь ж б е т а *(падыходзячы да музыкаў)*. Хадзіце, міленькія, выпійце са шкляначку гарбаты.

М у з ы к і. Дзякуем пані! Мы ўжо сягоння пілі.

А л ь ж б е т а. Мала што калі было, а цяпер трэба яшчэ падмацавацца. *(Забірае інструменты і кладзе іх на куфар, садзіць музыкаў за стол і сама садзіцца. Да Паўлінкі.)* А ты, дзеткі, налі музыкам гарбаты!

С ц я п а н *(закурваючы люльку)*. Выбачайце толькі, каханенькія, родненькія, што гарэлкі няма.

М у з ы к і. І без гэтых кропель будзем жывы.

Чуваць стукат у сенцах.

С ц я п а н. А бач, нехта такі хоць нарэшце з'явіўся. Трэба ісці ды глянуць, а то яшчэ ў дзверы не луча. *(Ідзе.)*

А д з і н з г а с ц е й. Нясі, божа, нежанатага ды багатага!

А д н а з г а с ц е й. Жаніць будзем!

П а ў л і н к а *(стаўляе музыкам гарбату, падыходзе і глядзіць у акно. Убок.)* Ах, як жа цёмненька!

А д з і н з г а с ц е й. Каго так, панна Паўлінка, выглядаеце?

П а ў л і н к а. Таго ж — нежанатага ды багатага.

З'ява II

Тыя ж і А д о л ь ф Б ы к о ў с к і

С ц я п а н *(спатыкаючы Адольфа ў дзверах)*. А-а! Нарэшце з'явіўся, дарагі госцік! Што ж гэта, каханенькі, родненькі, так доўга чакаць на сябе нас заставіў?

А д о л ь ф *(вешаючы пальто на сцяне каля парога)*. Пахвалёны ў хату!

К о л ь к і г а л а с о ў. Навекі! Навекі!

А д о л ь ф *(вітаючыся са Сцяпанам)*. Выбачайце, што трохі прыпазніўся. Але гэта вінават мой жарабец. Як панёс з гары, што каля Прытыкаў, — і мяне выкінуў, і вось зламаў, так што аж мусіў другую каламажку ўзяць; праз тое і замарудзіў.

А д з і н з м у з ы к а ў *(убок да другога)*. Каб ён толькі дыхаў. Які яго чорт нёс! Прыстаў конь, ды ўсё тут.

Д р у г і м у з ы к а. Няўжо ж што. У мае вочы заплаціў вясной за нейкую здыхляціну трыццаць рублёў, і тая ўжо скарэй яго панясе.

С ц я п а н *(да Адольфа)*. Проша ж, проша далей, сюды, дзе бліжэй кут і дзе ўсе тут.

А д о л ь ф. Дзякую, дзякую, вашэці. Проша са мной клопату не рабіць.

Ідзе і з усімі вітаецца; Альжбету цалуе ў руку, стоячы к ёй бокам і не згінаючыся.

А л ь ж б е т а. Проша пана Адольфа, проша за стол! Можа вып'еце гарбаты і чаго закусіце? *(Да Паўлінкі.)* Паўлінка, налі пану Быкоўскаму гарбаты!

А д о л ь ф *(садзячыся за стол з другога канца ад музыкаў і закурваючы папяроску)*. А што ж у васпанства добрага чуваць?

С ц я п а н *(прысаджваючыся к сталу)*. Ды што ў нас чуваць? — Старая баба не хоча здыхаць, а маладая замуж ісці.

А д о л ь ф *(самадавольна)*. Хе-хе-хе! Старую трэба пшыдусіць, а маладую пшымусіць.

А л ь ж б е т а *(да Сцяпана)*. А, ваша, схадзі паглядзі, ці добра прывязаны конь пана Быкоўскага.

А д о л ь ф. Не турбуйцеся. Я яго добра прывязаў.

С ц я п а н. Каханенькі, родненькі, хоць і прывязаў, але сена, пэўна, не даў. У нас так: госць як папала, а жывёліну дык трэба добра дагледзець. *(Выходзіць.)*

## З'ява III

Тыя ж без С ц я п а н а

П а ў л і н к а *(стаўляючы перад Адольфам гарбату і сама садзячыся воддаль)*. Што ж гэта пана Адольфа конь хацеў разнясці?

А д о л ь ф. А як жа! Тры сотні вясной заплаціў і толькі клопату нажыў. Але ў мяне ўсё так! Каровы мае кожная варта па якой сотні рублёў; як загілююць летам, дык і на добрым кані іх не ўгоніш.

П а ў л і н к а *(хітравата)*. Пэўне і авечкі ў пана Адольфа таксама гілююць?

А д о л ь ф. А так, так! Маю пятнаццаць старых і дваццаць маладых. Як ударыць гарачыня, дык яны чуць не ўсе чыста круцяцца на адным месцы.

П а ў л і н к а *(ідучы па гарбату для сябе, убок)*. Матыліцы авечак мучаць, як і сам тут *(паказваючы пальцамі на сваю галаву)* матылі мае, а думае, што яны зыгуюць.

А л ь ж б е т а. Якія ж сёлета ўраджаі ў пана Адольфа?

А д о л ь ф. А нішто сабе. *(Відам лгучы.)* Жыта нажаў коп са дзвесце, аўса таксама са дзвесце, ячменю — з сотню.

А д з і н з г а с ц е й. А колькі ж у пана зямлі?

А д о л ь ф. Валокі з паўтары добрыя будзе.

Г о с ц ь. І лес ёсць?

А д о л ь ф *(абціраючы хустачкай лоб)*. А як жа — ёсць: з паўвалокі, калі не болей. Сосна ў сасонку!

Г о с ц ь. І сенажаць ёсць?

А д о л ь ф. Ёсць, ёсць! Над самай рэчкай, таксама з паўвалочку. Мурог, як шафран.

М у з ы к а. Дык у пана ўсяго з паўвалочку ворнай зямлі?

А д о л ь ф. Н-нуу, так! З добрую паўвалочку!

А л ь ж б е т а. У нас ворнай зямлі, мусіць, і са тры валокі будзе, і то мы столькі не нажалі.

П а ў л і н к а *(сеўшы з гарбатай пры стале)*. Пан Адольф лепшы, відаць, за нас гаспадар.

А д о л ь ф. О, у мяне гаспадарка ні ў чым не зблыша. У мяне жонка і то будзе лепшая, як у ва ўсіх.

А д з і н з г а с ц е й. Каб толькі не ўдалася наравістая.

П а ў л і н к а. Цікавасць, ці пан Адольф ужо затаргаваў сабе якую?

А д о л ь ф. Гэта, пакуль што, сакрэт.

П а ў л і н к а. А мне пан Адольф скажа?

А д о л ь ф. Так. Але перш тату і маме, а пасля ўжо і васпані на самае вушка.

П а ў л і н к а *(беручы ў яго шклянку)*. Добра, добра! Пан Адольф як ведаў, што я трохі глухавата.

А д о л ь ф. Глухавата?!

П а ў л і н к а *(ідучы па гарбату, убок)*. Трэба шэршня за нос павадзіць, каб і дзясятаму заказаў, як жонкі купляць.

А л ь ж б е т а. Пан Быкоўскі, здаецца, у нас першы раз?

А д о л ь ф. А так — першы!

А д н а з г а с ц е й. Дык пану трэба даць пацалаваць старую бабу.

А д з і н з г а с ц е й. Пан Адольф толькі да маладых ды багатых лас, а старыя ў яго ў рахунак не йдуць.

А д о л ь ф. А праўда, праўда! Я толькі да маладых маю імпэт.

А л ь ж б е т а *(убок)*. І дурны ж ён, як відаць.

П а ў л і н к а *(падаючы гарбату Адольфу)*. Да каго гэта маеце такі імпэт, да дарагіх кароў ці дарагіх кабыл?

А л ь ж б е т а. Ды не! Пан Быкоўскі мае імпэт толькі да маладых дзяўчат.

А д о л ь ф *(п'ючы гарбату)*. Але ж, але. Толькі да маладых дзяўчат.

П а ў л і н к а. А кільчака часам з гэтага не нагоніце на язык?

А л ь ж б е т а. Што ты?! Ці ж пан Быкоўскі конь?

М у з ы к а *(убок да другога)*. Конь не конь, а як відаць, дык быдлё парадашнае.

А д о л ь ф *(да Паўлінкі)*. Панна Паўлінка дык усё мне капліменты гавора.

П а ў л і н к а *(рассеяна)*. Ага! Капліменты. *(Да музыкаў.)* Мацуйцеся, мацуйцеся, музыканцікі. А то ўжо ногі чэшуцца. Так і хочацца з панам Адольфам сыпнуць лявоніху.

А д о л ь ф. Фі! Я такіх мужыцкіх танцаў не гуляю.

М у з ы к а *(да Паўлінкі)*. Дзякуем! Ужо як належыць сабраліся, цяпер можам і рэзнуць што-колечы для паненкі. *(Садзяцца на свае месцы і зводзяць інструменты.)*

П а ў л і н к а *(да Адольфа)*. А якія ж вы танцы гуляеце?

А д о л ь ф. Гэрц-польку, падзі-спаць, манчыз, падзі-кварту. *(Выходзячы з-за стала, цалуе Альжбету ў руку, да Паўлінкі.)* Ну, што ж? Можа, мы з паненкай папрабуем?

П а ў л і н к а. Калі ж я гэтых мудрых танцаў не толькі што не ўмею, але ніколі нават іх і не бачыла.

А д о л ь ф. Не бойцеся! Я на ўсе лады выўчу паненку скакаць. *(Бярэ Паўлінку як да танца, да музыкаў.)* Зайграйце нам гэрц-польку!

М у з ы к а. Мы гэтага не ўмеем.

А д о л ь ф. Ну, дык падзі-спаць!

М у з ы к а. Першы раз чуем.

А д о л ь ф. А можа падзі-кварту знаеце?

М у з ы к а. І гэта першы раз чуем.

П а ў л і н к а *(як бы бядуючы)*. А-ей-ей! Вось табе і на! Так і не наўчуся гэтых панскіх танцаў.

А д о л ь ф. Не бядуйце вельмі. Я буду вытылінгіваць на язык, аваспанна толькі прыслухоўвайся ды вырабляй нагамі так, як і я.

П а ў л і н к а. Значыцца, будзем гуляць пад язык.

Смех. Адольф іграе на язык і без толку выкручваецца з Паўлінкай.

А д о л ь ф *(паказваючы)*. Вось так, вось так! Правую нагу сюды, а левую туды. Галава ў левы бок, а задам пад парог, ды вось так!.. Раз, два, тры, то направа, то налева...

Усе прыглядаюцца да іх і смяюцца.

З’ява IV

Тыя ж і Пранцісь, Агата, Сцяпан

Пранцісь *(п’яны)*. Пахвалёны Езус. Вось-цо-да, пане дабрудзею.

Колькі галасоў. Навекі! Навекі!

Пранцісь *(глянуўшы на Паўлінку і Адольфа)*. А гэта што такія, собственно, за выкрутасы, як у цырку ці ў сумашэдшым доме?

Адзін з гасцей. Гэта пан Быкоўскі навучае панну Паўлінку навамодных танцаў.

Пранцісь і Агата распранаюцца.

Пранцісь. Можна, можна далей круціцца, як у хваробе святога Лявэнтага. Далей, далей! Раз, два, тры, вось-цо-да!

Адольф *(далей паказваючы Паўлінцы)*. Вось як, вось так! То направа, то налева. Раз, два, тры! То туды, то сюды, ножка ў ножку, раз, два, тры!

Паўлінка *(вырываючыся)*. Не, такі нічога не выйдзе. Не кемкая я да навукі.

Адольф *(садзячы Паўлінку)*. Гэта толькі трудна першы раз, а пасля пойдзе ўсё гладка, як пугай высмаліць!

Ходзіць па хаце, махаючы каля твару хустачкай. Пранцісь, Агата і Сцяпан садзяцца за стол; Альжбета падае ім гарбату.

Пранцісь *(закурваючы люльку са Сцяпанам)*. Собственно, пане дабрудзею, кабыла заблудзіла і праз тое трохі спазніліся. Але гэта глупства, глупства! Яшчэ парой будзе, вось-цо-да.

Агата. Якое чорта заблудзіла! Пакуль аб’ехаў, тудэма-сюдэма, усю ваколіцу, як пагарэлец, дык і поўнач чуць не агарнула. Тудэма-сюдэма, усё га́ры тэй сабе шукаў.

Пранцісь. Ты, баба, собственно, маўчы, вось-цо-да! Ты нічога ніколі не кеміш, а я маю розум спрытны. Я, пане дабрудзею, Барнашоў, дзе пайшоў, там і прайшоў. *(Да гасцей.)* А вы, маладзічкі, не зважайце, вось-цо-да, ды танцуйце, пане дабрудзею, пакуль казінец не ўбіўся ў ногі.

П а ў л і н к а. А праўду дзядзька кажа. Будзема гуляць, нашто дарма час марнаваць! *(Да музыкаў.)* Зайграйце, калі ласка, польку, але такую, як ведаеце... каб аж свет хадыром пайшоў!

Музыкі іграюць польку; усе, апрача старых, танцуюць: Адольф з Паўлінкай, другія госці — хто з кім. За сталом Пранцісь са Сцяпанам частуюцца гарэлкай з пляшкі, якую першы прынёс з сабою.

А д о л ь ф *(танцуючы, прыпявае)*.

Танцовала рыба з ракем,
А пятрушка з пастарнакем,
А цыбуля дзівовала,
Цо пятрушка танцовала...

П а ў л і н к а *(адпяваючы)*.

А на печы, на лучыне,
Дзеўкі грошы палічылі;
Налічылі паўталера
Дый купілі кавалера.

А д о л ь ф.

Дзяўчынэчка суха, бледна,
Я да цебе ў госці еду,
І конікаў не жалую,
Ушыстку ночку машырую.

П а ў л і н к а.

У гародзе ячмень родзіць,
А да мяне Якім ходзіць.
Радзі, радзі, ячмень гусцей, —
Хадзі, хадзі, Якім, часцей!

А д о л ь ф.

Сядзіць голуб на галіне,
Салавей на ветке;
С аднэй дзевушкай гуляю,
Другая в прыметке.

П а ў л і н к а.

Ажаніся, не ляніся, —
Будзеш панаваці:
З аднэй будзеш свінні пасвіць,
З другой — заганяці.

А д о л ь ф.

Наша поле камяніста —
Ні праехаць, ні прайсці.
Нашы дзевачкі фарсісты —
Нельга к ім і падысці.

П а ў л і н к а.

Я фарсуха, ты католік;
Не руш мяне за падолік, —
Мой падолік шоўкам шыты,
Хто палезе, будзе біты!

С ц я п а н *(як сціхла гульня)*. Брава, брава, пан Адольф! Складзен да танцаў, як, не раўнуючы, закрыстыян да ружанцаў.

П р а н ц і с ь *(пацягваючы з пляшкі)*. Глупства, глупства, вось-цо-да! Собственно, хоць у кішэні пуста, затое ногі сыплюць густа. Каб яму яшчэ ды мой розум растропны, дык зусім было б добра, пане дабрудзею.

А г а т а. Кінь ты ўжо, тудэма-сюдэма, плявузгаць, як латак у млыне! Гуляюць — няхай гуляюць; ты сваімі качэргамі так не патрапіш.

А л ь ж б е т а *(да Пранціся)*. Можа б чаго, сватка, закусілі?

П р а н ц і с ь. Глупства, вось-цо-да. Собственно, закушу, закушу. *(Да гасцей.)* А вы, пане дабрадзею, забаўляйцеся, пакуль гаспадар вон з хаты не гоне, вось-цо-да.

П а ў л і н к а *(да Адольфа)*. Можа, пан Адольф, спяеце нам што-колечы? Я чула, што вельмі пекны голас маеце.

А д о л ь ф *(астанаўліваючыся)*. Э-э! які там пекны! Ось так сабе! Канешне, лепшы, як у іншых.

К о л ь к і г а л а с о ў. Дык проша спець. Мы ўсе просім.

А д о л ь ф. Калі ўжо так пекна просіце, дык можна. А якую ж бы панна Паўлінка хацела?

П а ў л і н к а. А ўсё роўна, хоць якую! Ну, якая лепей у пана Адольфа выходзе.

А д о л ь ф *(пяе няскладна, махаючы хустачкай па твары)*.

Плываё голэмбі,
Летаё лабэндзі;
З нашэго кахання,
Пэўна, ніц не бэндзе.

П а ў л і н к а. А такі ж нічога не будзе.

А д з і н з г а с ц е й. Ці ж гэта «голэмбі» плываюць, а «лабэндзі» лятаюць?!

А д о л ь ф. Ну, калі перабіваеце, дык саўсім не буду пець.

А л ь ж б е т а. Хай пан Быкоўскі на іх не зважае ды пяе; ведама, — блазнота, што яны знаюць!

П а ў л і н к а *(паглядзеўшы ў акно)*. Выбачайце, пан Адольф! У мяне няўмысле вылецела слаўцо.

К о л ь кі г а л а с о ў. Выбачайце, выбачайце! Просім, просім. Больш не будзем!

П р а н ц і с ь. Собственно, пане дабрудзею, завядзі яшчэ сваю шарманку: яна ў цябе прост, як грамафон, вось-цо-да, трубіць.

А д о л ь ф. Ну, ужо буду! Але калі яшчэ хоць раз перапыніце, тады загневаюся і саўсім кіну пець. Пейце тады самі!

К о л ь кі г а л а с о ў. Не, не! Не будзем!

А д о л ь ф *(пяе)*.

Гляжу я без толку на хладную шаль,
І чорную душу церзае печаль.

П а ў л і н к а *(душачыся ад смеху)*. Ці ж у пана Адольфа чорная душа?

А д з і н з г а с ц е й. Нашто ж глядзіш на яе, пан, без толку?

А д о л ь ф *(насупіўшыся)*. Болей пець вам не буду, хоць на каленях прасіце. Пейце сабе самі, калі такія разумныя! *(Садзіцца.)*

П а ў л і н к а. Дык і спяём, калі пан Адольф такі някемкі, што нават жартаў не разумее. *(Убок.)* Эх, скарэй бы ўсё гэта скончылася!

А д з і н з г а с ц е й. А такі ж спяём, і ўсе разам.

П а ў л і н к а *(да Адольфа хітравата)*. А пан Адольф нам паможа?

А д о л ь ф. Ані думаў.

К о л ь к і г а л а с о ў. А што мы спяём?

П а ў л і н к а. «Дый куды ж ты, дуб зялёны, пахінаешся?..»

А д о л ь ф. Фі, мужыцкая!

П а ў л і н к а. А пан Адольф можа б хацеў, каб завялі якога манчыза?!

П р а н ц і с ь. Собственно, вось-цо-да, калі такой панскай натуры, дык пазатыкай кудзеляй вушы, пане дабрудзею.

С ц я п а н *(да Пранціся, сціха)*. Каханенькі, родненькі, не кратайце яго! Ён, бачыш, як я ўжо і казаў, масціцца да маёй Паўлінкі. Як будзеш яму наругацца, дык гатоў яшчэ адбіцца, а я яго стараюся прыручыць.

П а ў л і н к а. Ну, дык што? Згода на гэту?

К о л ь к і г а л а с о ў. Згода, згода!! А пасля другую.

П а ў л і н к а. Толькі не збівацца з толку. Глядзець, як буду я рукамі тахты адбіваць.

К о л ь к і г а л а с о ў. Добра, добра!

Пяюць. Паўлінка, сумна ўсміхаючыся, дырыгуе, пасля і Пранцісь падходзе і пляшкай адмахвае тахты; музыкі також сваёй ігрой памагаюць.

Дый куды ж ты, дуб зялёны,
Пахінаешся?
Дый чаго ж ты, мой міленькі,
Задумляешся?

П р а н ц і с ь *(як перасталі пець)*. А цяпер, вось-цо-да, «Як жа мне не пець», пане дабрудзею.

А д о л ь ф. Ізноў мужыцкую?

П р а н ц і с ь. Але, мужыцкую, але, вось-цо-да! А васпан, собственно, сваю панскую схавай свінням на снеданне.

А г а т а *(падыходзіць і цягне Пранціся за полы)*. Кінь ты ўжо, тудэма-сюдэма, з поля сходзіць!

П р а н ц і с ь. Вось-цо-да, адчапіся ад мяне, пане дабрудзею!

П а ў л і н к а. Ну, будзем пець «Як жа мне не пець, як жа не гудзець?..».

Пяюць, як першую.

П р а н ц і с ь *(як скончылі)*. А цяпер, собственно, «Чачотачку», пане дабрудзею.

К о л ь к і г а л а с о ў. Чачотачку, чачотачку! *(Пяюць чачотачку.)*

Спарадзіла чачотачка семера дачок,
Спарадзіла невялічкіх семера малых…

А л ь ж б е т а *(як сціхлі)*. Аддыхніце, міленькія, хоць трохі, а то замарыліся дужа. *(Да Пранціся.)* Хадзіце, сваток, за стол, ды можа чаго закусіце, бо і ты ж памагаў.

П р а н ц і с ь *(садзячыся)*. Собственно, глупства, вось-цо-да. Маладым трэба паказаць, паказаць, пане дабрудзею, а яны ўсё патрапяць... правільна толькі навучыць іх. *(Папіваючы з пляшкі, да Сцяпана.)* А ты, сват, трымайся, вось-цо-да. Ім не дам, яны маладзічкі яшчэ, паспеюць.

С ц я п а н. А праўда, праўда, сватка! Яшчэ іх пара не ўцякла. *(Выпівае.)*

П а ў л і н к а *(каля гасцей)*. А што ж мы цяпер будзем рабіць? Ужо напяяліся, дык можа ізноў пагуляема?

П р а н ц і с ь *(закусваючы)*. Собственно, пачакайце, я зараз скамандую, пане дабрудзею, за што і як узяцца, бо мой розум растропны, а вы нічога не ведаеце.

П а ў л і н к а. Ну, добра, пачакаем. *(Да Адольфа.)* Што ж гэта, пан Адольф, надуўся, як мыш на крупы або як апошняе ў печ усыпаўшы?

А д н а з г а с ц е й. Пан Адольф, відаць, закахаўся.

А д о л ь ф. Ну, дык што, калі закахаўся?

П р а н ц і с ь *(пералсоўваючы яду)*. Собственно, цяпер, вось-цо-да, пойдзем лявоніху, пане дабрудзею!

У с е. Лявоніху! Лявоніху!

А д о л ь ф. Ізноў мужыцкае!

П а ў л і н к а *(да Адольфа, прыпадхлебваючыся)*. А мы з панам Адольфам сыпнем лявоніху, сапраўды, сыпнем! Адпусціцеся на мяне, грэшную, болей ці ўдасца так весела з вамі паскакаць.

А д о л ь ф. Ды я ўжо вельмі не гневаюся. Калі ўжо так хочаце, дык пойдзем, што ж там надта такое?!

П р а н ц і с ь *(да музыкаў)*. Собственно, рэжце, пане дабрудзею! *(Да Альжбеты.)* А мы з сваццяй тупнем, вось-цо-да!..

С ц я п а н *(да Агаты)*. А мы з сваццяй, каханенькая, родненькая!

Музыкі іграюць лявоніху. Кабеты трохі ўпіраюцца, але пасля ідуць, за імі іншыя госці. Паўлінка з Адольфам.

П р а н ц і с ь *(прыпявае)*.

О, Лявоніха Сымоніха была,
Ды Лявону хлеба, солі не дала!
О, Лявоніха Сымоніха, а-ей!
Не хадзі ламаць капусткі маей!

А л ь ж б е т а.

Хоць капуста зарасла лебядою,
Не пайду яе палоць за табою.
Прападзі ты і з капустай сваёй,
Не сушы ты маладосці маёй!

С ц я п а н.

О, Лявоніха, ты жонка мая,
Дый не мытую сарочку дала;
Не качаную, не мытую,
Толькі шоўкам абашытую.

А г а т а.

А мой татка, дзевярусенька,
Вядзі мяне памалюсеньку.
Не вядзі мяне па пожынцы,
Вядзі мяне па дарожынцы;
Па пожынцы мае ножкі не йдуць,
Па дарожынцы дык самі бягуць.

А д о л ь ф.

Як я бегаў, дык і бегаў,
Абы мілую праведаў;
Як каціўся, дык каціўся,
Абы к мілай прыхіліўся.

П а ў л і н к а.

А калі ж я у матулькі жыла,
Як вішанька у садочку цвіла,
Дасталася злому духу — мужыку,
Ссушыў мяне, як ліпінку у духу.

А д о л ь ф.

Ты, бярозачка, бярозка мая,
Ты, бярозка, нецярэбленая;
Тваё лісце не сярэбранае,
Нашы дзеўкі непаседлівыя.

П а ў л і н к а.

Не вядзі мяне ні ў лес, ані ў сад, —
Завядзі мяне к татульку назад;
Не вядзі мяне у лес, а ні ў бор, —
Завядзі мяне к татульку на двор!

П р а н ц і с ь *(як перасталі гульню, да Сцяпана)*. Собственно, і дала ж твая баба мне дыхту, вось-цо-да. Аж лыткі трасуцца, пане дабрудзею.

С ц я п а н. І твая, каханенькі, родненькі, не адстала, — аж дыхавіцу чуць мне не нагнала.

А г а т а. Абодва вы кавалёвыя мяхі, тудэма-сюдэма, непаваротлівыя, дык і здаецца, што нехта вам дыхту нейкага даваў.

А л ь ж б е т а. А праўда, свацейка, праўда. Ім толькі каля пляшкі круціцца, а не з дарэчнымі жанкамі лявоніху ісці.

П р а н ц і с ь. Ага, собственно, добра, што свацейка, пане дабрудзею, успомніла *(Дастае пляшку і частуецца з Сцяпанам.)*

П а ў л і н к а *(да Адольфа)*. Ну, як жа пану Адольфу спадабаўся наш мужыцкі танец? Як я ўважаю, дык лепей у вас лявоніха выходзе, чымся тое нейкае «падзі-кварта». І прыпеўкі складныя знаеце.

А д о л ь ф *(нібы скромна)*. А трохі ж нейкіх навучыўся калісь.

А д з і н з г а с ц е й. Пара нам і чэсць знаць! Пэўна, ужо каля поўначы матаецца.

К о л ь к і г а л а с о ў. Так, так, час рухацца дамоў!

П а ў л і н к а *(з аблягчэннем, убок)*. Дзякуй богу!.. *(Да гасцей.)* А можа б яшчэ пагулялі?

А л ь ж б е т а. Каму далёка, то яно так, а каму блізка, дык не шкодзіць яшчэ пазабаўляцца.

К о л ь к і г а л а с о ў. Не! Не! Ужо час і пара́!

П а ў л і н к а. Ну, дык хай музыкі на адходнае хоць марша зайграюць, каб весялей усім снілася і каб моцна, моцна ўсім спалася.

С ц я п а н. А гэта не шкодзіць. *(Да музыкаў.)* Што ж, каха免енькія, родненькія, зайграйце, калі ласка, яшчэ штоколечы на адходнае дарагім госцікам, а там дзве дзюркі ў носе і скончылося.

Музыкі іграюць марш. Госці адзяваюцца, адвітваюцца і выходзяць, за імі — музыкі.

## З'ява V

П а ў л і н к а, А д о л ь ф, С ц я п а н, А л ь ж б е т а, П р а н ц і с ь і А г а т а

С ц я п а н. Вось і пацішэла трохі ў нашай хаце, няма ўжо каму скакаці.

П р а н ц і с ь. Собственно, глупства, вось-цо-да. Было шумна, пане дабрудзею, і будзе шумна!

А г а т а. А так, так, тудэма-сюдэма, як будзе вяселле ў Паўлінкі.

П а ў л і н к а. Э-э, майго вяселля ніколі не будзе, значыцца, і шумна не будзе!

А д о л ь ф. Ці ж у бацькоў маладога, паненка, думаеце, не хваце на вяселле?

П а ў л і н к а. Хваце не хваце, а такі вяселля майго ніхто не ўбача...

С ц я п а н. Гэта, каханенькая, родненькая, пабачым. Яшчэ я на тое ёсць, і ў сваёй хаце гаспадар, а не госць! Жыта повен аруд і сала не адзін пуд.

П р а н ц і с ь. Собственно, глупства, вось-цо-да. Часам ці вяселле, ці павесіў — адно на другое, пане дабрудзею, выходзе.

А г а т а. А ты, «вось-цо-да», прыкусі свой язык і не тыцкайся, тудэма-сюдэма, туды, куды цябе не просяць. Напіўся, наеўся, дык і маўчы!

А л ь ж б е т а *(да Агаты)*. Што ж там, свацейка, такое? Сват жа нічога благога не кажа. *(Да Паўлінкі.)* Прыбірай ты ўжо, дзеткі, са стала.

П р а н ц і с ь. Собственно, ці свінні елі, ці шляхта папасавалася — гэтак, вось-цо-да, стол выглядае, пане дабрудзею.

П а ў л і н к а. Добра, мамка, зараз. *(Да Адольфа.)* А пан Адольф мне паможа!

А д о л ь ф. Калі патраплю, дык чаму ж не?

Прыбіраюць са стала; пасудак стаўляюць на табурэце, каля самавара.

А л ь ж б е т а. Вы бы, дзеткі, заняслі пасудак на тую палавіну.

П а ў л і н к а. Усё роўна, я пасля занясу сама, а цяпер... *(паглядаючы хітравата на Адольфа)* я баюся з панам Адольфам ісці адна на тую палавіну!..

А д о л ь ф *(несучы пасудак, убок)*. Відаць, дзеўка ўлялюскалася ў мяне па самую шыю.

П а ў л і н к а *(ідучы к сталу, убок)*. І собіла ж Богу стварыць гэткую чапялу недарэчную!

П р а н ц і с ь *(да Паўлінкі)*. А праўда, собственно, лепш старожа, як варожа, пане дабрудзею.

А г а т а *(да Пранціся)*. А ты, «старожа», не мялі попусту, а думай, як дахаты ісці.

П р а н ц і с ь. Пане дабрудзею, дык і пойдзем; што ж там, собственно, такое.

Развітаюцца абое і выходзяць. Альжбета памагае прыбіраць са стала.

## З'ява VI

П а ў л і н к а, А д о л ь ф, С ц я п а н, А л ь ж б е т а

П а ў л і н к а. Не так, пан Адольф, бярэш шклянкі; трэба вось як. *(Паказвае.)* Ну, і зграбны ж! не раўнуючы — як вол да карэты.

А д о л ь ф. А панна Паўлінка ўсё капліменты мне гавора.

П а ў л і н к а *(убок)*. Дурню плюнь у вочы, а ён скажа: дождж ідзе!

А л ь ж б е т а *(да Сцяпана, які клюе носам за сталом)*. Што ты табаку важыш? Ідзі ды кладзіся спаць. Гэта ж табе тут не карчма!

С ц я п а н *(сонна)*. Каханенькая, родненькая, я наважу, а ты купіш. Сон — не кепская рэч. Для чаго калядкі — добрыя святкі, што пад'еў ды на палаткі. *(Вылазячы з-за стала, да Адольфа.)* Каханенькі, родненькі, выбачай... Забаўляйся тут з Паўлінкай, а я прыкархну трохі... Сягоння яшчэ досві-

та мяне мая ўспарола. *(Адводзячы Адольфа ў старану.)* Ну, што? Як мая Паўліна… падышла пад мысль?

А д о л ь ф. О, важная маладзіца! Хоць сягоння гатоў з ёю жаніцца.

С ц я п а н. Ну, так тупай каля яе; толькі смела; яна дзеўка падатлівая, хоць можа і мае трохі якіх мухаў у носе.

А д о л ь ф. Хэ-хэ-хэ! Я да ўсякай патраплю падлізацца.

С ц я п а н. Ну, дык падлізывайся, каханенькі, родненькі. *(Адвітваецца і ідзе ў бакоўку.)*

## З'ява VII

П а ў л і н к а, А д о л ь ф, А л ь ж б е т а

А л ь ж б е т а *(сціраючы стол)*. А ты, Паўлінка, можа ў карты пайграеш з панам Адольфам?

А д о л ь ф *(закурваючы)*. Ды і мне ўжо трэба збірацца дамоў.

П а ў л і н к а. Ці ж пан Адольф рассыпаўся, што маніцёся збірацца? Заедзеце яшчэ; каня ж маеце не жартачкі!..

А д о л ь ф. О, конь мой добры!

А л ь ж б е т а. Ну, дык і чаго ж спяшацца?.. Нам, старым, як той кажа, такая рэч: пад'еў ды на печ.

П а ў л і н к а *(убок)*. Чаго добрага — заначуе, вось будзе бяда! *(Голасна.)* А пагода сягоння нядрэнная. Нават месяц свеціць, што рэдка на пакровы. Будзе добра для пана Адольфа дамоў ехаць.

А д о л ь ф. А хоць бы і дрэнная, дык мне блізка, жарабец мой у момант дамчыць.

А л ь ж б е т а *(да Паўлінкі)*. Ну, дык паглядзі ж ты, дзе карты, ды пазабаўляйцеся яшчэ трохі з панам Адольфам, бо я, мусіць, зраблю следам за дзедам. Трохі ж сягоння такі натупалася.

А д о л ь ф. Проша, проша, панічка! На нас, маладых, не зважайце.

А л ь ж б е т а. А ўжо ж я такі і пайду.

А д о л ь ф *(цалуючы ў руку Альжбету)*. Хутка і я паеду, вось толькі дам аднаго гаспадара панне Паўлінцы.

П а ў л і н к а. Паглядзім — хто каму?!

Шукае карт. А л ь ж б е т а выходзіць у бакоўку.

## З'ява VIII

П а ў л і н к а, А д о л ь ф

А д о л ь ф. Чаго паненка шукае?

П а ў л і н к а. Таго, чаго яшчэ не маю, — карт.

А д о л ь ф *(глянуўшы на акно)*. А вось яны, на акне.

П а ў л і н к а *(убок)*. Думала, што не ўбачыць; скарэй бы можа з хаты выпхнула, не найшоўшы карт. *(Да Адольфа.)* Ну, калі ёсць, дык будзем іграць. *(Паглядзеўшы ў акно.)* А ў што?

А д о л ь ф. У гаспадара.

П а ў л і н к а. Гэта, значыцца, у дурня?

А д о л ь ф. Ну, гэта толькі мужыкі так гавораць. *(Раздае карты.)*

П а ў л і н к а. А як пан Адольф думаў, хто мы? То ж таксама мужыцкага роду.

А д о л ь ф. Першы раз чую!

П а ў л і н к а. Ды і пан Адольф таксама мужыцкага роду. *(Іграюць у карты.)*

А д о л ь ф *(здзіўлены)*. І я?!

П а ў л і н к а. Але, але! Калісь былі ўсе мужыкі, ну дык цяпер кожны чалавек мужыцкага роду, хоць каторы і прыкідваецца панам ці графам. Ды і што гаварыць! Адам і Ева і то былі мужыкамі.

А д о л ь ф *(здзіўлены)*. Адам і Ева?!

П а ў л і н к а. І Ной, і Езус...

А д о л ь ф. Што я чую? Адкуль гэта, панна Паўлінка, усё ведаеце?

П а ў л і н к а. Ого, не скажу!

А д о л ь ф *(просячы)*. Проша сказаць.

П а ў л і н к а. Не тэй б'іце! Вот салапяка!

А д о л ь ф *(паправіўшыся)*. Ды скажыце!

П а ў л і н к а *(нецярпліва)*. Ну, добра. Запытайцеся ў Якіма Сарокі: ён усё вам раскажа. *(Адольф праігрывае.)* Дурань пан! Дурань пан!

А д о л ь ф *(папраўляючы)*. Гаспадар. *(Раздае карты.)*

П а ў л і н к а *(убок)*. Які чорта гаспадар, калі дурань?

А д о л ь ф. Што панна Паўлінка кажа?

П а ў л і н к а. Кажу: але, гаспадар. *(Хвілю маўчаць. Паўлінка ўбок.)* Што тут гаварыць з гэтай вандзонкай. І трымае ж яго нядобрае! *(Да Адольфа.)* А ці, пан Адольф, жаніцца хочаце?

А д о л ь ф. Ой, страшэнна хачу. А панне Паўлінцы замуж хочацца?

П а ў л і н к а. Ого, яшчэ і як хочацца!.. Калі ўдасца, дык яшчэ і сягоння, можа, пайду.

А д о л ь ф. А я ж яшчэ з таткам і мамкай вашымі нічога аб гэтым не гаварыў.

П а ў л і н к а. Аб чым — аб гэтым?

А д о л ь ф. Ну, аб тым, як я жаніцца буду, а панна Паўлінка замуж ісці. *(Праігрывае.)*

П а ў л і н к а. Ізноў пан дурнем! Ізноў дурнем!

А д о л ь ф. Гаспадаром!.. *(Раздае карты.)*

П а ў л і н к а. А можа ўжо будзе? Нешта спаць як бы хочацца. *(Зявае, устае і паглядае ў акно. Убок.)* А што, калі не прыйшоў?

А д о л ь ф *(не пачуўшы)*. Хто не пайшоў?

П а ў л і н к а. Я кажу, каб хаця дождж не пайшоў. *(З удаванай жаласцю.)* Я так жалею, так жалею пана Адольфа, каб не замок, што аж тут нешта трасецца. *(Паказвае на грудзі.)*

А д о л ь ф. І я таксама панну Паўлінку жалею і цяпер, і потым.

П а ў л і н к а. Калі гэта потым? Як пан Адольф яшчэ дурня возьме?

А д о л ь ф. Ды не! Тады, як будзем… як будзем… ну, як гэта сказаць?

П а ў л і н к а. Ізноў скруціў! *(Папраўляе.)* Вось гэтак было, гэтак біць трэба, а з гэтай хаджу, і пан Адольф ізноў дурань, дурань, дурань!

А д о л ь ф. Гаспадар!

П а ў л і н к а. Усё роўна, хоць гаспадар, але, як карты паказваюць, дык дурань!

А д о л ь ф. Хай будзе і так! Цяпер за тое, што панна Паўлінка мяне гэтак абыграла, вазьму ды паеду. *(Устае.)*

П а ў л і н к а *(з аблягчэннем, убок)*. Сабраўся-такі нарэшце.

А д о л ь ф. Дабранач панне Паўлінцы! Проша чакаць, — я прыеду па канчатак.

П а ў л і н к а. Забярыце лепей яго цяпер!

А д о л ь ф. Каго?

П а ў л і н к а. Ды канчатак той.

А д о л ь ф. А панна Паўлінка ўсё жартуе. *(Адвітваецца. Выходзячы, убок.)* Вот так на ўсе бакі дзеўка! Адным словам, як сторублёвая кабыла. Гэткая — дыхт для мяне жонка!

### З'ява IX

П а ў л і н к а *(адна)*

П а ў л і н к а *(неспакойна)*. А той, можа, хай бы лепей і не прыйшоў. Так усё неяк у сярэдзіне трасецца... І нашто гэта я яму абяцала? Лепей было б пачакаць. Што тут рабіць? *(Ходзіць ад акна да акна і паглядае.)* Падшахнула ж мяне нядобрае на згоду прыстаць! *(Сумна-весела.)* А можа не прыйдзе?.. *(Сумна.)* А калі не прыйдзе, то, значыцца, ён ужо мяне не любіць болей. Не, няхай прыйдзе лепей, а там — што будзе, то будзе. Трэба паваражыць. *(Стукае ў пальцы.)* Прыйдзе, не прыйдзе, прыйдзе, не прыйдзе, прыйдзе... *(Весела.)* Прыйдзе, прыйдзе! А цяпер — любіць ці не любіць? Ну, гэта трэба на карты паваражыць. *(Бярэ і перакідае карты.)* Любіць, не любіць, к сэрцу прыжме, к чорту пашле; любіць, не любіць, к сэрцу прыжме... *(Весела.)* Так, так, любіць, к сэрцу прыцісне! Ну, раз карты гэтак паказалі, то трэба збірацца. Але мушу ўперад паслухаць, ці спяць старыя. *(Ідзе і падслухоўвае ў дзверах бакоўкі.)* Спяць, ажно храпуць, як бы суконкі дралі. *(Падыходзіць, глядзіць у акно, задумваецца.)* Што тут узяць? Ага, трэба заглянуць у куфар. *(Адчыняе куфар, капаецца ў ім; дастае пацеркі і прымярае.)* Во! Гэта дык трэба забраць, — так мне з імі да твару ідзе. Ну, сукенку новую таксама трэба ўзяць. Усё гэта звяжам у хустку. *(Рассцілае хустку і складвае свае рэчы.)* А-а, і чаравічкі мушу забраць, бо ў чым жа я з ім бегаць буду? Шнуровачку такжа вазьму, бо хто ж яе тут будзе насіць?.. І-і!! ужо болей, здаецца, нічога. *(Звязвае і ідзе к ложку. Чуваць шорах за акном. Паўлінка сціхае.)* Ай, хтось там прыйшоў! *(Весела.)* Прыйшоў мой міленькі, прыйшоў! Такі карты праўду паказалі. *(Ідзе к акну.)* Хто там?

Г о л а с з-з а а к н а *(прыдушаны)*. Я!.. Я!..

П а ў л і н к а *(углядаючыся ў акно, убок)*. Нічагутанькі не відаць! Цемната страшэнная! *(У акно.)* Хто — я?

Г о л а с. Я!.. Я!.. Ну, ці ж не пазнала?

П а ў л і н к а. Пачакай мінутку. Вось я зараз. Толькі падушачкі звяжу і коўдру.

Г о л а с. Ды мне нічога не трэба!

П а ў л і н к а. Мала што не трэба, а я вазьму... *(Хутка ідзе к ложку, звязвае падушкі і коўдру ў посцілку.)* Ну, ужо гатова! *(Адчыняе акно і выкідвае вузлы.)* Пераймай, а зараз — і мяне! *(Да сябе.)* Трэба з бакоўкі ўзяць верхнюю вопратку і хустку, толькі б хаця ж старыя не прабудзіліся. *(Зніжае агонь у лямпе і ідзе ў бакоўку. Па нейкім часе выходзіць стуль адзеўшыся.)* А цяпер і сябе трэба выкінуць! *(Шыбка ідзе к акну. Чуваць шорах у бакоўцы.)* Ай, нехта ўстаў!

## З'ява X

П а ў л і н к а, С ц я п а н

С ц я п а н *(выбягае з бакоўкі, ахінуўшыся коўдрай)*. Хто тут? Хто тут лазіць апоўначы? Альжбета! Альжбета! Хутчэй сюды! *(Паўлінка, перахрысціўшыся, кідаецца ў акно. Сцяпан убачыў.)* Гвалт! Злодзей! *(Бяжыць к акну і хватае Паўлінку за ногі.)* Альжбета! Скарэй сюды! Стрэльбу хватай!!.

## З'ява XI

П а ў л і н к а, С ц я п а н, А л ь ж б е т а

А л ь ж б е т а *(выбягае — як Сцяпан — акрыўшыся коўдрай; уся трасецца)*. Матачка найсвентшая! Што тут робіцца?! *(Мацае па сцяне.)* Зараз, зараз нясу стрэльбу. *(Хватае за гіру ад гадзінніка, гадзіннік з грохатам валіцца са сцяны і разбіваецца.)* Ай, што ж я нарабіла!!

С ц я п а н *(трымаючы Паўлінку за ногі, да Альжбеты)*. Куды цябе немач уперла? Падкруці хутчэй кнот ды памажы цягнуць!..

А л ь ж б е т а *(бяжыць к лямпе)*. Ужо, ужо!

П а ў л і н к а *(перавесіўшыся праз акно)*. Цягні, братка, ямчэй!

А л ь ж б е т а *(падкруціўшы кнот і бегучы к Сцяпану)*. Божухна мой! Гэта ж Паўлінка! Скуль ты ўзяў таго злодзея?

С ц я п а н. Каханенькая, родненькая, не мялі языком ды вось памагай цягнуць; там нейкі гад яе за рукі трымае.

П а ў л і н к а. Мацней, мацней, браток!

А л ь ж б е т а *(памагаючы Сцяпану цягнуць)*. Што ты, дзеткі, здурэла, ці што?.. *(Сцягваюць Паўлінку з акна на хату.)*

С ц я п а н. Ты гэта, каханенькая, родненькая, куды манілася ляцець?

П а ў л і н к а *(апіраючыся рукой аб стол, патупіўшыся)*. Я!.. Я!.. хацела замуж ісці!

С ц я п а н і А л ь ж б е т а. Праз акно?!

П а ў л і н к а. А што ж калі татка і мамка праз дзверы не пускаеце.

### З’ява XII

Тыя ж і П р а н ц і с ь, А д о л ь ф, А г а т а

П р а н ц і с ь *(без шапкі ўвальваецца ў хату, трымаючы за каўнер Адольфа)*. Собственно, пане дабрудзею, злодзея, злодзея злавіў, вось-цо-да.

А г а т а *(цягнучы вузлы)*. А як жа, тудэма-сюдэма, з гэтымі катомкамі каля вашага акна капаўся.

П а ў л і н к а, С ц я п а н і А л ь ж б е т а. Пан Быкоўскі?

П р а н ц і с ь. А так, так, пане дабрудзею. Адольф, Адольф! Злодзей, собственно, вось-цо-да!

С ц я п а н *(да Адольфа)*. Дык гэта ты мне хацеў дачку ўкрасці, зладзюга, каханенькі, родненькі!

А д о л ь ф *(заікаючыся і не разумеючы, у чым рэч)*. Я... я... збіўся тут каля саду з дарогі, дык хацеў у панны Паўлінкі запытацца праз акно, кудой выехаць...

П р а н ц і с ь. Собственно, злодзей, злодзей! Вузлы з хаты праз акно павыцягваў. Можа і шапку маю ўкраў.

А г а т а. Ты зараз, п’яніца, тудэма-сюдэма, і галаву забудзешся. Гэта ж аж дамоў даваломся і тады толькі аглядзеўся, што шапкі забыўся.

П р а н ц і с ь. Собственно, а баба нашто, — каб усяго пільнавала. Але злодзея, пане дабрудзею, злавіў, злавіў, вось-цо-да.

С ц я п а н *(да Паўлінкі).* Дык гэта ты, каханенькая, родненькая, за яго хацела замуж уцякаць, як даведалася, што гэнага гада, гэнае плюгаўства за афішкі арыштавалі?

П а ў л і н к а *(глуха).* Божухна мой, божа! Якімку арыштавалі!!

С ц я п а н *(самадавольна).* Хе-хе-хе! ужо гэтае мужыцкае насенне не будзе больш нашых сцежак паганіць.

П а ў л і н к а. Якімку арыштавалі! Майго саколіка ненагляднага арыштавалі.

С ц я п а н *(да Адольфа).* А ты, каханенькі, родненькі, негадзяй, вірутнік з-пад цёмнай гвязды, вон з маёй хаты, каб твая і нага тут не была! Не мог, як трэба, па-хрысціянску — з сватам, з запаведзямі маю дачку ўзяць, але, як злодзей, хацеў праз акно вывалачы! Вон! Вон!

А д о л ь ф. Я... я... толькі хацеў дарогі запытацца...

П р а н ц і с ь *(развязваючы вузлы).* Собственно, злодзей, пане дабрудзею! Падушкі і сукенкі дзявочыя праз акно пакраў. К ураднiку, марш! К ураднiку, гіцаль, вось-цо-да!

П а ў л і н к а. Якімку арыштавалі! Маю зорачку ясную арыштавалі. *(Дзіка.)* Ха-ха-ха! Звяры сляпыя!!! *(Як сноп, валіцца на зямлю. Суматоха. Крыкі: «Вады! Вады...»)*

П р а н ц і с ь. Собственно, пане дабрудзею, у мяне ёсць кроплі. *(Дастае з кішэні пляшку і пырскае ў твар Паўлінцы гарэлкай.)*

А г а т а *(кідаючыся да Пранціся).* Тудэма-сюдэма, ашалеў!..

С ц я п а н *(панура).* Каханенькія, родненькія, дзве дзюркі ў носе і скончылося.

Заслона

1. Чаму Паўлінка і Якім Сарока сустракаюцца ў сакрэце ад бацькоў?
2. Якія выказванні і паводзіны Паўлінкі сведчаць пра тое, што яна кахае маладога настаўніка?
3. Па якіх каларытных выслоўях Сцяпана Крыніцкага і Пранціся Пустарэвіча іх можна адрозніць паміж сабой?
4. Як ставіцца Паўлінка да сваіх бацькоў?
5. Знайдзіце ў тэксце другога акта п’есы неабходны матэрыял для характарыстыкі Адольфа Быкоўскага, Сцяпана Крыніцкага, Пранціся Пустарэвіча, падкрэсліўшы пыхлівасць, духоўную абмежаванасць засцянковай шляхты.

6. Складзіце план характарыстыкі аднаго з разгледжаных на ўроку персанажаў камедыі. Адбярыце матэрыял для вуснага паведамлення «Якой я ўяўляю сабе Паўлінку?».
7. Каму з герояў аўтар сімпатызуе, каго асуджае, высмейвае?
8. Знайдзіце ў творы прыклады камічнага паказу персанажаў і паспрабуйце адрозніць, дзе камізм не злосны (гэта значыць ужываецца гумар), а дзе — надзвычай востры, з'едлівы, іншымі словамі, пісьменнік выкарыстоўвае сатыру.
9. Якімі прыёмамі і сродкамі ствараюцца смешныя, камічныя сцэны, вобразы герояў? Прывядзіце прыклады.
10. Калі ёсць магчымасць, падрыхтуйце для інсцэніраванага прадстаўлення якую-небудзь сцэну з камедыі «Паўлінка». Падумайце, як аформіць гэту сцэну, апрануць выканаўцаў. Звярніце ўвагу на фотаздымкі выканаўцаў адной з галоўных роляў (Паўлінкі). (Гл. уклейку).
11. Падрыхтуйце вуснае або пісьмовае сачыненне-разважанне па адной з прапанаваных у выглядзе пытанняў тэм: 1) што з'яўляецца галоўнай перашкодай на шляху Паўлінкі да шчасця? 2) якія рысы характару Паўлінкі дазваляюць атаясамліваць яе вобраз з вобразам Беларусі пачатку XX ст.?
12. Улічваючы разгляд усіх папярэдніх пытанняў, вызначце жанр п'есы Янкі Купалы «Паўлінка».
13. Якія іншыя драматычныя творы вы чыталі або глядзелі ў тэатры, па тэлевізары? Якіх беларускіх драматургаў, артыстаў ведаеце?

## Пытанні і заданні да раздзела

**1.** Чым адрозніваюцца драматычныя творы ад эпічных і лірычных?

**2.** Якімі сродкамі і прыёмамі паказу жыцця вызначаюцца драматычныя творы?

**3.** Назавіце асноўныя жанры драматычнага роду. Чым яны адрозніваюцца адзін ад аднаго ў паказе жыцця і герояў?

**4.** Каго вы ведаеце з беларускіх драматургаў? Прыгадайце самых выдатных драматургаў свету. Назавіце вядомыя вам творы гэтых аўтараў або пастаўленыя па іх спектаклі.

**5.** Напішыце пісьмовы водзыў на прагледжаны вамі спектакль ці фільм.

**6.** Падрыхтуйце выразнае чытанне ўрыўка з драматычнага твора (на ваш выбар).

# ДАДАТАК

## Максім Танк

* * *

Я спытаў чалавека,
Які прайшоў праз агонь,
І воды,
І медныя трубы:
— Што самае цяжкое
На гэтым свеце?
І ён адказаў:
— Прайсці праз вернасць.

## Сяргей Чыгрын

### ТРЫЯЛЕТ

Чыстая, вясёлая вада
З красавіцкім сонейкам у згодзе.
Па балоце першы бусел ходзіць —
Чыстая, вясёлая вада.
Будзе шчасце, кажуць у народзе,
Буслу кола пакладзі на дах.
Чыстая, вясёлая вада
З красавіцкім сонейкам у згодзе.

# ДАВЕДНІК ПРА АЎТАРАЎ ТВОРАЎ, ЗМЕШЧАНЫХ У ВУЧЭБНЫМ ДАПАМОЖНІКУ

**Максім Багдановіч (1891—1917)** — нарадзіўся ў Мінску. Раннія дзіцячыя гады правёў у Гродне, пасля жыў і вучыўся ў Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі. Скончыў юрыдычны ліцэй і восенню 1916 г. пераехаў у Мінск. Цяжкая хвароба прымусіла паэта ехаць на лячэнне ў Ялту, дзе ён і памёр.

Першы твор — апавяданне «Музыка» — М. Багдановіч апублікаваў у 1907 г. У 1914 г. у Вільні выдаў зборнік вершаў «Вянок». Напісаў паэмы «Страцім-лебедзь», «Максім і Магдалена», для дзяцей — паэму-казку «Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык». Вядомы як публіцыст, літаратурны крытык, перакладчык. Многія творы паэта пакладзены на музыку.

**Рыгор Барадулін** — народны паэт Беларусі. Нарадзіўся ў 1935 г. на Віцебшчыне. Скончыў Ушацкую сярэднюю школу, БДУ.

Першы зборнік вершаў «Маладзік над стэпам» выйшаў у 1959 г. Аўтар шматлікіх зборнікаў паэзіі, кніг літаратурна-крытычных артыкулаў. Плённа працуе ў галіне перакладу. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы.

**Данута Бічэль** нарадзілася ў 1938 г. на Гродзеншчыне. Скончыла Гродзенскі педагагічны інстытут імя Янкі Купалы. Працавала настаўніцай, старшым навуковым супрацоўнікам Гродзенскага абласнога гісторыка-археалагічнага музея.

Аўтар зборнікаў вершаў «Дзявочае сэрца», «Запалянкі», «Дзе ходзяць басанож» і інш., а таксама шматлікіх кніг для дзяцей. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы.

**Васіль Быкаў (1924—2003)** — народны пісьменнік Беларусі. Нарадзіўся на Віцебшчыне. Вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Быў двойчы паранены. З вайсковай службай канчаткова развітаўся толькі ў 1955 г.

Аўтар шматлікіх кніг апавяданняў і аповесцей — «Жураўліны крык», «Альпійская балада», «Сотнікаў», «Абеліск», «Знак бяды», «Аблава», «Сцюжа» і інш. Лаўрэат Ленінскай прэміі, Дзяржаўных прэмій СССР і БССР.

**Анатоль Вярцінскі** нарадзіўся ў 1931 г. на Віцебшчыне. Скончыў БДУ. Працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва», выдавецтве «Беларусь», Саюзе пісьменнікаў БССР. Выдаў кнігі вершаў і паэм «Песня пра хлеб», «Тры цішыні», «Святло зямное» і інш. Напісаў п’есы для дзяцей «Дзякуй, вялікі дзякуй», «Гефест — друг Праметэя», «Скажы сваё імя, салдат». Працуе ў галіне перакладу. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

**Сяргей Грахоўскі (1913—2002)** нарадзіўся на Піншчыне. Скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. У 1936 г. быў рэпрэсіраваны, 17 гадоў знаходзіўся ў лагеры і ссылцы. Аўтар зборнікаў лірычных вершаў, апавяданняў, аўтабіяграфічнай кнігі «Споведзь», за якую ў 1992 г. атрымаў Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь імя Якуба Коласа.

**Анатоль Грачанікаў (1938—1991)** нарадзіўся на Гомельшчыне. Скончыў Беларускі інстытут чыгуначнага транспарту. Працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва», у розныя гады ўзначальваў часопісы «Вясёлка», «Бярозка», «Маладосць». Упершыню выступіў у друку ў 1957 г. Аўтар некалькіх зборнікаў вершаў, кніг для дзяцей. Працаваў у галіне перакладу. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

**Леанід Дайнека** нарадзіўся ў 1940 г. на Магілёўшчыне, аўтар паэтычных твораў і гістарычных раманаў «След ваўкалака», «Жалезныя жалуды», «Меч князя Вячкі».

**Генрых Далідовіч** нарадзіўся ў 1946 г. на Стаўбцоўшчыне. Скончыў БДУ, працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. З 1973 г. — у рэдакцыі часопіса «Полымя», з 1979-га па 2002 г. — у часопісе «Маладосць».

Аўтар зборнікаў прозы «Дажджы над вёскай», «Цяпло на першацвет», «Маладыя гады» і інш. Працуе і ў жанры рамана: «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя», «Свой дом», «Заходнікі». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Якуба Коласа.

**Аляксей Дудараў** — беларускі драматург. Нарадзіўся ў 1950 г. на Віцебшчыне. Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, быў акцёрам Тэатра юнага гледача, галоўным рэдактарам часопіса «Мастацтва». Друкуецца з 1973 г. Выдаў зборнік апавяданняў «Святая птушка». Аўтар п'ес «Вечар», «Парог», «Радавыя» і інш. Па сцэнарыях А. Дударава зняты мастацкія фільмы «Купальская ноч», «Восеньскія сны», «Белыя росы» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР за спектакль «Радавыя».

**Васіль Зуёнак** нарадзіўся ў 1935 г. на Міншчыне. Скончыў БДУ. Працаваў у газеце «Піянер Беларусі», часопісах «Бярозка», «Маладосць», Саюзе пісьменнікаў БССР. Выступае ў друку з 1954 г. Аўтар шматлікіх зборнікаў вершаў, у тым ліку гумарыстычных, кніг літаратурна-крытычных артыкулаў, нарысаў, твораў для дзяцей. Перакладае з рускай, украінскай, балгарскай і іншых моў. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы.

**Віктар Карамазаў** — беларускі празаік і публіцыст. Нарадзіўся ў 1934 г. на Магілёўшчыне. Скончыў БДУ. Працаваў у газетах «Звязда», «Літаратура і мастацтва», у часопісе «Полымя». Аўтар кніг аповесцей і апавяданняў «Падранак», «Вясёлка сярод зімы», «Дзяльба кабанчыка» і інш., раманаў «Пушча», «Бежанцы».

**Уладзімір Караткевіч** (1930—1984) нарадзіўся ў Оршы. Скончыў філалагічны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта імя Т. Р. Шаўчэнкі. Працаваў настаўнікам. Аўтар зборнікаў апавяданняў і аповесцей «Блакіт і золата дня», «Чазенія», «Вока Тайфуна», раманаў «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Нельга забыць», «Чорны замак Альшанскі» і інш., зборнікаў паэзіі «Матчына душа», «Мая Іліяда», «Быў. Ёсць. Буду», п'ес «Маці ўрагану», «Званы Віцебска», «Калыска чатырох чараўніц» і інш. Пачынальнік гістарычнай тэмы ў сучаснай беларускай літаратуры. Выступаў як публіцыст і крытык. Працаваў як перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа.

**Якуб Колас** (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, 1882—1956) — народны паэт Беларусі. Нарадзіўся на Стаўбцоўшчыне ў сям'і лесніка. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семі-

нарыю, настаўнічаў, выкладаў у Мінскім беларускім педагагічным тэхнікуме, БДУ, з 1929 г. быў нязменным віцэпрэзідэнтам Акадэміі навук БССР.

Дэбютаваў вершам «Наш родны край» (1906). Першы зборнік вершаў «Песні-жальбы» выйшаў у Вільні ў 1910 г., затым — кнігі прозы «Апавяданні», «Родныя з'явы». У савецкі час выдадзены кніга апавяданняў «Казкі жыцця», зборнік вершаў «Водгулле», паэмы «Новая зямля», «Сымонмузыка», трылогія «На ростанях», п'есы. Якуб Колас — аўтар шматлікіх твораў для дзяцей: паэмы «Міхасёвы прыгоды», вершаванай казкі «Рак-вусач», вершаў. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

**Уладзімір Корбан** (1910—1971) — беларускі байкапісец. Нарадзіўся на Віцебшчыне. Працаваў у часопісе «Вожык» (1952—1971). Аўтар зборнікаў сатырычных вершаў, баек і фельетонаў, гумарыстычных апавяданняў, кніжак для дзяцей. Пераклаў на беларускую мову байкі І. А. Крылова.

**Кандрат Крапіва** (Кандрат Кандратавіч Атраховіч, 1896—1991). Народны пісьменнік Беларусі. Нарадзіўся на Міншчыне. Працаваў настаўнікам, рэдактарам часопіса «Вожык», дырэктарам Інстытута мовазнаўства АН БССР (1952—1956), віцэ-прэзідэнтам АН БССР (1956—1982). Аўтар шматлікіх кніг сатыры і гумару: «Асцё», «Крапіва», «Байкі» і інш. Напісаў п'есы «Хто смяецца апошнім», «Мілы чалавек», «Канец дружбы», «Брама неўміручасці» і інш. Выдаў зборнікі прозы. Аўтар літаратуразнаўчых і крытычных прац. Пераклаў на беларускую мову творы І. А. Крылова, А. С. Пушкіна, М. В. Гогаля, У. Шэкспіра і інш. Тройчы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

**Аркадзь Куляшоў** (1914—1978) — народны паэт Беларусі. Нарадзіўся на Магілёўшчыне. Працаваў у газеце «Чырвоная змена», на Беларускім радыё, на кінастудыі «Беларусьфільм». У 1930 г. выйшаў першы зборнік вершаў «Росквіт зямлі». Аўтар зборнікаў паэзіі «Сцяг брыгады», «На сотай вярсце», «Новая кніга», «Сасна і бяроза», «Крылы» і інш., шматлікіх паэм. Пераклаў на беларускую мову творы А. С. Пушкіна («Цыганы», «Яўгеній Анегін»), М. Ю. Лермантава, С. Ясеніна і інш. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР.

**Янка Купала** (Іван Дамінікавіч Луцэвіч, 1882—1942) — народны паэт Беларусі. Нарадзіўся ў фальварку Вязынка на Маладзечаншчыне ў сям'і арандатара. Скончыў Бяларуцкае народнае вучылішча, вучыўся ў Маскве, Пецярбургу. Удзельнічаў у стварэнні нацыянальнага тэатра, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Акадэміі навук БССР.

У літаратуру ўвайшоў вершам «Мужык» (1905), а ў 1908 г. выдаў першы паэтычны зборнік «Жалейка». Аўтар зборнікаў вершаў «Гусляр», «Шляхам жыцця», «Спадчына», «Безназоўнае» і інш., паэм «Курган», «Магіла льва», «Сон на кургане» і інш., п'ес «Паўлінка», «Раскіданае гняздо», «Тутэйшыя» і г. д. Напісаў шмат твораў для дзяцей («Хлопчык і лётчык», «Алеся» і інш.). Пераклаў на беларускую мову «Слова пра паход Ігаравы», творы А. С. Пушкіна, Т. Р. Шаўчэнкі, І. А. Крылова, А. Міцкевіча і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

**Алесь Наўроцкі** нарадзіўся ў 1937 г. на Гомельшчыне. Скончыў Мінскі медыцынскі інстытут. Працаваў фельчарам. Аўтар зборнікаў вершаў «Неба ўсміхаецца маланкаю», «Гарачы снег» і інш., кнігі апавяданняў «Валун».

**Янка Сіпакоў** (1936—2011) нарадзіўся на Віцебшчыне. Скончыў БДУ. Працаваў у часопісах «Вожык», «Маладосць». Выдаў некалькі кніг паэзіі, аповесцей і апавяданняў, нарысаў. Пераклаў на беларускую мову творы А. С. Пушкіна, Т. Р. Шаўчэнкі, А. Блока, У. Уітмена і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

**Максім Танк** (Яўген Іванавіч Скурко, 1912—1995) — народны паэт Беларусі. Нарадзіўся на Мядзельшчыне. Працаваў у часопісах «Вожык», «Полымя» (1948—1966), у Саюзе пісьменнікаў БССР (1966—1990). Прыйшоў у літаратуру ў 30-я гг. Першыя кніжкі паэзіі «На этапах», «Журавінавы цвет», «Пад мачтай» выдаў у Вільні. Аўтар зборнікаў паэзіі «Каб ведалі», «След бліскавіцы», «Мой хлеб надзённы», «Прайсці праз вернасць», «За маім сталом», «Збор калосся» і інш., кнігі-дзённіка «Лісткі календара», кніг вершаў і казак для дзяцей. Пераклаў творы А. С. Пушкіна, У. Маякоўскага, польскіх паэтаў. Лаўрэат Ленінскай прэміі і Дзяржаўных прэмій СССР і БССР.

# СЛОЎНІК ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧЫХ ТЭРМІНАЎ

**Адухаўле́нне** — адзін з відаў метафары, прыпадабненне нежывога прадмета жывой істоце, чалавеку.

**Акта́ва** — васьмірадковы верш, які часцей за ўсё пішацца пяцістопным або шасцістопным ямбам і рыфмуецца па схеме *абабабвв*.

**Алего́рыя** — гл. с. 294.

**Амфібра́хій** — трохскладовая стапа з націскам на другім складзе; вершаваны памер з такіх стоп.

**Ана́пест** — трохскладовая стапа з націскам на трэцім складзе; вершаваны памер з такіх стоп.

**Анекдо́т** — кароценькае жартоўнае апавяданне з нечаканай дасціпнай канцоўкай.

**Антытэ́за** — кантраснае супастаўленне процілеглых вобразаў, думак, перажыванняў для ўзмацнення ўражання ад іх ці выяўлення іх супярэчлівасці.

**Апавяда́нне** — гл. с. 191.

**Апіса́нне** — гл. с. 258.

**Апо́вед** — гл. с. 258.

**Апо́весць** — гл. с. 256.

**А́ўтарская характары́стыка** — гл. с. 258.

**Ба́йка** — гл. с. 294.

**Бала́да** — гл. с. 291.

**Батле́йка** — вандроўны лялечны тэатр на Беларусі, сцэнай для якога служыла пераносная скрынка ў форме доміка або царквы з двух паверхаў, дзе разыгрываліся розныя прадстаўленні.

**Вадэві́ль** — жанр драматычных твораў, лёгкая камедыя з займальнай інтрыгай у аснове сюжэта.

**Гіпе́рбала** — моцнае перавелічэнне ўласцівасцей, якасцей ці памераў прадмета або з'явы з мэтай узмацнення паэтычнай выразнасці.

**Гу́мар** — паказ жыццёвых з'яў або чалавека ў камічным, смешным выглядзе; нязлосны, добразычлівы смех.

**Да́ктыль** — трохскладовая стапа з націскам на першым складзе; вершаваны памер з такіх стоп.

**Дра́ма** — род літаратуры, у якім жыццё паказваецца галоўным чынам праз дзеянне, дыялог, праз узаемаадносіны паміж персанажамі.

**Дыяло́г** — размова паміж двума або некалькімі персанажамі ў мастацкім творы, якая перадаецца пры дапамозе простай мовы.

**Жанр** — форма літаратурнага твора, якая склалася гістарычна на аснове ўвасаблення пэўнага зместу.

**Завя́зка** — момант, з якога пачынаецца развіццё дзеяння ў літаратурным сюжэтным творы.

**Ідэ́я** — гл. с. 27.

**Інве́рсія** — гл. с. 126.

**Інсцэніро́ўка** — перапрацоўка літаратурнага твора для пастаноўкі на сцэне тэатра або ў кіно.

**Інтана́цыя** — тон, характар вымаўлення фразы, якія выяўляюць пачуццё, настрой, душэўны стан чалавека.

**Інты́мная лі́рыка** — гл. с. 121.

**Інтэрме́дыя** — невялікія камічныя сцэнкі, якія разыгрываліся паміж актамі асноўнага дзеяння спектакля.

**Ка́зка** — жанр вуснай народнай творчасці, звычайна празаічнае апавяданне фантастычнага або сацыяльна-бытавога зместу з выкарыстаннем вымыслу (выдумкі).

**Каме́дыя** — жанр драматычнай літаратуры, твор, у якім камічна, у смешным выглядзе паказваюцца розныя (часцей адмоўныя) з'явы жыцця з мэтай іх крытыкі.

**Камі́чнае** — тое, што выклікае смех, своеасаблівая форма крытыкі адмоўных з'яў у мастацкім творы.

**Канфлі́кт** — адлюстраванне ў літаратурным творы барацьбы, сутычкі характараў, што тлумачыцца процілегласцю інтарэсаў, намераў, імкненняў людзей.

**Кульміна́цыя** — пункт найвышэйшага напружання ў развіцці дзеяння, сюжэта мастацкага твора.

**Леге́нда** — фальклорнае фантастычнае апавяданне, якое выдаецца і ўспрымаецца як верагоднае, хоць яно і не пацверджана гістарычнымі фактамі.

**Лі́рыка** — гл. с. 101.

**Лiры́чныя адступле́нні** — гл. с. 260.

**Лiры́чны геро́й** — гл. с. 107.

**Манало́г** — разгорнутае, тэматычна адзінае выказванне літаратурнага героя або аўтара, звернутае да іншых асоб або да сябе.

**Метані́мія** — гл. с. 132.

**Мета́фара** — перанос уласцівасцей адной з'явы на другую паводле падабенства.

**Наве́ла** — гл. с. 191.

**О́да** — урачысты, узнёслы верш, хвалебная песня ў гонар важнай падзеі, з'явы, асобы.

**Пада́нне** — вуснае празаічнае народнае апавяданне, у якім ад імя сведкі або ўдзельніка падзей расказваецца пра розныя цікавыя

жыццёвыя з’явы, падзеі або пра выдатных людзей, іх учынкі, подзвігі.

**Паралелі́зм** — гл. с. 104.

**Параўна́нне** — супастаўленне дзвюх з’яў з мэтай іх характарыстыкі адной праз другую.

**Партрэ́т** — апісанне ў літаратурным творы знешняга выгляду персанажа, яго твару, адзення, манеры паводзіць сябе.

**Пасла́нне** — лірычны верш у форме звароту аўтара да якой-небудзь асобы або групы людзей. Звычайна мае характар маналагічнай прамовы ці адкрытага ліста, які часта важны не сам па сабе, а як нагода для разважання.

**Паэ́зія** — адзін з асноўных відаў мастацтва слова. Вызначаецца вершаванай формай, шырокім ужываннем слоўных вобразаў (тропаў, фігур), настроенасцю на думкі і пачуцці яркія, узнёслыя, прыгожыя, гарманічна выказаныя, як у лірычных вершах. Лірыка — заўсёды паэзія, але паэзія — не толькі лірыка, гэта і ліра-эпічныя творы, вершы ў прозе і інш. (гл. *Проза. Лірыка*)

**Паэ́ма** — гл. с. 277.

**Пейза́ж** — апісанне прыроды ў літаратурным творы.

**Персана́ж** — дзейная асоба ў літаратурным творы.

**Прабле́ма** — гл. с. 27.

**Про́за** — адзін з асноўных відаў літаратурна-мастацкай творчасці. Невершаваная літаратура, сваім зместам звернутая на пазнанне і адлюстраванне складаных жыццёвых з’яў, людскіх узаемадачыненняў, характараў. У празаічнай форме звычайна пішуцца эпічныя творы, але могуць быць і такія, як вершы ў прозе, свабодны верш (гл. *Паэзія. Эпас*).

**Пры́тча** — гл. с. 294.

**Развя́зка** — заключны этап у развіцці дзеяння ў эпічным або драматычным творы.

**Рама́нс** — невялікі лірычны верш напеўнага характару пра каханне.

**Ры́фма** — сугучнасць канчаткаў вершаваных радкоў.

**Рэма́рка** — аўтарская заўвага ў тэксце драматычнага твора, у якой даюцца тлумачэнні адносна таго, як выглядае, паводзіць сябе герой у дадзены момант, з дапамогай якіх рухаў, жэстаў, мімікі выяўляецца стан яго душы і г. д.

**Рэфрэ́н** — слова, радок ці некалькі радкоў, якія паўтараюцца пасля кожнай страфы.

**Сане́т** — форма лірычнага верша з 14 радкоў, у якім радкі звычайна рыфмуюцца ў пэўным парадку *(абба абба ввг дгд)*. Санет дзеліцца на дзве часткі: у першых дзвюх страфах развіваецца тэма, у наступных — робіцца вывад. Санеты пішуцца ямбам.

**Саты́ра** — форма востракамічнага, выкрывальнага паказу адмоўных з'яў, пры якім крытыкуюцца заганы грамадскага жыцця або асобных людзей.

**Сі́мвал** — гл. с. 110.

**Сіне́кдаха** — гл. с. 132.

**Страфа́** — група аб'яднаных рыфмоўкай вершаваных радкоў, якая паўтараецца на працягу твора.

**Сюжэ́тныя лі́ніі** — кірункі сюжэта, звязаныя з найбольш значнымі характарамі мастацкага твора.

**Траге́дыя** — гл. с. 300.

**Троп** — гл. с. 132.

**Трыяле́т** — форма лірычнага верша з васьмі радкоў, у якім два першыя і два апошнія, а таксама першы і чацвёрты радкі аднолькавыя. Такім чынам, першы радок паўтараецца тройчы, другі — двойчы.

**Тэ́ма** — гл. с. 27.

**Увасабле́нне** — адзін з відаў метафары, перанясенне чалавечых уласцівасцей на з'явы прыроды.

**Фарс** — лёгкая вясёлая камедыя бытавога зместу, з ужываннем знешне камічных прыёмаў.

**Хара́ктар** — мастацкі вобраз чалавека ў літаратурным творы, індывідуальнасць героя, што выяўляе яго адносіны да жыцця.

**Харэ́й** — двухскладовая стапа з націскам на першым складзе; вершаваны памер з такіх стоп.

**Экспазі́цыя** — частка твора (перад завязкай сюжэта), у якой аўтар знаёміць чытача з героямі, месцам і часам дзеяння.

**Эле́гія** — лірычны верш, прасякнуты сумным настроем з прычыны грамадскай несправядлівасці, асабістага няшчасця, неразздзеленага кахання, разважанняў аб жыцці і смерці і інш.

**Эпізо́д** — асобная падзея ў эпічным творы, якая мае пэўнае самастойнае значэнне ў развіцці сюжэта або ў характарыстыцы персанажа.

**Эпіло́г** — частка мастацкага твора, якая ідзе пасля заканчэння дзеяння.

**Эпіта́фія** — жалобны верш на ўшанаванне памяці памерлых. У Старажытнай Грэцыі — вершаваны надпіс на надмагільным помніку.

**Эпі́тэт** — мастацкае азначэнне, якое вобразна характарызуе прадмет, з'яву або чалавека.

**Ямб** — двухскладовая стапа з націскам на другім складзе; вершаваны памер з такіх стоп.

# ЗМЕСТ

## ПАВОЛЬНАЯ ПЛЫНЬ АПОВЕДУ



## «ДЗВЮХ ПЛЫНЯЎ ВОЛЬНАЕ ЗЛІЦЦЁ»

## КАЛІ ХАРАКТАРЫ РАСКРЫВАЮЦЦА Ў ДЗЕЯННІ

(Назва і нумар школы)

| Навучаль-ны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |

Вучэбнае выданне

**Лазарук** Міхаіл Арсеньевіч
**Русілка** Вольга Іванаўна
**Слесарава** Іна Мікалаеўна

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

Вучэбны дапаможнік для 8 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Б. Сопат*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп'ютарная вёрстка *Ю. М. Галавейка*
Карэктары *К. В. Шобік, С. М. Алава*

Падпісана ў друк 06.05.2011. Фармат 60×90 1/16.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 22,5.
Ул.-выд. арк. 17,6 + 0,39 форз. Тыраж 113 500 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Мінская фабрыка каляровага друку». ЛП № 02330/0494156 ад 03.04.2009.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск